**Адам Мальдзіс**

# Падарожжа ў XIX стагоддзе

## З гісторыі беларускай літаратуры, мастацтва і культуры

*Навукова-папулярныя нарысы*

Выдавецтва «Народная асвета»
Мінск 1969

«Падарожжа ў XIX стагоддзе» з'яўляецца зборнікам нарысаў аб дзеячах беларускай літаратуры, мастацтва і культуры мінулага стагоддзя, чые імёны яшчэ недастаткова вядомы шырокаму чытачу. Гэта — пачынальнікі новай беларускай літаратуры Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, В. Каратынскі, польска-беларускі паэт У. Сыракомля і іншыя. Асобныя нарысы прысвечаны кампазітарам М. Агінскаму, С. Манюшку і А. Абрамовічу, якія нарадзіліся або доўга жылі ў Беларусі, выкарыстоўвалі беларускія народныя мелодыі і таму адначасова належаць і польскай, і беларускай культуры. Чытач пазнаёміцца з вучонымі і падарожнікамі І. Дамейкам, А. Янушкевічам, Б. Дыбоўскім, К. Ельскім. У плане займальнага літаратуразнаўства ў асобных раздзелах расказваецца аб пошуках і знаходках архіўных дакументаў і рэдкіх кніг, звязаных з творчасцю В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Абуховіча. Аўтар уводзіць у літаратурны ўжытак некаторыя невядомыя або забытыя матэрыялы. У канцы кнігі змешчаны спіс літаратуры, якая цытуецца або ўскосна выкарыстана ў тэксце.

Кніга пашырае ўяўленне чытачоў, у першую чаргу вучняў, студэнтаў, настаўнікаў, аб беларускай літаратуры і культуры XIX стагоддзя.

## ЯНЫ БЫЛІ ПЕРШЫМІ

Давайце, паважаны чытач, на некалькі гадзін адарвёмся ад паўсядзённых спраў і перанясёмся думкамі ў шматпакутнае і гераічнае XIX стагоддзе. Шматпакутнае, таму што невыносна жылося тады нашаму народу. Думаеш аб часах, калі «міласцю божай» панавалі розныя па ліку мікалаі ды аляксандры, і міжвольна на памяць прыходзяць трагічныя радкі з верша Уладзіміра Караткевіча «Паўлюк Багрым»:

А ў краіне так цяжка
(Асіны ад ганьбы палаюць),
І над ёй фанабэрыцца
П'яны, разбэшчаны гун,
Як пры князі Усяславе —
Дзень вялікі, а луста малая,
Як пры князі Ягайле —
На кожную спіну бізун.
Абжыраюць удоў,
П'юць з гарэлкай сірочыя слёзы,
Тлустым задам расселіся
На паднявольнай зямлі,
На шлагбаумы мёртвыя
Пассякалі жывыя бярозы,
На шпіцрутэны гнуткія
Запаветныя вербы звялі.

Верш У. Караткевіча прысвечаны сялянскаму паэту-самародку Паўлюку Багрыму, які мог стаць гордасцю нашага народа, беларускім Шаўчэнкам або Бёрнсам. Мог, але не стаў. Калі Паўлюку Багрыму было 14 год, у яго родным Крошыне, што ля Баранавіч, успыхнуў сялянскі бунт. Па панскаму загаду быў «кіямі забіты» адзін з завадатараў — бацька Паўлюка, а самога юнага паэта за свабодалюбівыя вершы здалі на 25 год у салдаты. Вярнуўся ён пастарэлы і знясілены. І ўжо, відаць, не наважваўся брацца за пяро. Працаваў кавалём у Крошыне, каваў сцізорыкі, кандэлябры. І хутчэй за ўсё, нават не ведаў, што ў далёкім Лондане ў 1854 годзе навагрудскі адвакат Яцкоўскі змясціў у кнізе сваіх мемуараў яго верш «Заграй, заграй, хлопча малы». Адзіны верш Паўлюка Багрыма, які вядомы нам сёння. Верш, поўны глыбокага смутку і трагізму. Прыгадаем хаця б радкі:

Дзе я пайду? мілы божа!
Пайду ў свет, у бездарожжа,
У ваўкалака абярнуся,

Слёзна на вас азірнуся.

Будзь здарова, маці міла!
Каб ты мяне не радзіла,
Каб ты мяне не карміла,
Шчаслівейша ты бы была!

І далей:

Ой, кажане, кажане!
Што ж не сеў ты на мяне?
Каб я большы не падрос
Ды ад бацькавых калёс.

Лёс Паўлюка Багрыма — бясхлебнае дзяцінства, паншчына, рэкрутчына, адзінокая старасць — гэта тыповы лёс тысяч і тысяч яго сучаснікаў і суайчыннікаў. І сярод іх было многа самародных талентаў. Напэўна, было, бо да нас жа дайшлі дзесяткі ананімных гутарак. Такіх, як «Гутарка Данілы са Сцяпанам», «Вось цяпер які люд стаў», «Гутарка пана з селянінам». Сёння нам невядомы імёны іх аўтараў, але па антыпрыгонніцкай накіраванасці, па нянавісці да прыгнятальнікаў бачна, што гэта былі людзі, кроўныя па духу Паўлюку Багрыму.

Скарга, выказаная ў вершы «Заграй, заграй, хлопча малы»,— гэта скарга ўсяго заняволенага беларускага сялянства. З аднаго боку, яго прыгнятала царскае самаўладства, розныя кручковы і пісулькіны, няшчадна высмеяныя ў камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта»; з другога — гэтае ж сялянства гналі на паншчыну польскія магнаты. Нягледзячы на далучэнне Беларусі да Расіі, ім яшчэ доўга належалі і землі, і душы «тутэйшых хлопаў». У першай палавіне мінулага стагоддзя беларускі селянін працаваў на пана па пяць-шэсць дзён у тыдзень. Сабе ж заставаўся сёмы дзень — нядзеля. Вузенькага ўласнага загона хапала, бадай, толькі, каб сплаціць нядоімкі. Сям'я ж кармілася хлебам, адзін выгляд якога выклікаў жах у многіх відавочнікаў. У рэвалюцыянера-петрашэўца Мікалая Мамбелі знаходзім такія радкі: «І цяпер яшчэ па жылах прабягае халоднае трапятанне, калі прыгадаю сабе бачаны мною кавалак хлеба, якім сілкуюцца сяляне Віцебскай губерні: мукі ў ім зусім няма, складаецца ён з мякіны, саломы і яшчэ нейкай травы, не цяжэй пуху, а выглядам нагадвае перамешаны з саломай і высушаны конскі гной. Хаця я праціўнік усякага фізічнага пакарання, аднак хацеў бы любячага сваіх «дзетак» імператара на некалькі дзён пасадзіць на ежу віцебскага селяніна».

Ішлі гады. Паступова недарэчнасць і жорсткасць прыгонніцтва пачалі разумець нават ліберальныя дваране, нават найбольш даль-

навідныя члены сената. Рэакцыя не ў сіле была спыніць развіццё краіны па новаму, капіталістычнаму шляху. У 1861 годзе цар падпісаў маніфест аб адмене прыгоннага права. Аднак доўгачаканая рэформа не дала селяніну ні зямлі, ні волі. Бо якая ж воля, калі зямля паранейшаму заставалася ў пана! «Як у Расеі, так і ў нас,— гаворыцца ў нелегальнай беларускай брашуры «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць»,— цар толькі са страху асвабадзіў мужыкоў, але ўся гэтая свабода — то толькі ашуканства. Зямлі далі так мала, што з голаду ўмрэш, як да паноў на заробак не пойдзеш, а за работу плацяць кепска, бо ведама, што на свеце галоднаму плацяць не тое, што трэба, толькі што панская ласка». «Не надта свабодна ў гэтай свабодзе»,— нібы ўторыў прыведзеным вышэй словам герой багушэвічаўскага верша «Быў у чысцы», дзе «старыя» паны супастаўляюцца з яшчэ больш шматлікімі «новымі». Перад «свабодным» ад зямлі беларускім селянінам віднеліся тры шляхі: або наймацца парабкам да пана, або за 20-30 капеек у дзень прадаваць свае мазолістыя рукі гарадскому прамыслоўцу, або, урэшце, шукаць прывіднае шчасце ў далёкай Амерыцы.

І ўсё ж XIX стагоддзе было не толькі шматпакутным, але і гераічным. Народ не мірыўся з уціскам. Стыхійна і разрознена ўспыхвалі сялянскія бунты. Больш арганізавана рыхтавалася да паўстання і паўставала дэмакратычная частка дробнай і сярэдняй шляхты, якая па свайму матэрыяльнаму стану часта зусім не адрознівалася ад сялян. І кожнае такое выступленне супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту канчалася аднолькава: розгі і вісельні, ссылка ў Сібір і катарга. Нібы эстафета, перадаваўся факел барацьбы ад пакалення да пакалення. Памяць аб грамадзянскім подзвігу членаў тайных студэнцкіх згуртаванняў філаматаў і філарэтаў, сасланых у глыбінныя губерні Расіі, натхняла паўстанцаў 1831 года, жыла ў сэрцах удзельнікаў антыцарскай змовы Ш. Канарскага. У трывожным 1848 годзе жандарам удалося раскрыць шырока разгалінаваную ў Беларусі змову, на чале якой стаялі ўраджэнцы Лідчыны браты Далеўскія. Ва ўзброенае вызваленчае паўстанне перарасла тая рэвалюцыйная сітуацыя, якая склалася ў краіне напярэдадні і пасля адмены прыгоннага права. На чале паўстання 1863 года стаў легендарны Кастусь Каліноўскі, гордасць і слава нашага народа. Палымянаму патрыёту не ўдалося ўзняць на барацьбу ўсё або хаця б большасць беларускага сялянства. Паўстанне было патоплена ў моры крыві. На беларускую зямлю ляглі цені ад мураўёўскіх вісельняў. Але памяць аб зробленым папярэднікамі — жыла! Яе зберaглі беларускія народавольцы, якія патаемна друкавалі ў Мінску выданні «Зерно» і «Черный

передел», а адзін з іх — Ігнат Грынявіцкі — кінуў бомбу ў самога «аўгусцейшага» Аляксандра II, за што паплаціўся жыццём. Зберагалі яе члены першых рабочых і марксісцкіх гурткоў, памнажалі ўдзельнікі першых забастовак і маніфестацый.

І як лагічнае і дастойнае завяршэнне ўсёй папярэдняй барацьбы — І з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, які адбыўся ў Мінску 1-3 сакавіка 1898 года. У драўляным доміку Румянцава, што на беразе Свіслачы, было абвешчана аб стварэнні партыі новага тыпу, былі прыняты дакументы, якія азнаменавалі пачатак новай эпохі і новага стагоддзя. Не, за XIX стагоддзе беларусам няма чаго саромецца! Царскаму самаўладству так і не ўдалося скарыць гэтую вонкава ціхую і сонную краіну, якой, адмовіўшы ў праве насіць уласнае імя, далі канцылярскую назву «Северо-Западный край». Высокапастаўленым прыхільнікам «народнасці» хацелася, каб адзінымі адметнымі рысамі беларуса былі каўтун на галаве ды лапці на нагах. Аднак раней або пазней яны пераконваліся, што ў сэрцах беларусаў заўсёды жыло жаданне волі.

І што для нас асабліва важна падкрэсліць, у гэтай вызваленчай барацьбе прама або ўскосна, з большай або меншай паслядоўнасцю ўдзельнічалі амаль усе прадстаўнікі новага беларускага пісьменства, якое ў XIX стагоддзі пачало нялёгкі шлях станаўлення і развіцця. Пералік ахвяр тагачаснай беларускай літаратуры не менш пакутлівы і страшны, чым пералік ахвяр літаратуры рускай. Мяркуйце самі. Паўлюк Багрым — у 14 год здадзены ў рэкруты, сшыткі з яго вершамі канфіскаваны. Паплечнік Канарскага, аўтар беларускага верша пра паўстанне 1831 года Франц Савіч — адпраўлены салдатам на Каўказ, памёр на Украіне пад чужым прозвішчам у час эпідэміі халеры. Ян Чачот — за ўдзел у тайных віленскіх арганізацыях сасланы ва Уфу і Цвер, вярнуўшыся, шукаў прытулку ў чужых людзей, памёр ад туберкулёзу. Ян Баршчэўскі — жыў амаль у жабрацтве. Аўтар даследавання «Беларусь» і балады «Нячысцік» Аляксандр Рыпінскі—за ўдзел у паўстанні 1831 года на тэрыторыі Віцебшчыны завочна прыгавораны да ссылкі ў Сібір, вымушаны быў эмігрыраваць; у царскай імперыі яго творы былі забаронены. Уладзіслаў Сыракомля — жыў пад наглядам паліцыі, памёр ва ўмовах хатняга арышту. Вінцук Дунін-Марцінкевіч — арыштаваны за дапамогу ўдзельнікам паўстання 1863 года, жыў пад пільным наглядам паліцыі, пасля 1863 года не меў права і магчымасці друкавацца. «Наддзвінскі дудар» Арцём Вярыга-Дарэўскі — як актыўны ўдзельнік паўстання 1863 года на Віцебшчыне сасланы ў Сібір на 8 год катаржных работ, памёр у выгнанні ў Якуціі. Францішак Багушэвіч — у сувязі з паўстаннем 1863 года вымушаны

быў хавацца на Украіне. Адам Гурыновіч — за кіраўніцтва рэвалюцыйным «Гуртком моладзі польска-літоўска-беларускай і маларускай», за распаўсюджванне перадавых ідэй і кніг, у тым ліку марксісцкіх, кінуты ў змрочны каземат Петрапаўлаўскай крэпасці, памёр у 25 год ад чорнай воспы. І нават над Аляксандрам Ельскім, пісьменнікам памяркоўна-ліберальным, а ў канцы жыцця — кансерватыўным, таксама быў устаноўлены нагляд паліцыі, якой хацелася ведаць, ці не ён гэта адпраўляе за граніцу артыкулы аб каланізатарскай палітыцы царызму ў Беларусі і ці не звязаны гэтыя артыкулы нейкім чынам з тым, што ў Пінску жанчыны... пачалі насіць цёмныя акуляры. У кожным беларускім пісьменніку жандары ад літаратуры бачылі патэнцыяльнага злачынца, у кожнай спробе беларускага народа загаварыць на сваёй роднай мове — крамолу.

Сёння, гледзячы з гістарычнай аддаленасці, мы бачым, што гэтыя жандары ад літаратуры мелі рацыю. Іх тонкі нюх сігналізаваў небяспеку з таго боку, дзе яна была сапраўды. Лепшыя здабыткі беларускай літаратуры XIX стагоддзя — ад ананімных паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» праз «Мужыцкую праўду» да прасякнутых сялянскім потам і слязой вершаў Багушэвіча і Лучыны, да вострай сатыры Абуховіча — наскрозь дэмакратычныя, наскрозь народныя і свабодалюбівыя. Вядома, былі і іншыя творы. Былі спробы магілёўскіх чыноўнікаў Ф. Блуса і А. Кісяля ў вершаванай форме абараніць прыгонніцтва і самаўладства, даказаць, што беларускі мужык не варты свабоды. Былі спробы падрабіцца пад голас беларускага селяніна з боку Польскіх кансерватыўных колаў, асабліва напярэдадні паўстання 1863 года. Былі дыдактычныя павучанні Ельскага аб тым, што кожная ўлада — ад бога. Але ўсе гэтыя творы не аказалі істотнага ўплыву на развіццё нашай літаратуры. Напісаныя на нізкім мастацкім узроўні, далёка не з прагрэсіўнымі мэтамі, яны засталіся чужымі народу і невядомымі яму. Яго думкі і спадзяванні выказвала дэмакратычная паэзія Багушэвіча і Лучыны, Гурыновіча і Абуховіча, рэвалюцыйная публіцыстыка Каліноўскага і нелегальныя брашуры накшталт «Дзядзькі Антона». Праўдзівасць, рэалістычнасць у паказе народнага (пераважна сялянскага) жыцця становяцца эстэтычным сцягам новай беларускай літаратуры.

Не я пяю — народ божы
Даў мне ў песні лад прыгожы,
Бо на сэрцы маю путы
І з народам імі скуты.
З ім я зліўся з добрай волі.
Чы то ў долі, чы ў нядолі,

Чы гдзе гора абзавецца,
Як асіна, грудзь трасецца.
Чы пра радасць чую весці,
Усё ў грудзь хаваю гдзесьці,—

пісаў Янка Лучына.

Развіццё новай беларускай літаратуры па шляху рэалізму і народнасці было нялёгкім і супярэчлівым. Пісьменнікам XIX стагоддзя, па сутнасці, прыходзілася пачынаць амаль на голым месцы. На працягу XVII і XVIII стагоддзяў паланізатарам удалося абарваць тыя традыцыі, якія ішлі ад Скарыны, Буднага, Цяпінскага і іх сучаснікаў і паслядоўнікаў. Праўда, у народзе жыла памяць аб тым, што калісь беларуская мова была дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага, што на ёй пісаліся кнігі і юрыдычныя акты. Але ў пачатку XIX стагоддзя ўсе, хто мог чытаць і пісаць, у Беларусі, за выключэннем нешматлікага царскага чыноўніцтва, чыталі і пісалі пераважна на польскай мове. Беларускай мове адмаўлялі ў праве на грамадзянства як рускія чыноўнікі, так і польскія паны. У лепшым выпадку, яны згодны былі прызнаць яе «мужыцкім дыялектам», прастамоўем, здольным перадаць толькі самыя прымітыўныя думкі і пачуцці. Больш таго, яны баяліся беларускага слова і пры кожным зручным выпадку забаранялі яго. Вядомы рэакцыянер Фадзей Булгарын, той, які высмеяны ў «Тарасе на Парнасе», з жахам пісаў на старонках «Северной пчелы» (№ 228 за 1837 год): «Дойдзе да таго, што ў нас стануць пісаць беларускай гаворкай, як пры цару Аляксею Міхайлавічу і каля гэтай эпохі.

Калі не будзе супрацьдзеяння, шкодны пераварот можа адбыцца: мова Карамзіна, Дзмітрыева... заменіцца мовай Анікейкі і мы заспяваем:

Адкуль ідзеш, Анікейка?
Іду з поля, дабрадзейка.
Што там рабіў, Анікейка?
Жыта сеяў, дабрадзейка.
На што жыта, Анікейка?
На гарэлку, дабрадзейка».

Супрацьдзеянне, да якога заклікаў Булгарын (дарэчы, сам беларус па паходжанню), было. Цэнзары жорстка калечылі беларускія творы або зусім забаранялі іх, як гэта здарылася з перакладам «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча, выдадзеным у 1858 годзе Дуніным-Марцінкевічам. Па загаду Мікалая I з 1840 года было забаронена называцца «беларускімі» нават беларускім губерням. А пасля паўстання 1863 года цэнзура фактычна наклала вета на ўсё беларускае друкаванае слова. І

ўсё ж «шкодны пераварот», якога так баяўся Булгарын, адбыўся. Адраджэнне беларускай літаратуры стала відавочным фактам ужо ў 40-50-я гады XIX стагоддзя. Гэтае адраджэнне прызнаецца тагачасным прагрэсіўным друкам Расіі і Польшчы. І зразумела, яно нічым не пагражала «мове Карамзіна, Дзмітрыева». Наадварот, прадстаўнікі дэмакратычнай рускай літаратуры горача віталі станаўленне беларускага «прыгожага пісьменства». Герцэн, Дабралюбаў, Чарнышэўскі выступалі ў абарону беларускага народа і яго права мець літаратуру на роднай мове.

Памыліўся Булгарын таксама адносна таго, што запяе беларускі народ. Фантазія агента славутага ПІ аддзялення царскай паліцыі не ішла і не магла ісці далей прымітыўна-саладжавай песенькі пра Анікейку, дзе гэты самы Анікейка выглядае пакорлівым і проста дурным. На самай жа справе свядомасць беларускага народа знаходзіла сваё выражэнне, напрыклад, у радках перадсмяротнага паслання Кастуся Каліноўскага:

Бывай здаровы, мужыцкі народзе!
Жыві у шчасці, жыві ў свабодзе
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што згінуў за праўду для дабра твайго.
А калі слова пяройдзе у дзела,
Тагды за праўду станавіся смела,
Бо адно з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэш, народзе, старасці свабодна.

Як ні стараліся розныя паны булгарыны — яны не ў сіле былі спыніць паступальнае развіццё беларускага грамадства. У XIX стагоддзі тут адбываюцца глыбінныя працэсы. У сувязі з развіццём новых, капіталістычных адносін паскараецца фарміраванне беларускай нацыі. У першую чаргу яно знаходзіць сваё выражэнне ў галіне мовы і літаратуры. З глыбінь народнага жыцця ўсё настойлівей пачынаюць бруіць крыніцы новага беларускага пісьменства. Спачатку яны яшчэ не зліваюцца ў адзіную, паўнаводную раку. Адзін пісьменнік часта нават не ведае аб існаванні другога — няма адпаведнай друкаванай трыбуны або, тым больш, сталага пісьменніцкага гуртка ці арганізацыі. На шляху ставяцца штучныя перашкоды. Пасля паўстання 1863 года на нейкі час развіццё літаратуры спыняецца зусім. Але хіба можна спыніць тое, што адпавядае патрэбам часу?! Хіба могуць перасохнуць крыніцы, калі яны жывяцца вадой народнага жыцця і народнай мудрасці?! Спыненыя ў адным месцы, яны з новай сілай прабіваліся ў іншым.

Калі мы сёння гаворым аб беларускай літаратуры XIX стагоддзя, у першую чаргу прыгадваюцца ананім ныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», імёны В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча. Іх творчасць вывучаецца ў сярэдняй школе, даследуецца ў спецыяльных манаграфіях. Аднак гэтыя пісьменнікі не жылі ў вакууме. У іх было літаратурнае акружэнне, асяроддзе. Не ведаючы яго, нельга правільна вызначыць рысы тагачаснага літаратурнага працэсу.

Побач і адначасова з Дуніным-Марцінкевічам адну і тую ж пачэсную справу пачыналі Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Вінцэсь Каратынскі, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Уладзіслаў Сыракомля, у меншай ступені Адам Плуг і іншыя. Сёння іх імёны ў многім забытыя, часта аднабакова трактуецца іх творчасць. Аднак усе яны варты нашай увагі і памяці. Няхай некаторыя іх творы слабыя ў мастацкіх адносінах, асабліва з сённяшняга пункту гледжання. Няхай гэтыя пісьменнікі яшчэ цьмяна ўяўлялі сваю нацыянальную прыналежнасць і часам лічылі сябе не беларусамі, а «ліцвінамі» ці палякамі. Няхай значная ці нават большая частка іх твораў у сілу гістарычных умоў (не было, па сутнасці, беларускага кнігадрукавання, адпаведных традыцый) напісана на польскай мове. Няхай, урэшце, яны часта памыляліся ў вызначэнні шляхоў да ўсеагульнага шчасця — тут яны былі дзецьмі свайго супярэчлівага стагоддзя. Важна іншае. Усе яны з павагай і сімпатыяй адносіліся да запрыгоненага беларускага селяніна, пішучы на яго мове, выклікалі цікавасць да беларускага народа, сцвярджалі, што і на «мужыцкай» мове можна ствараць мастацкія каштоўнасці. Усе яны стаяць ля вытокаў той ракі, імя якой — новая беларуская літаратура.

## ЯН ЧАЧОТ

Адносна месца і часу нараджэння беларуска-польскага паэта і фалькларыста Яна Чачота доўгі час меркаванні разыходзіліся. Адны называлі 1797 год, другія — 1796. Адны ўказвалі на вёску Рэпіхава пад Баранавічамі, другія — на засценак Малюшыцы па дарозе ад Карэліч на Варончу. Не было адзінства і ў ацэнцы чачотаўскай спадчыны. У розныя часы ёй абвяшчаўся то дэмакратам, то рэакцыянерам. Вядомы вульгарызатар Л. Бэндэ пісаў у 1935 годзе, што Чачот «займаўся вывучэннем Беларусі ў мэтах апраўдання імкненняў польскіх паноў і шляхты далучыць Беларусь да Польшчы». Па-рознаму вызначалася колькасць чачотаўскіх зборнікаў: тры, шэсць, сем…

Як бачна з дакументаў, знойдзеных нядаўна ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР Л. Бравер, Чачот нарадзіўся

17 ліпеня 1796 года ў засценку Малюшыцы Навагрудскага павета. Бацька будучага паэта, Тадэвуш Чачот, паходзіў з дробнай шляхты, служыў арандатарам маёнткаў. Дзяцінства кемлівага Янкі прайшло сярод беларускіх сялян, на ўлонні маляўнічай беларускай прыроды. Асабліва любіў хлопчык слухаць таямнічыя мясцовыя паданні аб возеры Свіцязь, аб старадаўнім навагрудскім замку.

У дамініканскай школе ў Навагрудку Ян Чачот пазнаёміўся і пасябраваў з будучым геніем польскай літаратуры Адамам Міцкевічам. Ужо тады сябры зацікавіліся беларускім фальклорам. Ігнат Дамейка, сябар Чачота і Міцкевіча па вучобе, пісаў пра іх: «Два нашы студэнты навагрудскай школы з маленства добра ведалі наш літоўскі (г. зн. беларускі.— А. М.) народ, палюбілі яго песні, прайшліся яго духам і паэзіяй... чаму, відаць, спрыяла і тое, што невялікае мястэчка Навагрудак мала адрознівалася ад нашых вёсак і засценкаў. Школьнае жыццё было, па сутнасці, сельскім. Сябры хадзілі па кірмашах, бывалі на сялянскіх вяселлях, дажынках і хаўтурах. Яшчэ ў школе бедная страха і народная песня распалілі ў грудзях сяброў першае паэтычнае натхненне...»

У 1815 годзе Міцкевіч і Чачот разам паступаюць у Віленскі універсітэт, які тады з'яўляўся цэнтрам асветы для ўсіх беларуска-літоўскіх зямель. Тут чыталі лекцыі такія славутыя прафесары, як Лелевель, браты Снядэцкія, Гродэк, Франк. На жаль, закончыць курс навук Чачоту не ўдалося. Нястача прымусіла яго праз год пакінуць універсітэт і паступіць на службу.

Аднак сувязі з Міцкевічам і з універсітэтам не парваліся. У 1817 годзе ва універсітэце ўзнікла тайнае студэнцкае згуртаванне філаматаў. Спачатку яго члены ставілі перад сабой толькі асветніцкія мэты: папулярызавалі здабыткі французскіх асветнікаў XVIII стагоддзя, дыскуціравалі аб прызначэнні чалавека і грамадзяніна. Побач з тым філаматы цікавіліся жыццём беларускага і літоўскага народаў, вывучалі іх побыт і фальклор. На тайных пасяджэннях, якія адбываліся ў наваколлях Вільні, сярод маляўнічых узгоркаў і азёр, чыталіся навуковыя трактаты, праводзіліся паэтычныя конкурсы, ладзіліся гульні. Амаль кожны з філаматаў меў паэтычны талент. Адсюль, з асяроддзя слухачоў Віленскага універсітэта, ураджэнцаў Беларусі, выйшла, не кажучы ўжо пра Адама Міцкевіча, нямала вядомых польскіх пісьменнікаў — Антон Адынец, Аляксандр Ходзька, Анупрэй Петрашкевіч, Юльян Корсак, Тамаш Зан і іншыя.

З гадамі Таварыства філаматаў прыкметна пашырылася, пусціла карэнні ў правінцыі. Міцкевіч і яго паплечнікі паступова прыйшлі да вываду, што адной асветай народнага жыцця не палепшыш. У гэтым

сэнсе характэрна прывітальная прамова Міцкевіча, з якой ён выступіў 12 студзеня 1819 года, калі прымалі ў філаматы Яна Чачота. Таварыства філаматаў, падкрэсліў паэт, утваралася «з самай высакароднай мэтай — несці карысць краіне, суайчыннікам і нам самім; яно выбрала дзеля гэтага самы высакародны шлях, гэта значыць шлях асветы. Але варта задумацца, ці зможам мы здзейсніць задуманае, калі будзем трымацца толькі гэтага шляху». Так прыйшло ўсведамленне таго, што дзеля народнага шчасця, дзеля вызвалення чалавека перш за ўсё патрэбна барацьба палітычная. Ворагам нумар адзін стала не цемрашальства, а той, хто яго насаджаў,— дэспатычны царызм. Кожны з філаматаў рыхтаваў сябе і сяброў да таго, каб стаць актыўным удзельнікам узброенай нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

Уступіўшы ў Таварыства філаматаў, Чачот неўзабаве стаў адным з яго кіраўнікоў. На пасяджэннях ён чытаў свае вершы (у тым ліку верш «Купала»), у абмеркаванні якіх удзельнічаў Міцкевіч. Чачот быў нязменным завадатарам розных тэатральных прадстаўленняў і пісаў для іх на беларускай мове вершы і «хоры».

19 сакавіка 1819 года філаматы ўрачыста святкавалі імяніны двух Юзафаў — Яжоўскага і Кавалеўскага. Да гэтай даты Чачот падрыхтаваў беларускую драматычную сцэнку, у якой дзейнічалі цівун, войт, Мікіта. Тэкст ад аўтара ўзнёсла прадэкламаваў Тамаш Зан; ён жа прыдумаў музыку для хлапечага і дзявочага хораў. У сцэнцы праслаўлялася цнатлівасць імяніннікаў, незласліва высмейвалася іх нерашучасць у адносінах з дзяўчатамі. Але сям-там адчувалася і скарга народа на сваё цёмнае паднявольнае жыццё, прабіваліся сацыяльныя акцэнты. Хор хлопцаў, напрыклад, спяваў:

Мы ад сахі, ад бараны,
Мала вам спяваці будзем!
Чытаць, пісаць не ўчаны,
Ат, сабе троха загудзем.
Колька ў снапе ёсць зярнятак,
Толька жый шчаслівых летак;
А калі замнога гэта,
Аглядай сотнае лета.
Колька за адным пакосам
Касец добры траў схэндожыць (скосіць,— Л. М.),
Толька табе перад носам
Бог нехай чырвонцаў зложыць.
А як мы заўша да лесу
Ад некрутаў уцякаем,
Так нехай беда да беса

Уцечэ, нех ей не знаем.

Хор хлопцаў спаборнічаў з дзявочым хорам. Іх перапынялі дэкламатары. Але вось замоўклі песні. З насмешкай пытае войт:

Што ж маўчыце?
Ці вам ся ўжо песні ўрвала,
Ці вы іх так складаці ўмееце мала?

На гэта адзін са спевакоў з годнасцю адказвае: песень у нас хопіць, але ці спадабаюцца яны вам, панове, мы ж спяваем іх па-беларуску:

Не, бацька, у нас песні, колька рыб у Немні,
Але на тое, мілы галубчыку, помні,
Што мы па-руські пеем, а нашы панове
Па-польскі ўсё гаворацъ; кепска нашай мове...

Імяніннікі і ўсе слухачы сустрэлі сцэнку дружнымі воплескамі. Яшчэ б! Беларуская мова была для ўсіх іх сімвалам народнасці, якую якраз праслаўляў модны тады рамантызм. Аўтару паднеслі вялікі збан пітнога мёду. Першы поспех акрыліў маладога паэта. І лістапада 1819 года ва універсітэцкіх мурах філаматцкае трыё выканала беларускую песню Чачота «Да пакіньце ж горла драць», напісаную ім у гонар Малеўскага (Яроша). А яшчэ праз некалькі тыдняў філаматы сабраліся, каб урачыста адзначыць імяніны свайго куміра — Адама Міцкевіча. Імяніннік доўга не з'яўляўся: шлях з Коўна, дзе тады паэт працаваў настаўнікам, быў доўгі і небяспечны. Урэшце дзверы адчыніліся, і на парозе з'явіўся ўвесь заснежаны Міцкевіч. Чачот прывітаў яго беларускімі словамі:

Едзеш, міленькі Адам,
Глядзіце, а онь, а онь;
Да ён харашэнькі сам,
Пад нём вараненькі конь...

На нейкі час шумныя віншаванні ды тосты прыглушылі голас паэта. Але Міцкевіч рукой даў загад сцішыцца, і Чачот закончыў дэкламацыю:

Не так нам сонка ясна
Блішчыць, як цябе нет.
Радасці ішчэм напрасна;
Увесь нам не міл свет.
Салавей не так нам пее,
Рожы не пахне цвет,
Не так нам бела лілея.
Калі цябе тут нет.
Без цябе ўсё тут смутна,

Па табе плача гай,
І рэчкі плывуць мутна,
У жалобе ўвесь край.
Наш ты міленькі Адам,
Насмуціў жа ты нас досць,
Нагарадзі смутак нам
І будзь у нас доўга госць.

Побач з беларускімі вершамі і драматычнымі сцэнкамі ў філамацкі перыяд Ян Чачот многа і плённа пісаў па-польску. Лібрэта яго аперэты «Малгажата з Зембаціна» атрымала высокую ацэнку Міцкевіча. Пад уплывам спрэчак аб гістарызме з'явіўся цыкл твораў аб мінулым роднага краю. Абапіраючыся на хроніку Стрыйкоўскага, Чачот давёў вершаваную гісторыю Літвы і Беларусі да 1434 года. Але найбольшы поспех маладому паэту прынеслі яго рамантычныя балады — «Навагрудскі замак», «Свіцязь-возера», «Калдычэўскі шчупак», «Мышанка», рэзка антыпрыгонніцкія «Узногі». У іх упершыню ў польскай рамантычнай паэзіі выкарыстаны народныя паданні. І тым больш прыемна, што паданні гэтыя — беларускія па паходжанню. Праўда, Чачот слепа і дакладна трымаўся фальклорных першаўзораў, што перашкодзіла яму ўзняцца да значных мастацкіх абагульненняў. Але яго балады аказалі добры ўплыў на творчасць Міцкевіча. Зацікавіўшыся імі ў канцы 1819 года, вялікі польскі паэт і сам неўзабаве перайшоў ад класіцызму на рамантычныя пазіцыі. Геніяльны «вучань» хутка пераўзышоў свайго часовага «настаўніка», бо, у адрозненне ад яго, творча выкарыстоўваў фальклорныя матывы. І ўсё ж удзячнасць, прызнанне заслуг свайго сябра засталіся назаўжды. Часам гэтыя заслугі нават гіпербалізаваліся. «Пішу табе, як адчуваю,— чытаем мы ў пісьме Міцкевіча да Чачота, датаваным 1 студзеня 1820 года,— можа быць, няправільна, але адчуваю менавіта так. Не бачу ў сабе ні незвычайных талентаў, ні больш высокіх, чым твае. Пішу, як адчуваю».

У гісторыі славянскіх літаратур цяжка знайсці прыклад больш трывалай, высакароднай і бескарыслівай дружбы, чым дружба Міцкевіча і Чачота. І справа тут не ў колькасці ўзаемна прысвечаных вершаў («Ямбаў»), а ў адзінстве поглядаў і пачуццяў. «Што датычыцца дружбы,— пісаў Чачоту Міцкевіч 6 лістапада 1819 года,— то, клянуся яе святым імем і ўсім, што мне было і што цяпер найбольш дарага, я лічу цябе такім сябрам, якога толькі можна пажадаць; я не хачу і не магу мець большага, я ні да кога не быў так прывязаны і нікога не любіў у такой жа меры». Імя Чачота першым названа ў прысвячэнні міцкевічаўскага зборніка «Балады і рамансы». У сваю чаргу Чачот чытаў карэктуру «Дзядоў», арганізоўваў падпіску на зборнікі свайго

сябра. Такія ж шчырыя адносіны звязвалі Чачота з іншымі філаматамі. «Жывы, чуллівы, вясёлы,— пісаў аб ім Ігнат Дамейка,— ён братаўся з усімі; просты і даверлівы, нават да самых маладых і найменш адукаваных, пявучы, уражлівы, ён меў сапраўды сялянскую натуру...»

У 1821 годзе Таварыства філаматаў ператварылася ў больш складанае па сваёй структуры Таварыства філарэтаў. Узмацніўся напал патрыятычных прамоў, стражэй стала канспірацыя. Аднак у 1823 годзе царскім уладам удалося натрапіць на след тайных згуртаванняў. Пачаліся масавыя арышты і рэпрэсіі. У Вільню прыехаў сенатар Навасільцаў, які павёў следства, не грэбуючы бруднымі прыёмамі. Міцкевіча, Чачота, Зана і іх сяброў заключылі ў камеры ператворанага на турму базыльянскага кляштара. Вязні дэкламавалі патрыятычныя вершы, спявалі народныя песні. Аднойчы, прыгадвае філамат Антон Слізень, Чачот заспяваў уласную беларускую песню, якая пачыналася словамі:

Да лятуць, лятуць да дзікія гусі,
Да нас павязуць да далёкай Русі.

Словы паэта аказаліся прарочымі. За чытанне «нахабных» вершаў, за прамовы, накіраваныя супраць царскага трона, суд прыгаварыў Чачота і яго сяброў да высылкі ў аддаленыя губерні Расіі. На радзіме засталіся старыя і збяднелыя бацькі, засталася родная па сэрцу і духу Зося Малеўская, якая ўзялася зберагаць рукапісныя зборнікі паэта. Пацягнуліся доўгія гады выгнання — спачатку ва Уфе, потым — у Цверы. Толькі ў 1833 годзе Чачоту дазволілі вярнуцца ў Беларусь. Нейкі час ён працаваў сакратаром кіраўніцтва Бярэзінскім каналам у Лепелі. Затым пацягнула на родную Навагрудчыну, дзе шчорсаўскі граф Храптовіч прапанаваў пасаду бібліятэкара. Землякі, успамінае Эдвард Паўловіч, сустракалі паэта як сапраўднага героя, ды сам ён, хворы і надломлены, ужо не вярнуўся да палітычнай дзейнасці. Ён па-ранейшаму страсна жадаў, каб здзейснілася яго колішняя мара — убачыць свой народ свабодным і шчаслівым, аднак не ведаў рэальных шляхоў здзяйснення гэтай мары.

У 30-я гады Чачот цалкам аддаўся сваёй улюбёнай справе — збіранню і перакладу беларускіх народных песень. У 1837 годзе ў віленскім выдавецтве Завадснага ўбачыла свет сціплая кніжачка пад назвай «Вясковыя песенькі з-над Нёмана». У ёй было змешчана 100 беларускіх песень у больш або менш дакладным перакладзе на польскую мову.

Услед за першым зборнікам выйшла яшчэ пяць аналагічных зборнікаў — у 1839, 1840, 1844, 1845 і 1846 гадах. Разам у іх апублікавана каля тысячы народных песень, запісаных Чачотам і яго добра-

ахвотнымі карэспандэнтамі над берагамі Нёмана, Дзвіны і Дняпра. За выключэннем апошняга зборніка, дзе песні прыводзяцца ў арыгінальным беларускім гучанні, усюды падаецца толькі польскі пераклад. Побач з бяскрыўднымі абрадавымі ды сямейнымі песнямі ў выданні Чачота трапілі і фальклорныя творы з яўна антыпрыгонніцкім зместам. Ну, хаця б вось гэтая жніўная песня:

Да ў нашага пана
Да нядобрая слава:
Па месяцу жыта жалі,
Па зорам копы клалі.
Цёмна ў полі, цёмна.
Бадай таму цямней было,
Хто да хаты не пушчае
Да на полю нас трымае.
Да мы позна з поля йдзём
Да прыганятага клянём.

Выключную цікавасць маюць для нас вершаваныя і празаічныя прадмовы і каментарыі да зборнікаў. У іх Чачот выказвае свае думкі аб жыцці беларускага народа, аб беларускай мове і фальклоры. Паэт спачувае нядолі прыгоннага селяніна, з абурэннем піша аб бязрадасным існаванні яго дзяцей. У каментарыях да зборніка 1840 года гаворыцца: «Як жа сумна звычайна выглядаюць у вёсках сялянскія дзеці, якія гуляюць каля хат, пазіраюць праз маленькія аконцы і ахвотна выбягаюць адчыніць вароты праезджаму!.. Нямытыя, нечасаныя, часта ў вельмі брудных і пашкуматаных кашульках! Калі выйдзеш з панскага двара, дзе вабіць і захапляе вочы белізна і жывасць колераў,— які ж кантраст, які нечаканы і непатрэбны пераход!» «Баліць сэрца,— піша Чачот у прадмове да таго ж зборніка,— калі бачыш самы шматлікі і самы працавіты клас насельніцтва даведзеным да такой беднасці...» Аднак тут жа асноўнай прычынай гэтай беднасці аўтар лічыць не прыгонніцкі лад, а карчомнае п'янства.

У прадмове да зборніка 1846 года, да якога прыкладзены невялічкі беларускі слоўнік і звыш ста беларускіх прыказак, Чачот дзеліцца сваімі «назіраннямі» над «крывіцкай» (беларускай) мовай. Ён прызнае, што яму яшчэ нестае ведаў, каб даць «нейкі граматычна-гістарычны нарыс гэтай мовы». «Належнае даследаванне мовы, на якой пры нашай памяці любілі паміж сабой гаварыць жывыя яшчэ тады старыя паны, на якой цяпер гавораць з сялянамі паны і аканомы, на якой некалі пісалі ў нас дзяржаўныя акты, цалкам ляжа на плечы нейкага здольнага чалавека, можа селяніна, які, атрымаўшы веды, больш глыбока разгледзіць добра вядомую сабе мову». Затым

Чачот вызначае месца «крывіцкай» мовы сярод іншых славянскіх моў — яна знаходзіцца пасярэдзіне паміж рускай, украінскай і польскай мовамі, аднак бліжэй да рускай, чым да польскай. У іншым месцы аўтар падкрэслівае, што хаця «крывіцкі дыялект» маларазвіты і нераспрацаваны, хаця ў кожнай вёсцы бытуюць адметныя словы, аднак на ім «вельмі любяць размаўляць нашы сяляне».

Ян Чачот вельмі высока цаніў мастацкія вартасці беларускага фальклору. «Адносна саміх песень,— гаворыцца ў прадмове да зборніка 1844 года,— магу сказаць наступнае: будучы іх перакладчыкам — не змагу быць суддзёй, аднак адчуваю ў іх асаблівую прывабнасць, наватарства формы і лаканізм у перадачы пачуццяў. Няма гэтай сцісласці ў нашых салонных пісьменнікаў...» Паэт заклікае сваіх суайчыннікаў ісці ў вёскі і збіраць скарбы народнай творчасці, пакуль яны яшчэ не зніклі. Але адначасова аўтар прызнае, што развіццё фальклору не спынілася, бо здольныя вясковыя песняры працягваюць «па ўласнаму натхненню ствараць новыя песні».

Выказаўшы падзяку беларускім сялянам за тое, што яны захавалі старажытныя абрады і песні, Чачот адзначае, што гэтыя абрады і песні не засталіся нязменнымі. На іх аказала ўплыў паэзія суседніх народаў — рускага, украінскага, польскага і, магчыма, літоўскага. Супастаўляючы песні з розных мясцовасцей, збіральнік прыходзіць да вываду, што, нягледзячы на мясцовыя асаблівасці, беларускаму фальклору ўласцівы агульныя нацыянальныя рысы: «Раней я лічыў, што нават на невялікай адлегласці ў вёсках бытуюць адметныя сялянскія песенькі. Але, збіраючы іх далей, я пераканаўся, што нават пры вялікай адлегласці яны вельмі падобныя або адрозніваюцца толькі невялікімі заменамі асобных слоў». «Хто ж распаўсюдзіў адны і тыя ж песні па тэрыторыі ўсёй Беларусі?» — пытаецца Чачот. І адказвае: не кнігі і часопісы, а памяць, вусны і сэрцы братніх плямён.

У сваіх прадмовах Чачот тлумачыць, якія мэты ставіў ён перад сабой, збіраючы і выдаючы беларускія народныя песні. Перш за ўсё гэта — асветніцкія мэты. Чачот хацеў, каб сабраныя ім песенькі былі апрацаваны кампазітарамі, а затым зноў вярнуліся ў народ і садзейнічалі яго «маральнаму прагрэсу». Якім чынам? Абуджаючы лепшыя пачуцці і ў сэрцах «дабрачынных паноў», і ў сэрцах працавітых сялян. Як бачым, сацыяльная праграма Чачота з'яўлялася нерэальнай, утапічнай. Чуллівымі песенькамі нельга вырашыць вострыя сацыяльныя супярэчнасці. Аднак іншага шляху садзейнічаць народнаму дабру паэт не бачыў. І ў гэтым — яго трагедыя. У гэтым — трагедыя ўсіх тагачасных шляхецкіх асветнікаў, якія шчыра спачувалі прыгоннаму селяніну, але не бачылі іншага шляху да ўсенароднага шчасця,

акрамя класавага прымірэння пана і селяніна, абуджэння ў сэрцах паноў гуманных пачуццяў.

Такія ж ідэйныя супярэчнасці ўласцівы арыгінальным вершам Чачота на беларускай і польскай мовах (беларускія вершы прыкладзены да зборнікаў 1844 і 1846 гадоў, польскія выйшлі ў 1846 годзе асобным зборнікам пад назвай «Песні вясковага гаспадара»), У іх паэт выказвае сваю шчырую любоў да беларускага селяніна, веру ў непазбежны прагрэс мясцовага краю. Вось як, напрыклад, пачынаецца чачотаўскі верш «Да мілых мужычкоў»:

Да і я ж вам памагу
Песеньку спяваці;
Да і я ж міжы вамі ўзрос
Пры бацьку і маці.
І мне бог на свеце даў
Гора гараваці,
Штобы лепш я вас любіў
І ўмеў спагадаці.
Ой, што ж вы напелі тут,
Да якога дзіва!
Шкода, што на голас ваш
Старонка драмліва.
Але як прачнецца з сна
Гэта Дабрадзейка,
Пэўна будзе слухаць вас
Лепш, як салавейка.

Чачот глядзеў на сваю паэтычную творчасць вельмі утылітарна, практычна. Ён хацеў навучыць непісьменнага беларускага селяніна самым простым маральна-этычным ісцінам: трэба быць працавітым, руплівым, гаспадарным, нельга прапіваць свае грошы ў карчме, закопваць іх у зямлю, нельга высякаць дрэвы паабапал дарог, трэба вучыць сваіх дзяцей рамяству і г. д. Адсюль — павучальны, ментарскі тон вершаў:

Як то добра, калі мужык
Трэзвы, гаспадарны!
Для такога ў цэлым року
Жадын час не марны!
Снягі таюць, ён гародзіць
Колмі, што зімою
І навазіў, і начэсаў
Добраю парою.
Ёсць у нега і лучыва,

І дроў многа клетак;
Будзе чым варыці кашу
Усё лета для дзетак.
Вясна блісне — ён гной возіць,
І арэ і сее;
Косіць лугі, сенажаці,
Мім жыта даспее...

Але скрозь гэтыя павучанні не-не ды й прабівалася горкая сялянская скарга на паднявольнае жыццё:

На што нам дым выядае вочкі?
На што нам дым марае сарочкі?
На што нас дым, дзеткі мілы,
Гоніць з дому да магілы?
Ой, на што, на што?

Асабліва абуралі Чачота дзеянні розных панскіх паслугачоў — аканомаў, арандатараў, якія адвольна павялічвалі прыгонніцкія павіннасці:

Пакуль сонца ўзыдзе,
Раса выесць вочы;
Кепска, як аконам
Лаяць, біць ахвочы...
Хто мужыкоў глуміць,
На двое варожыць,
Грош пану ў кішэню,
А два сабе ўложыць.

Аднак тут жа, супярэчачы самому сабе, Чачот ускладваў віну за жорсткасць аканомаў, войтаў і цівуноў на... саміх сялян: калі б апошнія не спалі на рабоце, то і не ведалі б, што такое бізун. Больш таго, тады «пайшоў бы прыганяты» з сялянамі «разам араць». А ў вершы «Паночкі, нашы кветачкі...» чачотаўскі мужык сцвярджае нават, што ўсякай ўлада, у тым ліку прыгонніка, законная, таму што дадзена богам. Пажаданні героя не ідуць далей таго, каб пан у імя свайго ж дабрабыту навучыў яго грамаце:

Паночкі, нашы кветачкі,
Вучце нас, свае дзетачкі,
Як мы маем лепей жыці,
На вас, на себе рабіці.
Цёмны мы, цёмны мужычкі,
Невучоныя прастачкі;
Вы нам ад бога даныя,
Штоб вучылі падданыя.

Вучыце ж вы нас шчыранька,
Будзе нам усім добранька.

Вось якімі супярэчлівымі былі погляды Чачота. З аднаго боку, удзельнік тайных студэнцкіх згуртаванняў, прыхільнік палітычнай барацьбы з царызмам, з другога — абстрактны гуманіст. З аднаго боку, шчыры нарадалюбец, з другога — прапагандыст класавага прымірэння і братання. У розных творах гэтыя супярэчнасці выражаліся паразнаму. Але ўсё ж часцей над Чачотам-ліberalам, Чачотам-прымірыцелем браў верх Чачот-дэмакрат. У барацьбе паміж панам і селянінам ён пераважна стаяў на сялянскім баку, хаця і не бачыў сэнсу ў гэтай барацьбе, заклікаў закончыць яе ўсеагульным класавым мірам.

Гаворачы аб поглядах Чачота, трэба мець па ўвазе яшчэ адну акалічнасць. Не ўсе творы паэта апублікаваны, не ўсе знойдзены, і таму яшчэ, мабыць, рана ставіць апошнюю кропку над «і». Напрыклад, невядома, куды дзелася польская празаічная «аповесць з 1829 года» «Жмудзь і Літва ў карыкатуры». 69 старонак, якія захаваліся ад аповесці, дазваляюць меркаваць, што гэта быў востры сатырычны твор, што ў ім едка высмейвалася мясцовая арыстакратыя. Невядома, што сабой уяўляла беларуская п'еса Чачота, «напісаная ў чэсць Міцкевіча» для тэатра, аб якой гаворыцца ў адным з пісем Р. Зямкевіча (пісьмо захоўваецца ў бібліятэцы АН Літоўскай ССР). Зямкевіч збіраўся прывесці гэту п'есу ў сваёй манаграфіі, але так і не здзейсніў задуму. Урэшце, яшчэ не апублікаваны рукапісныя зборнікі паэта, якія захоўваюцца ў Польшчы ў складзе так званага «Малога архіва філаматаў». Многія рукапісы, відаць, загінулі ад рук царскіх цэнзараў і проста ад часу.

Памёр Ян Чачот 11 жніўня 1847 года ў Друскеніках у крайняй беднасці. Сябры пахавалі яго ў суседняй Ротніцы і над магілай паставілі помнік з вершам Антона Адынца:

Сваю маладосць прысвяціў ён навукам і цноце,
Век сталы ён мужна пражыў у няспынных цярпеннях.
Любоў да сяброў і да бога — істоты яго была зместам.
Цяжкое жыццё яго ўсё — да збавення дарогай.
Імя яго злучана будзе павекі ў айчыне
З Адамам Міцкевічам і Томашам Занам.
Хто ведае іх, перад каменем гэтым схіліся,
Падумай, ўздыхні і за ўсіх іх, траіх, памаліся.

*(Пераклад М. Танка.)*

# ЯН БАРШЧЭЎСКІ

Адначасова з Чачотам, але зусім незалежна ад яго, скарбы беларускага фальклору пачаў збіраць і апрацоўваць Ян Баршчэўскі. Сучаснікі, мабыць, абапіраючыся на тое, што ім было вядома ў рукапісах, называлі гэтага пісьменніка «львом беларускай літаратуры». На жаль, большасць твораў Баршчэўскага знішчыў няўмольны час (хаця не выключана магчымасць, што камусьці пашчаслівіцца адшукаць іх сярод папераў графаў Ржэвускіх, у доме якіх пісьменнік знайшоў на старасць часовы і няпэўны прытулак). Пакуль што Баршчэўскі ўваходзіць у гісторыю літаратуры як аўтар трох беларускіх вершаў ды напаўфальклорнага зборніка «Шляхціц Завальня». Праўда, ёсць яшчэ вершы, балады і паэмы на польскай мове. Аднак большасць з іх — несамастойныя, напісаныя «пад Міцкевіча» і таму не маюць асаблівай мастацкай каштоўнасці.

Жыццёвы і творчы шлях Баршчэўскага поўны супярэчнасцей і загадак. Узяць хаця б год нараджэння. У прадмове да зборніка «Шляхціц Завальня» блізкі сябар пісьменніка Рамуальд Падбярэскі ўказвае 1794 год. Тая ж дата названа ў некалькіх некралогах. Аднак такія сур'ёзныя даследчыкі, як М. Гарэцкі і Р. Зямкевіч у нас, Т. С. Грабоўскі ў Польшчы, назвалі зусім іншую дату — 1790 год. Каму ж аддаць перавагу? Відаць, усё-такі Падбярэскаму: ён чэрпаў інфармацыю з першых вуснаў — ад самога пісьменніка. Апрача таго, ёсць і ўскосны доказ. Вядома, што ў 1809 годзе, будучы вучнем Полацкай езуіцкай калегіі, Баршчэўскі напісаў свой першы вершаваны твор — псеўдакласічную паэму на польскай мове «Пояс Венеры». А наўрад ці мог быць вучнем калегіі дзевятнаццацігадовы юнак...

Затое даследчыкі аднадушны ў тым, што Баршчэўскі нарадзіўся ў фальварку Марогі ля возера Нешчарда, што на поўначы былой Віцебскай губерні. Паходзіў ён з той часткі беларускай шляхты, якая, па словах Падбярэскага, амаль злівалася з сялянскай масай. У дзяцінстве хлопчык любіў бавіць час у свайго дзядзькі, які жыў на самым беразе возера і затым быў выведзены ў зборніку пад уяўным ці, можа, нават сапраўдным прозвішчам шляхціца Завальні. Зімой, калі лютавала завіруха і збіваліся са шляху падарожныя, дзядзька заўсёды выстаўляў на акне свечку. Агеньчык прывабліваў сялян, шляхту, купцоў. Паміж імі і дзядзькам адбываўся наступны дыялог (у «Шляхціцу Завальні» ён дадзены па-беларуску):

— Ах, паночак, пусці нас пераначаваць, ноч цёмная, нічога не відна, і дарогу так замяло, што і найці няможна.

— А ці ўмееце сказкі ды прыказкі?

— Да ўжо ж як-небудзь скажам, калі толькі будзе ласка панская.

Падарожныя распраналі доўгія кажухі. На стале з'яўляўся самавар, а то і бутэлька з медавухай. І пачынаўся нетаропкі расказ аб розных дзівах дзівосных, сапраўдных здарэннях і выдуманых: пра багацея Карпа, які запрадаў душу чорту; пра змяю, што вылупілася з летуценнага яйка; пра валасы, што крычалі на галаве віцебскага нягодніка Генрыка; пра славутага чарнакніжніка Твардоўскага, які нібы аб'явіўся ў Полацку. І заўсёды ў гэтых казках сілы зла былі на баку багатых, а сілы дабра — на баку бедных. І заўсёды селянін быў вышэй, высакародней і кемлівей свайго пана. Наслухаўшыся казак, дзядзька прыходзіў да вываду, што яны лепш, чым «не па-нашаму» напісаная «Адысея». І не ведалі прысутныя, што да кожнага іх слова з затоеным дыханнем прыслухоўваецца з печы малы Ясь. Прыслухоўваецца, а затым, вяртаючыся ў думках да свайго дзяцінства і юнацтва, напіша «Адысею беларускую» — чатырохтомнага «Шляхціца Завальню».

Вельмі мала звестак захавалася пра школьныя гады Баршчэўскага. Вядома толькі, што ў Полацкай калегіі ён добра вывучыў старажытнагрэчаскую і лацінскую мовы і што езуіцкія настаўленні не дужа запаланілі яго сэрца. Але вось закончана вучоба. Што рабіць далей? На якой ніве прыкласці свае сілы і веды? Як прыгадвае Баршчэўскі ў «Нарысе паўночнай Беларусі», нейкі час ён бязмэтна блукаў па дрымучых барах і берагах Нешчарды з кнігамі антычных аўтараў пад пахай. Потым пачаліся вандроўкі па навакольных засценках. За скромны пачастунак паэт адплачваў гаспадарам панегірычнымі вершамі, а то і — гледзячы па абставінах — дасціпнай сатырай. Зразумела, такі лад жыцця не задавальняў юнака. І вось нейкім чынам, відаць з дапамогай сваяка Гаўдэнція Шапялевіча, ён трапляе ў Пецярбург. На жыццё прыходзіцца зарабляць прыватнымі ўрокамі — вось дзе спатрэбілася веданне моў! — ды нейкімі «падрадамі» ў Марскім ведамстве. Магчыма (зноў гэтае непазбежнае «магчыма»), сувяззю з Марскім ведамствам тлумачацца і таямнічыя падарожжы Баршчэўскага ў Францыю, Англію і Фінляндыю. На свой кошт скромны гувернёр наўрад ці адправіўся б у такую далёкую дарогу...

У Пецярбурзе Баршчэўскі ўстанавіў цесныя сувязі з польскімі, рускімі і ўкраінскімі літаратурнымі коламі, з універсітэцкай моладдзю. У розны час адбыліся сустрэчы з Адамам Міцкевічам, Тарасам Шаўчэнкам. Сучасны польскі даследчык Ежы Енджэевіч аўтарытэтна сцвярджае, што Міцкевіч правіў раннія вершы Баршчэўскага і прадракаў яму вялікую будучыню. Плённым было ўздзеянне на беларускага пісьменніка ўкраінскага Кабзара. Як паведамляецца ў пісьме

польскага паэта В. Рэута да мінчаніна І. Легатовіча, Шаўчэнка і Баршчэўскі пазнаёміліся ў 1839 годзе. Кабзар добра ведаў вершы свайго новага знаёмага і выказваў адносна іх некаторыя крытычныя заўвагі. Апрача таго, піша той жа Енджэевіч, з твораў Шаўчэнкі бачна, што ён чытаў польскі альманах «Незабудка», які выдаваўся Баршчэўскім і яго сябрамі з Пецярбургскага універсітэта ў 1840-1844 гадах. У гэтым альманаху друкаваліся пераважна маладыя аўтары, якія паходзілі з Беларусі.

Паступова вакол Яна Баршчэўскага і яго «Незабудкі» аб'ядналася цэлая група літаратараў, якую некаторыя польскія даследчыкі потым гучна называлі «беларускай школай». Сюды ўваходзілі пераважна ўраджэнцы Беларусі — Рамуальд, Роза і Людвік Падбярэскія, студэнты універсітэта В. Давід і С. Ляховіч, мастакі К. і Р. Жукоўскія, кампазітар А. Абрамовіч. З гэтай групай былі цесна звязаны Вінцэнты Рэут, Геранім Марцінкевіч, Аляксандр Грот-Спасоўскі, Тадэвуш Лада-Заблоцкі, Аляксандр Гроза, якія ў сваіх польскіх творах выкарыстоўвалі матывы беларускіх казак і паданняў, даследчык беларускага фальклору Ігнат Храпавіцкі, урэшце, паляшук Леапольд Штырмер, які друкаваў свае аповесці ў «Незабудцы» пад іменем жонкі Элеаноры Штырмер. Пасля таго як выданне «Незабудкі» спынілася, фактычным органам групы стаў «Рочнік літэрацкі» на чале з Р. Падбярэскім.

Апошнія гады жыцця Баршчэўскага таксама ахутаны таямніцай. Выдаўшы (часткова на ўласныя сродкі) «Шляхціца Завальшо», ён нейкім чынам апынуўся на Украіне — пабываў у Адэсе, у 1849 годзе выдаў у Кіеве першую частку свайго польскага зборніка «Проза і вершы». Памёр пісьменнік 11 сакавіка 1851 года ў Цуднове на Валыні, у доме графаў Ржэвускіх. Адзін з іх — Генрык Ржэвускі — быў даволі вядомым польскім раманістам, пісаў пра мінулае Беларусі, чым, відаць, і тлумачыцца яго ўвага да збяднелага беларускага шляхціца.

Як ужо гаварылася вышэй, да нас дайшлі ўсяго тры беларускія вершы Баршчэўскага — «Дзеванька», «Гарэліца» і (ва ўрыўках) «Рабункі мужыкоў». Напісаныя на невысокім мастацкім узроўні, сёння яны маюць толькі гісторыка-літаратурнае значэнне. Аднак у свой час яны карысталіся значнай папулярнасцю, былі часткова пакладзены на музыку, пайшлі, як кажуць, у народ. Урыўкі з «Рабункаў мужыкоў» знайшлі (пад назвай «Размова хлопаў») пры вобыску ў Паўлюка Багрыма. З народных вуснаў трапілі яны ў фальклорныя запісы П. Шэйна. Як бачым, сяляне знаходзілі ў Баршчэўскага нешта сваё, нешта сугучнае сваім думам і пачуццям!

А як жа тады пагадзіць указаныя вышэй факты з тым, што ў 30-40-х гадах нашага стагоддзя, даказваючы рэакцыйнасць поглядаў

Баршчэўскага, звычайна спасылаліся на тыя ж «Рабункі мужыкоў»? Як пагадзіць, напрыклад, са словамі Л. Бэндэ, што творчасць Баршчэўскага накіравана на тое, каб «зганьбіць сялянскія паўстанні, спробы беларускага сялянства рэвалюцыйным шляхам вызваліцца з-пад прыгонніцкага прыгнёту»? Няўжо народ памыляўся, распаўсюджваючы тыя ж «Рабункі мужыкоў»?

Не, народ не памыляўся. Памыляліся вульгарныя сацыёлагі. Сёння настаў час па-новаму, з канкрэтна-гістарычных пазіцый, прааналізаваць беларускія творы Баршчэўскага. Для пачатку звернемся да ўрыўка з «Рабункаў мужыкоў», які прыведзены Р. Падбярэскім у прадмове да «Шляхціца Завальні». Паколькі гэты тэкст па традыцыі не ўключаецца ні ў хрэстаматыі, ні ў анталогіі і таму амаль недаступны неспецыялістам, непазбежнымі будуць пераказ і вялікія цытаты:

Як французская сіла
Із-за Дзвіны наступіла,
Нам стала карціць,
Чтоб парадак прыўраціць.
Аднака ж сядзелі ціха,
Аж тут прыносіць ліха
Французаў у паш двор,
І нутка дзелаць здор (мабыць, збор.— А. М).
Клеці паразбівалі,
Паноў нашых загналі,
Нас казалі пазбіраць
І гарэлку піць і браць.
Французы нас пахвалялі,
Аб нашым краю ўпаміналі
І на мігі нас прасілі,
Каб мы з імі двор лупілі.
І мы доўга там гулялі,
Что хацелі — пілі, бралі.

У гэты час пачынаецца наступленне рускай арміі. Французы пакідаюць двор. Нашы войскі разбіваюць іх у вядомай бітве пад Калясціцамі. А між тым у двары:

Як французы выйшлі самі,
Мужыкі былі панамі
І, калі так пагулялі,
Раду сабе укладалі.
Першый Мінка сеў за стол,
У куты глядзіць, як сакол,
На крэсле, і дзе сядзеў пан,

Пуза, як барабан.
А ногі як разапнець,
Хоць з калёсамі праедзь.

Усеўшыся за стол, Мінка пачынае хваліць старых паноў, якія мелі вусы «на ўвесь свет» і два запасныя рукавы, і лаяць новых, што «і самі ўжо згалелі». На гэтым тэкст абрываецца: ідуць шматлікія шмат-кроп'і, відаць абумоўленыя цэнзурай. Але ў канцы ўсё ж прарываецца, наколькі было мага, і сялянская крыўда на прыгонніцкі лёс. Цяжка сказаць, каму належаць гэтыя словы, але напэўна не пузатаму Мінку:

Прыйдзеш у двор, баішся,
Пакуль к пану зблізішся,
Доўга галаву скрабеш...

Яшчэ ж гэта не канец,
Паложыш на стол яец,
І тут ешчэ страх бярэць
Ждаць, што пан запяець...
Пусць мне хоць паб'юць штаны,
Да ўжо ж не будуць паны!

Звернем увагу на апошнія два радкі. Як бачым, герой-апавядальнік (а разам з ім і аўтар) абураецца бяспраўем прыгонных сялян. Ён поўны рашучасці знішчыць панства, хаця за гэта пагражаюць цялесныя пакаранні («паб'юць штаны»). Яшчэ выразней «бунтарскі» настрой сялян выказаны ў фрагменце, які ў прадмове Падбярэскага, відаць, па цэнзурных меркаваннях быў заменены шматкроп'ем, аднак шчасліва захаваўся ў спісе, знойдзеным у час вобыску ў П. Багрыма (сам Багрым наўрад ці ўносіў бы змены ў тэкст):

Дзецюкі! Худа нам жыць,
Пакіньмо прыгон служыць,
Зробім вольнасць, і урэч
Нас ўраднік не будзе сеч.
Ці мы людзі не такія,
Што нам. угрозы ўсякія?

Такім чынам, у «Рабунках мужыкоў» Баршчэўскі даволі пераканаўча паказаў пакутлівасць жыцця прыгонных сялян, іх неадольнае жаданне зрабіць урэшце «вольнасць». Больш таго, аўтар сімпатызуе гэтаму жаданню, гэтым бунтарскім настроям. Сімпатызуе? А як жа тады быць з антыпатычным Мінкам, які кіруе «рабункамі»? А як быць з асуджэннем «рабункаў», якое прыкметна ў першых радках верша?

Каб адказаць на гэтыя пытанні, звернемся да тлумачэнняў Р. Падбярэскага. Ён піша, што памеры прадмовы (наўрад ці толькі памеры) не дазвалялі яму цалкам прывесці твор, напісаны ў адпаведнасці «з вядомым у ваколіцы выпадкам у маёнтку п. Маліноўскага ў Шнітаўках, 50 вёрст ад Полацка, у 1812 годзе». Значыць, Баршчэўскі апісаў канкрэтны выпадак. Значыць, і да самога твора трэба падысці вельмі канкрэтна.

Прыгадаем, што адбывалася ў 1812 годзе. Калі французы акупіравалі беларускую зямлю, сімпатыі мясцовай шляхты падзяліліся. Прапольская яе частка стала на бок французаў. Але не менш аказалася патрыётаў, якія не здрадзілі свайму краю. Відаць, да іх ліку належаў і гаспадар Шнітавак Маліноўскі. Бо інакш чым вытлумачыць той факт, што рабаваць двор загадалі французы і што гаспадар хаваўся (магчыма, з партызанскім атрадам) у лесе (у віцебскай публікацыі 1864 года прама гаворыцца: французы «паноў нашых у лес загналі»)? Са сваім прыхільнікам акупанты абышліся б зусім інакш...

Са сказанага вышэй лёгка напрошваецца вывад: у «Рабунках мужыкоў» Баршчэўскі асуджае не сялянскае паўстанне наогул (апошнія два радкі публікацыі Падбярэскага і варыянт, знойдзены ў Багрыма, сведчаць, хутчэй, аб адваротным), а звычайны грабеж, інспіраваныя чужаземцамі «рабункі». Менавіта французы «казалі пазбіраць» сялян, каб тыя нішчылі дабро іх праціўніка. Менавіта яны абуджалі ў «мужыкоў» самыя нізкія інстынкты, «пахваляючы» за грабеж. І хто ж узначальвае ўвесь так званы «бунт»? Антыпатычны Мінка, пра якога ў каментарыях Р. Падбярэскага сказана, што гэта — таксама рэальная асоба, лакей пана Маліноўскага. Наўрад ці было такому «худа» жыць на панскім хлебе («пуза, як барабан»!)... Як бачна з тэксту, Мінкава «крытыка» існуючага ладу мае чыста вонкавы характар. «Новыя» паны не падабаюцца Мінку толькі таму, што яны

> Палы сабе паабразалі,
> Хвасты ззаду падзякалі (мабыць, паадсякалі.—А. М.).
> І цяпер ужо ўсякі
> Кусай ззаду...

У «Рабунках мужыкоў» Баршчэўскі не «ганьбіць» рэвалюцыйныя выступленні сялянства. Якая ж тут рэвалюцыйнасць быць сляпымі выканаўцамі волі акупантаў?! Аўтар асуджае толькі сялянскія рабункі, якія ў спецыфічных умовах 1812 года ператвараліся ў звычайнае марадзёрства. Рабункі ёсць рабункі і не болей!

Побач з тым нельга таксама, зыходзячы з апошніх радкоў верша, сцвярджаць, як гэта рабіў у свой час А. Хлябцэвіч, што ў «Рабунках мужыкоў» паказана «класавая вайна мужыкоў з панамі». У

сваім вершы Баршчэўскі апісаў адзін канкрэтны выпадак, які адбыўся ў 1812 годзе. З-за абмежаванасці свайго таленту апісаў даволі павярхоўна, не ўзняўся да мастацкага абагульнення, але ўвогуле ў адпаведнасці з гістарычнай праўдай і сапраўднай расстаноўкай сіл. У 1812 годзе лінія барацьбы пралягала зусім не там, дзе яе бачыў А. Хлябцэвіч. «Вайна мужыкоў з панамі» была тады толькі на руку акупантам, і яны імкнуліся яе пашырыць на захоплenай рускай тэрыторыі.

І ўжо зусім іншая справа, што потым, калі прызабылася рэальная першаасnова верша, «Рабункі мужыкоў», асабліва іх заключная частка з заклікам «пакіньмо прыгон служыць», маглі рэвалюцыйна ўздзейнічаць на сялянства. Калі «мужыкі» маглі напасці на панскі двор па чужой волі, то чаму б гэта не паўтарыць ім па сваёй, паўтарыць актыўна і пры больш зручных для айчыны абставінах?! Мне здаецца, што (хацеў таго аўтар ці не) менавіта такі вывад рабілі чытачы верша ў 20-40-я гады мінулага стагоддзя. Інакш нельга вытлумачыць тую папулярнасць, якую заваявалі «Рабункі мужыкоў» у тагачасным сялянскім асяроддзі. Інакш застанецца незразумелым, чаму Р. Падбярэскі, чалавек перадавых поглядаў, сцвярджаў з усёй катэгарычнасцю, што менавіта «Рабункі мужыкоў» паставілі іх аўтара «на чале сапраўды нацыянальнага беларускага пісьменства».

А цяпер звернемся да двух беларускіх вершаў Баршчэўскага, змешчаных у кніжцы альманаха «Рочнік літэрацкі» за 1843 год. У свой час сцвярджалася, што ў іх таксама высмейваецца беларускае сялянства, яго непісьменнасць і маральныя заганы, яго імкненне выбрацца з галечы. Ці так гэта? Для пачатку працытуем першы з вершаў — «Дзеваньку»:

Ах, чым жа твая, дзеванька, галоўка занята;
Ці табе не напрыкрылася чужая хата.
На каго ж ты павяраеш,
Сваё сэрца прымяняеш;
   Не будзе тут пуці.
Прыўчыла ж ты двух хлопцаў, як пташак у сеці,
Яны к табе дзень і ўночы рады прыляцець
І ты к нім лятаеш,
   Панскій двор пабуджаеш
На вялікі смех.
Прыўчыла ж ты лоўчага, ён жа і стралец,
І дудар быў некалі, і рускай пявец;
А стралец і дудар
   Не вялікай гаспадар,

Будзеш бяз хлеба.
Палюбіла садоўніка, і гэта ня ў пуць,
Да ён жа слуга гаспоцькі, асцярожна будзь;
Мадамай табе ня быць,
Дзяцей табе ня ўчыць,
Віць ты ня ўмееш.

Як сведчыць Р. Падбярэскі, Баршчэўскі прысвяціў гэты верш зноў жа канкрэтным падзеям і канкрэтнай асобе — дзяўчыне Максімовічаўне з Марогаў. Высмейвае аўтар учынкі сваёй гераіні? Безумоўна. Але высмейвае за тое, што яна вядзе немаральнае жыццё, дзеліць свае пачуцці паміж панскімі паслугачамі («да ён жа слуга гаспоцькі»). «Галоўка» дзеванькі занята яўна не тым, чым трэба. Яна хоча выбіцца ў людзі цаной уласнага сумлення. І аўтар слушна раіць ёй не губляць чалавечай годнасці, не смяшыць людзей і застацца самой сабою («мадамай табе ня быць»).

На першы погляд здаецца зусім бяскрыўдным верш Баршчэўскага «Гарэліца». Ну што ж у тым «крамольнага», калі паэт высмейвае селяніна, якому ў галаве не хатка, не дзеткі, не жонка, а гарэліца-«весялуха»?! Аднак варта ўспомніць, што ў першай палове XIX стагоддзя п'янства мела глыбокія сацыяльныя карэнні, з'яўлялася адным з праяўленняў прыгонніцкага ладу. Сялян сілай прымушалі купляць гарэлку, якая пастаўлялася ў карчму з панскіх бровараў. Прыгоннікі заахвочвалі п'янства (у «Гарэліцы»: пан «яшчэ хлопцу чарку водкі мне прынесць прыкажэць»). Вось чаму ў 40-50-я гады ў Расійскай імперыі шырока разгарнуўся рух цвярозасці. Яго гарачымі прыхільнікамі сталі Чарнышэўскі і Дабралюбаў, якія заклікалі народ актыўна супрацьдзейнічаць п'янству. Рух цвярозасці варожа сустрэлі як афіцыйныя ўлады, так і прыгоннікі. І таму «Гарэліца» Баршчэўскага, напісаная значна раней, чым пачаўся гэты рух, аб'ектыўна мела прагрэсіўнае гучанне.

Разгледзеўшы ўсе тры беларускія вершы Баршчэўскага, якія дайшлі да нашага часу (а напісана іх было, без сумнення, значна больш), мы прыходзім да вываду, што ў іх няма нічога антынароднага, рэакцыйнага, ёсць толькі абмежаванасць, абумоўленая абмежаванасцю дробнашляхецкага асяроддзя, з якога паходзіў сам аўтар. Але гэта ўжо не столькі віна яго, колькі бяда.

У другім томе польскай «Энцыклёпэдыі повшэхнэй», выдадзеным у 1860 годзе, гаворыцца, што беларускія песенькі Баршчэўскага з вялікай хуткасцю распаўсюдзіліся «сярод народа Белай Русі», прынеслі іх аўтару немалую папулярнасць. Але сапраўдную вядомасць пісьменніку ўсё ж заваявалі чатыры томікі «Шляхціца Завальні». Яны

выйшлі ў пецярбургскіх друкарнях Кароля Края і Эдварда Пратца на працягу 1844-1846 гадоў.

Сёння цяжка сказаць, калі пачалася работа над «Шляхціцам Завальняй». Ва ўсякім выпадку, ужо ў пачатку 40-х гадоў зборнік быў шырока вядомы чытачам у рукапісе. Звесткі аб ім трапілі на старонкі польскага часопіса «Пельгжым» у сярэдзіне 1843 года. Невядомае дагэтуль у беларускім літаратуразнаўстве выказванне «Пельгжыма» пра творчасць Яна Баршчэўскага варта таго, каб яго прывесці ў вялікіх вытрымках: «Пан Баршчэўскі аказаўся самым дасканалым рэкамендатарам простанароднай фантастычнасці і звычаяў беларускага народа. Мы ўпэўнены, што ў сваім жанры ён не ўступіць Сапліцы (славуты апавядальнік у адным з раманаў Г. Ржэвускага.— А. М.). Ён пачаў пісаць празаічныя аповесці. Цяжка перадаць моцныя ўражанні, якія яны выклікаюць. Усё там зроблена з сапраўдным майстэрствам, хаця вонкава вельмі і вельмі проста. Гэта не просты збіральнік народных паданняў... Не толькі цяпер, але і з самага дзяцінства, палкі беларус, ён правёў з народам усё жыццё; яго загарэлы, далёка не кабінетны твар даводзіць, што ён з'яўляецца чалавекам дзеяння, а не спекуляцыі... Ён поўны сапраўднай веры ў тое, што паказвае ў сваіх аповесцях, а гэта важная акалічнасць, бо кожнаму апісанню вера прыдае жывасці і праўды, ён вельмі дасканала ведае ўсю Беларусь, бо разоў з трыццаць абышоў яе пешшу і штогодна наведвае яе цяпер з Пецярбурга. І ўсюды там ён жаданы госць, усюды яго міла прымаюць, таму што, з'яўляючыся бардам той старонкі, ён сыпле, бы з рукава, апавяданнямі і анекдотамі. Дзівосны ў яго інстынкт у апрацоўцы паданняў: не дадае амаль нічога свайго, а між тым усё становіцца яго ўласным. Голы запіс казкі не меў бы асаблівай каштоўнасці, але ён спалучае гэту казку з іншымі паданнямі, дасканала драматызуе — і раптам вырастае цэласны твор, поўны простанароднай праўды і самага сапраўднага жыцця».

У працытаваным вышэй артыкуле М. Грабоўскага даволі трапна вызначана творчая манера Я. Баршчэўскага. У адрозненне ад Я. Чачота і іншых тагачасных збіральнікаў народнай творчасці, яго сапраўды менш за ўсё турбавала дакладнасць у перадачы той або іншай казкі ці легенды. Пачутае ў дзяцінстве і юнацтве, сабранае ў час шматлікіх падарожжаў пісьменнік адвольна спалучаў і пераплятаў, дапаўняў устаўкамі пра саміх апавядальнікаў, пра побыт беларускага народа, уводзіў у тэкст беларускія народныя песні. У выніку атрымалася нешта накшталт беларускай «1001 ночы», дзе адна казка пераходзіць у другую і ўсё звязана адной і той жа фігурай (у беларускім варыянце — прывабнай фігурай шляхціца Завальні, у доме якога

выпадковыя госці расказваюць пра розныя дзівосныя здарэнні). Чытаючы зборнік, сапраўды цяжка вызначыць, дзе канчаецца народная казка і дзе пачынаецца аўтарская белетрызацыя, уведзеная дзеля сувязі і цэласнасці.

Першы том «Шляхціца Завальні» адкрываецца вялікай прадмовай Р. Падбярэскага, у якой даецца першы (калі не лічыць «Беларусі» А. Рысінскага) нарыс развіцця новай беларускай літаратуры. У прадмове разглядаецца творчасць польскіх паэтаў, якія жылі ў Беларусі і ўзнімалі беларускую тэматыку,— Францішка Рысінскага, Яна Аношкі, Францішка Князьніна, Тадэвуша Лады-Заблоцкага; даецца высокая ацэнка «першай чыста народнай па духу і форме беларускай паэме» «Энеіда навыварат», якую аўтар прыпісвае віцебскаму віцэ-губернатару Манькоўскаму. Аднак сярод тых, хто ўзначаліў «нязвычны інтэлектуальны рух» на Белай Русі, вышэй за ўсё Падбярэскі ставіць Яна Баршчэўскага: «Гэты чалавек глыбока разумее сваю старонку ў паэтычных адносінах. Напісаўшы фантастычныя апавяданні на аснове паданняў беларускага простанароддзя, ён пачынае заслугоўваць усеагульнай увагі і займаць зусім выключнае месца сярод пісьменнікаў, якія там пачынаюць з'яўляцца». І далей, аб тым жа «Шляхціцу Завальні»: «Тое, * што піша п. Баршчэўскі прозай, непасрэдна не датычыцца ні гісторыі, ні літаратуры, ні мовы Белай Русі, але датычыцца рэчы больш важнай — народнага духу і паэзіі, адкуль выцякаюць і гісторыя, і літаратура, і мова. Ён абапёрся на самы плённы прынцып, бо вырашыў даць вялікую мастацкую панараму нацыянальнага жыцця. Народ у яго — заўжды перад вачыма». У фантастычных апавяданнях «Шляхціца Завальні» «простанароддзю належыць толькі само ядро, цэласную ж карціну на фоне, расквечаным нацыянальнымі фарбамі, стварыў сам аўтар». Героі ў «беларускага рапсода», як называе Баршчэўскага Падбярэскі, «выходзяць тыповымі». Адзначаючы станоўчае ў зборніку, аўтар прадмовы ўказвае і на мастацкія пралікі — голае маралізатарства, зададзенасць ідэі.

Услед за прадмовай Р. Падбярэскага ў першым томе «Шляхціца Завальні» ідзе артыкул «Некалькі слоў ад аўтара». У ім Баршчэўскі дае кароткую характарыстыку паўночнай Беларусі і побыту яе жыхароў. Прызнаючы, што большасць казак, выкарыстаных у зборніку, мае змрочную афарбоўку, аўтар тлумачыць гэта змрочнасцю народнага жыцця. На тварах беларусаў, піша Баршчэўскі, заўсёды нейкі сум і панурая задума. Вось чаму і ў іх фантастычных творах «заўсёды дзейнічаюць нядобразычлівыя духі, якія, аднак, служаць толькі злым панам, вядзьмарам і ўсякім непрыяцелям сялян».

Першапачаткова Баршчэўскі меркаваў выпусціць не чатыры, а шэсць томікаў «Шляхціца Завальні». Але цяжкасці з выданнем прымусілі адмовіцца ад гэтай задумы. Рукапісы апошніх двух томікаў да нас таксама не дайшлі. Магчыма, урыўкамі з іх з'яўляюцца апавяданні пра драўлянага дзядулю і жанчыну-авадня, якія часткова змешчаны ў альманаху «Рубон».

Не маючы магчымасці друкавацца па-беларуску, у апошнія гады свайго жыцця Баршчэўскі амаль цалкам перайшоў на польскую мову. Аднак яго польскія творы (балады «Дзве бярозы», «Дзявочая крыніца», «Пачаноўская гара на Русі», «Русалка-зводніца», паэма «Жыццё сіраты») таксама заснаваны на беларускім фальклорным і бытавым матэрыяле. У іх моцна адчуваецца ўплыў польскіх рамантыкаў, асабліва маладога Міцкевіча. Гэтым уплывам тлумачыцца адыход Баршчэўскага ад рацыянальнага класіцызму, захапленне фальклорам, побытам народа, цікавасць да нацыянальнай ідэі. Услед за польскімі рамантыкамі паэт адмаўляе навакольную рэчаіснасць, супрацьпастаўляючы ёй грамадства, заснаванае на справядлівасці і любві да бліжніх. Ён верыць у дзейснасць мастацкага слова. Музыка ў паэме «Жыццё сіраты», чый вобраз у многім аўтабіяграфічны, хоча «заспяваць людзям велічны гімн», які «развее чорныя хмары і збудзіць скалы».

Беларускія і польскія творы Баршчэўскага даюць нам даволі поўнае ўяўленне аб яго грамадска-філасофскіх поглядах. Гэтыя погляды былі вельмі супярэчлівыя. Паэт па-рамантычнаму ўзнёсла любіў беларускі народ і шчыра жадаў яму дабра. У «Шляхціцу Завальні» і асабліва ў аповесці «Душа не ў сваім целе», уключанай у зборнік 1849 года, выказана вера ў тое, што панаванне зла не вечнае, што «наступяць лепшыя часы і лепш будзе жыць паміж сваімі». Аўтар заклікае вывучаць жыццё ў яго бесперапынным пастѹпальным развіцці. «Усё ж існуюць змены як у фізічным, так і ў маральным свеце, і трэба ўваскрашаць монстры мінулага, каб, параўноўваючы з цяперашнім пакаленнем, лепш пазнаць свет новы і стары», — разважае адзін з герояў названай вышэй аповесці. «Не можна таго ўтрымаць жывым, што ўжо аджыло свой час», — працягвае ён сваю думку ў іншым месцы.

Адначасова ў светапоглядзе Баршчэўскага было многа такога, што ішло ад старашляхецкага кансерватызму. Капіталістычныя адносіны, якія неслі з сабой новыя формы прыгнёту і паглыблялі адчужэнне паміж людзьмі, толькі палохалі паэта, ён не разумеў, што гэта — неабходная ступень у развіцці грамадства. І таму, як Чачот, як іншыя яго сучаснікі, Баршчэўскі імкнуўся адшукаць ідэал у патрыярхальным мінулым, ідэалізаваў уяўную старашляхецкую вольнасць і

пачцівасць. Вера ў лепшае будучае часта спалучаецца з бязвер'ем у магчымасці паасобнага чалавека. Напрыклад, у «Жыцці сіраты» чалавек — толькі пасіўная істота, лёс якой цалкам залежыць ад нябеснага прадвызначэння.

І ўсё ж, падсумоўваючы ўсё станоўчае і адмоўнае ў творчасці Баршчэўскага, мы пераконваемся, што першага — болей. І галоўнае тут — шчырае народалюбства, вернасць сваёй айчыне.

## УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ

Гэта было недзе ў самым пачатку 1844 года. Вярнуўшыся ад гумнаў, якія стаялі ледзь не на беразе Нёмана, дваццацігадовы арандатар фальварка Залуча Людвік Кандратовіч запаліў свечку і ўзяўся за гусінае пяро. Вось ужо каторы дзень не выходзіла з галавы сумная гісторыя, якую ён пачуў у мінулую нядзелю на кірмашы ў суседнім Міры. Пачуў ад пасівелага ўжо чалавека ў пашарпанай шарачковай капоце. За чаркай казёнкі незнаёмы расказваў у карчме, як ён калісьці служыў у гэтым самым Міры фурманом-паштальёнам, як яго аднойчы ў люты мароз паслаў пан з тэрміновым пакетам, як па дарозе яму пачулася, што нехта кліча на паратунак, і як, вяртаючыся назад, у тым жа месцы ён знайшоў пад снегам сваю каханую дзяўчыну. Стары расказваў і плакаў. І шукаў забыцця ў гарэлцы... Дык як жа цяпер яму, Кандратавічу, перадаць у вершы трагедыю таго незнаёмага беларускага селяніна? Пяро ліхаманкава выводзіла радок за радком:

— Ой, горка і смутна мне ўсюды, браток,
Няміла на свеце, няміла!
Дай чарку! Скажу, калі вып'ю глыток,
Як доля мяне падкасіла.
На пошту я трапіў зусім малады,
Фурман з мяне ўдаўся зухвалы,
А волі не меў — дын ганялі тады:
Хоць свята, хоць ноч — усё мала!
Ад рання да змроку, ад змроку да дня
Вазіў я паноў і пакеты;
Заробіш рубля — і пад карчму каня:
Гуляй, весяліся да свету!

І вось урэшце сумны фінал:

Я еду дадому, за трое ганей
Вяртаецца страх непазбыты,
А сэрца ўсё шэпча крадком, як раней,

Бразджыць, як званочак разбіты.
Конь чмыхнуў пры слупе, спыніўся наўзбоч:
У снезе, пад плахтаю белай,
Жанчыну я згледзеў, яна ўжо за ноч,
Як дрэва, уся скасцянела.
Я снежную намець абтрос з яе шат
І труп падцягнуў да дарогі...
Абцёр ёй аблічча... Была гэта, брат...
Дай чарку... Не маю больш змогі!

*(Пераклад М. Лужаніна.)*

І тут трывожную ўсхваляванасць перапынілі крокі на ганку. Сусед Сымановіч па дарозе з мястэчка, як заўсёды, не змог абмінуць старэнькі домік свайго прыяцеля і заехаў, каб чым-небудзь пагрэцца. Са здзіўленнем глядзеў госць на счырканы аркуш паперы:

— О, я бачу, што і цябе, дарагі Людвік, апантала вершаманія. І даўно гэта з табой?

— Гады два ўжо. Яшчэ ў Нясвіжы пачаў,— прызнаўся збянтэжаны гаспадар.

— Ану, пачытай!

Яшчэ больш бянтэжачыся і чырванеючы, малады паэт чытаў радок за радком. Узрушанасць гаспадара паступова перадалася і госцю:

— Дык гэта ж цудоўна! Хутчэй пасылай у Вільню, а то і ў Варшаву.

— Куды там,— аднекваўся Кандратовіч.— Каго ўсхвалюе гора нейкага селяніна?! Арыстакратычным чытачам падавай толькі графаў...

З горкай усмешкай гаспадар скамячыў аркуш і шпурнуў яго ў печку, дзе датлявала вуголле. Але Сымановіч тут жа выхапіў рукапіс і пачаў яго старанна разгладжваць.

— Не рабі глупства! Калі цікава мне — будзе цікава і іншым. Пасылай самому Крашэўскаму. Гавораць, у сваім «Атэнэуме» ён ахвотна друкуе маладых. Асабліва, калі яны яго землякі — з Беларусі ці з Украіны.

— Што ты! Засмяюць суседзі. Скажуць, нейкі вецер у галаве ў гэтага залучанскага арандатара. Не пра гаспадарку дбае, а пра марную славу.

— А ты прыдуманым прозвішчам падпішы. Або літары якія падстаў. Гэта цяпер у модзе. Паглядзі вунь, якімі псеўданімамі прыкрываецца жыровіцкі поп Плакід Янкоўскі. То на англійскі лад перакруціць сваё імя: Джон оф Дыкелп, то Февруарам-Лютым стане, то зусім ананімна друкуецца.

Па натуры нерашучы, Кандратовіч усё ж паслухаў свайго сябра і паслаў рукапіс «Паштальёна» ў Вільню. А праз колькі месяцаў з нядзельнай поштай у Залуча прынеслі свежы нумар «Атэнэума». Разрэзаў гаспадар некалькі старонак — і ахнуў ад нечаканасці: няўжо пад гэтымі сціплымі літарамі NN — сапраўды яго «Паштальён»?! Ад хвалявання нават сляза накруцілася на вока! Паклікаўшы жонку Паўліну, Кандратовіч паказаў ёй свой паэтычны дэбют і папрасіў паставіць самавар. Гучней адзначыць гэту радасную падзею ў беднага арандатара проста не хапала грошай...

У той нядзельны ранак дваццацігадовы паэт нават і не падазраваў, што яго літаратурнаму першынцу суджана доўгае і зайздроснае жыццё. Перакладзены на рускую мову паэтам-дэмакратам Леанідам Трэфалевым і пакладзены на музыку невядомым кампазітарам, «Паштальён» стаў народнай песняй і сёння шырока вядомы пад назвай «Ямшчык». Што ж датычыцца «хроснага бацькі» Кандратовіча, рэдактара «Атэнэума» Юзафа-Ігната Крашэўскага, то ён таксама не падазраваў, што, друкуючы «Паштальёна», адкрывае для польскай літаратуры новы талент, што праз якіх дзесяць год літаратурны псеўданім Кандратовіча — Уладзіслаў Сыракомля — будзе добра вядомы ў самых аддаленых кутках Беларусі і Літвы.

Польска-беларускі паэт Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч) нарадзіўся 29 верасня 1823 года ў фальварку Смольгава (або Смальгоў ці Смолькава) на мяжы былога Бабруйскага і Слуцкага паветаў. Яго бацька, Аляксандр Кандратовіч, быў па прафесіі землямерам. Аднак знайсці дзяржаўную службу было вельмі цяжка, і таму ён зарабляў на жыццё арэндай панскіх маёнткаў. Чалавек шырокай эрудыцыі, Аляксандр Кандратовіч часта расказваў свайму першынцу пра мінулае роднага краю, даваў чытаць лепшыя творы айчыннай і зарубежнай літаратуры.

Уражлівы Людвік з дзяцінства палюбіў наднёманскія прасторы, беларускія палі і бары. Разам з сялянскімі дзецьмі ён часта ездзіў на начлег і слухаў там купальскія песні ды мясцовыя легенды. У сваёй гутарцы «Кавалак хлеба» Сыракомля потым напіша, што ўжо з самых юных год ён навучыўся распазнаваць па водару беларускія лугі, па шуме — дрэвы з палескіх бароў, па смаку — нёманскую вадзіцу. І нават вецер з наднёманскіх ваколіц грудзі лёгка адрозняць ад ветру з чужых краін. Што ж датычыцца паездак; на начлег, то праз дваццаць год паэт вельмі вобразна апіша іх у гутарцы «Народжаны Ян Дэмбарог», створанай пад яўным уздзеяннем міцкевічаўскага «Пана Тадэвуша».

Кім жа быў Уладзіслаў Сыракомля па нацыянальнасці? Сёння думкі даследчыкаў расходзяцца: адны лічаць яго палякам, другія — беларусам, трэція — літоўцам. Хто ж мае рацыю? На першы погляд, тыя, хто залічвае Сыракомлю да палякаў: пісаў жа ён у асноўным на польскай мове... Аднак сам паэт называў сябе літвінам, у палеміцы часта падкрэсліваў розніцу паміж тэрыторыяй былога Вялікага княства Літоўскага і польскай «Каронай». Ці вынікае з гэтага, што Сыракомля быў па паходжанню літоўцам? Не, ні ў якім выпадку. Як бачна з дарожных нататак «Экскурсіі па Літве ў наваколлях Вільні», літоўскай мовы пісьменнік не ведаў і не разумеў. Пабываўшы ў вёсцы Ляляны, ён занатаваў: «Па вуліцы бегалі дзяўчаты і дзеці, якія гаварылі на літоўскай мове, на жаль, незразумелай для нас, тых, хто піша гістарычныя літоўскія паэмы». І далей, пра Стоклішкі: «Літоўцы з цяжкасцю разумелі, пра што мы пытаем...; тут упершыню я меў магчымасць убачыць аблічча чыста літоўскай вёскі». І яшчэ: «Літвін, на чыста літоўскай зямлі, я не мог разгаварыцца з літвінам».

Як бачна, Сыракомля разумеў Літву не як этнаграфічнае, а як гістарычнае паняцце, як землі былога Вялікага княства Літоўскага. На самай справе паэт паходзіў з дробнай беларускай шляхты, апалячанай на працягу XVII і XVIII стагоддзяў. Пра гэта сведчыць і беларуская назва родавага герба паэта, якая стала яго псеўданімам («Сыракомля» — ад «сыры камель»), У асяроддзі апалячанай шляхты ўсё ж добра ведалі беларускую мову і карысталіся ёю ў штодзённым побыце. Вядомы лінгвіст Ю. Трыпуцька сцвярджае: «Можна катэгарычна гаварыць аб тым, што Сыракомля з дзяцінства быў двухмоўны, гэта значыць, што павінен быў валодаць беларускай мовай у той жа ступені, што і польскай». Зрэшты, тое самае сцвярджаў і сам паэт. Рэцэнзуючы ў 1855 годзе на старонках «Газэты варшавскей» «Вечарніцы» В. Дуніна-Марцінкевіча, ён прызнаваўся: «У мае дні маладыя, у мае шчаслівыя дні і я апрацоўваў наднёманскую ніву, і я навучыўся крывіцкае мовы і гаварыў на ёй з пэўнай элеганцыяй у час гутарак з сумленнымі сялянамі Жукавага Барка (вёска, дзе жыў сябар Сыракомлі А. Плуг.— А. М.). Жыццёвая бура выгнала мяне з той старонкі, аднак я настолькі помню гэту мову, што магу зрабіць чытачам сумленную справаздачу аб другім творы пана Марцінкевіча, якім з'яўляюцца «Вечарніцы». Крыху раней, у рэцэнзіі на «Гапона», Сыракомля даў вельмі высокую ацэнку беларускай мове: «Цудоўнае гэта адгалінаванне славянскай мовы — крывіцкі дыялект! І старое! Бо гэта — мова нашага Літоўскага статута, нашага заканадаўства на працягу двух стагоддзяў, XVI і XVII. А як шырока яна ўжывалася! Смела можна сказаць, што гаварылі на ёй тры чвэрці насельніцтва

даўняй Літвы — народ, шляхта і паны. Пазбаўленая пісьменства, сёння гэта мова застаецца роднай памяткай толькі мужыцкіх хат. І пішуць на ёй, наколькі нам вядома, толькі два аўтары: адным з іх быў шкадуемы ўсімі Ян Чачот, другім жа з'яўляецца п. В. Д.-Марцінкевіч».

Урэшце аб тым, што Сыракомля добра ведаў беларускую мову і адчуваў сябе па паходжанню беларусам, красамоўна сведчаць беларускія вершы паэта. Два з іх — «Добрыя весці» і «Ужо птушкі пяюць усюды» — дайшлі да нашых дзён. Большасць жа загінула разам з паперамі сакратара Сыракомлі беларуска-польскага пісьменніка Вінцэся Каратынскага, пра якога гутарка пойдзе далей.

Аднак вернемся да дзіцячых і юнацкіх год пісьменніка. Яны прайшлі ў розных фальварках у наваколлі Слуцка і Нясвіжа — Яськавічах, Кудзінавічах, Мархачэўшчыне. У 1833 годзе бацькі аддалі дзесяцігадовага хлопчыка ў Нясвіжскую дамініканскую школу. Парадкі там былі сярэдневяковыя. За самую нязначную віну настаўнікі-манахі seклі вучняў розгамі. І толькі адзін настаўнік рускай мовы і літаратуры, успамінае Сыракомля ў гутарцы «Школьныя часы», з'яўляўся выключэннем: ён не зневажаў вучняў і знаёміў іх з творамі «айчыны Пушкіна і Жукоўскага».

Правучыўшыся тры гады ў Нясвіжы, будучы паэт чамусьці перайшоў у такую ж дамініканскую школу ў Навагрудку, дзе ў свой час вучыліся А. Міцкевіч і Я. Чачот. У 1837 годзе, атрымаўшы пасведчанне аб заканчэнні пятага класа, хлопчык вярнуўся дамоў і стаў памагаць бацькам па гаспадарцы. Такім чынам, небагатая школьная адукацыя Сыракомлі спынілася на чатырнаццатым годзе жыцця. Усе свае шматгранныя веды паэт здабываў пазней самаадукацыяй.

Восенню 1840 года бацька аддаў юнага Людвіка на службу ў Нясвіж, у кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі. У той час Нясвіж быў глухім правінцыяльным гарадком, які жыў толькі ўспамінамі ды легендамі аб колішняй славе, аб багацці, жорсткасці і дзівацтвах усёмагутных князёў Радзівілаў. Гэтыя легенды ўразілі будучага паэта, ён пачаў капацца ў пажаўцелых актах Капыльскага замка, перавезеных у Нясвіж, і, абапіраючыся на іх, напісаў артыкул аб мінулым свайго горада для фундаментальнага выдання «Старажытная Польшча» М. Балінскага.

Служачы ў Нясвіжы, Сыракомля зблізіўся з маладымі людзьмі, якія групаваліся вакол мясцовага «энцыклапедыста» Адольфа Дабравольскага. Амаль кожны з іх штосьці рыфмаваў. Не адставаў ад іх і Людвік. Так з'явіліся на свет яго першыя жартаўлівыя вершы — «Пісьмо Крышталевіча з Елісейскіх палёў да Раймонда Бараноўская», «Да паламанай гітары Р. Рамбовіча», «Далей за сонцам».

Пачутае і ўбачанае ў Нясвіжы засталося ў памяці на ўсё жыццё. У 1844 годзе, пераехаўшы пасля шлюбу з Паўлінай Мітрашэўскай у Залуча, Сыракомля напісаў шэсць санетаў, прысвечаных Нясвіжу і магнацкаму роду Радзівілаў, якія «крывёю і золатам упісалі свае імёны» ў айчынную гісторыю. А яшчэ пазней, у 1856 годзе, у вершы «Ілюмінацыя» ён расказаў жудасную гісторыю, пачутую пад Нясвіжам з вуснаў старой беларускай жанчыны.

...Гэта было ў другой палове XVIII стагоддзя, калі ў Нясвіжы правіў Кароль Радзівіл, па мянушцы «Пане каханку». Той самы Радзівіл, што загадваў летам высыпаць соллю дарогу з Нясвіжа да летняй рэзідэнцыі ў Альбе, каб пакатацца на санках, запрэжаных парай мядзведзяў. Аднойчы, калі князь спраўляў гучныя імяніны, усім гараджанам загадалі па-святочнаму ілюмінаваць свае дамы. Не гарэла паходня толькі ля хаціны адной беднай маладзіцы: муж якраз паехаў у заробкі, а тут захварэла воспай дзіця. На тое ліха прыбег з ратушы служка і, выбіўшы вокны, бессардэчна выгнаў жанчыну запальваць агні.

Я — па вуліцу бегма, агеньчык то цьмее,
То згасае раптоўна,
А як гляну праз шыбу — дзіця там дранцвее,—
Хата сіверу поўна.
Мой Антосік заходзіцца, бедны, без рады,
Сэрца кроіцца жалем.
Хочу бегчы, ды служка паказвае ўладу,
Бізуном пагражае.

А калі да соцень паходняў дабавілася яшчэ адна, калі з замка грымнулі на «віват» гарматы, з хаціны раздаўся перадсмяротны плач дзіцяці, якое канала ад холаду:

Там венгерскае п'юць, забаўляюцца госці
У раскошы, ў багацці,
А тут паліць святло і па сыне галосіць
Змізарнелая маці.

З таго часу прайшлі гады і гады. Але хіба здольны час утаймаваць вялікае мацярынскае гора?!

І дагэтуль душа мая ў жальбе вялікай,
Як наяве ўсё бачу:
Ручаняты, як воск, скасцянелыя ў крыку,
Жоўты тварык дзіцячы.

*(Пераклад М. Лужаніна.)*

«Ілюмінацыя» — адзін з найбольш яскравых антыфеадальных твораў «вясковага лірніка», як называлі Сыракомлю сучаснікі. Чытаеш

верш — і сэрца поўніцца болем за народнае гора, нянавісцю да прыгнятальнікаў і ўсякага прыгнёту наогул. Нездарма царскія цэнзары баяліся «Ілюмінацыі», як агню. У Цэнтральным гістарычным архіве Ленінграда захаваўся «Даклад цэнзара Сваткоўскага аб двух вершах для часопіса «Русское богатство» ад 23 ліпеня 1880 г.». Адзін з гэтых двух вершаў — «Ілюмінацыя» Сыракомлі перакладзены на рускую мову Пятром Быкавым. Цэнзар знайшоў, што «ў цяперашні час падпольнай барацьбы з урадавай уладай не можа быць дазволена цэнзурай супастаўленне магутнага і багатага ўладальніка з бедным, безабаронным падначаленым і пакуты апошняга ад самавольства першага». Ясней не скажаш!..

Як ужо гаварылася раней, у 1844 годзе Сыракомля пасяліўся ў зацішным фальварку Залуча, размешчаным над берагам Нёмана, там, дзе ў яго ўпадае крынічная Сула. Тут паэт правёў восем год, бадай, найбольш плённых і шчаслівых у яго жыцці. Тут ён зведаў першыя радасці, якія прыносіць літаратурная слава. Ужо ў 40-х гадах імя Сыракомлі было добра вядома ў самых шырокіх колах Беларусі і Літвы. Яго гутаркі, надрукаваныя ў «Атэнэуме» і асобных зборніках, перапісваліся ад рукі і завучваліся на памяць.

Чым жа вытлумачыць такую папулярнасць твораў Сыракомлі? Перш за ўсё тым, што ён пісаў не для выбранага арыстакратычнага чытача, а для народа. У праграмным вершы Сыракомлі «Прысвячэнні літвінам народных гутарак», гаворыцца:

Сэрца, жыццё я аддаць гатовы,
Пяю табе, мой народ шарачковы,
Толькі з табой спадзяванні злучаю,
Смутак і радасць, хвіліны адчаю.
Подых палёў тваіх лашчыць аблічча,
Песні я ў птаства твайго пазычу.
Моваю сэрца хай думы бруяцца,
Музыкай жніва, касцоваю працай.
Хай пад страхою жабрацкай хаціны
Верш прачытаюць браты-літвіны,
Калі адчуюць брата ў паэце,
Значыць, не марна жыў я на свеце.

*(Пераклад М. Лужаніна.)*

Паэзія Сыракомлі была даспадобы шматлікім чытачам, таму што яны пазнавалі ў ёй саміх сябе, бачылі ў ёй адлюстраванне ўласных радасцей і нягод. «Водар штодзённасці, адчуванне жыцця ў яго паўсядзённых праявах, суровая праўдзівасць дэталей, гарачае спачуванне крыўдзе і страсны сацыяльны пратэст — вось тыповыя рысы твор-

часці Сыракомлі, творчасці рэаліста і грамадскага дзеяча»,— сцвярджае сучасны польскі даследчык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ПНР за 1968 год Вацлаў Кубацкі.

Са сказанага зусім не вынікае, што Сыракомля быў нейкім прыземленым бытапісцам. Наадварот, яго творчае аблічча складвалася пад моцным уздзеяннем польскіх рэвалюцыйных рамантыкаў, у першую чаргу Адама Міцкевіча. Ад рамантызму ідзе пільная цікавасць паэта да народнага жыцця і народнай паэзіі, да гістарычнага мінулага сваёй краіны. Ад рамантычнай балады вядзе сваю радаслоўную славутая сыракомлеўская «гавэнда» (гутарка), дзе апавяданне часцей за ўсё вядзецца ад імя прадстаўніка народных мас, які многае пабачыў і многае разумее. Рэальнае, бытавое ў «гавэндах» прымхліва спалучаецца з нерэальным, казачным, народжаным народнай фантазіяй. Такім чынам, трэба пагадзіцца з польскім даследчыкам А. Драгашэўскім, што «паэзія Сыракомлі была рамантычнай, але без вулканічных пачуццяў і паднябесных узлётаў; гэта быў рамантызм, але ён не ведаў выключнага або складанага стану душы, рамантызм, які моцна трымаўся зямлі...».

І яшчэ адна рыса сыракомлеўскай паэзіі прываблівала чытачоў — яе страсны патрыятызм. Гэты патрыятызм быў не польскім ці літоўскім, а «лакальным», г. зн. беларускім. Паэт знаходзіў сваю затоеную прыгажосць у наднёманскіх краявідах, якія бліжэй яго сэрцу, чым праслаўленыя краявіды Францыі, Італіі, Швейцарыі («Музыка»), Любоў да айчыны супрацьпастаўлялася ўсяму чужаземнаму, касмапалітычнаму («Лялька», «Школьныя часы»), У гістарычным мінулым Беларусі і Літвы паэта прывабліваді тыя падзеі, якія сведчылі аб патрыятызме нашых продкаў у іх барацьбе з чужаземным ворагам, аб іх імкненні ахвяраваць сабой у імя вызвалення краіны («Маргер», «Марцін Студзенскі», «Вяльможы і сірата» або другая назва — «Соф'я, княжна Слуцкая», «Каспар Карлінскі» і інш.).

Жывучы ў Залучы, так хораша апаэтызаваным у вершы «Пра маю старую хатку», Сыракомля яшчэ бліжэй пазнаёміўся з беларускім фальклорам. Асабліва захапіў паэта тонкі лірызм беларускіх народных песень. Пад іх уздзеяннем з'явіліся вершы «Варыянт простанароднай песні», «Крук», «Доля», «Народная песня з ваколіц Вільні» і інш. Сучаснікаў паэта будзе ўводзіць у зман слова «літоўскі», якое стаіць у падзагалоўках гэтых твораў. Яны стануць здзіўляцца, чаму ім не ўдаецца адшукаць адпаведныя літоўскія песні. Загадка ж тлумачыцца проста: як ужо сказана вышэй, Сыракомля разумеў Літву толькі як гістарычнае паняцце і таму беларускія песні таксама адносіў да літоўскіх. Дарэчы, сённяшнія фалькларысты ўжо могуць указаць,

якімі беларускімі крыніцамі карыстаўся паэт, пішучы названыя вышэй вершы.

Відаць, пад уплывам беларускай народнай песні Сыракомля і сам пачаў пісаць на беларускай мове. У 1848 годзе да Залуча дайшлі звесткі аб рэвалюцыйных падзеях у Францыі, аб сялянскіх паўстаннях у Галіцыі. Усхваляваны паэт адгукнуўся на іх беларускім вершам «Добрыя весці», які пазней, напярэдадні паўстання 1863 года, увайшоў у нелегальную брашуру. Аўтар цалкам салідарызуецца з тымі, хто «робіць вольных людзей з мужыкоў» — робіць рэвалюцыю:

Заходзіць сонца пагоднага лета,
І веець вецер з заходніх нябёс,
Здароў будзь, вецер! З далёкага света
Добрыя ж весці да нас ты прынёс!
Здаровы ж будзьце, эй, добрыя весці!
Там, на Заходзе, праліваюць кроў,
Б'юцца для славы, свабоды і чэсці
І робяць вольных людзей з мужыкоў!
Гудуць вясёла і песні і танцы
У добрым жніве на шчаслівы год.
Годзе вам, годзе, вы, цары-паганцы,
Таптаць з балотам хрышчоны народ!
Годзе вам, годзе ў яснай карэце —
Годзе, чыноўнікі, ды ездзіць у двор!
Годзе вам, годзе, мужыцкія дзеці,
З хаткі астаткі браць на пабор!

Побач з рэвалюцыйнымі настроямі ў «Добрых весцях» яскрава праявілася дробнашляхецкая абмежаванасць паэта, ён падзяляў пашыранае тады ўяўленне, што дзеля перамогі над царскім самаўладствам трэба аб'яднаць усе сілы грамадства — і сялян, і шляхту:

Мужык і шляхціц засядзе па лаве,
Каб весці раду аб сваёй зямлі;
Як трэба думаць аб грамадскай справе,
На адно мейсца, як браты, прыйшлі.
А як урадзім вайну на грамадзе:
Бараніць дзеткі і зямлю і дом,
Мужык і шляхціц на каня ўссядзе
Касіць касою, рубіць тапаром.

Салідарыстычныя ілюзіі бачны і там, дзе Сыракомля вызначае рысы грамадства будучага. Сацыяльная праграма паэта — праграма утапічная:

Ручыць рукою худоба ў хаце.

Паны мужыцкіх слёз не забяруць.
Мужык з панамі стаіць за пан-браце,
Рука за руку, грудзі за грудзь!
Пяром па карце ды сахой па ніве
Адзін другому роўнасць засцярог,
Эй, у свабодзе зажывём шчасліве,
Мы будзем дзеткі, а наш бацька — бог!

І ўсё ж, нягледзячы на супярэчнасці, верш «Добрыя весці» — адзін з найбольш яскравых вершаў Сыракомлі ў залучанскі перыяд яго творчасці. У творы выразна праявіліся рэвалюцыйныя, антысамадзяржаўныя перакананні аўтара. І выказаны яны на беларускай мове, мове народа, які быў для паэта заўсёды блізкім і родным.

З Залуча Сыракомля часта выязджаў у Мінск, дзе, як ён сам пісаў, знаходзілася бліжэйшая кнігарня. Па дарозе ўважліва прыглядаўся да навакольных краявідаў, да жыцця шляхты і сялян. Свае ўражанні занатоўваў у тоўсты сшытак. Так нарадзіліся «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах», якія выйшлі з друку ў 1853 годзе. «Фальварак Залуча», «Дарога ў Мір», «Хроніка мінулага Нясвіжа», «Дарога ў Свержань», «Стоўбцы», «Койданаў» — вось назвы асобных раздзелаў гэтай рэдкай сёння кнігі.

«Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» багаты звесткамі аб мінулым заходняй часткі былой Мінскай губерні, аб побыце яе жыхароў. Гэтыя звесткі і сёння маюць цікавасць для этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў і проста чытачоў. Аўтар падрабязна апісвае звычаі, вопратку, ежу, жыллё беларускага селяніна, са спачуваннем ставіцца да яго нядолі, з павагай — да яго сумленнасці і народнай мудрасці. «У вёсках народ убогі,— піша Сыракомля пра наваколле Залуча.— Працуе ён на нёманскіх плытах або на полі — сваім і панскім; у двары — пан арандатар або аканом, на пясчаных нівах — часцей за ўсё неўраджай. Часам больш ранні разліў Нёмана, эпідэмія, спякотнае лета, марозная зіма, карысныя або шкодныя для гаспадаркі дажджы — вось і ўсе факты мясцовага мінулага, захаваныя ў народнай памяці».

Параўноўваючы сялян з ваколіц Міра і Стоўбцаў, аўтар прыходзіць да вываду, што ўсім ім уласцівы аднолькавыя рысы — усе яны «гавораць беларускай гаворкай, адносяцца да грэка-рускага (праваслаўнага.— А. М.) ці каталіцкага веравызнання, аднак іх звесткі ў пытаннях рэлігіі абмяжоўваюцца веданнем пацераў, прыроджаная для ўсіх славян сумленнасць забяспечвае высокую маральнасць, а просты здаровы розум замяняе навуку».

Такія ж агульныя рысы ўласцівы сялянскаму побыту. Даючы «агульны нарыс літоўскай (г. зн. беларускай.— А. М.) вёскі» з ваколіц Слуцка, Нясвіжа і Стоўбцаў, пісьменнік перш за ўсё спыняе ўвагу на доме: «Вось доўгая і вузкая, звернутая бокам да вуліцы будова з чатырма маленькімі вокнамі. Яе сцены ўзведзены з круглых яловых або сасновых бярвенняў і пакрыты саламянай страхой, часцей за ўсё маляўніча пашарпанай і квітнеючай зялёным мохам. Выдаўбленая драўляная калода выступае над ёю ў ролі коміна». Далей ідзе такое ж падрабязнае апісанне дзвярэй, прызбы, клеці, старой галіністай грушы, гумна, «шчуплага, бы той кавалак хлеба, які спажывае наш селянін».

Змрочнае ўражанне робіць унутраная абстаноўка вясковай хаты: «Там цёмна, часта дымна і вільготна; адзінай мэбляй і ўпрыгожаннем служыць вялікая печ ля парога. На ёй у дні марознай зімы тоўпяцца дзеля цяпла старыя і дзеці». Акрамя печы, у хаце бачны яшчэ стол, абразы на покуці, лавы ўздоўж сцен, жорны — вось і ўся карціна, якую аўтар «наўмысна не хоча паэтызаваць і прадстаўляе ва ўсёй рэчаіснай праўдзе».

Далей Сыракомля прасочвае жыццё беларускага селяніна ад нараджэння да смерці. Звычайна ў сям'і рады сыну-працаўніку, а не дачцэ. Немаўлятамі апякуюцца старэйшыя браты і сёстры. Летам калыска выносіцца ў поле — туды, дзе жне маці. «Калі дзіця ў такой калысцы, пастаўленай у цяньку ад жытнёвага снапа, заходзіцца ад спякоты або голаду, малая нянька спявае яму песеньку пра каточка». Дзяцей звычайна страшаць ваўком, дзедам і — панам! Гэты страх потым застаецца на ўсё жыццё... Да 10 год дзеці бегаюць у адной кашулі і басанож, потым апранаюць сярмягу і хадакі з ліповай кары. З 12 год яны ўжо лічацца «рабочымі душамі і фігуруюць у інвентары», ходзяць на паншчыну і на талаку, якая называецца «гвалтам». А потым — бязрадаснае юнацтва і сталасць, калі ў хаце бывае «сем посных пятніц на адным тыдні». Адзінай стравай часцей за ўсё служыць «цвёрды хлеб з жытняй мукі і мякіны».

Цяжкае жыццё ўпрыгожваюць толькі нядзельныя танцы ў карчме ды песні (Сыракомля цытуе іх па зборніках Чачота). Асабліва многа сардэчнасці і цеплыні ўкладвае народ у песні вясельныя. Аднак вяселле — толькі маленькая светлая прагаліна ў цёмным лесе. Прывабнасць кахання хутка знікае, бо маладыя глядзяць на сябе «перш за ўсё як на рабочую істоту». «Цяжкая праца, скромная ежа і без меры ўжытае спіртное» губяць рэшткі пачуцця. І ўсё ж селянін ніколі не перастае быць чалавекам. Пад вонкавай яго суровасцю, пад

яго «загарэлымі, касцістымі, прыкрытымі грубой і рванай сярмягай грудзьмі тояцца глыбокія пачуцці».

Урэшце да селяніна прыходзіць жабрацкая старасць, смерць — і забыццё. Замыкаецца жыццёвы круг, бесчалавечны па сваёй сутнасці, поўны пакут і прыніжэння.

«Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» багаты цікавымі фактамі з мінулага Беларусі. Аўтар успамінае пра выдавецкую дзейнасць С. Буднага, пра пастаноўкі ў нясвіжскім радзівілаўскім тэатры твораў Мальера, пра «Календары», якія друкаваліся ў Нясвіжы ў XVIII стагоддзі Янам Пашакоўскім. Прываблівае чытача фігура нясвіжскага філосафа Саламона Маймона, які быў знаёмы з Кантам, Гётэ, Мендэльсонам і выдаў у Берліне каля 20 твораў па філасофіі і матэматыцы. З «Вандровак» мы даведваемся, што ў сярэдзіне мінулага стагоддзя Мінская губерня купляла кніг усяго на 4-5 тысяч рублёў у год. А гэта, абураецца аўтар, на мільён жыхароў губерні — да смешнага мала. Кніга Сыракомлі таксама істотна пашырае нашы ўяўленні аб грамадскіх поглядах аўтара. Ён рашуча асуджае «сярэдневяковую адсталасць» езуітаў, заклікае пашыраць асвету, развіваць мясцовую прамысловасць. Некаторыя старонкі «Вандровак» — гэта ўзнёслы гімн любві да наднёманскіх палёў і лясоў, якія не раз нараджалі ў сэрцы паэтычнае натхненне і любоў да прыгожага.

Перад сённяшнім чытачом «Вандровак па маіх былых ваколіцах» можа паўстаць пытанне: а чаму ваколіцы Залуча, Нясвіжа, Стоўбцаў Сыракомля называе былымі, колішнімі? Чаму ён, заканчваючы кнігу, выказвае жаданне захапіць адсюль як мага больш «для запасу паветра»? Справа ў тым, што яшчэ да выхаду кнігі, 17 верасня 1852 года, паэт назаўсёды пакінуў Залуча і праз Мінск выехаў у Вільню. Цяжка сказаць, што прымусіла яго зрабіць гэты крок. Раптоўная смерць трох дачок-малалетак? Трагедыя бацькі, якога на старасць прагналі з суседняга фальварка Тулёнка? Жаданне быць бліжэй да выдавецтваў і рэдакцый, да пісьменніцкага асяроддзя? Хутчэй, усё гэта, разам узятае.

Шумлівая і цесная Вільня ненадоўга прыпыніла паэта. На гарадскім бруку «вясковы лірнік» адчуваў сябе нібы птушка ў клетцы. І калі здарылася аказія, ён узяў у арэнду ад Тышкевіча невялікі фальварак Барэйкаўшчына, што паабапал дарогі з Ашмян на Вільню. У красавіку 1853 года паэт пераехаў сюды разам са шматлікай сям'ёй (часам за стол сядала звыш 20 чалавек) і маладым сакратаром і памочнікам Вінцэсем Каратынскім.

Жывучы ў Барэйкаўшчыне, Сыракомля не парываў сувязей з беларускімі сябрамі. У 1855 годзе ён зноў прыехаў у «родны Мінск». З

чэрвеня ўрачысты вечар у гонар госця наладзіў Навум Прыгаворка (так у адпаведнасці з псеўданімам усе тады звалі Дуніна-Марцінкевіча). На вечары прысутнічаў увесь цвет мясцовай інтэлігенцыі. «Вясковаму лірніку» наладзілі сапраўдную авацыю, насілі яго вакол стала на руках. Мінскія аматары паказалі Сыракомлю цэлы канцэрт, у якім выконваліся творы Міцкевіча, Манюшкі, Фрэдры, Мальера. Расчулены паэт падзякаваў за гасцінны прыём наступным тостам:

Шчаслівы той, каго любоў братоў акружыць блізка,
Вось так, як я, прыязшо шчырай Вашай сёння ў Мінску.
Як я цаню хвіліны гэтыя, паверце!
За нізку вершаў маю столькі братніх сэрцаў.
Я бяру абавязак, браты, перад Вамі
На вялікую дружбу і працу між намі.
Ах, каб даў бог мне час гэты ў песнях адзначыць,
Шчырым словам і чынам братам адудзячыць.
Сёння тут за сталом і Навум мой харошы,
Сэрца ж маё ледзь толькі расчуліцца можа,
Песня здольна мая ледзь на ноты слабыя:
Хай жыве родны Мінск наш, браты дарагія!

У сваім тосце Сыракомля невыпадкова адазваўся добрым словам пра Навума Прыгаворку — Дуніна-Марцінкевіча. Абодвух паэтаў звязвала шчырая і трывалая дружба. Сыракомля ўхваляў тое, што Дунін-Марцінкевіч піша на беларускай мове, і тройчы рэцэнзаваў яго творы на старонках польскага штодзённіка «Газэта варшавска» (у 1855 годзе — «Вечарніцы» і «Гапона», у 1857 годзе — «Купалу»). У гэтых рэцэнзіях дадзена высокая ацэнка творчасці «беларускага песняра», зроблены прыватныя крытычныя заўвагі. Паэт абараняў маладую беларускую літаратуру і яе вядучага прадстаўніка ад нападак рэакцыянераў і проста недалёкіх людзей тыпу пана Скібіцкага. «На гэтай ніве працаваць можна і варта!» — усклікаў Сыракомля, адзначаючы заслугі Дуніна-Марцінкевіча ў развіцці беларускай літаратурнай мовы. Падрабязны аналіз творчасці «харошага Навума» зроблены таксама ў артыкуле Сыракомлі, змешчаным у 1861 годзе ў газеце «Кур'ер віленскі».

У сваю чаргу ўдзячны Дунін-Марцінкевіч прысвяціў Сыракомлю вершаванае апавяданне «Літаратурныя клопаты» (1857), у якім расказваецца аб паездцы аўтара на дажынкі ў Шчарова. Як у самім апавяданні, так і ў праграмнай празаічнай прадмове беларускі паэт часта звяртаецца да свайго сабрата са словамі ўдзячнасці, з просьбай дапамагчы ў выбары правільнага творчага шляху:

Дарагі Уладзіславе, я прашу парады,

Ты іх маеш незлічона, думкамі багаты.
Па якой пайсці дарозе, каб не стрэціць згубу,
Каб я з голаду не згінуў на радзіме любай.

Героі «Літаратурных клопатаў» вельмі высока цэняць майстэрства Сыракомлі. Напрыклад, мінскі кнігар Бейлін гаворыць, што творы яго шырока вядомы «ад Вільні і да Гомля». А вось словы шчароўскай знаёмай Дуніна-Марцінкевіча, чароўнай Алесі:

Ці зямляк наш Сыракомля — гонар наш і слава!
Кожны месяц выдае ён новы твор цікавы.
Што за мова! Стыль прыгожы. Не знайсці заганы.
І не дзіўна, што літвіны ім зачараваны!

*(Пераклад П. Пранузы.)*

Аднак вернемся да прабывання Сыракомлі ў Мінску ў чэрвені 1855 года. Акрамя «Тосту ў доме В. Марцінкевіча», паэт тады напісаў яшчэ два вершы — «Да Аляксандра Жалязняка пасля першай сустрэчы» і «У коле знаёмых у Мінску (імправізацыя)». Аляксандр Жалязняк — гэта псеўданім Аляксандра Беліцкага, мінскага кнігара і пазнейшага біёграфа Манюшкі. Тон жа Валіцкі ўпамінаецца ў вершы «У коле знаёмых у Мінску». З вялікай цеплынёй паэт гаворыць таксама пра мастака і пісьменніка, «аднаго з самых высакародных людзей у Мінску» Адама Шэмеша.

Відаць, у 1855 годзе Сыракомля сабраў фактычны матэрыял, які лёг у аснову вялікага гісторыка-краязнаўчага нарыса «Мінск», апублікаванага ў 1 і 2 нумарах часопіса «Тэка віленьска» за 1857 год. У першай частцы нарыса гаворыцца аб прыродных умовах і «ўнутранай фізіяноміі» горада, апісваюцца яго вуліцы і больш значныя будынкі, узведзеныя пераважна па праекту мясцовага архітэктара Казіміра Хшчановіча. Адзначаецца ўклад у развіццё мясцовай культуры, які ўносілі магазіны віленскіх кнігавыдаўцоў Завадскага, Аргельбранда і Рафаловіча. Прыводзяцца цікавыя статыстычныя звесткі. З нарыса Сыракомлі мы даведваемся, што ў сярэдзіне мінулага стагоддзя ў Мінску налічвалася толькі 23 тысячы жыхароў. Каля 2,5 тысячы з іх адбывалі пакаранне ў турэмным замку. Падумаць толькі: кожны дзесяты жыхар горада — вязень!

Другая частка нарыса — гэта «Хроніка горада Мінска» ад старажытнасці да гродзенскага сейма 1793 года, на рашэнню якога Мінск перайшоў у склад Расійскай імперыі. Аўтар расказвае аб вераваннях і звычаях колішніх крывічоў. Гаворачы пра «Слова аб палку Ігаравым», ён сцвярджае, нібы легендарны Баян «жыў у Мінску восемсот год назад». Выклікаюць цікавасць звесткі аб прабыванні ў горадзе Пятра I і Карла XII, аб тым, што дазвол на першую друкарню быў тут

атрыманы ў 1635 годзе, а рэгулярная пошта існуе з 1717 года. У нарысе дадзена каларытная карціна паўсядзённага жыцця мінчан у XVII-XVIII стагоддзях.

Ёсць звесткі, што з Барэйкаўшчыны Сыракомля прыязджаў у Мінск таксама ў 1859 годзе — у сувязі з пастаноўкай у мясцовым тэатры яго п'есы «Соф'я, княжна Слуцкам» — і, магчыма, у 1856 годзе, калі спатрэбілася атрымаць загранічны пашпарт.

Гады жыцця Сыракомлі ў Барэйкаўшчыне багаты творчымі ўдачамі. У 1854 годзе ён заканчвае эпічную паэму «Маргер», прысвечаную барацьбе літоўскага народа з ордэнам крыжаносцаў. Яшчэ праз год выдае п'есу «Хатка ў лесе», дзе трапна высмеяна духоўная спустошанасць арыстакратаў. Паэт імкнецца пісаць проста і даступна — так, як гавораць; хоча, каб яго вершаванае слова стала «хлебам надзённым» самых шырокіх і дэмакратычных колаў чытачоў. Праўда, тагачасныя крытыкі, асабліва варшаўскія, з задавальненнем папракалі Сыракомлю за тое, што гэта прастата часта пераходзіць у спрошчанасць, што ў многіх творах бачны сляды паспешлівасці. І ў папроках нядобразычліўцаў была доля горкай праўды: матэрыяльныя нястачы прымушалі паэта аддаваць кнігавыдаўцам яшчэ незавершаныя, сырыя творы, гнацца за колькасцю радкоў і старонак.

Аднак варшаўскія вытанчаныя крытыкі не заўважалі і не хацелі заўважаць, што адначасова ў паэзіі Сыракомлі з'явіліся куды больш істотныя рысы, чым паспешлівасць і шматслоўнасць. Гаворка ідзе аб дэмакратычных і рэвалюцыйных тэндэнцыях у творчасці «вясковага лірніка». На яго свядомасць аказала велізарнае ўздзеянне рэвалюцыйная сітуацыя, якая склалася ў краіне ў канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў. Паэт актыўна ўдзельнічаў у вострай палеміцы вакол сялянскага пытання, вакол шляхоў вызвалення краіны ад прыгонніцтва і самаўладства. Такія творы барэйкаўшчынскага перыяду, як «Вясковыя палітыкі», «Вясковая школа», «Урывак І», «Вызваленне сялян», давалі сучаснікам адказ на гэтыя актуальныя пытанні. Адказ недвухсэнсавы і просты: народу патрэбна воля, сялянам — зямля і асвета. Сэрца і розум інтэлігенцыі павінны служыць «шарачковаму простанароддзю». Ніхто не мае права прыніжаць чалавечую годнасць «братоў у капоце і братоў у сярмязе». У час вялікіх грамадскіх падзей паэтам нельга маляваць «заход сонца», бо трэба засяроджваць усю ўвагу «на маладой заранцы» заўтрашняга дня. Верай у лепшае будучае, жаданнем, каб чалавек працы заўжды заставаўся «самім сабою», поўны апошнія радкі гутаркі «Вясковая школа» (1862):

Запалавее жытняе поле.
Накорміць хлебам людзей уволю!

Людзі збяруцца дзякуй сказаць мне,
Ціха заплачуць бацька і маці;
Перламі слёзы ў сэрцы зальсняцца.
Вось мая кніжка... Вось мая праца.
Кім ты маніўся стаць, чалавеча? —
Панам, уланам, яшчэ там нечым;
Каб нават біўся ў мур галавою,
Век застанешся самім сабою.

*(Пераклад М. Лужаніна.)*

Раней, у 40-х — пачатку 50-х гадоў, Сыракомля рэдка бічаваў шляхту — часцей павучаў яе, апелюючы да розуму і сумлення. Цяпер жа амаль знікае жаданне расчуліць. На змену прыходзіць непрыкрытая нянавісць да пана, які «хіліць пеністы келіх цаною ў тры дні сялянскай паншчыны» («Штогодныя святы ў Літве»), Сапраўдным надмагільным каменем прыгонніцтву стала вядомая «Эпітафія землеўласніку», прысвечаная ўсім тым, хто

Біў хлопаў бойма,
Гарэлкай спойваў,
Сто хат меў з гакам,
Любіў прысмакі,
Пхаў грошы ў торбу
І піва сёрбаў.
Штодня з азартам
Гуляў у карты
Ды ў аканома
Распытваў дома:
Ці будуць войны,
Ці свет спакойны?

*(Пераклад М. Лужаніна.)*

Ва «Урыўку І» Сыракомля выкрыў ліберальнае пустаслоўе буйной шляхты, якая імкнулася прыкрыць сваю рэакцыйнасць гучнымі словамі аб прагрэсе. Перад выбарамі на высокую пасаду адзін з герояў твора, багаты граф, не супраць запрасіць на баль нават селяніна, нават дачку пераплётчыка, бо гэта павінна забяспечыць яму галасы выбаршчыкаў. Але што варты разважанні графа аб гуманізме, калі за гучнымі фразамі не стаяць канкрэтныя справы! Удзельнікам балю паказваюць будыніну з шыльдай «Вясковая школа». Усе хваляць дабрачыннасць графа, усе віншуюць яго. І ніхто не здагадваецца заглянуць у будынак, які з'яўляецца... звычайным пустым гумном. Або другі выпадак. Калі на кухні прыгарэла смажаніна, граф тут жа загадаў «гуманна высеч кухара». Астаўшыся без лішніх сведкаў, гэты

вяльможа цынічна прызнае: «Без корчмаў і прыгону ўласнік загіне». На шчасце, народ даўно зразумеў, што тоіцца за шматслоўем «ліберальнага» графа, і трапна ахрысціў яго «ліберальнай жывёлінай».

Зразумела, што ў легальным друку дэмакратызм Сыракомлі не мог праявіцца ў такой ступені, як гэтага жадалі і сам аўтар, і шматлікія чытачы. Прыходзілася лічыцца з «нядрэмным вокам» цэнзуры. «У нас у Літве,— скардзіўся паэт у пісьме да Паўліны Вільконскай, — страшэнная глухата ў літаратурным свеце. І не таму, што мы не здольны праявіць нейкія прыкметы жыцця. Цэнзура, страшэнная, пякельная цэнзура душыць сваёй цяжкай лапай кожнае, нават самае нявіннае дыханне грудзей». І таму найбольш радыкальныя творы Сыракомлі («Сахар-мароз», «Мазурка» і інш.) распаўсюджваліся нелегальна, у рукапісных спісах. Напярэдадні і ў час паўстання 1863 года жандары знаходзілі іх у Віцебску, Мінску і нават глухой Смаргоні.

У падрыхтоўцы да паўстання 1863 года актыўна ўдзельнічала не толькі паэзія Сыракомлі. Ён сам таксама быў цесна звязаны з патрыятычным падполлем. У віленскім доме паэта збіраліся тыя, хто потым стаў на чале паўстання. Магчыма, тут бываў нават Кастусь Каліноўскі. Невыпадкова ж у снежні 1863 года, праз год пасля смерці Сыракомля менавіта на кватэры яго ўдавы быў арыштаваны Нітуе Далеўскі, адзін з бліжэйшых паплечнікаў Каліноўскага! Абмежаваная і палахлівая жанчына наўрад ці змагла б самастойна наладзіць кантакты з рэвалюцыянерамі. Значыць, такія кантакты былі ўстаноўлены яшчэ да смерці яе мужа.

Як сведчаць апошнія польскія публікацыі, з нелегальным заданнем была таксама звязана першая загранічная паездка Сыракомлі ў маі. 1857 года. Шлях пралягаў праз Вроцлаў, Познань, Кракаў, якія тады знаходзіліся пад уладай Аўстрыі і Прусіі. І ўсюды паэта з энтузіязмам сустракала дэмакратычная інтэлігенцыя, разначынная моладзь. Прадстаўленні п'есы Сыракомлі ў Познані, на якіх прысутнічаў аўтар, ператвараліся ў сапраўдную дэманстрацыю патрыятычных сіл і нязменна заканчваліся выкананнем забароненых песень.

Праўда, многія польскія літаратуразнаўцы схільны тлумачыць прабыванне Сыракомлі за граніцай толькі яго каханнем да віленскай артысткі Алены Маеўскай. І на першы погляд, яны маюць рацыю. Сапраўды, у 35 год у паэта з'явілася запозненае і пакутлівае пачуццё да жонкі віленскага кнігавыдаўца, вядомага беларуска-польскага вучонага-асветніка Адама Кіркора. Гэта была незвычайна прыгожая, разумная і смелая жанчына. Пазней, у 1863 годзе, Маеўская перавозіла праз граніцу пошту паўстанцаў, ратавала жыццё аднаго з кіраўнікоў паўстанцкага ўрада Рамуальда Траўгута, за што была саслана ў

Сібір. І бачна, пачуццё гэта было ўзаемным, бо, іграючы ў Познані, артыстка наўмысна параніла сябе на сцэне, усадзіўшы кінжал глыбей, чым «патрабавалася» роллю, каб не ехаць у Кракаў і пабольш прабыць з каханым. Ханжаскае мяшчанства не даруе ім гэтага ўчынку. Потым, у дзень пахавання паэта, ксёндз Ліпінскі з амбону касцёла святога Яна ўспомніць пра «грахоўны ўчынак» нябожчыка, чым выкліча абурэнне дэмакратычнай грамадскасці. А пакуль што, каб неяк апраўдацца, вярнуўшыся з Познані, Сыракомля піша паэму «Стэла Фарнарына» — пра светлае каханне Рафаэля да дачкі рымскага пекара Стэлы, якая натхніла мастака на стварэнне славутай «Сікстынскай мадонны». У шляхецкіх дварах сустрэлі гэту паэму варожа, як параджэнне «д'ябальскага духу». Набожныя маці катэгарычна забаранялі дочкам браць яе ў рукі і тым больш чытаць.

І ўсё ж Сыракомлю прывабіла ў Познань не толькі Алена Маеўская. Вышэй асабістага «вясковы лірнік» ставіў грамадскае. Ён паехаў за граніцу, каб адчуць атмасферу ў Еўропе, каб весці перагаворы з патрыятычнымі коламі ў Прусіі і Аўстрыі дзеля агульнай кансалідацыі сіл. Аб гэтым сведчаць сакрэтныя данясенні познанскай паліцыі, якая сачыла літаральна за кожным крокам паэта.

І яшчэ адна паездка Сыракомлі была абумоўлена сувяззю з вызваленчым рухам. Вясной 1861 года да Вільні дайшла вестка, што ў Варшаве жандарамі забіты пяць дэманстрантаў. Пачуўшы пра гэта, Сыракомля разам з Дунінам-Марцінкевічам выехаў пад чужым пашпартам у Варшаву. Па дарозе ён рабіў усё магчымае, каб узмацніць нянавісць да царскай улады. Як даносілі шэфу жандараў і начальніку славутага ІІІ аддзялення В. Далгарукаву, «у ковенскім клубе Сыракомля дэкламаваў складзеныя ім абураючыя вершы». Такія ж выступленні адбыліся ў Сувалках, Ломжы. І таму не дзіўна, што на зваротным шляху з Варшавы Сыракомлю арыштавалі і перавезлі ў віленскую цытадэль, прыгадаўшы яму заадно і тое, што ў 1858 годзе ён не падпісаўся ў альбоме, уручаным цару. Праўда, доктару Тыцюсу ўдалося пераканаць генерал-губернатара Назімава, што хворага на сухоты паэта нельга трымаць у турэмным зняволенні. Сыракомлю дазволілі часова выехаць у Барэйкаўшчыну. Аднак следства працягвалася. У перспектыве пагражала тая ж турма або ссылка.

Арышт, матэрыяльныя цяжкасці, клопаты з друкаваннем, сямейны канфлікт, хвароба, злоўжыванне спіртнымі напіткамі — усё гэта адмоўна адбілася па творчым настроі і псіхіцы Сыракомлі. Ён адчуваў, што наступаюць доўгачаканыя рэвалюцыйныя падзеі, але не ведаў, ці зможа прыняць у іх належны ўдзел. Адсюль — матывы разгубленасці, песімізму, нават адчаю. Такая разгубленасць адчува-

ецца, напрыклад, у беларускай лірычнай мініяцюры, напісанай паэтам у 1861 годзе:

Ужо птушкі пяюць ўсюды,
Ужо кветкі зацвілі...
«Вясна прыйдзе»,— кажуць людзі...
Но скуль прыйдзе і калі?
І нашто ж вясна нам, божа?
Мы адвыклі ад вясны...
Ёлкі ў лесе, мох на стрэсе
Зелянеюць заўсягды...

...У вершы «Пахавальны картэж» Сыракомля з маркотай пісаў, што на яго магілу прыйдуць толькі трое тых, хто кахаў яго, трое ворагаў ды яшчэ ветрык з роднае нівы і дожджык са свойскага неба. Аднак, калі ў 9 гадзін вечара 15 верасня 1862 года смерць раптам выбавіла паэта ад следства і ссылкі, аказалася, што сяброў у яго куды больш. За труной ішлі тысячы і тысячы гараджан — інтэлігенцыя, студэнты, рамеснікі з харугвямі сваіх брацтваў. Парадак ахоўвалі юнакі ў беларускай нацыянальнай вопратцы. Калі пад звон званоў картэж выходзіў з дома, у якім памёр Сыракомля, на поўдзень якраз з курлыканнем ляцеў жураўліны ключ, — і ўсе прысутныя міжвольна звярнулі позірк у бок далёкага выраю. На могілках Роса, ля помніка, на якім было напісана «Сканаў, граючы на ліры», нібы сімвалізуючы брацтва трох суседніх народаў, выступілі з прамовамі беларус Вінцэсь Каратынскі, паляк Тамаш Снарскі, літовец Эдвард-Якуб Даукша. «Сэнс жыцця нябожчыка, — гаварыў В. Каратынскі, — можна выказаць коратка: усю душу аддаваў ён дабру суайчыннікаў; думаючы пра іх, забываў аб іншым». Цяжка было больш дакладна ахарактарызаваць дзейнасць Сыракомлі пры ўмове, што да кожнага слова прамоўцаў прыслухоўваліся дзесяткі шпікоў.

Смерць «вясковага лірніка» балючым рэхам адбілася па ўсёй Беларусі, па ўсёй Расійскай імперыі. Так, «Иллюстрированная газета» ў 38 нумары за 1862 год змясціла некралог з партрэтам паэта і высока ацаніла яго творчасць: «Верш яго гучны, мяккі і адначасова моцны; нават дробныя творы вызначаюцца праўдзівасцю, прастатой і сардэчным пачуццём і моцнае робяць ураженне». Як паведамляў «Кур'ер віленьскі», усюды рабіліся грашовыя зборы ў карысць шматлікай сям'і нябожчыка. Некаторыя спісы ахвяраванняў кранаюнь да глыбіні сэрца. Напрыклад, з Пастаў паступіў такі спіс: «Франусь Гінко, вучань каваля, сірата, — 5 кап., Ганна Шэйма, кухарка, — 5 кап., Луцыя Мацкевіч, удава, рэкрутка, — 6 кап.». У тых жа Паставах адбылася жалобная цырымонія. У час яе на катафалку

стаяў абвіты лаўрам партрэт Сыракомлі, а побач ляжалі перакуленая чарніліца, адкрытая кніга і чысты ліст паперы. У жалобных маніфестацыях у Мінску ўдзельнічалі звыш 600 гімназістаў, дэмакратычна настроеная інтэлігенцыя.

Ушанаванне памяці Сыракомлі паўсюдна атрымала палітычную афарбоўку. Многія параўноўвалі заўчасную смерць паэта з гібеллю заняволенай птушкі ў яго ж вершы «Смерць салоўкі». Трапіўшы ў клетку, лясны жыхар дарма імкнуўся заглушыць сваёй песняй грукат калёс на гарадскім бруку. Кволае горла салоўкі не вытрымала напружання, і спявак упаў мёртвы на дно ненавіснай клеткі. А хіба не такой жа клеткай была для паэта тагачасная царская імперыя?!

Пры жыцці Сыракомля марыў, каб яго песня не засталася без рэха. Што ж, мара паэта збылася. Яго творы выдаюцца сёння не толькі ў народнай Польшчы, але і на роднай беларускай зямлі, якую ён хацеў бачыць свабоднай і шчаслівай. Удзячныя нашчадкі памятаюць імя таго, хто быў на Парнасе прадстаўніком і абаронцам запрыгоненых сялян. Беларускія пісьменнікі ніколі не аддзялялі і не аддзяляюць гэтае імя ад беларускага пісьменства. Своеасаблівым наследаваннем «Вясковаму лірніку» Сыракомлі з'яўляецца аднайменны верш Янкі Лучыны. Яму ж належаць і першыя пераклады твораў свайго папярэдніка і настаўніка. Пачуццё павагі і любві да таленавітага земляка добра выказаў Янка Купала. У верасні 1912 года, калі адзначалася 50-годдзе з дня смерці Сыракомлі, разам з групай віленскіх літаратараў ён наведаў Барэйкаўшчыну, дзе захаваўся зроблены з жорнаў рабочы стол былога гаспадара. Купала сабраў букет палявых красак, звіў з іх гірлянду і ўквеціў гэты стол, за якім нарадзіўся не адзін натхнёны радок. А затым прачытаў свой новы верш «Лірнік вясковы». У запушчаным садзе ўзнёсла гучалі радкі:

Час патрапіць усё пакрышыць, адалеці,
Путы нават змарнеюць у плесні,—
Покі ж будзе душа хоць адна жыць на свеце,
Будуць жыці і лірнікаў песні.
Будзеш жыць! Будуць векі ісці за вякамі,—
Не забудуцца дум тваіх словы,
Як і слоў беларускіх, жывучы між намі,
Не забыўся ты, лірнік вясковы.

«З часовага ты вылузаўся даўно... — нібы працягваючы эстафету, звяртаецца сёння да Уладзіслава Сыракомлі Янка Брыль.— Ты жывеш сваім несмяротным, хвалюеш і радуеш».

# ВІНЦЭСЬ КАРАТЫНСКІ

Лепшыя традыцыі Уладзіслава Сыракомлі працягваў і развіваў яго бліжэйшы паплечнік, вучань і асабісты сакратар Вінцэсь Каратынскі. У адрозненне ад свайго настаўніка і іншых тагачасных беларуска-польскіх пісьменнікаў, ён паходзіў не са шляхты, а з беднай сялянскай сям'і, што наклала выразны адбітак на яго грамадска-палітычныя погляды.

У жнівеньскім нумары польскага часопіса «Літва і Русь» за 1912 год ёсць нататка нейкага І. О. (магчыма, Яна Обста), дзе гаворыцца пра абставіны, пры якіх Каратынскі трапіў у дом «вясковага лірніка»: «Вінцусь, па мянушцы Кароткі (малы), пасвіў гусей у Сыракомлі. Аднойчы Паўліна, жонка Сыракомлі, убачыла ў яго торбе лемантар, пасля чаго яго сталі вучыць. «Малы Вінцусь», або «Вінцук Кароткі», пад іменем Вінцэнта Каратынскага заняў пачэснае месца ў нашай (польскай.— А. М.) літаратуры як аўтар кніг «Чым хата багата...», «Выпіў Куба да Якуба», «Таміла», а таксама многіх публіцыстычных прац і «лятучых» вершаў (часткова на беларускай гаворцы)». Пра свайго гадаванца, працягвае І. О., Сыракомля не забываў і пасля. Даведаўшыся аднойчы, што той застаўся без работы, запрасіў яго ў Барэйкаўшчыну дзеля дапамогі па гаспадарцы.

Аднак да нататкі І. О. трэба падысці крытычна. Як бачна з успамінаў сына паэта, Бруна Каратынскага, гэта прозвішча не звязана са словам «кароткі». Этымалагічна яно паходзіць ад беларускага сялянскага прозвішча Каратай, якое мелі продкі паэта. Выклікае сумненне і тое, што Каратынскі трапіў у дом Сыракомлі маленькім пастушком. Хутчэй за ўсё, першую сустрэчу абодвух паэтаў трэба датаваць 1851 годам. Якраз тады Сыракомля шукаў сабе памочніка для перапісвання завершаных твораў.

Вінцэсь Каратынскі нарадзіўся 15 жніўня 1831 года ў вёсцы Селішча Турэцкай воласці Навагрудскага павета. Сын аднаго з самых бедных сялян у ваколіцы, ён з цяжкасцю атрымаў нязначную адукацыю і нейкі час працаваў на Навагрудчыне хатнім настаўнікам («дарэктарам»).

У друку імя Каратынскага ўпершыню сустракаецца ў сярэдзіне 50-х гадоў. На старонках газеты «Кур'ер віленскі» і часопіса «Тэка віленьска» з'яўляюцца цыклы яго польскіх вершаў, а таксама публіцыстычныя артыкулы, пераклады з рускай, чэшскай (перакладчык перапісваўся з чэшскім грамадскім дзеячам В. Ганкам), нямецкай і французскай моў. Асаблівую цікавасць выклікаюць песні Беранжэ, перакладзеныя Каратынскім на польскую мову сумесна з У.

Сыракомлем і выдадзеныя асобнай кніжкай у Вільні ў 1859 годзе. Да таго ж часу адносіцца супрацоўніцтва пісьменніка з рэдакцыяй «Слоўніка польскай мовы» С. Аргельбранда і іншымі энцыклапедычнымі выданнямі.

Да нас дайшлі лічаныя беларускія творы Каратынскага. Гэта — вершы «Уставайма, брацці, да дзела, да дзела!» і «Туга на чужой старане», вершаваны запіс у альбоме А. Вярыгі-Дарэўскага. Каратынскаму некаторыя даследчыкі прыпісваюць таксама аўтарства «Гутаркі старога дзеда», якая двойчы, у 1861 і 1862 гадах, ананімна выдавалася асобнай брашурай у беластоцкай друкарні Шварцэ.

Трэба адзначыць, што беларускіх вершаў Каратынскі напісаў значна больш. У 1857 годзе ён хацеў уключыць іх у польскі зборнік «Чым хата багата, тым рада», але паслухаў Сыракомлю і адклаў для сумеснага беларускага зборніка, які, на жаль, ніколі не ўбачыў свету. Вядома, што ў 1912 годзе гэтыя вершы яшчэ захоўваліся ў нашчадкаў паэта ў Варшаве. Аднак, па меркаванню польскага даследчыка М. Канапацкага, усе рукапісы загінулі ў час апошняй сусветнай вайны.

З названых беларускіх твораў Каратынскага найбольшую мастацкую каштоўнасць мае элегія «Туга на чужой старане», напісаная ў 1864 годзе, а затым пакладзеная на музыку жыхаром Навагрудчыны В. Клімовічам. Элегія кранае глыбінёй патрыятычных пачуццяў, якія перададзены ў форме, блізкай да беларускіх народных песень:

Ой, саколка, ой, галубка!
Не пытайся — не,
Што мне тошна, мая любка,
У гэтай старане...
Я ж зямліцу меў радную,
Быў слабодзен сам!
Ох, ці днюю, ці начую,—
Я ўсё там ды там!
Там гукнеш ў сардэчным краю —
Разлягнецца свет.
Тут гукаю, прамаўляю —
Адгалоску нет...
Там палосы сенажаці
Красны, як нідзе;
Стануць птушкі прыпяваць
У сэрцы аж гудзе.
Там дзяўчаткі на вячоркі
Словейкам радным
Кажуць казкі, прыгаворкі,

Душа ліпнець к ім.

На наш погляд, «Тугу на чужой старане» неабавязкова звязваць з нейкім канкрэтным момантам у біяграфіі аўтара. У 1864 годзе, пасля паражэння паўстання, у сібірскую ссылку адпраўляліся тысячы і тысячы патрыётаў. І магчыма, словы жальбы-тугі па роднай «зямельцы» паэт укладвае ў вусны аднаго з іх. Ва ўсякім выпадку, прытоены напамін аб трагічных падзеях 1863 года чуецца ў наступных радках элегіі:

Ах, цяпер жа, ой, палеткі
Роднага сяла
Не пазналі б тае кветкі,
Што там зацвіла!
Паглядаю праз аконца —
Чоран цэлы свет;
Усім людзям свеціць сонца,
Мне прасвету нет.
Бо за мною, прада мною
Поўна божых сёл,—
Усе ў грамадзе ды з раднёю,
Я адзін, як кол.
Адарвалі сіраціну
Ад сваёй зямлі.
Даўшы розум, хараміну,
Шчасця не далі...

Тая ж любоў да беларускай зямліцы гучыць у вершы, упісаным у «Альбом» Вярыгі-Дарэўскага 23 кастрычніка 1858 года. Прыехаўшы ў Вільню, беларуска-польскі пісьменнік Арцём Вярыга-Дарэўскі заклікаў тады да кансалідацыі ўсіх дэмакратычных сіл. Вінцэсь Каратынскі горача падтрымлівае віцебскага госця:

Далібог то, Арцім,
Што прыплыў ты к сваім!
І зямля тут твая,
І народ, як сям'я.
Ён з табою з вякоў
Адно цела і кроў;
Хоць няма каліты,
Да гамоніць, як ты;
Роўна з песні твае
Думу-думку снуе,
І не то абы з рук,—
Чалавек — не Пінчук.

Аўтар верыць, што Вярыга-Дарэўскі складзе песні

Аб суддзях, што як змей,
Аб слабодзе людзей,
Аб дабры, што бог дасць,
Як адрыне напасць!

Мастацкае слова, песня, сцвярджае Каратынскі, павінны выклікаць у людзей жаданне змагацца за лепшае будучае. Толькі тады яны пусцяць «пышы» (бутоны) у чалавечых сэрцах:

Цяпер песні нам сей,
То і ўзыдуць жывей,
То і пусцяць пышы —
Будзе хлеб для душы.

У вершы, прызначаным для альбома Вярыгі-Дарэўскага, адбілася і некаторая абмежаванасць поглядаў аўтара. У прыватнасці, беларускі народ для паэта — адзіная «сям'я». Верш сведчыць аб тым, што яго аўтар аддаваў пэўную даніну ідэям класавага салідарнаму. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, паэзія Каратынскага выклікала жах у абмежаванай шляхты. Адзін з мясцовых польскіх шавіністаў пісаў у 1859 ці 1860 годзе: «Калі песні Каратынскага... прыжывуцца ў народзе, калі народ, які прыгнятаецца шляхтай, узненавідзіць яе, то з гэтым загінуць нашы надзеі быць палякамі...»

Найбольш спрэчным у спадчыне Каратынскага з'яўляецца верш «Уставайма, брацьцы, да дзела, да дзела!», напісаны ў 1858 годзе. У Вільню тады якраз прыехаў новы імператар Аляксандр II. У гонар каранаванага госця Адам Кіркор разам са сваімі сябрамі Адынцом, Ходзькам, Тышкевічам і Маліноўскім выдаў хвалебны «Альбом», які быў уручаны імператару. Да «Альбома» прыклалі названы вышэй верш, «спісаны» Каратынскім «ад літоўска-рускай мужыцкай грамады», і аналагічны па зместу літоўскі верш М. Акялайціса. Абодва тэксты былі паралельна надрукаваны лацінкай і кірыліцай. Адзін экземпляр гэтага рэдкага сёння выдання захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літоўскай ССР.

Учынак Кіркора і яго сяброў выклікаў цэлую хвалю пратэстаў у польскім эміграцкім (заўважым: пераважна рэакцыйным) друку. Юльян Клячка, Карнель Уейскі і іншыя называлі віленскіх літаратараў «адступнікамі», кляймілі за згодніцтва ў дачыненні да рускага царызму. З таго часу верш «Уставайма, брацьцы, да дзела, да дзела!» стаў адным з самых важкіх аргументаў, калі даказвалася ўяўная рэакцыйнасць Каратынскага.

Аднак канкрэтны аналіз верша сведчыць, што гэта далёка не так. Звернемся да тэксту, які пасля напісання, здаецца, нікім і ніколі не цытаваўся:

Уставайма, браццы, да дзела, да дзела!
З поўначы певень захлопаў крылом.
Ну жа, каб жыва работа паспела,—
Выслаць гасцінец жоўценькім пяском.
Дружна, грамада, ў сардэчнай ахвоце
Духам насілкі на плечы уздзень!
Ох, толькі ноччу няспорна ў рабоце.
Узыдзі нам, соўнейка! Прывядзі нам дзень!
Едуць к нам, едуць дарагія госці:
Зямель шырокіх моцны гаспадар,
Верныя служкі пры яго мілосьці,
Дабра і шчасця за ім доўгі шар.
Як хадзіў пан бог па земскай дарозе,
Кожны слаў світу ды зялёну віць.
Што ж разасцелем мы сваёй Успамозе?
Узыдзі нам, соўнейка! Скажы, што рабіць!
Гдзе яго прымем? Чорная святліца,
Залатых тканак не судзіў нам бог,
Што наймілейша — то матка-зямліца,
Жоўты пясочак на яе палёг:
Цябе ж на плечах, зямля дарагая,
Велькаму госцю пад ножкі нясу.
Ох, да расою пясок прамакае.
Узыдзі нам, соўнейка! Падбяры расу!
Зара-зарыца бяжыць ужо з неба;
Любачкі звёзды бліснулі жывей.
З богам, браточкі, канчайма, што трэба!
Лёгка на сэрцы, а вачам святлей.
Зарыца кажа: вы божыя дзеткі;
Звёзды маргаюць: братам стане пан...
Вот туман цёмны рынуў на палеткі.
Узыдзі нам, соўнейка! Разгані туман!
Божае сонца бліснула на галі,
Дзяньку вясёла гуляць на дварэ,
Шле да нас пташкі, каб пець памагалі,
Туман прагнала, расу падбярэ.
І наша сонца да нас прыбывае,
Дабро і шчасце рассявае ён...

Здароў будзь, велькі гаспадару краю.
Здарова будзь, соўнейка! Паклон! О паклон!

Пры павярхоўным знаёмстве можа здавацца, што перад намі — звычайны вернападданніцкі верш з поваду прыбыцця «зямель шырокіх моцнага гаспадара». Што ж, пасля ўступлення на трон Аляксандра II такое пісалі нават светлыя розумы. Нават Герцэн і Чарнышэўскі на нейкі час паверылі ліберальнаму шматслоўю новага імператара. Тады многім здавалася, што наступіла «пасевастопальская вясна», і малады Каратынскі не з'яўляўся выключэннем.

Аднак калі перачытваеш верш яшчэ і яшчэ, нельга не заўважыць у ім даволі празрыстага падтэксту. Умеранае славаслоўе па адрасу цара (заўважым, што, акрамя загалоўка, нідзе не названа нават яго імя, нават яго тытул) — гэта толькі вонкавая зачэпка, свайго роду шырма. Галоўнае для аўтара — звярнуць агульную ўвагу на тое, што далёка не ўсё добра на зямлі беларускай. Як можа радавацца беларускі народ прыезду «цара-бацюшкі», калі жыць прыходзіцца ў «цёмнай святліцы», калі «туман цёмны рынуў на палеткі»?! І што гэта за падарунак аўгусцейшаму манарху — жоўты пясочак неўрадлівай зямліцы, які да таго ж прамок расою?! Такі «падарунак» па тагачаснаму разуменню межаваў з крамолай!

Падносячы цару верш, напісаны на беларускай мове, Каратынскі і яго сябры хацелі тым самым падкрэсліць, што беларускі народ мае правa на сваю пісьменнасць, сваю літаратуру. Не забудзем, што папярэднік Аляксандра II, Мікалай I, за 18 год да гэтага забараніў ужываць нават слова «Беларусь». І таму ва ўчынку віленскіх літаратараў было нешта ад дэмаршу: глядзіце, вы забараняеце мову нашага народа — і тым не менш яна жыве. На ёй напісаны верш, які ўручаны самому цару.

І яшчэ адна акалічнасць прымушае задумацца над вершам Каратынскага. У ім поўна алегорый: «работа паспела», «канчайма, што трэба», «узыдзі нам, соўнейка!» Звычайная квяцістасць? Не, такой сімволікі поўна ў тагачаснай польскай дэмакратычнай паэзіі. «Работа», «справа» ў ёй абазначае паўстанне, «узыход сонца» — прыход свабоды... Гэту алегарычнасць верша добра зразумелі сучаснікі Каратынскага. Так, У. Сыракомля ў нелегальным вершы «Сахар-мароз» заклікаў патрыётаў не верыць у вернападданніцтва віленскіх літаратараў, бо, «славасловячы» цару, яны ўмеюць зашыфроўваць свае сапраўдныя думкі ў алегорыях.

Аб тым, што па сваіх перакананнях Каратынскі быў дэмакратам, дасканала сведчаць яго польскія творы, дзе мы сустракаемся з той жа сімволікай. Там паэт мог больш свабодна і паслядоўна

выказаць свае сапраўдныя погляды. У розных бібліятэках нашай краіны і Польшчы аўтару гэтых радкоў удалося адшукаць сем кніжак Каратынскага. Асаблівую цікавасць маюць дзве — «Чым хата багата, тым рада» і «Таміла».

«Чым хата багата, тым рада» (Вільня, 1857) была першай кніжкай маладога паэта. Улічваючы гэта, У. Сыракомля напісаў да яе невялікую прадмову прозай і вершам. Высока ацаніўшы здольнасці пачынаючага аўтара, падкрэсліўшы народнасць вытокаў яго творчасці, Сыракомля раіць яму заўсёды плакаць у часіны народных пакут, смяяцца — у часіны вяселля.

Тваю хай спагаду бяздольны адчуе,
Братам пакажы шлях да яснай зарніцы.
У тлуме спявацкім твой спеў не загіне,
Падзяку пачуеш ты ў роднай краіне.

*(Пераклад У. Дубоўкі.)*

Быццам бы ў адказ на парады свайго настаўніка, у вершы «Пастрыжэнне» Каратынскі піша, што ў хаце сваёй паэзіі ён можа пачаставаць чытача толькі хлебам з мякінаю: дзе ж знайсці прысмакі ў час народнага ліхалецця?! Але калі над роднай вёскай «тры сонейкі (!) заззяюць і душу агорне весялосць», тады паэт запросіць землякоў на іншую бяседу, на іншыя песні. Аб хуткіх пераменах і ўзыходзе сонца свабоды гаворка ідзе таксама ў вершах «Першы дзень вясны», «Любоў». Няхай яшчэ «ўсё ў свеце мароз сціскае ды сушыць», але ж некалі з'яднаюцца ў адно «любоў да сям'і, краіны, чалавецтва». Светлыя мары аб лепшым будучым паэт супастаўляе са змрочнай рэчаіснасцю. Вось верш «Перад новым ураджаем». У ім расказваецца пра селяніна, які адправіўся ў горад шукаць хлеба. Дарэмна герой верша спрабуе наняцца на работу, дарэмна прапануе купіць сплецены ім кошык, дарэмна просіць злоты на лякарства для жонкі. У горадзе абыякава аднесліся да чужога гора. Вяртаючыся дамоў, знясілены селянін загінуў у прыдарожнай канаве.

Аднак найбольшай творчай удачай Каратынскага з'яўляецца «абразок з народнага жыцця» «Таміла» (Вільня, 1858). Аўтарская прадмова дае падставу меркаваць, што спачатку паэма была задумана (ці нават напісана) на беларускай мове. І толькі цяжкасці з цэнзурай, з друкаваннем, відаць, прымусілі паэта звярнуцца да польскай мовы. Дарэчы, у паэме многа беларусізмаў: статак, пакалець, барыш з сябрам, гора, прэць, досвіткі і інш.

Паэма пачынаецца са звароту да «старога суседа» Нёмана, да старой наднёманскай вёскі. Паэт прыходзіць сюды, каб «адпачыць пад дахам з саломы», але які можа быць адпачынак, калі сяляне

зрошваюць ніву потам, калі бачыш худую жывёлу, хаціны, бы на кастылях, і босых, напаўраздзетых дзяцей! Нялёгка жывецца галоўнаму герою паэмы старому Таміле: трэба пракарміць дзяцей, унукаў — а тут пуста ў гаршках, пачата апошняя баханка хлеба. Стараста Кандрат Луста і «добры» пан раяць Таміле прадаць на падаткі апошнюю жывёлу — пярэстага коніка. Адчай прымушае селяніна красці... Трагічны канец паэмы наводзіць чытача на думку, што далей так жыць нельга, што ў грамадстве трэба ўстанавіць такую ж гармонію, якая існуе ў прыродзе. Паэма заклікае не сядзець без справы, не азірацца на ідэалізаванае мінулае, а дзейнічаць: «Сама зямля ўраджаю не дасць, трэба яе апрацоўваць у цяжкіх клопатах».

Як вядома, беларускія пісьменнікі сярэдзіны мінулага стагоддзя тэорыяй літаратуры спецыяльна не займаліся. Аб іх поглядах на мастацтва мы можам меркаваць толькі ўскосна, па творах. У гэтай сувязі асаблівую цікавасць маюць «тлумачэнні» да паэмы «Таміла». У іх Каратынскі выказаў свае думкі аб мастацтве і яго суадносінах з жыццём. Уступаючы ў палеміку з уяўным крытыкам, які можа зганіць паэму за недасканаласць формы, паэт пераконвае, што мастацкі твор трэба перш за ўсё ацэньваць па тым, наколькі ён праўдзівы і тэндэнцыйны. «...Мастацкі твор без тэндэнцыі, — гаворыцца ў «тлумачэннях», — г. зн. без асноўнай мэтанакіраванай думкі, з'яўляецца мёртвым злепкам, фарфоравай статуэткай з ярка размаляванымі шчокамі». Тэндэнцыя — гэта «імкненне да праўды..., цэнтр, асноўная думка, душа твора». Мастаку нельга замыкацца ў «вежы» чыстага мастацтва, бо яго творчасць з'яўляецца «лінзай, якая канцэнтруе праменні, думкі сучаснага яму свету».

Патрабуючы, каб паміж мастацтвам і жыццём заўсёды былі дзейсныя, актыўныя адносіны, Каратынскі піша: «Канцэнтруючы ў сабе калектыўныя погляды грамадства на будучыню, у імя яе мастак мае права патрабаваць грамадскай рэформы там, дзе ён бачыць, што пэўныя адзінкі шкодзяць (калі так сказаць) інтарэсам будучыні, і мае права распараджацца ўсімі сродкамі заахвочвання і адштурхоўвання, абы толькі дзеля дасягнення сваёй высакароднай мэты не апускаўся да карыкатуры. Высакародная мэта з'яўляецца праўдзівай, а што праўдзівае, тое і прыгожае ў мастацкім сэнсе...» Хаця Каратынскі не ўжывае слоў «ідэйнасць», «рэалістычнасць», але, па сутнасці, змагаецца за іх. Погляды паэта на прыгожае ў мастацтве носяць на сабе адбітак эстэтыкі Чарнышэўскага, рускіх і польскіх рэвалюцыйных дэмакратаў.

А як тонка Каратынскі выказаў, наперакор цэнзуры, свае адмоўныя адносіны да тагачаснай рэчаіснасці! Вось ён заклікае збіраць

фальклор, народныя песні, бо яны ўсё больш знікаюць «з-за адсутнасці пагодлівай хвіліны да спявання». Прыведзеныя словы набраны іншым шрыфтам, і таму чытач спыняў на іх увагу. Спыняў — і добра разумеў, што хацеў сказаць аўтар. Або вось яшчэ прыклад. Каратынскі асуджае паноў, якія ведаюць аб селяніне толькі тое, што ён «павінен на нас працаваць». Словы «на нас» зноў выдзелены. Яны сведчаць, што паэт разумеў сутнасць тагачасных класавых узаемаадносін у вёсцы.

Не варта падрабязна спыняцца на наступнай кнізе Каратынскага — «Выпіў Куба да Якуба» (Вільня, 1859), бо, як прызнаецца ў прадмове сам аўтар, у ёй няма паэзіі, а ёсць толькі дыдактычная проза, зарыфмаваная з мэтай адвучыць сялян ад п'янства. Трэба, аднак, падкрэсліць, што, у адрозненне ад Чачота і Дуніна-Марцінкевіча, якія вялі барацьбу з п'янствам у маральным плане, Каратынскі ўскрывае сацыяльныя прычыны гэтай з'явы. У кнізе недвухсэнсава гаворыцца, што нельга вылечыць народ ад п'янства і «маральнага здранцвення», пакуль ён знаходзіцца ў выключнай цемры і «матэрыяльнай беднасці».

Пяру В. Каратынскага належыць некалькі літаратуразнаўчых і гістарычных прац, якія спачатку друкаваліся ў перыёдыцы, а пасля выходзілі асобнымі выданнямі: «Некалькі падрабязнасцей аб сям'і, месцы нараджэння і маладосці Адама Міцкевіча» (Вільня, 1861), «Саламон Рысінскі» (Вільня, 1863), «Духоўнікі» (Варша,ва, 1866), «Цёлэк» (Варшава, 1867). У першай з іх, абапіраючыся на метрычныя запісы і іншыя крыніцы, аўтар сцвярджае (і досыць пераканаўча), што Міцкевіч нарадзіўся не ў Завоссі, а ў Навагрудку. Вельмі цікавая для беларускага чытача брашура «Саламон Рысінскі». У ёй даследуецца творчасць забытага пісьменніка XVII стагоддзя, які збіраў у Беларусі народныя прыказкі і ў 1618 годзе выдаў іх у друкарні Пятра Кміты ў мястэчку Любча над Нёманам. Каратынскі піша, што большасць прыведзеных прыказак «жыве да гэтага часу ў вуснах наднёманскага люду, у беларускай мове. Больш таго, у кнізе значная колькасць прыказак, якія ў аддаленых ваколіцах невядомы». Апошнія дзве працы Каратынскага сведчаць аб матэрыялістычных поглядах аўтара. Ён выступае супраць ідэалістаў, якія спрабавалі па-свойму растлумачыць доследы польскага оптыка XIII стагоддзя па прозвішчу Цёлэк, выкрывае модных тады спірытуалістаў.

Пераехаўшы пасля паражэння паўстання 1863 года ў Варшаву, Каратынскі амаль 30 год актыўна супрацоўнічаў у «Газэце варшаўскей», многа пісаў для часопісаў «Тыгоднік ілюстрованы» і «Тыгоднік повшэхны». На іх старонках пісьменнік змясціў багата нарысаў і

ўспамінаў аб грамадскім і культурным жыцці ў Літве і Беларусі напярэдадні паўстання 1863 года. Вялікую паслугу славянскім літаратурам аказаў Каратынскі, выдаючы ў 1872 годзе дзесяцітомны збор твораў свайго настаўніка Уладзіслава Сыракомлі, запаветам якога ён застаўся верны на ўсё жыццё.

Памёр Вінцэсь Каратынскі 7 лютага 1891 года. Польскі друк адгукнуўся на смерць шматлікімі некралогамі, у якіх адзначалася і роля нябожчыка ў развіцці беларускай літаратуры.

## АДАМ ПЛУГ

У адрозненне ад Уладзіслава Сыракомлі і Вінцэся Каратынскага, пра беларускую спадчыну іх сучасніка і сябра Адама Плуга нельга сказаць амаль нічога пэўна га. Вядома толькі, што ён добра валодаў беларускай мовай, а ў 1849 годзе напісаў беларускае апавяданне «Кручаная баба». Па некаторых звестках, тэкст яго быццам бы друкаваўся ў віленскай перыёдыцы.

Але нават у тым выпадку, калі б Адам Плуг наогул не пісаў па-беларуску, яго імя ўсё роўна варта нашай памяці, бо ён нарадзіўся на беларускай зямлі, узнімаў у польскай літаратуры беларускую тэматыку, папулярызаваў здабыткі маладой беларускай літаратуры і сябраваў з яе вядучым прадстаўніком Дуніным-Марцінкевічам.

Упершыню Плуг і Дунін-Марцінкевіч сустрэліся, відаць, у 1856 годзе, калі першы з іх прыязджаў у Мінск і Слуцк з Украіны, дзе працаваў настаўнікам. Тады ж Плуг пабываў у гасцінным доме беларускага паэта. У выніку з'явіўся верш «Да В. Марцінкевіча, аўтара твораў на беларускай гаворцы», дзе госць высока ацаніў імкненне гаспадара стварыць на «сялянскай» мове прафесіянальную літаратуру (верш цытуецца ва ўласным падрадковым перакладзе):

Зачараваны сардэчнасцю ў тваёй цнатлівай хаце,
Я, літвін, падарожнік з падольскіх палёў,
Сэрцам адплачваю табе, браце-літвіне,
За добрае слова, за хлеб і соль.
Я для цябе — Плуг нібы, ты ж — ратай правы,
Ты сееш зерне па сялянскай мове,
Дзе з цягам часу над травой і пустазеллем
Узрастуць цудоўныя плады ўраджаю.

У канцы верша аўтар жадае Дуніну-Марцінкевічу:

Няхай твой пасеў збродзіць у сто разоў,
Няхай накорміць народ духоўным хлебам.

Цікава, што гэты верш упершыню ўбачыў свет тут жа, у Мінску, — у зборніку «Голас з Літвы», які выйшаў у кнігарні братоў Бейліных у 1859 годзе. У зборнік уключаны таксама адзін з першых перакладаў з беларускай на польскую мову — «Верш Вінцэнта Марцінкевіча да Апалінарыя Концкага, Манюшкі і Германа, перакладзены з беларускага дыялекту» (у арыгінале твор называецца крыху інакш: сярод гасцей замест Германа названы Сыракомля).

Аб паездцы ў Мінск Плуг расказаў па старонках варшаўскага часопіса «Крошка вядомасьці краёвых і заграхнічных» у карэспандэнцыі «Пісьмо Адама Плуга да Фелікса Пяткевіча», змешчанай пад рубрыкай «Markdown-safe» ў № 265 і 267 за 1858 год. У гэтай карэспандэнцыі Плуг услед за Сыракомлем абараняе Дуніна-Марцінкевіча ад нападак сенатара Скібіцкага, які са старонак польскага выдання «Газэта варшавска» (№ 138 ад 19 мая 1856 года) папракаў аўтара «Гапона» за тое, што ён сваімі дыялектызмамі «псуе» польскую мову. «Шаноўны апанент забыў,— усклікае А. Плуг,— што, хоць і няўдзячнай з'яўляецца гаворка, на якой піша пан Марцінкевіч, яна ўсё ж перадае думкі шматтысячнага народа, значная частка якога сёння ўмее чытаць...» Аўтар карэспандэнцыі не сумняваецца, што творы Дуніна-Марцінкевіча спадабаюцца сялянам, акажуць уплыў на іх культурнае развіццё, на «паляпшэнне народных нораваў». Плуг дае свайму сябру парады, каб ён пісаў не толькі вершам, але і прозай, пазбягаў вульгарызмаў, больш клапаціўся пра рытміку радка.

Жыццёвы і творчы шлях Адама Плуга цесна звязаны з беларускай зямлёй і беларускім народам. Пісьменнік нарадзіўся ў 1823 (па іншых крыніцах — у 1824) годзе ў засценку Замосце ля Грэска. Сваё першае апавяданне «Пра тое, як людзі час марнуюць» («Падарожжа маёй думкі па вуліцах малога мястэчка») ён напісаў у 1842 годзе, будучы яшчэ вучнем Слуцкай гімназіі. Гэта — вострая сатыра на мяшчанства, на шляхту з навакольных засценкаў. Малады аўтар асудзіў п'янства і паразітызм местачковай «арыстакратыі», якая закрывала вочы на сялянскую галечу.

Пасля паўстання 1831 года бацька пісьменніка вымушаны быў прадаць Замосце і паехаць у фальварак Жукаў Барок над Нёманам, дзе служыў у Радзівілаў падлоўчым. З суседняга Залуча сюды часта прыязджаў У. Сыракомля. Яму ж Плуг прысвяціў свой першы верш «Гара Замчышча», дзе выкарыстаны матывы беларускіх народных казак. Наднёманскія мясціны хораша апаэтызаваны ў гутарцы «Жукаў Барок» (1848). «Усіх сялян з гэтай вёсачкі,— піша Плуг,— я ведаю як па сэрцах, так і з постаці, быццам усе яны належалі да маёй сям'і».

У сярэдзіне 40-х гадоў малады пісьменнік выехаў на Украіну, паступіў там у Кіеўскі універсітэт і наладзіў сувязь з перадавым кіеўскім часопісам «Гвязда». Пасля кароткага знаходжання на радзіме ў 1856 годзе Плуг надоўга асеў у Жытоміры, дзе выдаў першы том шасцітомнага збору сваіх твораў і ўдзельнічаў у паўстанні 1863 года, за што разам з жонкай быў пасаджаны ў турму. Апошнія сорак год жыцця наш зямляк жыў у Варшаве і рэдагаваў там часопісы «Клосы», «Вэндровнік», «Кур'ер варшавскі» і нават «Вялікую ўсеагульную энцыклапедыю» (1894-1899). За «пявучы» беларускі акцэнт варшавяне заўсёды лічылі яго «прышэльцам». Разам з А. Адынцом, В. Каратынскім і Ф. Вулей Плуг арганізаваў у Варшаве так званы «беларускі (па іншых крыніцах — «літоўскі») гурток». Памёр пісьменніку 1903 годзе.

Абсалютная большасць мастацкіх твораў Плуга тэматычна так ці інакш звязана з Беларуссю. Сярод іх вылучаецца паэма «Успаміны пра радзіму» («Айчынная песенька») (1856-1857). Аўтар гаворыць, што думкі яго заўсёды імкнуцца да шматпакутнай Літвы (як тады называлі і Беларусь). Цяжка там сялянам. «Яны жывуць у чорных хацінах, сілкуюцца чорным хлебам; часта галодныя, у галечы, прыгнечаны дарэмнай працай». Але прыгнёт не знішчыў у беларускім народзе лепшых чалавечых якасцей. У вёсцы ўсе людзі добрыя і цнатлівыя; у іх няма зайздрасці і пагарды. Паміж імі — сардэчная блізкасць, «бы паміж сватамі ці кумамі». Поўнасцю духоўная прыгажосць беларускага селяніна раскрыецца тады, калі яму дадуць асвету, калі перад ім паставяць іншыя, больш высокія мэты. Пад гаротнай доляй беларускай вёскі паэт смуткуе таксама ў паэме «Зачараваныя скарбы», фальклорнай па сваіх вытоках. Зачараваныя скарбы — гэта ўсе багацці, створаныя народнымі рукамі. Уладары гэтых багаццяў надзяваюць «ярмо на сялян», плацяць сваім слугам «ірванай вопраткай, чорным і жорсткім хлебам, нястрымным панскім гневам». У будучым усё павінна змяніцца. Зямныя скарбы, сцвярджае аўтар, будуць належаць тым, хто іх стварае.

Дзе б Плуг ні жыў — у Кіеве, Джурыне, Жытоміры, Варшаве, ён заўсёды захоўваў у сэрцы шчырую прывязанасць да родных беларускіх ваколіц. Глыбокім патрыятызмам вылучаецца аповесць «Споведзь. Урывак з жыцця майго сябра», апублікаваная ў 1849 годзе ў часопісе «Атэнэум». У пралогу да яе ёсць такія радкі: «Я заўсёды буду ўздыхаць па Палессі і Літве, па тых адвечных пушчах, балотах і пясках, лугах і азёрах. І адной кроплі з Нёмана не аддам за ўсе воды Днястра, Буга і Дняпра. Зрэшты, праслаўляйце ўжо сабе Падолію, слаўце Украіну, але не ўспамінайце, калі ласка, пра нейкую там Італію, нейкую Швейцарыю». У аповесці маляўніча апісаны лясы пад

Бабруйскам, паляшук Рыгор, нясвіжскі, суддзя Гарбузок, які, бы з рукава, сыпле беларускімі прыказкамі накшталт: «Не будзі ліха, калі ліха спіць», «Каўтні, мой Бартуня, на другую ножку». Героі аповесці спяваюць беларускія народныя песні («Ажаніся — не журыся»). Сапраўднай энцыклапедыяй беларускага народнага побыту з'яўляецца вершаваны «Урывак успамінаў вашмоеці пана Якуба N», апублікаваны ў зборніку «Родныя гоні» (Вільня, 1854). Тут ёсць каларытныя апісанні купалля, куцці, шчадровак, вячорак, названы найбольш папулярныя народныя казкі і легенды.

Па свайму светапогляду Адам Плуг прымыкаў да тых прадстаўнікоў польскай шляхецкай дэмакратыі, якія заклікалі вырашыць сацыяльныя канфлікты шляхам маральнага ўдасканалення, узнаўлялі асветніцкую канцэпцыю «выхавання добрага грамадзяніна». Толькі ў час уздыму, звязанага з паўстаннем 1848 года, у апавяданні «Забойца дзяцей» пісьменнік ухваліў дзеянні селяніна Івана Басісты, які падпаліў жорсткаму пану гумно, і грамады, якая адмовілася пагасіць пажар. Аднак пазней, калі пачуліся абвінавачванні ў «дэмагогіі» і «рэвалюцыйнасці», Плуг адышоў ад левага крыла польскай дэмакратыі. У раманах «Няня» (1857), «Дух і кроў» (1859), аповесці «Марцін-хутарнік», гутарках «Бязрукі» і «Кіфар» сялянства ідэалізуецца, надзяляецца такімі рысамі, як набожнасць і пакорлівасць у дачыненні да паноў. З расчуленасцю аўтар расказвае ў рамане «Няня» (падзеі яго, дарэчы, адбываюцца ў ваколіцах Слуцка), як прыгонныя цалуюць панам рукі і ногі і нават збіраюць грошы, каб выкупіць сваім «апекунам» маёнтак. Героямі часта становяцца пакутнікі, якія замольваюць сваё «непаслушэнства». Побач з тым Плуг высмейвае саслоўную забабоннасць шляхты, сквапнасць маладой буржуазіі (гандляр Рыгор у тым жа рамане «Няня»), Аднак раманіст крытыкуе капіталізм з патрыярхальных пазіцый, бачыць у ім выключэнне, якое супярэчыць толькі этычным нормам,— і тут можна знайсці многа агульнага ў Плуга і Дуніна-Марцінкевіча.

Больш рэалістычная карціна жыцця розных слаёў беларускага і польскага грамадства дадзена ў творах 60-70-х гадоў — раманах «Афіцыяліст», «Бакалаўры», паэтычнай гутарцы «Сарока». Цікава адзначыць, што герой рамана «Афіцыяліст» Зазулевіч, які перасыпае свае гутаркі ў карчме беларускімі народнымі прыказкамі, у многім нагадвае марцінкевічаўскага Навума Прыгаворку.

Адам Плуг заняў прыкметнае месца ў гісторыі польскай літаратуры. На яго ранніх гутарках і паэмах ляжыць яўны адбітак рамантызму. Так, паэма «Звар'яцелы» з'яўляецца прамым наследаваннем міцкевічаўскім «Дзядам». Раманы і аповесці Плуга ў многім падрых-

тавалі глебу для прозы польскага крытычнага рэалізму другой паловы XIX стагоддзя. Заслугоўваюць увагі шматлікія пераклады твораў Шэкспіра, а таксама публіцыстычныя і крытычныя артыкулы ў варшаўскім перыядычным друку. У іх прыводзяцца каштоўныя звесткі аб літаратурным жыцці ў Беларусі. На жаль, спадчына нашага земляка, шчырага прыяцеля беларускай літаратуры, вывучана яшчэ недастаткова і выдадзена далёка не поўнасцю.

## АРЦЁМ ВЯРЫГА-ДАРЭЎСКІ

Разгляд творчасці беларуска-польскіх пісьменнікаў пачатку і сярэдзіны XIX стагоддзя будзе няпоўным, калі не ўспомніць імя Арцёма Вярыгі-Дарэўскага.

«Наддзвінскаму дудару», як называлі сучаснікі Вярыгу-Дарэўскага, не пашанцавала. Дзесьці згубілася большасць беларускіх і польскіх твораў пісьменніка. Некаторыя даследчыкі беспадстаўна залічвалі яго да стану рэакцыі. Больш таго, Вярыгу-Дарэўскага бесперапынна блыталі і блытаюць з польскім пісьменнікам Аляксандрам Вярыгам-Дароўскім (1815-1874), які жыў на Украіне і да Беларусі не меў ніякага дачынення. Напрыклад, польскі даследчык Л. Савінскі ў сваім шматтомным курсе айчыннай літаратуры зусім не ўпамінае імя Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, а ўсе яго творы і нават псеўданімы прыпісвае Аляксандру Вярызе-Дароўскаму. Пра апошняга ў Савінскага сказана, што гэта быў чалавек перадавых поглядаў, вораг прыгонніцтва, але адначасова і вялікі штукар, містыфікатар. Пісаў ён многа, друкаваўся мала і тыражом усяго ў некалькі дзесяткаў экземпляраў. Звычайна падпісваўся псеўданімамі Артэніюш, Мізантроп, Чомбэр, Дуда, Салэцкі. Аляксандр Вярыга-Дароўскі, зазначае Савінскі, фальсіфікаваў і месца выдання кніг, «...бо друкаваў іх толькі ў Кіеве, Лейпцыгу, Брусэлі і Парыжы, ніколі ж — у Магілёве, Венецыі або Дрэздэне».

Супастаўленне працы Л. Савінскага з сённяшнімі знаходкамі паказвае, што польскі даследчык многае блытаў. І памылкі яго — ад таго, што ён зліў у адну дзве зусім розныя асобы. Псеўданімы Артэніюш і Дуда — гэта скажоныя псеўданімы Вярыгі-Дарэўскага, які любіў падпісвацца Беларуская дуда або Артэміюш (польская форма імя Арцём). Адна з кніг «наддзвінскага дудара» — «Гутарка аб Сваяку» была выдадзена ў 1858 годзе магілёўскай кнігарняй І. Сыркіна. Праўда, пасля паўстання 1863 года гэту кнігу абвясцілі злачыннай, і таму мне не ўдалося адшукаць яе ні ў нашай краіне, ні ў Польшчы. Але захаваўся экземпляр твора, прызначаны для цэнзара П.

Купальніка. Сёння ён захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літоўскай ССР. Захаваўся таксама каталог кнігарні Сыркіна. У той час, як іншых твораў у ёй налічвалася па 2-3 экземпляры, «Гутаркі аб Сваяку» было на складзе больш за ўсё — 530 экземпляраў. Значыць, Савінскі блытае і адносна тыражоў...

Польскага даследчыка, мабыць, уводзіла ў зман тое, што Арцём меў другое імя — Аўгусцін. Апрача таго, абодва Вярыгі былі амаль аднагодкамі. Арцём Вярыга-Дарэўскі нарадзіўся 23 кастрычніка 1816 года ў мястэчку Кублічы Лепельскага павета Віцебскай губерні. Яго бацька, Ігнат Вярыга, паходзіў са збяднелага шляхецкага роду. Адукацыю Арцём атрымаў у Забельскай гімназіі, дзе дасканала вывучыў рускую і польскую мову і літаратуру. У 1835 годзе паступіў на службу ў канцылярыю часовай рэвізійнай камісіі пры Віцебскім губернскім дваранскім дэпутацкім сходзе. Ажаніўшыся, набыў на Віцебшчыне фальварак Стайкі. Пасля смерці жонкі жыў там з дачкой Габрыэляй і братам Сымонам, які займаўся вывучэннем мінулага беларускага краю.

У сярэдзіне 50-х гадоў мы зноў бачым Вярыгу-Дарэўскага ў Віцебску. У яго доме адкрываецца прыватная бібліятэка для гарадской беднаты. Завязваюцца сардэчныя сувязі з віленскімі («Кур'ер віленьскі») і пецярбургскімі («Слово») польскімі перыядычнымі выданнямі. Паступова вакол Вярыгі-Дарэўскага канцэнтруюцца інтэлектуальныя і дэмакратычныя сілы Віцебска і Віцебшчыны. Пісьменнік часта раз'язджае з канспірацыйнымі мэтамі па Беларусі, бывае ў Вільні і Пецярбурзе. Адзін з біёграфаў Вярыгі-Дарэўскага, Д. Васілеўскі, сцвярджае, што ў час гэтых паездак былі нават устаноўлены кантакты з рускай рэвалюцыйнай арганізацыяй «Зямля і Воля». У сувязі з усім гэтым у канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў над Вярыгам-Дарэўскім быў устаноўлены строгі паліцэйскі нагляд. 28 сакавіка 1861 года віцебскі губернатар Ц. Клушын тэлеграфаваў славутаму Валуеву, што ў цэнтры маніфестацый, якія адбыліся ў Віцебску ў сувязі з расстрэлам пяці варшаўскіх дэманстрантаў, знаходзіцца Арцём Вярыга.

Калі пачалося паўстанне 1863 года, Вярыга-Дарэўскі апынуўся ў гушчыні падзей. У яго фальварку Стайкі збіралі для паўстанцаў ружжы і пісталеты. Узброіўшы імі атрад віцяблян, Вярыга-Дарэўскі накіраваўся разам з ім у бок шашы Віцебск-Орша. Але блакіраваць шашу не ўдалося, бо на Дымаоўскай паштовай станцыі паўстанцы наткнуліся на стражнікаў і разбегліся. Камандзіру ўдалося незаўважна перабрацца ў Віцебск, дзе ён пачынае фарміраваць новы атрад. І тут у III аддзяленне паступае данясенне агенткі Настассі Карпавай. 6 мая 1863 года Вярыгу-Дарэўскага арыштоўваюць і

прыгаворваюць да 8 год катаржных работ на горных заводах Сібіры. Разам з бацькам адправілася ў Сібір, паўтарыўшы подзвіг дзекабрыстаў дачка Габрыэля. Памёр пісьменнік у 1884 годзе дзесьці каля Якуцка. Сібірскі дзённік нашага земляка знаходзіўся ў руках польскага літаратара М. Дубецкага. Цяперашняе знаходжанне гэтага рукапісу невядома.

Арцём Вярыга-Дарэўскі быў адным з самых пладавітых беларускіх пісьменнікаў мінулага стагоддзя. А. Кіркор называе яго прозвішча ўслед за прозвішчам Дуніна-Марцінкевіча: «Другім з выдатнейшых беларускіх народных паэтаў і празаікаў з'яўляецца Арцём Дарэўскі-Вярыга. Ён апублікаваў «Гутаркі з пляндроўкі па зямлі латышскай», «Паўрот Міхалкі», «Быхаў», драму «Гордасць», паэму «Астульга» (мабыць, «Ахульга».— А. М.) і, урэшце, ідучы за прыкладам Марцінкевіча, пераклаў на беларускую мову ўсяго «Конрада Валенрода», ды пераклаў так цудоўна, што сілай і ўзнёсласцю радка здзівіў бы самога неўміручага песняра».

Памяць Кіркора захавала не ўсё з таго, што было напісана «наддзвінскім дударом» па-беларуску. Аб гэтым сведчаць пісьмы А. Вярыгі-Дарэўскага да А. Кіркора, якія нядаўна знойдзены Г. Кісялёвым у вільнюскім архіве. Т ак, у пісьме, датаваным 26 студзеня 1859 года, гаворыцца: «...Скончыў другую камедыйку для народа — «Хцівасць», паправіў і закончыў з прадмовай і тлумачэннямі аўтара «Конрада» і сваю прадмоўку дадаў. Гутаркі абрэзаў паводле патрабаванняў шаноўнага нашага пана Купальніка (віленскі цэнзар,— А. М.) і, кіруючыся парадай дарагога нам Адынца і вас усіх, прадмову замяніў іншай, беларускай. Камедыю трохактовую, гутаркі і некалькі польскіх паэмай хацеў быў цяпер табе паслаць, але не ўпэўнены, ці будзе якая карысць з тых, што я пакінуў, затрымаўся да тваёй шчырай размовы са мной... Ці прысылаць табе яшчэ: напрыклад, «Залажэнне Магілёва над Дняпром» паводле простанароднага падання, «Дзіця дзвюх матак», «Бяседа над Нёманам», «Бедны наш Лукаш», «Яшка і Цімошка» — паэмкі з беларускага жыцця — і іншыя?» І далей, у пісьме ад 19 жніўня таго ж года: «...Багата маю беларускіх рэчаў, з імі без цябе нічога не хачу пачынаць, але не пасылаю, бо не ведаю, што ты там робіш. Будзь са мною шчыры, мой Адаме, не зважай на мой уласны гонар! Калі табе без патрэбы пакінутыя грымзолі: «Паўрот Міхалкі», «Скромны ў бяседзе не страціць», «Быхаў» і драмка «Гордасць», адашлі іх мне, бо не маю чарнавікоў, і няхай бы дамашнія глупствы дамашнія молі і грызлі. Паэмку «Ахульга» мелася пані Сыракомлева, забраўшы ў мужа, перадаць пану Мамерту Рэнье. Не

ведаю, ці здарылася так, а калі б яе атрымаць, быў бы шчыра ўдзячны. Вазьмі яе да сябе, калі можна».

На жаль, усе пералічаныя вышэй творы да нас не дайшлі. Цяжка сказаць, чаму так здарылася. Калі б яны былі аддрукаваныя тыражом у некалькі тысяч экземпляраў, як аб гэтым піша ў сваім курсе гісторыі славянскіх літаратур Кіркор, то яны захаваліся б дзе-небудзь у польскіх ці савецкіх бібліятэках (хаця пошукі яшчэ трэба працягваць). Значыць, хутчэй за ўсё, Кіркора тут проста падвяла памяць. Відаць, у пачатку 60-х гадоў, калі паміж ліберадам Кіркорам і дэмакратам Вярыгам-Дарэўскім узнікаюць прынцыповыя рознагалоссі, віленскі выдавец адаслаў рукапісы «наддзвінскага дудара» ў Віцебск, і яны там загінулі ў час паўстання 1863 года і арышту аўтара — аднаго з кіраўнікоў паўстання ў Віцебскай губерні. Магчыма, камусьці пашчасліваіцца знайсці іх у паперах былых паліцэйскіх архіваў.

Сёння нам вядомы два беларускія творы Вярыгі-Дарэўскага: верш «Літвінам, запісаўшымся ў мой альбом на пажаданне» (урывак з яго друкаваўся ў брашуры Р. Зямкевіча «Адам Ганоры Кіркор») і ўрывак з оперы «Грэх 4-ты гнеў». Праўда, М. Гарэцкі называе яшчэ «Мужыцкую думку з ваколіц Віцебска на агалашэнне вольніцы» (1858), але сёння пра змест гэтага твора нельга сказаць нічога пэўнага.

Верш «Літвінам, запіеаўшымся ў мой альбом на пажаданне», поўная копія якога захоўвалася ў вільнюскага даследчыка Я. Шутовіча, быў напісаны ў 1858 годзе, калі Вярыга-Дарэўскі прыязджаў у Вільню, каб наладзіць сувязі з вызваленчымі коламі. Расчулены цёплымі запісамі віленскіх літаратараў у сваім «Альбоме», пісьменнік адказаў ім імправізацыяй, у якой па чарзе звяртаўся да ўсіх прысутных «свяціл». У вершы, які налічвае амаль 200 радкоў, ёсць таксама словы, звернутыя да В. Дуніна-Марцінкевіча:

Вінцук Дудар! Праўду гэту,
Гледзя на це, я пазнаў:
Што ты б усё аддаў свету,
А нічога б сам не браў.
Будзь здароў! Крапісь, лябедзька,
У сваёй ціхай думе,
Хоць жыццё часам, як рэдзька,
Мей што другое на ўме.

Творчай удачай Вярыгі-Дарэўскага, безумоўна, з'яўляецца вершаваны ўрывак з амаль невядомай нам оперы «Грэх 4-ты гнеў» (чацвёртым грэхам у каталіцкім «спісе» сямі галоўных грахоў лічыцца гнеў). Гэты ўрывак быў апублікаваны ў варшаўскім часопісе «Рух музычны» (№ 4-9 за 1859 год). У карэспандэнцыі, падпісанай псеў-

данімам Беларуская дуда, А. Вярыга-Дарэўскі пытаў: «А можа надвіслянскія браты цікавяцца паэзіяй сваіх наддзвінскіх братоў, сялян Белай Русі? Змяшчаем тут спробы, шчыра жадаючы, каб вы з імі пазнаёміліся, і не сумняваемся, што зразумееце. Гаворкі ж славянскіх плямён, хаця і раздзеленыя месцам і ўмовамі, усё-такі маюць шмат агульнага, і пры першым жа сутыкненні можна іх лёгка зразумець. Мы пераканаліся ў гэтым у час сустрэчы з сербамі і чытаючы чэшскую паэзію». Далей; у падмацаванне сваіх слоў аўтар цытуе «Гімн да абразу цудоўнай маці Божай Бялыніцкай над Дняпром» і фрагмент з названай вышэй оперы — лірычную «Думку салдаткі»:

«Плыві, плыві ты! Дзвіна серабрыся,
Аж там, у сама Балтыцькае мора;
І прыкаціся там, гдзе душа чыста
Майго Фядола прападаць з гора.
Не страш яго там маімі слязамі,
Ні аб рабятках не кажы худога;
Што па кусочках хаджу з сіратамі,
Не кажы, рэчка, а пацеш мілога».
Паплыла рэчка, слязінкай бліснуўшы,
З роднай зямелькі шэпчыць берагамі;
Бедна салдатка, дзетак абхінуўшы,
Рэчкінай думкі слухала з слязамі.

Паводле сведчання А. Семяновіча, поўны тэкст оперы «Грэх 4-ты гнеў» у 1863 юдзе канфіскавала віцебская паліцыя.

Значна больш твораў Вярыгі-Дарэўскага захавалася на польскай мове. Сярод іх — названая ўжо «Гутарка аб Сваяку», верш пра аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 года Эдмунда Ружыцкага, публікацыі ў «Руху музычным» і «Слове». У рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР захоўваецца «Верш Марку Сакалоўскаму і Аляксандру Хадэцкаму, нацыянальнай гордасці, нашым любімым артыстам,— ад беларусаў». Сакалоўскі і Хадэцкі — вядомыя польскія музыканты, якія ў канцы 1859 года былі на гастролях у Беларусі. Вярыга-Дарэўскі сустрэўся з імі ў Магілёве. Ад імя роднай зямліцы, усіх тых, каму «баляць сэрцы», паэт дзякуе дарагім гасцям, музыка якіх «абуджала дух», выклікала ўзнёслыя пачуцці. Захаваўся таксама вершаваны «Адказ беларусам» А. Хадэцкага. З усяго гэтага вынікае, што і сам Вярыга-Дарэўскі свядома залічваў сябе да беларусаў і іншыя лічылі яго дастойным прадстаўніком беларускага народа.

Вялікую цікавасць мае вершаваная паэма «Гутарка аб Сваяку праз Беларускую дуду» (з папкі «Беларускія малюнкі», № 1), завершаная ў 1856 годзе ў Стайках. Лірычны герой адпраўляецца з родных

берагоў Дзвіны і Дзісненкі ў далёкі Мінск. У горадзе юнака ўразілі яркія кантрасты: з аднаго боку — вонкавая пазалота, пышныя балі, з другога — бедныя рамеснікі, чыім потам здабыты багацці ўсіх тых, хто весела танцуе ў час народнага ліхалецця. Аўтар перасцерагае юнага героя, каб ён не меў нічога агульнага з арыстакратыяй, бо лепш быць пастухом ці бондарам, чым багатым панам, які толькі дбае пра грошы і ніколі не чытае кніжак, хоць часам і купляе іх дзеля ўяўнай культурнасці. У паэме мноства намёкаў на тое, што прадбачацца «цяжкія выпрабаванні і ахвяры», што трэба імкнуцца «да іншага, лепшага жыцця», што хутка на «гадаў»-паноў прыйдзе ліха — і тады ўся краіна ўступіць у «дэма» (так паэт называў на эзопаўскай мове дэмакратычны лад будучага).

Аб дэмакратызме і актыўнай патрыятычнай дзейнасці Вярыгі-Дарэўскага сведчыць таксама яго славуты «Альбом», які ўжо неаднаразова згадваўся раней. Арыгінал «Альбома» доўгі час лічыўся загінуўшым, але нядаўна Г. Кісялёў адшукаў яго ў фондах былога віленскага «Таварыства сяброў навукі».

«Альбом» А. Вярыгі-Дарэўскага прынцыпова адрозніваецца ад папулярных у мінулым стагоддзі сямейных альбомаў, куды заносіліся сентыментальныя вершыкі і чужыя сентэнцыі. Гэта — своеасаблівы нелегальны альманах, які пабываў у руках дзесяткаў людзей і, без сумнення, аказаў уздзеянне на іх перакананні. Запісы ў «Альбоме» зроблены жыхарамі самых розных гарадоў — Віцебска, Магілёва, Вільні, Мінска.

Адкрываецца «Альбом» вершам У. Сыракомлі «Ты клічаш мяне ў кнігу сваіх успамінаў». «Вясковы лірнік» выказвае надзею, што скромны «Альбом» аб'яднае «беларусаў з Літвой». Услед за вершам Сыракомлі ідуць творы вядомых тады польскіх пісьменнікаў І. Ходзькі, А. Адынца і іншых. Мінчанка Каміла Марцінкевіч, магіляўчанін Лявон Скрабук, віцяблянін І. Ляўданскі і нехта Леапольд Кандыба ўпісалі ноты розных песень. Сярод іх ёсць і «ўрывак падслуханай песні сумленнага і заўсёды беднага селяніна».

Найбольшую каштоўнасць у «Альбоме» Вярыгі-Дарэўскага для нас, вядома, маюць запісы на беларускай мове. Іх дзевяць. Гэта — кароткія вершы В. Каратанскага, Ялегіша Пранціша Вуля (Карафы-Корбута), Мамерта Рэнье, Мікалая Караткевіча, Якуба Т...кага і А. Рыпінскага, урывак з «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча ў перакладзе В. Дуніна-Марцінкевіча. Апрача таго, ёсць і запісы прозай. Так, нехта Эдвард Г. прызнаецца: «Ну, браточак! Прагукаў ты па-нашаму, і гутарку тваю спадабаў...» Аляксандр Рыпінскі ўспамінае пра нейкія даручэнні свайго суседа: «Іду, брат, па-твойму на мужыцкую свадзьбу

аж у Бытрымава — так грошы табе после сам прывязу, а цяпер не маю часу. Гутаркі адсылаю, але после мне дасі». Усе гэтыя запісы сведчаць, што ў сярэдзіне XIX стагоддзя беларускай мовай карысталася куды больш адукаваных людзей, чым мы гэта ўяўляем сёння.

Большасць з названых аўтараў у сваіх вершах пішуць пра Вярыгу-Дарэўскага з глыбокай павагай і ўдзячнасцю, жадаюць яму новых поспехаў на ніве роднай паэзіі. Віцяблянін Ялегіш Пранціш Вуль (Уль) у вершы «Дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка» перасцерагае сябра, каб ён не зважаў на тое, што на яго «паноўе» крыкнуць «Шкоднік і місцюк»:

Грудзяй цэлай гудзі смела
На увесь мужыцкі свет,—
Што пасееш, будзе цэла,
Будзе некалі і цвет...

Сардэчна вітае наддзнінскага госця мінчанін М. Караткевіч:

Беларускі дудару,
Радасна таму гаспадару,
К каторому на парог
Пашлець цябе гасподзь бог.
Бо ты, мілы дударэнька,
Так іграеш харашэнька...
Як бог табе дапаможа,
Дуда твая многа ўзможа,
Бо голас з господняй рады
Ад Грамады да Грамады
Па зямельцы паляціць,
Увесь народ развесяліць...

А вось пачатак вершаванага запісу жыхара Вільні, вядомага рэвалюцыйнага дзеяча, сябра Савіча і Канарскага, Мамерта Рэнье:

Арцёмка дарагенькі,
Я цябе не забуду,
Дударэньку радненькі,
Дружочкам тваім буду.
На ад'ездным заспяваць
Для цябе хацеў бы я,
Да не цямлю, як зачаць,
Бо баліць душа мая.

Многія сябры высока ацэньваюць патрыятычную дзейнасць Вярыгі-Дарэўскага, яго імкненне згуртаваць усіх тых, хто ненавідзіць царызм. Нехта Ю. Гутковіч называе паэта «найлепшым з людзей» і дзякуе за тое, што не даў яму стаць рэнегатам. Нехта Паковіч

успамінае аб заўзятых дыскусіях: што важней — слова ці справа і як ад агульных слоў перайсці да канкрэтных дзеянняў. Вядомы ўжо А. Хадэцкі піша: «Ты, брат, імкнешся да лепшага, ...марыш аб шчасці народа».

Усё сказанае вышэй Дае падставу сцвярджаць, што «наддзвінскі дудар» быў шчырым дэмакратам. У сваёй грамадскай праграме ён пайшоў значна далей, чым яго папярэднікі і сучаснікі Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, У. Сыракомля, В. Каратынскі і В. Дунін-Марцінкевіч. Пераадольваючы груз шляхецкіх забабонаў і ілюзій польскага вызваленчага руху, Вярыга-Дарэўскі імкнуўся не толькі да звяржэння царызму, але і да сацыяльных пераўтварэнняў, да аграрнай рэвалюцыі, бо, як піша ў «Альбоме» А. Адынец, узбуджаў нянавісць да багатага панства. Творы Вярыгі-Дарэўскага, паўстанца 1863 года і катаржаніна, у многім кладуць пачатак новаму, рэвалюцыйна-дэмакратычнаму перыяду ў развіцці беларускай літаратуры.

## ЮЛЬЯН БАКШАНСКІ

Яшчэ большай рэвалюцыйнасцю вызначаліся погляды ўраджэнца Смаргоншчыны Юльяна Бакшанскага. Хаця яго публіцыстычныя творы напісаны на польскай мове, але тым не менш імя Бакшанскага таксама варта, каб мы яго памяталі, бо рэвалюцыйная дзейнасць нашага земляка — адна са слаўных старонак шматпакутнай беларускай гісторыі.

...8 красавіка 1847 года на імя смаргонскага войта Ключэўскага прынеслі загадкавае пісьмо. Войт ведаў, што такога почырку з буйнымі друкаванымі літарамі не было ні ў кога з яго непасрэдных начальнікаў. Сургучная пячатка на канверце таксама выклікала недаўменне, бо на ёй вензелем спляліся зусім незнаёмыя ініцыялы. Разарваўшы канверт, войт знайшоў у ім тры лісточкі тонкай паперы, спісаныя тым жа буйным почыркам. Але паколькі за ўсю сваю службу Кучэўскі не навучыўся чытаць нават друкаванае, ён тут жа панёс пісьмо валасному пісару.

А ў валасным праўленні якраз сабралася многа прыгонных сялян. Адзін прыйшоў прасіць, каб адтэрміналі падаткі, другі — каб зменшылі прыгон, трэці — каб паскардзіцца на самавольства пана, які здаў у рэкруты апошняга з хаты кармільца. Ды ці мала было крыўд у прыгонных беларускіх сялян... З нізкім паклонам саступілі мужыкі дарогу свайму войту, а той горда падышоў да пісара і ткнуў яму пад нос таямнічае пісьмо. Змест пісьма здаўся пісару настолькі

цікавы, што, не зважаючы на прысутнасць «непажаданых» асоб, ён пачаў чытаць яго ўголас:

«Да смаргонскіх сялян!

Нашы сяляне, або, як іх называюць, мужыкі, пачалі іграць вельмі важную ролю[1] ў сённяшнім свеце; прычыны таму наступныя: 1-я, здаўна ўсім вядома, што амаль усю сілу народа складае клас, які называюць мужыкамі; 2-я, апрацоўка зямлі, а адсюль і ўсе сродкі пракарміцца знаходзяцца ў руках мужыкоў; 3-я, уся ваенная сіла складаецца з тых жа мужыкоў; 4-я, вышэйшы клас, або шляхта, мае маральную сілу — гэта значыць, асвету або розум; гэтая шляхта, убачыўшы слабасць неадукаваных сялян, задумала праз свой розум заўладаць сялянамі і панаваць над імі; 5-я, калі шляхта захапіла пад сваё панаванне мужыкоў, яна пачала вельмі злоўжываць сваёй уладай — забылася, што яны такія ж самыя людзі, як і ўсе, забылася і пра тое, што гэты клас корміць шляхту і абараняе ад ворага; шляхта пачала абыходзіцца з мужыкамі горш, чым з жывёлай; гэтым яна давяла іх да таго, што яны пачалі задумвацца над сваім няшчасным становішчам, пачалі набірацца розуму, пазнаваць сваю вялікую сілу; 6-я, з усіх мужыкоў першымі зразумелі сваё слёзнае становішча сяляне, якія жывуць у Галіцыі, што знаходзіцца ў Аўстрыйскай дзяржаве, і ў мінулым 1846 годзе яны супольнымі сіламі выразалі сваіх паноў і аканомаў. Страшэнны гэта шлях, але вельмі карысны для сялян! Паны і аканомы пачалі іх баяцца і таму перасталі іх прыгнятаць. Праз боязь імператар зменшыў паншчыну на два дні ў тыдні, зменшыў падаткі і земскія павіннасці, усе пачалі мужыкоў шанаваць і паважаць, як людзей. У нас у Літве (так тады звалі і Беларусь.— А. М.) у многіх месцах мужыкі пачынаюць згаворвацца з салдатамі аб тым, што ім трэба раптоўна зрабіць супольнымі сіламі.

Вось чаму смаргонскія мужыкі і мяшчане павінны, дагаварыўшыся з сабой і з салдатамі, якія кватаруюцца ў іх, напасці на афіцэраў, аканомаў і паноў, выразаць іх і затым патрабаваць, каб усім далі поўную свабоду,— у супрацьлеглым выпадку страшыць агульнай разнёй. Дастаць грошы, каб купіць нажы, вельмі лёгка, а гэта такім чынам: пайсці да рускіх падрадчыкаў, быццам бы наняцца на будаўніцтва чыгунак; за грошы, выдадзеныя ў задатак, купіць нажы, а на работу не ісці. Усё гэта трэба рабіць вельмі патаемна.

Гэтую адозву трэба паказаць усім старшынам».

Змест пісьма маланкай разнёсся па Смаргоні, а затым па навакольных вёсках і бліжэйшых паветах. З валаснога праўлення адозву забраў паліцэйскі прыстаў Банькоўскі, які хацеў перадаць яе па інстанцыях. Але здарылася так, што на некалькі гадзін Банькоўскаму

прыйшлося адлучыцца з Дому, жонка ж дазволіла зняць копіі з таямнічай адозвы сваім знаёмым. Гэтыя копіі разышліся па наваколлю, выклікаючы жах сярод паноў і сялянскія хваляванні. Яшчэ не выкрыўшы аўтара адозвы, шэф TV акругі корпуса жандараў генерал. Буксгэўдан выказаў меркаванне, што пісаў яе чалавек, які добра ведае людзей, у чые рукі яна павінна была трапіць: «Усе гэтыя людзі надзелены такім характарам, што ні адзін з іх не мог захаваць у таямніцы змест адозвы; кожны з іх павінен быў разнесці па людзях гэты змест па сваёй непісьменнасці, неасцярожнасці і балбатлівасці».

20 красавіка акруговы начальнік дзяржаўных маёнткаў ужо даносіў віленскаму генерал-губернатару Мірковічу, што, пачуўшы пра адозву, на ўсёй Смаргоншчыне сяляне «збіраюцца натоўпамі, вядуць нарады і расказваюць адзін другому розныя неймаверныя рэчы...» Цікава, як трансфармаваўся змест адозвы ў свядомасці сялян. Прыгонная Міхаліна Адамкевіч сказала пры допыце, што адозва заклікала сялян, каб яны выразалі «паноў і афіцэраў». Юры Дурэйка, які быў у воласці пры чытанні адозвы, запомніў, што заклікала яна «зрабіць тое, што адбылося ў Аўстрыі, пайсці на чыгунку, купіць жалеза, зрабіць з яго нажы і ўсіх выразаць». У адным з маёнткаў трынаццацігадовая пакаёўка амаль слова ў слова паўтарыла сваёй пані тэкст крамольнай адозвы.

У канцы красавіка ўсіх мясцовых паноў агарнула трывога. Шляхціц Аляксандр Букаты, які пазнаёміўся з адозвай у кватэры Банькоўскага, паспешна вярнуўся ў свой маёнтак і прыняў меры, каб «адозва не трапіла ў народныя рукі». Калі ў доме пана Козела група яго суседзяў чытала копію, знятую з адозвы, гаспадар «асабіста закрыў усе дзверы, каб не чулі лакеі». Шляхціц Струміла з-пад Смаргоні хутчэй выехаў у Вільню, бо не быў перакананы, ці «прабыванне на вёсцы не пагражае небяспекай».

Неўзабаве ў Смаргонь асабіста выехаў генерал-губернатар Мірковіч і шэф жандараў Буксгэўдан. Была створана спецыяльная камісія па канфіскацыі ўсіх копій адозвы. У цэлым па Літве і Беларусі было выяўлена некалькі дзесяткаў копій, зробленых рознымі асобамі.

Па сургучнай пячатцы на канверце паліцыі ўдалося знайсці і аўтара таямнічай адозвы. Ім аказаўся дробны шляхціц Юльян Бакшанскі, чалавек з гераічнай біяграфіяй. Бацька яго меў невялікі маёнтак Тупалтшчына і адначасова працаваў аканомам у Смаргоні. Да паўстання 1831 года смаргонскі маёнтак належаў графу Пшэздзецкаму, а пасля быў канфіскаваны і перайшоў у рукі царскай дзяржавы. Становішча смаргонскіх прыгонных мала чым адрознівалася ад становішча ўсіх тагачасных сялян у Расійскай імперыі: яны ўвесь

час дабіваліся павелічэння надзелаў і змяншэння падаткаў. У 40-я гады прыгонных прымушалі працаваць, выклікаючы войска і паліцыю. Дзеля гэтага ў мястэчку заўсёды знаходзіўся батальён салдат. Каб навесці парадак, з Пецярбурга прыбылі чыноўнікі па спецыяльных даручэннях.

Усё гэта бачыў у дзяцінстве і юнацтве Юльян Бакшанскі. Яго сэрца напаўнялася спачуваннем да паднявольных сялян і нянавісцю да іх прыгнятальнікаў. Стаўшы ў 1838 годзе вучнем Віленскай гімназіі, ён чытаў забароненыя вершы, удзельнічаў у рабоце тайных згуртаванняў. У 1841 годзе пятнаццацігадовага юнака арыштавалі і саслалі ў Разань, дзе ён бясплатна працаваў у губернскім праўленні па 14 гадзін у суткі. Бакшанскага пазбавілі нават права: выходзіць за горад і перапісвацца са сваякамі. Аднойчы ён спрабаваў расказаць аб сваім становішчы губернатару, але той цынічна адказаў, што ...дазваляе закончыць жыццё самагубствам. Даведзены да адчаю, Бакшанскі спрабаваў застрэліцца. Калі пасля выхаду з бальніцы ён напісаў скаргу на імя цара, яго на год кінулі ў турму.

У пачатку 1846 года Бакшанскага адпусцілі на волю. Але папранейшаму ён быў гатовы да любога самаахвярнага кроку ў імя свайго народа. Пазней Бакшанскі прызнаўся пры допыце, што яго фантазію распальвалі «паўстанні ў Аўстрыі і ў Кракаве, а таксама арышты людзей за палітычныя справы — ва мне гарэла нянавісць да ўлады, і, будучы патрыётам, я шукаў выпадку, каб адпомсціць».

Як бачна са следчых матэрыялаў, адозва «Да смаргонскіх сялян» была толькі першапачатковым этапам запланаванага сялянскага паўстання. Са слоў Бакшанскага відаць, што ён спецыяльна заключыў дагавор з кампаніяй па будаўніцтву маскоўскай чыгункі, каб бесперашкодна раз'язджаць па Смаргоншчыне і Ашмяншчыне і такім чынам весці рэвалюцыйную агітацыю сярод беларускіх сялян. Паўстаўшы, яны павінны былі накіравацца ў Вільню і ўзяць горад.

Адозва «Да смаргонскіх сялян» дазваляе зрабіць вывад, што яе аўтар па сваіх перакананнях быў рэвалюцыйным дэмакратам. Бакшанскі пераконвае сялян, што яны з'яўляюцца асноўнай вытворчай сілай грамадства, што прыгоннае права, прыгнёт чалавека чалавекам трэба знішчыць, бо ўсе людзі маюць аднолькавае права на свабоду і шчасце. Аўтар апраўдвае класавую нянавісць сялян да паноў і кліча сялян расправіцца са сваімі прыгнятальнікамі ўзброеным шляхам. Для гэтага трэба аб'яднацца з салдатамі, якіх таксама прыгнятаюць афіцэры. Знамянальна, што, як і Сыракомля ў «Добрых весцях», Бакшанскі спасылаецца на нядаўнія падзеі ў Галіцыі, дзе польскія і ўкраінскія сяляне рашуча распраўляліся са сваімі класавымі ворагамі.

Але, адмаўляючы тагачасную рэчаіснасць, Бакшанскі не дае станоўчай праграмы, нічога не піша пра тое, якім павінен быць грамадскі лад пасля перамогі ўзброеных сялян.

Як сведчыць сучасны польскі гісторык Д. Файнгауз, апрача адозвы «Да смаргонскіх сялян», Бакшанскаму належыць таксама адозва да інтэлігенцыі, якую рэвалюцыянер збіраўся разаслаць ад імя тайнага Саюза сяброў чалавецтва. У гэтай адозве выразна гучаць патрыятычныя нацыянальна-вызваленчыя матывы. «Мы жывём у гістарычны час,— пісаў Бакшанскі.— Кожны дзень мы можам спадзявацца, што пачнуцца хваляванні ва ўсёй Еўропе, пачнецца вайна з агульным дэспатам. Кожны дзень мы можам спадзявацца смерці або доўгай і трывалай свабоды — для нас і нашых дзяцей».

Пасля паўторнага арышту Юльяна Бакшанскага быў зроблены стaранны вобыск у доме Бакшанскіх у Тупальшчыне. Пры вобыску жандары знайшлі дзённік пятнаццацігадовай сястры рэвалюцыянера, Анелі Бакшанскай. Кожны радок дзённіка «палаў незвычайнай нянавісцю да ўрада». Маладую патрыётку аддалі за гэта пад строгі паліцэйскі нагляд.

Які ж далейшы лёс смелага рэвалюцыянера? Улічваючы, што Бакшанскі абвінавачваўся ў антыўрадавай дзейнасці ўжо другі раз, віленскі ваенны суд прыгаварыў яго да бестэрміновай катаргі. Потым кара была зменшана да дванаццаці год катаргі. Адбываў яе Бакшанскі ў Забайкальскай акрузе. Пасля амністыі вярнуўся ў 1858 годзе на радзіму.

Як бачна з мемуараў ураджэнца Валожыншчыны Яўгена Кавалеўскага, выдадзеных у пачатку XX стагоддзя ў віленскай друкарні М. Кухты, у 1863 годзе Бакшанскі разам са Святолдычам арганізаваў асобны паўстанцкі атрад з 20-25 чалавек. Але ў вёсцы Свечкі паміж Маладзечна і Гарадком царскія войскі разбілі паўстанцаў з дапамогай мясцовых сялян. Побач з іншымі ў баі загінуў і Бакшанскі. Яго цела пахавалі ля мястэчка Краснае, у Плябаніі.

У біяграфіі Юльяна Бакшанскага ёсць нямала загадак, якія яшчэ трэба высветліць савецкім і польскім даследчыкам. Аднак ужо і цяпер ясна, што гэта быў заступнік за народную справу, сапраўдны рэвалюцыйны дэмакрат.

# НА КРЫЛЛЯХ НАРОДНАЙ ПЕСНІ

Да якога часу аднесці станаўленне беларускай нацыянальнай музыкі? Адказ на гэта пытанне адзіны: па-сапраўднаму яна пачала развівацца толькі пасля Кастрычніка. Але беларуская савецкая музыка ўзнікла не на голым месцы. Ужо былі даволі даўнія традыцыі. Ужо існавалі сотні запісаў і апрацовак беларускіх народных песень і танцаў, беларускія творы Грыневіча, Рагоўскага, Галкоўскага. У сваю чаргу ў іх таксама былі свае папярэднікі...

А між тым, калі чытаеш сёння працы некаторых даследчыкаў, узнікае ўражанне, нібы ў музычным жыцці Беларусі ў XIX стагоддзі быў суцэльны вакуум. Нібы тады мы не мелі сваіх кампазітараў і музыкантаў, сваіх імён, вартых памяці.

На самай справе ўсё выглядае інакш. Былі ў Беларусі кампазітары, пісаліся і выконваліся творы. На жаль, большасць з гэтых твораў загінула або яшчэ не знойдзена.

Амаль усе кампазітары, якія ў XIX стагоддзі нарадзіліся або жылі ў Беларусі, па гістарычнай традыцыі лічылі сябе палякамі. Але ўзраслі яны на беларускай глебе, натхняліся беларускай рэчаіснасцю, выкарыстоўвалі беларускія народныя мелодыі. І таму творы гэтых аўтараў стаяць ля вытокаў беларускай нацыянальнай музыкі.

Аб тым, што музычнае жыццё Беларусі было ў мінулым стагоддзі даволі інтэнсіўным, сведчаць наступныя звесткі, узятыя з розных даўніх крыніц.

Фларыян-Станіслаў Міладоўскі, кампазітар і піяніст (1819-1889). Нарадзіўся і доўгі час жыў у Мінску. Першапачатковую музычную адукацыю атрымаў ад бацькі. Потым вучыўся ў Мендэльсона ў Берліне. У 1861 годзе дырыжыраваў у Мінску сваёй аперэтай «Канкурэнты» (на словы Лапіцкага і Сыракомлі). Творы Міладоўскага друкаваліся ў самых розных гарадах Еўропы: у Вене — «Фартэпіянная саната для чатырох рук», у Парыжы — «Паланез для фартэпіяна», у Варшаве — тры «Мазуркі», у Вільні — два «Накцюрны». У Мінску, у друкарніВаліцкага, выдадзены «Паланез на чатыры рукі для Міхася і Іясі», урыўкі з «Канкурэнтаў» і зборнік «Польскія песні». Творчасць Міладоўскага высока цаніў Ф. Ліст, з якім ён быў знаёмы асабіста. Напярэдадні паўстання 1863 года кампазітар апынуўся ў Францыі, у выгнанні. Там і памёр.

Міхал Ельскі, брат беларускага пісьменніка Аляксандра Ельскага, кампазітар, скрыпач і літаратар. Нарадзіўся 8 кастрычніка 1831 года на Міншчыне, у Лядах. Музычную адукацыю атрымаў у мінскага

педагога і кампазітара Канстанціна Кржыжаноўскага. Пасля 1875 года асеў у сваім маёнтку Дудзічы ля Мінска. Выступаў з канцэртамі ў Кракаве і Франкфурце-на-Майне. Пісаў танцы і інструментальныя мініяцюры, якія ўбачылі свет у Кіеве ў 1852 годзе. У 1899 годзе выдаў у Мінску кнігу на польскай мове «Музычныя даследаванні». У часопісе «Эхо музычнэ» надрукаваў успаміны аб музычным жыцці ў Беларусі сярэдзіны мінулага стагоддзя. Запісваў ноты беларускіх народных песень і танцаў. Памёр у 1904 годзе.

Іяахім Глінскі, спявак, арганіст і кампазітар. Нарадзіўся ў 1853 годзе ў Будславе, памёр 16 сакавіка 1898 года. Удзельнік руска-турэцкай вайны 1877-1878 гадоў. Працаваў у Гродне арганістам. Пісаў музыку ка словы Міцкевіча, танцы і маршы. Пачаў оперу «Паята» па сюжэт з літоўска-беларускай гісторыі.

Канстанцін Горскі, скрыпач і кампазітар. Нарадзіўся 3 чэрвеня 1859 года ў Лідзе, памёр 31 мая 1924 года ў Познані. Вучань Рымскага-Корсакава і Концкага. Працаваў у Пензе, Саратаве, Тыфлісе. Аўтар оперы «Маргер» на словы У. Сыракомлі, выдадзенай у 1905 годзе ў Пецярбурзе.

Пра іншых кампазітараў звесткі яшчэ больш скупыя. Напрыклад, пра Пятра Карафу-Корбута вядома толькі, што ён жыў у Нясвіжы і Мінску, памёр каля 1840 года, іграў на 24 інструментах і выдаў дзесьці некалькі сваіх твораў. Пра Францішка Лапату — што жыў у Слуцку, быў піяністам і педагогам. Пра Якуба Ёдку — што ў 1880 годзе дырыжыраваў у Мінску выкананнем уласнага Марша. Пра Юзафа Шадурскага — што пісаў оперу «Тарас на Парнасе» (захавалася агністая «Лявоніха»). Пра Міхала Грушвіцкага — што жыў у Выганічах ля Ракава. Кампазітарамі, музыкантамі, спевакамі былі таксама вучань Шапэна вядомы мастак Напалеон Орда (1807-1883, жыў у Варацэвічах на Гродзеншчыне), мінскі кнігар Аляксандр Валіцкі, магілёўскі настаўнік Лявон Скрабэцкі, ураджэнец Мінска Уладзімеж Пухальскі (1848-1933) і іншыя.

У XIX стагоддзі з'явілася цікавасць да беларускіх народных песень. Іх словы і музыку запісвалі дзесяткі фалькларыстаў. У першую чаргу трэба назваць імёны М. Чарноўскай, І. Шыдлоўскага, Л. Галэмбёўскага, М. Нікіфароўскага, М. Федароўскага, Е. Раманава, П. Шэйна, У. Дабравольскага, Я. Карловіча, І. Насовіча, У. Вярыгі, Р. Зянкевіча. Напрыклад, Рамуальд Зянкевіч у 1851 годзе выдаў «Простанародныя песенькі пінскага народа» ў арыгінале і перакладзе на польскую мову. Збіральнік цікавіўся не толькі словамі, але і музыкай народных песень. У каментарыях да польскага вершаванага зборніка Зянкевіча «Рыфмаваныя спробы» (Вільня, 1856) гаворыцца:

«Геркулянум Крэмпскі — па прафесіі музыка. Сярод іншых твораў пісаў прыгожыя і поўныя характэрнага духу паланезы. Даючы ў Луніне (ля Пінска.— А. М.) урокі музыкі, вольныя хвіліны ён прысвячаў упрыгожванню мясцовага парку. Любіў таксама літаратуру і часам пісаў дасціпныя вершыкі. Наш пан Геркулянум, поўны здольнасці, пакінуў ужо гэты свет у пачатку мая 1854 года, амаль на васьмідзесятым годзе свайго жыцця.

Успамінаючы тут пра яго, я павінен падзякаваць яму за запісванне нот, паводле народнага голасу, да майго зборніка песень пінскага народа, які выйшаў у Коўне ў 1851 годзе. Гэтыя ноты яшчэ не надрукаваны і чакаюць зручнага выпадку».

На жаль, такі выпадак не здарыўся. Неўзабаве Р. Зянкевіч аслеп і памёр, а ноты, спісаныя рукой Г. Крэмпскага, дзесьці загінулі.

Цікава, што ў XIX стагоддзі беларускія народныя песні былі вельмі папулярны не толькі ў сялянскім, але і шляхецкім асяроддзі. Напрыклад, іх любіла спяваць нявеста А. Міцкевіча Марыля Верашчака («Да цераз мой двор»). Яны гучалі на маёўках філаматаў і філарэтаў. Б. Ліманоўскі прыводзіць словы віцебскага мемуарыста Максіміліяна Маркса аб тым, што ў доме апошняга беларускія народныя песні часта спявала ў фартэпіянным суправаджэнні будучая нацыянальная гераіня польскага народа Эмілія Плятэр. Беларускі мелас быў добра вядомы такім выдатным польскім кампазітарам XIX стагоддзя, як Фрэдэрык Шапэн і Мечыслаў Карловіч. Першы з іх, як сцвярджае ў артыкуле «Збіральнікі жэмчугу» У. Дубоўка, выкарыстаў беларускую народную песню «Вясёла бяседачка» ў пачатку сваёй «Вялікай фантазіі»; другі абапіраўся на беларускія мелодыі, добра вядомыя з дзяцінства, у сімфанічных творах «Тры векавыя песні» і «Літоўская рапсодыя».

Творы беларускіх кампазітараў XIX стагоддзя выконваліся як сваімі, так і прыезджымі музыкантамі. Канцэрты ладзіліся не толькі ў губернскіх і павятовых гарадах, але і ў маленькіх мястэчках. Амаль у кожным буйным маёнтку была свая капэла. Так, граф Рудольф Тызензауз меў у Жалудку музычны квартэт. Адзін з яго ўдзельнікаў, нехта Карчміт, іграў на скрыпцы славутага майстра Страдыварыуса.

Беларуская зямля ў XIX стагоддзі была багата юнымі музычнымі талентамі. Адным з такіх «вундэркіндаў» з'яўлялася Багуміла Юзафовіч. Як паведамлялася ў «Незабудцы» Я. Баршчэўскага, здольная музыкантка нарадзілася ў Гродне ў 1828 годзе. У сем год Юзафовіч выступала ў Вільні разам са скрыпачом Рэутам. У 1837 годзе на канцэрце ў Гродне іграла варыяцыі Радэ, а чатыры гады пазней выступала ажно ў Пецярбурзе. Часта лёс юных талентаў канчаўся

трагічна. У трынаццаць год, пасля свайго першага канцэрта ў Вільні, памерла ад сухотаў дачка мінскага фартэпіяннага майстра, здольная скрыпачка з абсалютным слыхам, Бэці Крыгер. Не ад добрага жыцця пакончыў самагубствам скрыпач з Навагрудчыны Кароль Стравінскі. Пасля паўстання 1831 года яму пагражала ссылка ў Сібір або здача ў салдаты.

Самымі значнымі фігурамі ў музычным жыцці тагачаснай Беларусі былі Міхал Агінскі, Станіслаў Манюшка і Антон Абрамовіч. Па-рознаму яны ставіліся да беларускага народнага меласу, па-рознаму яго выкарыстоўвалі. Жывучы ў Беларусі, Міхал Агінскі тым не менш заставаўся выключна польскім кампазітарам. Але ён ужо праяўляў цікавасць да беларускай песні (мінскі мастацтвазнаўца Л. Фёдараў сцвярджае, што водгукі беларускіх жніўных песень чуваць у вядомым паланезе «Развітанне з радзімай»). Яшчэ больш цікавіўся беларускімі мелодыямі Станіслаў Манюшка. Яны выкарыстаны ў многіх яго песнях, оперных арыях і інструментальных творах. Урэшце Антон Абрамовіч ужо свядома лічыў сябе беларускім кампазітарам. Некаторыя яго інструментальныя і вакальныя творы цалкам заснаваны на беларускім матэрыяле.

## МІХАЛ КЛЕАФАС АГІНСКІ

...Аднойчы, год дзесяць назад, выпадковасць прывяла мяне на невялікую чыгуначную станцыю Залессе, якая знаходзіцца паміж Маладзечна і Смаргонню. Цягнік пазніўся — і пасажыры стоўпіліся вакол танклявага юнака з рэдкім тады яшчэ партатыўным радыёпрыёмнікам у руках. Перадавалі канцэрт па заяўках, а ў ім — абавязковыя частушкі, «Падмаскоўныя вечары»... І раптам загучаў элегічны паланез Агінскага. Бадай, усе прысутныя да драбніц ведалі гэту празрыстую лірычную мелодыю, у якой зліваецца ў адно непаўторнае цэлае і горыч паражэння, і сум расставання з усім, што бясконца блізкае і роднае, і адначасова — фанфарны заклік, «пабудка» ісці ўперад, да перамогі. Творы сапраўднага мастацтва — а паланез «Развітанне з радзімай» адносіцца да іх — не старэюць таму, што кожная сустрэча з імі адкрывае нешта новае, сугучнае нашым думкам і пачуццям... Вось чаму ўсе пасажыры, якія былі на пероне, студэнты і чыгуначнікі, служачыя і калгаснікі, слухалі, бы зачараваныя і прывароржаныя да месца.

Скончыўся канцэрт. Адышоў кудысьці юнак — а ўсе маўчалі.

Першы парушыў цішыню пажылы ваенны.

— Кажуць,— уздыхнуў ён,— гэты самы Агінскі застрэліўся. Закахаўся без узаемнасці ў арыстакратку — і пакончыў жыццё самагубствам. Каля яго трупа знайшлі шматок паперы, спісаны нотамі...

— А я чуў,— перапыніў ваеннага сусед пенсіённага ўзросту,— што за рэвалюцыйную дзейнасць цар загадаў пасадзіць Агінскага ў казамат. У ноч перад расстрэлам вязень развярэдзіў сабе палец і ўласнай крывёю напісаў на сцяне паланез. Таму і называецца ён «Развітанне з радзімай»...

У гутарку ўмешваліся ўсё новыя і новыя людзі, пачаліся спрэчкі. Хтосьці з жанчын успомніў радыёперадачу, у якой расказвалася пра тое, што ў час паўстання 1794 года Агінскі безнадзейна закахаўся ў панну Ядвігу, якая памагла яму ўцячы за граніцу, выратаваўшы ад расправы царскіх улад. Нехта прыгадаў, што на поўдні Беларусі ёсць канал, які носіць імя Агінскага. І ніхто з прысутных не звяртаў увагі на старога калгасніка, які ўвесь час імкнуўся нешта сказаць. Толькі тады, калі падышоў цягнік і ўсе кінуліся да вагонаў, ён звярнуўся да мяне:

— Людзі кажуць, што калісьці ў Залессі жыў пан па прозвішчу Агінскі. Добры, справядлівы быў чалавек. Любіў ён слухаць вясковых музыкаў. Вунь той парк, тыя прысады, што цягнуцца да Віліі,— усё гэта сляды ягонай бытнасці.

У цягніку я доўга думаў над словамі старога. Перад гэтым мне прыйшлося працаваць у адным з вільнюскіх архіваў. Там у рукі трапіўся пажоўклы дакумент, пад якім стаяў подпіс: «Міхал Клеафас Агінскі». І дата: «14 мая 1820 года, Залессе». Міжвольна ўзнікла думка, а што, калі гэта — адзін і той жа Агінскі і адно і тое ж Залессе?!

Усхваляваны, я вярнуўся дамоў і пачаў гартаць старонкі энцыклапедый, кнігу Ігара Бэлзы «Гісторыя польскай музычнай культуры». Там былі партрэты Агінскага. Са старонак кніг дапытлівым, праніклівым позіркам глядзеў на мяне чалавек з вытанчанымі рысамі твару, у модным тады парыку.

З энцыклапедый і даследаванняў Ігара Бэлзы я даведаўся, што Міхал Клеафас Агінскі нарадзіўся 25 верасня 1765 года ў маёнтку Гузава (непадалёку ад Варшавы). Яго бацька паходзіў са старадаўняга роду, пачатак якому паклаў, атрымаўшы маёнтак Агінты, беларускі шляхціц Дзмітрый Глушонак. Дзяцінства будучага кампазітара праходзіла пераважна ў Слоніме, у доме дзядзькі, вялікага літоўскага гетмана Міхала Агінскага, па ініцыятыве якога, дарэчы, і быў пракапаны вядомы канал. У той час Слонім з'яўляўся буйным культурным цэнтрам. З прыгонных сялян гетман арганізаваў сімфанічны аркестр і тэатральную трупу, якая ставіла драмы, оперы і балеты. Будучага

кампазітара ў Слоніме вучыў музыцы лепшы тагачасны выкладчык Казлоўскі. Пад яго кіраўніцтвам Агінскі напісаў некалькі фартэпіянных п'ес. Юнак пачаў марыць пра тое, каб стаць кампазітарам.

Аднак цяжкі для краіны час запатрабаваў ад Агінскага іншага. Падзеі прымусілі яго стаць дыпламатам, дзяржаўным дзеячам. У 25 год юнака накіроўваюць з важным даручэннем спачатку ў Галандыю, а потым у Англію. Неўзабаве ён ужо быў паслом. Даведаўшыся пра раздзел Польшчы, Агінскі вярнуўся на радзіму, прыняў удзел у паўстанні 1794 года пад кіраўніцтвам Касцюшкі. Пасля паражэння паўстання адважнаму патрыёту прыйшлося эмігрыраваць за граніцу. І толькі тады, калі на рускі трон уступіў Аляксандр І, кампазітару дазволілі вярнуцца на радзіму і нават увялі яго ў склад царскага сената, выбралі ганаровым членам Віленскага універсітэта. За сваё доўгае і бурнае жыццё Агінскі напісаў каля 60 вакальных і фартэпіянных твораў (з іх — каля 20 паланезаў). Цікавіўся ён і літаратурай: пісаў памфлеты, пераклаў з рускай мовы на французскую некалькі п'ес.

Аднак ні энцыклапедыі, ні кніга Бэлзы не давалі адказу на тыя пытанні, якія найбольш мяне хвалявалі. Ці меў Агінскі якое-небудзь дачыненне да Залесся? Дзе быў напісаны славуты паланез «Развітанне з радзімай»? Пачаліся пошукі. І вось у бібліятэцы Вільнюскага універсітэта ўдалося натрапіць на дзённік Агінскага, у якім расказвалася аб падзеях з 1788 да 1815 года. Упершыню гэты дзённік быў выдадзены ў 1827 годзе на французскай мове ў Парыжы. Затым у пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя яго пераклалі на польскую мову і выдалі невялікім тыражом у Познані.

У першым томе дзённіка Агінскі падрабязна расказвае аб сваім удзеле ў паўстанні 1794 года. Вестка аб паўстанні застала кампазітара ў Навагрудку. Агінскі адразу ж сабраў 40 тысяч дукатаў і рашыў падацца з імі ў Прусію, каб там за іх набыць зброю. Адначасова ён адправіў у Варшаву пісьмо сваёй жонцы, каб яна таксама прыехала ў Прусію. Аднак на граніцы кампазітара затрымалі і прымусілі вярнуцца ў Вільню. Такім чынам, аказваецца беспадстаўнай версія аб тым, што ў час паўстання юны Агінскі безнадзейна закахаўся ў панну Ядвігу і тая быццам бы дапамагла яму ўцячы за граніцу. Па-першае, у 1794 годзе Агінскі быў ужо жанаты на Ізабеле Лясоцкай. Па-другое, у дні паўстання Агінскаму так і не ўдалося перабрацца праз граніцу.

Трэба адзначыць, што Агінскі быў буйным магнатам. Толькі ў Беларусі яму належалі дзесяткі маёнткаў, у тым ліку Ракаў, Іўе, Бялынічы, Гаўя. Але, як адукаваны і перадавы чалавек свайго часу, Агінскі адразу ж зразумеў усё значэнне касцюшкаўскага паўстання і

стаў адным з важакоў гэтага народнага руху, накіраванага супраць царскага самадзяржаўя, ён заявіў Нацыянальнаму савету, што «прыносіць у дар радзіме сваю маёмасць, працу і жыццё». У Вільні ён зблізіўся з прадстаўніком Касцюшкі Ясінскім, за свае грошы ўзброіў атрад у 480 чалавек і па патрабаванню гараджан узначаліў яго. Тады ж Агінскі выступіў перад жыхарамі Вільні з палымянай прамовай, якая заканчвалася словамі: «Няхай жыве свабода, няхай жыве радзіма, няхай загінуць здраднікі!»

Цікавай для нас з'яўляецца акалічнасць, што атрад Агінскага дзейнічаў пераважна на тэрыторыі Беларусі. Першае хрышчэнне ён прыняў у баях каля Сол і Ашмян. Адсюль Агінскі хацеў падацца да Мінска. У сваіх мемуарах ён піша: «Калі б мне ўдалося бесперашкодна дабрацца туды, я наважыўся б глыбей уварвацца на Белую Русь, каб там узняць на паўстанне 12 тысяч сялян, якія знаходзіліся ва ўладаннях маёй сям'і, і даць ім свабоду».

Свае намеры Агінскі ажыццявіў толькі часткова. Разам з атрадам, абыходзячы варожыя групоўкі Цыцянава і Кнорынга, ён рушыў праз Вішнева на Валожын. Узяўшы амаль без бою гарадок, паўстанцы знайшлі там багатыя трафеі і тут жа раздалі іх мясцоваму насельніцтву. З Валожына Агінскі накіраваўся ў Івянец. Але там паўстанцы даведаліся, што Мінск добра ўмацаваны, і рашылі павярнуць назад. Сяляне, якія якраз з'ехаліся ў Івянец на святочны кірмаш, далі Агінскаму фурманкі для абозаў.

І вось атрад пачаў адступаць у напрамку да сяла Бакшта. Дарога была вельмі забалочана, перагароджана заваламі з дрэў. Каля вёскі Сакаўшчына ззаду раптам пачулася галёканне казакоў. Паўстанцаў акружалі царскія войскі. Каб спыніць пагоню, Агінскі загадаў спаліць мост цераз Заходнюю Бярэзіну, аднак казакі фарсіравалі раку ўброд і дагналі паўстанцаў ля Вішнева. Як успамінае ў сваіх мемуарах Агінскі, варожая куля прабіла яму ў баі капялюш. Загінуў бы і сам Агінскі, але яго выратаваў афіцэр Паўловіч, які ў крытычную хвіліну стрымаў за цуглі ашалелага каня свайго камандзіра. Пасля жорсткай сутычкі кудысьці зніклі каса паўстанцаў і асабістыя паперы кампазітара. Але асноўныя сілы атрада былі ўсё ж выратаваны. З-пад Вішнева Агінскі адступіў у Ашмяны, дзе злучыўся з асноўнай арміяй Ясінскага.

Затым Агінскі стаў камандавац усімі літоўска-беларускімі паўстанцкімі войскамі. Як спецыяльны кур'ер ён ездзіў у Варшаву да нацыянальнага польскага героя Тадэвуша Касцюшкі. Размова двух патрыётаў была выключна сардэчнай. Вярнуўшыся ў Літву, Агінскі ўзначаліў некалькі паходаў да берагоў Дзвіны, на Браслаўшчыну. За

яго галаву царскія ўлады ўстанавілі вялікую ўзнагароду. І калі паўстанне пацярпела паражэнне, Агінскі мусіў пакінуць радзіму. Разам з корпусам Дамброўскага ён перайшоў прускую граніцу, а затым з чужым пашпартам на імя Міхайлоўскага дабраўся да Вены. Пачалося васьмігадовае блуканне па чужыне: Парыж, Венецыя, Канстанцінопаль, Бухарэст, Ясы... Царскія ўлады наклалі руку на маёнткі Агінскага.

Вядомым кампазітарам Агінскі стаў яшчэ да паўстання 1794 года. Яго паланез фа-мажор, які мае таксама назву «Падзел Польшчы», з'явіўся цэлай падзеяй у гісторыі польскай музыкі. Яго ігралі ў Варшаве і Пецярбурзе. Варта заўважыць, што да гэтага паланез быў толькі бытавым танцам. Агінскі ж надаў яму жанравую завершанасць, увёў чаргаванне дзвюх тэм — мінорнай і мажорнай. У 1794 годзе ў творчасці кампазітара ўзнікаюць новыя, рэвалюцыйныя матывы. Ён піша паўстанцкія песні і маршы. У сваёй кнізе Ігар Бэлза выказвае здагадку, што Агінскаму належыць таксама вядомая «Мазурка Дамброўскага», якая пачынаецца са слоў «Яшчэ Польшча не загінула». Гэтая здагадка пацвярджаецца тымі радкамі мемуараў Агінскага, дзе ён успамінае, што пісаў маршы для легіянераў Дамброўскага і адзін з іх іграў у 1797 годзе для Напалеона. Потым, калі кампазітар вярнуўся ў царскую Расію, у яго былі ўсе падставы не прызнаваць аўтарства гэтага твора.

Як ужо гаварылася, Агінскі здолеў вярнуцца на радзіму толькі пасля таго, як на рускі трон уступіў Аляксандр І. 5 лютага 1802 года кампазітар прыехаў у Пецярбург. Агінскаму вярнулі ўсе маёнткі, якія, праўда, былі ў вялікіх даўгах. І тут на дапамогу прыйшоў састарэлы маладзечанскі граф Францішак Ксаверы Агінскі. Ён падараваў свайму пляменніку яшчэ адзін маёнтак - Залессе. У трэцім томе сваіх успамінаў аўтар элегічнага паланеза ўдакладніў, дзе знаходзілася тое Залессе: у 14 мілях ад Вільні, па дарозе на Мінск, непадалёку ад Маладзечна. Значыць, не памыляўся стары калгаснік, які казаў, што Залессе калісьці належала Агінскаму...

Калі не лічыць паездак у Пецярбург, Вільню і за граніцу, Агінскі пражыў у Залессі каля 20 год. Аднак у мемуарах аб іх гаворыцца вельмі і вельмі скупа. Не сказана нават, дзе быў напісаны паланез «Развітанне з радзімай». І гэта зразумела. Агінскі глядзеў на сваё захапленне музыкай як на дапаўненне да грамадскай дзейнасці і таму пра сваю кампазітарскую творчасць амаль нічога не пісаў.

Дзе ж тады знайсці матэрыялы пра залескі перыяд жыцця Агінскага? Пачаліся новыя пошукі, але яны доўгі час не давалі вынікаў. Давялося зрабіць запытанне ў Нацыянальную бібліятэку ў

Варшаву. Неўзабаве адтуль прыйшоў адказ, што гэты перыяд асветлены ў другім томе манаграфіі Часлава Янкоўскага «Ашмянскі павет».

З даследавання Янкоўскага, які ў многім ішоў услед за кнігай Я. Тышкевіча «Вілія і яе берагі», відаць, што, стаўшы гаспадаром Залесся, Агінскі ператварыў яго ў буйны культурны цэнтр. На музычна-літаратурныя вечары сюды з'язджалася дваранская інтэлігенцыя амаль з усёй Беларусі і Літвы. На гэтых вечарах Агінскі звычайна іграў на першай скрыпцы, іспанец Эскундэра — на другой. Віяланчэль браў у рукі былы настаўнік — кампазітар Казлоўскі. Кожны з гасцей знаходзіў занятак па ўласнаму густу. Хто любіў музыку — той слухаў выступленне струннага квартэта або арыі з опер у выкананні італьянскага спевака Паліяні. Хто любіў жывапіс — той разглядаў карціны або альбомы. Аматары палітыкі акружалі спецыяльнага фельд'егера, які курсіраваў паміж Залессем і Пецярбургам, дастаўляючы свежыя навіны. Слава пра Залессе разносілася далёка навокал, і неўзабаве яго сталі называць «паўночнымі Афінамі». Польскі паэт Л. Ходзька напісаў у 1821 годзе паэму «Залессе», у якой праславіў прыгажосць навакольных мясцін і таленавітасць гаспадара. У князёў Агінскіх, успамінае мемуарыстка Г. Пузына, «былі тры прыгожыя дачкі, перапоўнены ж настаўніцамі і чужаземнымі гувернёрамі вясёлы і ажыўлены дом ператвараў цудоўнае Залессе ў зямны рай».

Агінскі карэнным чынам змяніў выгляд Залесся. Побач са старым палацам быў збудаваны новы. Яго ўзвялі па праекту прафесара архітэктуры Міхала Шульца пад кіраўніцтвам віленскага губернскага архітэктара Іосіфа Пусэ. Побач са старым французскім паркам садоўнікі заклалі новы, англійскі. Крыху далей размяшчаліся батанічны сад, звярынец, аранжарэя. Усе дарогі, якія вялі ў Залессе, былі абсаджаны дрэвамі. Паабапал віднеліся маляўнічыя альтанкі і капліцы, пабудаваныя ў антычным стылі. У парку Агінскі загадаў устанавіць помнік свайму быламу гувернёру Жану Ралею, а таксама камень у гонар свайго аднадумца Касцюшкі. Аднак гэты камень не звязаны з сустрэчай Агінскага і Касцюшкі, якая, калі верыць аднаму з артыкулаў у беларускім друку, адбылася ў Залессі. На самай справе Касцюшка тут ніколі не быў. Ён назаўсёды пакінуў славянскія землі ў 1796 годзе, Агінскі ж атрымаў Залессе толькі ў 1802 годзе.

Свой дзень Агінскі праводзіў прыкладна так. З раніцы праглядаў газеты, чытаў мастацкую літаратуру, у тым ліку і рускую, дыктаваў сакратару памфлеты і мемуары. Потым звычайна ішоў на шпацыр у бок Віліі. Часта заглядваў у вёскі, пад сялянскія стрэхі, і слухаў там народныя песні. Вярнуўшыся дамоў, пісаў музыку. І нічога дзіўнага, што ў творах, напісаных па класічных канонах, часам пачынала

гучаць беларуская народная мелодыя. Юзаф Казлоўскі, які доўгі час выкладаў у Пецярбурзе, пазнаёміў Агінскага са скарбамі рускага меласу. Пад уплывам свайго былога настаўніка Агінскі апрацаваў некалькі рускіх і ўкраінскіх народных песень. Як сведчыць Ч. Янкоўскі, менавіта ў Залессі напісана большасць паланезаў Агінскага, у тым ліку — вядомы ўсім нам ля-мінорны («Развітанне з радзімай»). Сённяшняму слухачу Агінскі вядомы пераважна па адным гэтым творы, адным з многіх, якія ўвайшлі ў два віленскія зборнікі 1817 года, выдадзеныя ў карысць дабрачыннага таварыства.

Агінскаму робіць гонар тое, што ён разабраўся ў сутнасці падзей 1812 года. Нягледзячы на ранейшую дружбу з Напалеонам, у дні Айчыннай вайны кампазітар рашуча стаў на бок рускага народа. Па дарозе з Залесся ў Мінск Агінскі запісаў у дзённіку, што Напалеону ніколі не пакарыць Расію, бо ён не ведае яе «патаемных сіл», не ўлічвае «фатальнай любві маскоўскага народа да сваёй радзімы». Напалеон не мог дараваць Агінскаму такога ўчынку. У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР мне ўдалося выявіць успаміны Леанарда Ходзькі, асабістага сакратара кампазітара. У іх прыводзіцца такі факт. Пры адступленні, у ноч з 2 на 3 снежня 1812 года, Напалеон спыніўся нанач у маладзечанскім замку, дзе тады дажываў свой век дзядзька Агінскага, і пачаў папракаць старога за тое, што яго пляменнік аказаўся «здраднікам», перайшоў на бок рускіх. На гэта стары слушна заўважыў, што французы прыйшлі і цяпер уцякаюць, народ жа застаецца, застаецца Расія, і таму Міхал Клеафас, Агінскі паступіў правільна, як патрыёт, калі ў цяжкую для славянскіх зямель часіну прымкнуў да рускіх сяброў. Раззлаваны імператар ляпнуў дзвярамі, але нічога не пасмеў зрабіць хвораму субяседніку. Вярнуўшыся ў свой пакой, Напалеон дзве гадзіны паліў паперы, а затым заснуў на канапе. Князь Каленкур, які сцярог сон імператара, узяў вугаль і напісаў на каміне па-французску: «Напалеон I». Трэба ж было здарыцца, што праз суткі ў тым жа пакоі і на той жа канапе адпачываў Кутузаў. Убачыўшы надпіс на каміне, ён дабавіў: «et dernier» — «і апошні».

Вядома, як прадстаўнік свайго часу і свайго класа, як сенатар царскага сената, Агінскі часта памыляўся. Ён спачатку пераацэньваў ролю Напалеона, а потым Аляксандра I. Але ў рашаючыя хвіліны ён быў з народам, з рускімі сябрамі. Аб радыкалізме Агінскага сведчыць той факт, што ён часта заступаўся за прыгонных беларускіх сялян. Так, 18 студзеня 1812 года ён накіраваў Аляксандру I спецыяльнае пасланне, у якім звяртаў увагу, што пасля засухі сяляне галадаюць, што ім няма чым сеяць. Такое ж пасланне было адпраўлена ў наступ-

ным годзе. У ім выказваецца прапанова, каб для сялян, якіх аграбілі французы, зменшылі падаткі. У сваіх мемуарах Агінскі пісаў: «Агульная беднасць народа ў Літве (г. зн. у Беларусі.— А. М.) выклікала ў мяне пачуццё жалю».

Беларускую зямлю Агінскі пакінуў назаўсёды ў 1822 годзе. У сувязі з гэтым трэба прызнаць фантазіяй сцвярджэнне, якое нядаўна прамільгнула ў беларускім друку, нібы ў Залессі жыве сучаснік Агінскага, нехта Дудка. У дзяцінстве ён быццам бы іграў на скрыпачцы самому кампазітару, той пахваліў яго, пагладзіў па галоўцы, а вось цяпер яго сын пайшоў у першы клас музычнай школы і хараша іграе на баяне гэты самы паланез... Узнікае пытанне: колькі ж год павінна быць таму калгасніку?! Гэта, так сказаць, з галіны кур'ёзаў. Дарэчы, розных кур'ёзаў было поўна і ў жыцці кампазітара. Адзін з выдадзеных за граніцай паланезаў суправаджаўся гравюрай, на якой аўтар... страляў сабе ў скронь. У лонданскіх газетах паведамлялася, што Агінскі загінуў, перапраўляючыся з сям'ёй праз Ла-Манш. Кампазітар весела смяяўся над такімі легендамі, але яны, на жаль, датрывалі да нашага часу.

На самай справе Агінскі, вядома, не канчаў жыцця самагубствам. Ён пражыў за граніцай яшчэ 11 год і памёр 15 кастрычніка 1833 года ў італьянскім горадзе Фларэнцыя, дзе і пахаваны. Другая жонка Агінскага, Марыя дэ Неры — з першай ён развёўся ў 1802 годзе — засталася з дзецьмі ў Залессі. Старадаўні маёнтак паволі прыходзіў у запусценне. Урэшце ў час першай сусветнай вайны ад палаца засталіся адны напаўразбураныя сцены.

У Беларусі ўжо зроблены першыя крокі па ўшанаванню памяці Агінскага. Яго іменем названы смаргонскі ансамбль песні і танца, які з поспехам выступаў на радзіме кампазітара — у народнай Польшчы. Славутаму кампазітару прысвяцілі вершы беларускія паэты А. Лойка і М. Купрэеў. А чароўны паланез Агінскага «Развітанне з радзімай», які часта выконваецца ў канцэртах, стаў адным з самых любімых твораў беларускіх аматараў музыкі.

## СТАНІСЛАЎ МАНЮШКА

У другой палове верасня 1841 года ў Мінск прыехаў новы генерал-губернатар Мірковіч. Урачыстасці працягваліся пяць дзён. Быў арганізаваны канцэрт, у якім на дзіва зладжана выступіў гарадскі хор і аркестр пад кіраўніцтвам Вінцука Стафановіча. 23 і 24 верасня аматары паказалі два спектаклі. Выконваліся аднаактовыя

п'есы на рускай мове — «Замкі на льду» і «Так, але інакш»; у заключэнне ішла польская камічная опера «Рэкруцкі набор».

Прозвішчы аўтараў «Рэкруцкага набору» яшчэ амаль нічога не гаварылі прысутным. Словы напісаў нікому не вядомы Вінцук Марцінкевіч, а музыку ў садружнасці з мінскім настаўнікам і скрыпачом Канстанцінам Кржыжаноўскім — Станіслаў Манюшка. Праўда, пра Манюшку ўжо крыху ведалі. Ведалі яго бацьку, Часлава Манюшку, заслужанага асветніка, які сядзеў у партэры тэатра. Чулі, што гэты аматар мастацтваў пасылаў свайго сына, Стася, вучыцца ажно ў Берлін, да славутага прафесара Рунхенгагена, што Стась выдаў там зборнік песень, а цяпер «сачыняе» недзе ў Вільні музыку. Хаця апошняе якраз і не ўкладвалася ў галовах мінскай арыстакратыі (навошта шляхціцу, ды яшчэ з даволі багатай сям'і, такая няпэўная прафесія?!), аднак слухалі оперу ўважліва. І не толькі таму, што дужа смешны сюжэт быў — пра тое, як палахлівага сына Гогама Бенатана хацелі ўзяць у рэкруты, як будучы рэкрут пераапрануўся ў адзенне сваёй сястры, а сястра ўцякла з дому з нейкім салдатам. І не толькі таму, што вельмі добра ігралі выканаўцы галоўных роляў — той жа Марцінкевіч, Мядынскі, Расадоўскі, Валатоўская. Усіх заінтрыгавала, што оперу напісалі мясцовыя аўтары, што іх можна пабачыць, паапладзіраваць ім. І апладысментаў не шкадавалі, быццам прадчуваючы, што адзін з іх, Станіслаў Манюшка, стане гордасцю польскай нацыянальнай музыкі, а другі, Вінцук Дунін-Марцінкевіч,— адным з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

Опера «Рэкруцкі набор» была адным з першых твораў дваццацідвухгадовага кампазітара і першай спробай пяра значна старэйшага за яго паэта. Праз некалькі дзён, у 41 нумары, газета «Минские губернские ведомости» добразычліва ацаніла і музыку, і ігру самадзейных акцёраў, адзначыўшы, што «найзабаўней іграў сам аўтар — Марцінкевіч». Тут жа быў пераказаны змест оперы. Але сама опера — і партытура, і лібрэта — пасля недзе загінула. Ці то аўтары не надалі ёй сур'ёзнага значэння, ці то цэнзары пахавалі яе ў сваіх сталах... Дарэчы, такі лёс напаткаў не толькі «Рэкруцкі набор». У садружнасці з Дуніным-Марцінкевічам Манюшка напісаў аперэты «Спаборніцтва музыкаў», «Цудоўная вада», урэшце, «Сялянку» (так у Беларусі па традыцыі перакладаюць польскую назву твора «Ідылія»), Але, за выключэннем «Сялянкі», тэкст якой Дунін-Марцінкевіч выдаў у Вільні ў 1846 годзе, да сённяшніх дзён гэтыя аперэты не дайшлі. Лічылася, што ўсе яны знаходзяцца дзесьці ў Варшаве, у паперах Манюшкі...

І вось нядаўна, у час паездкі ў братнюю Польшчу, мне ўдалося знайсці два музычныя ўрыўкі з першых беларускіх аперэт, або камічных опер, як іх называлі тады,— «Рэкруцкага набору» і «Сялянкі».

...У Варшаве, на Закрачымекай вуліцы, стаіць старадаўні будынак. Гэта сядзіба Музычнага таварыства імя Станіслава Манюшкі. Тут, у бібліятэцы, захоўваюцца рукапісы кампазітара, яго пісьмы. Супрацоўнік бібліятэкі Анджэй Спуз прыняў мяне ветліва, але адразу ж расчараваў: не, манюшкаўскіх аперэт на словы Дуніна-Марцінкевіча ў бібліятэцы няма. Ёсць толькі адна арыя з «Рэкруцкага набору» — яе можна да заўтрашняга дня адшукаць. Невядома таксама, дзе знаходзяцца пісьмы Дуніна-Марцінкевіча да Манюшкі. Але можа што-небудзь ведае прафесар Вітальд Рудзінскі, аўтар некалькіх манаграфій пра Манюшку?

Званю на кватэру да прафесара Рудзінскага. Але ён таксама нічога не чуў пра пісьмы Дуніна-Марцінкевіча. Партытуры аперэт (а з імі і тэксты), падказвае прафесар, трэба шукаць у Ленінградзе, сярод нотнай калекцыі вядомага збіральніка графа Юсупава. Польскі гісторык А. Мілер пісаў калісьці, што туды трапілі раннія творы Манюшкі. Адначасова варта пашукаць і сярод рукапісаў Аляксандра Валіцкага ў Нацыянальнай бібліятэцы...

Назаўтра спяшаюся на плошчу Красінскіх, у рукапісны аддзел Нацыянальнай бібліятэкі. Адкрываю шэрыя папкі з паперамі Аляксандра Валіцкага. Вось яго аўтабіяграфічная аповесць «Густаў», дзе выказаны сімпатыі да беларускіх сялян. Вось віншаванні яго дачцэ, Савіцкай-Валіцкай, той самай, у кнігарні якой атрымліваў сваю пошту Янка Лучына. І ўрэшце — знаходка: ліст пажаўцелай нотнай паперы, спісанай дробным машошкаўскім почыркам. Цяжка стрымаць радасць: гэта ж арыя камісара з камічнай оперы «Сялянка»! У арыі адчуваецца пераклічка з беларускімі народнымі песнямі!..

А крыху пазней ветлівыя супрацоўнікі таварыства імя Манюшкі ўручылі мне абяцаную арыю з «Рэкруцкага набору». Нарэшце, думалася мне, я пазнаёмлюся з першым творам Дуніна-Марцінкевіча. Пазнаёмлюся з невядомым дагэтуль тэкстам камічнай оперы, якая першы і апошні раз выконвалася ў Мінску больш стагоддзя таму назад. Праўда, пакуль што тэксту гэтага — усяго два чатырохрадкоўі:

Час зусім нечакана
Знішчыў шчасны мой лёс,
Па радзіме каханай
Я праліў многа слёз.
Пазірае мне ў вочы
Гора чорнаю хмарай,

Плачу ўдзень я і ўночы
Над разбітаю марай...

*(Пераклад І. Ралько.)*

Чытаючы гэтыя радкі, я міжвольна падумаў, што яны ў многім стасуюцца і да аўтараў аперэты, людзей нялёгкага лёсу, чыё жыццё было прысвечана айчыне, беларускай зямлі. Мы па праву можам ганарыцца не толькі першым беларускім прафесіянальным паэтам Дуніным-Марцінкевічам, але і аўтарам музыкі да яго твораў. Вядома, творчая спадчына Станіслава Манюшкі належыць усім славянскім народам, усяму чалавецтву. Аднак асабліва блізкая яна палякам і беларусам. У сваіх творах Манюшка выразіў нацыянальны дух польскага народа. У гісторыі польскай музыкі ён заняў такое ж месца, як Глінка — у рускай, Сметана — у чэшскай. Адначасова з гэтым нам радасна, што Манюшка нарадзіўся на беларускай зямлі, чэрпаў натхненне з беларускага фальклору, апрацоўваў беларускія народныя песні. І таму музычная спадчына выдатнага кампазітара ўваходзіць у скарбніцу і беларускага народа.

Сям'я Манюшкаў мае вялікія заслугі ў культурным развіцці Беларусі. Адсюль выйшлі многія вучоныя-асветнікі. Адзін дзядзька кампазітара, Дамінік, арганізаваў у Смілавічах, ля Мінска, бясплатную школу для местачковай беднаты, вучыў там дзяцей рамяству, аддаў прыгонным сваю зямлю, увёў незалежны суд з удзелам сялян. Царскія ўлады скоса глядзелі на такія пачынанні і неўзабаве закрылі і школу, і суд. І Другі дзядзька, Казімір, закончыўшы Віленскі універсітэт, займаўся батанікай, выводзіў новыя гатункі раслін, чым звярнуў на сябе ўвагу прафесара Андрэя Снядэцкага, які прыязджаў да яго ў Смілавічы. Трэці, Юзаф, любіў па святах ставіць у гумне аматарскія спектаклі. Пасля іх вясковая моладзь танцавала «Лявоніху» ці «Мяцеліцу». Бацька кампазітара таксама быў перадавым чалавекам свайго часу — даволі здольным мастаком і паэтам. Непадалёку ад Мінска, ля Смілавіч, ён атрымаў у спадчыну фальварак Убель. 5 мая 1819 года тут, у сціплым драўляным доміку ля ціхай рэчкі Волма, нарадзіўся хлопчык, якому праз некалькі дзён на сямейнай урачыстасці далі імя Станіслаў-Ян-Эдвард-Казімір.

Дзяцінства будучага кампазітара прайшло на ўлонні беларускай прыроды, сярод беларускіх сялян. Вечарамі хлопчык хадзіў у вёску і прагна слухаў песні, якія спявалі, вяртаючыся з поля, дзяўчаты. Гэтыя мелодыі, вядома, адрозніваліся ад тых, якія іграла на фартэпіяна маці, Альжбета Манюшка. Былі прасцей і будзённей. Але хлопчыка вабіла іх своеасаблівая гармонія, задушэўнасць. Стась хутка запамінаў

сялянскія песні, і яны, як піша польскі музыказнаўца Уладзіслаў Фабры, сталі тым зернем, з якога пазней вырасла «Галька».

А якая радасць ахоплівала Стася, калі бацькі, едучы на некалькі дзён у Смілавічы, у госці да дзядзькі, бралі яго. з сабой! Дзядзька жыў у палацы, які раней належаў Міхалу Агінскаму. Хлопчыка асабліва вабіў старадаўні гадзіннік. Казалі, што гэты гадзіннік, заведзены невядомай рукой, у поўнач адзвоньвае дзівосную мелодыю. Стасю вельмі хацелася пачуць яе. Аднойчы, калі ўсе заснулі, ён устаў з ложка, крадком прабраўся да гадзінніка і сціх у чаканні. І раптам Стасю здалося, што пакой напаўняецца таямнічымі гукамі. У начной цішы чуўся сярэбраны бой. Аднекуль разам з месячным святлом плыў казачны перазвон курантаў. Той самы перазвон, які многа год пазней загучаў у паланезе з трэцяга акта оперы «Страшны двор»...

Хлопчык рос. Каб даць яму адукацыю, з верасня 1830 года Манюшкі пасяліліся ў Мінску — спачатку ў драўляным доме Клімавіча на рагу вуліц Валоцкай і Дамініканскай, а потым у камяніцы Паляковай на Высокім рынку. Стась паступіў у мясцовую гімназію, стаў вучыцца музыцы ў Дамініка Стафановіча, брата вядомага ўжо нам дырыжора тэатральнага аркестра. У доме на Высокім рынку збіралася мінская інтэлігенцыя. Прыходзіў стары музыкант і масон Пётр Карафа-Корбут. Наведваліся мастакі Валянцін Ваньковіч і Ян Дамель. Асяроддзе, у якім фарміраваўся талент Манюшкі, было багатым культурнымі традыцыямі. Аднак востра адчуваўся прыгнёт рэакцыі. Пасля паражэння лістападаўскага паўстання 1831 года бацьку будучага кампазітара звольнілі са службы. «На некалькі наступных год ціхі домік Манюшкаў у Мінску пакрыла цень лістападаўскай ночы»,— піша ў сваёй манаграфіі прафесар Рудзінскі. Вясной 1835 года Стась быў вымушаны пакінуць гімназію. Вучыцца прыйшлося спачатку ў суседняй Вільні, затым у Берліне.

Закончыўшы ў 1840 годзе вучобу, Манюшка вярнуўся ў Вільню і ажаніўся з Аляксандрай Мюлер. Малады кампазітар зарабляў сабе на хлеб прыватнымі ўрокамі, а па нядзелях іграў у касцёле святога Яна на вялікім аргане, перавезеным сюды з Полацка. Выкраіўшы ж свабодную хвіліну, браўся за пяро і пісаў аперэты, кантаты, рамансы. Адну з аперэт, «Латарэю», у 1843 годзе з поспехам паставіла ў Мінску вандроўная трупа немца Шмідткопфа. Яна прывезла сюды для прэм'еры таксама чатырохактовую драму Анісе «Каспер Хаўзер». Музыку да драмы напісаў Манюшка. 16 лістапада 1843 года кампазітар паведамляў сям'і, што «Латарэя» мінчанам спадабалася. Варта адзначыць, што ў 1843 годзе ў Мінску Станіслаў Манюшка выдаў два сшыткі эцюдаў для фартэпіяна.

У пачатку 40-х гадоў завязалася дружба Манюшкі з Дунінным-Марцінкевічам. У выніку на свет з'явіліся чатыры названыя ўжо камічныя оперы. У 1843 годзе Манюшка пісаў жонцы пра адну з іх, «Цудоўную саду»: «...Першы акт ужо цалкам гатовы, а і другі, амаль увесь у чарнавіку, засталося толькі інструментаваць». Найбольшым поспехам, акрамя «Рэкруцкага набору», карысталася двухактовая «Сялянка», у якой сяляне гаварылі па-беларуску, а паны — па-польску. «Сялянка», відаць, была напісана ў 1844 годзе. Ва ўсякім выпадку, 23 мая 1844 года Альжбета Манюшка паведамляла жонцы кампазітара: «Марцінкевіч мяркуе ехаць сам і забраць (у Мінск.— А. М.) Стася — і яго цяжка пераканаць у іншым, бо ён абавязкова хоча паставіць сваю оперу на сёлетнім з'ездзе шляхты».

Аднак па невядомых нам прычынах першая пастаноўка «Сялянкі» адбылася толькі 9 лютага 1852 года. Сябры Дуніна-Марцінкевіча з энтузіязмам дапамагалі яму: Адам Шэмеш намаляваў дэкарацыі, у губернскай друкарні надрукавалі афішы. Для ўдзелу ў оперы пісьменнік прывёз сялянскі хор са свайго маентка Люцынка, а сам выступіў у ролі войта Навума. У дзень спектакля тэатральная зала ў доме Паляка, які, па сведчанню Руліхоўскага, згарэў у 1889 годзе, была перапоўнена. Са сцэны гучала музыка, заснаваная на беларускіх народных мелодыях. У оперы гаворка ішла не толькі пра каханне Юліі да паніча Лятальскага, не толькі высмейваліся касмапаліты, якія адракаліся ад роднай зямлі. Вуснамі Навума Прыгаворкі і іншых сялян паэт скардзіўся на цяжкі прыгнёт. Вось чаму опера не спадабалася ўладам і была забаронена. Праўда, яе ўсё ж удалося паставіць у Бабруйску, Віцебску, Нясвіжы, Слуцку і, здаецца, нават у Глуску.

Жывучы ў Вільні, Манюшка часта прыязджаў у Мінск, каб пагасцяваць у свайго беларускага сябра, пабачыць бацьку і сваякоў, якія к таму часу жылі ў Радкаўшчыне, ля Смілавіч. Па дарозе кампазітар любіў спыняцца ля вясковай карчмы і слухаць, як спяваюць беларускія сяляне, глядзець, як яны весяляцца. Аўгуст Іванскі, вучань Манюшкі, успамінае, што ў ліпені 1855 года ён паехаў са сваім настаўнікам у Мінск. «Затрымаліся мы,— піша Іванскі,— у .мястэчку Смаргонь. Я сядзеў на брычцы. Раптам Манюшка паклікаў мяне ў карчму, каб я — першы раз у жыцці — пабачыў беларускі танец, які зваўся «Мяцеліцай»... У карчмах і на плытах, плывучы па Віліі і Нёману, Манюшка знаёміўся з народнымі легендамі і песнямі, якія затым надавалі афарбоўку яго творам».

Часамі фальклорныя матэрыялы перасылаў кампазітару яго бацька. Так, у пісьме ад 26 лютага 1850 года знаходзім апісанне

беларускага народнага танца «Мяцеліца» і песню, якой ён суправаджаўся,— «Сем дзён малаціла, шух, шах зарабіла...»

Заваяваўшы ўсеагульнае прызнанне, Манюшка па-ранейшаму сябраваў з Дуніным-Марцінкевічам. У 1855 годзе кампазітар адправіў з Мінска пісьмо вядомаму варшаўскаму крытыку Ю. Сікорскаму, рэкамендуючы яго ўвазе мінскіх кнігавыдаўцоў братоў Бейліных. Унізе ёсць і прыпіска Дуніна-Марцінкевіча: «Прысутнічаючы пры пісанні гэтага ліста, я хадайнічаю за маіх пратэктараў, г. зн. выдаўцоў маёй пісаніны. Бо я на старасць стаў песняром беларускага народа».

Асабліва памятным быў для Манюшкі прыезд у Мінск у кастрычніку 1856 года, калі тут праводзіліся шляхецкія выбары. На ўрачыстым вечары Дунін-Марцінкевіч прывітаў дарагога госця наступнымі радкамі:

А трэці дудар меж намі ўзрос, ён нам братка.
Яму Мінская зямелька родненькая матка!..
Трэці дудар як загудзе песенькі радненькі,
Бяды дый гора забудзеш, станеш весяленькі!
А так думкі прыуныўны соладка спявае,
Што за сэрца, баш кляшчамі, дзетачкі, хватае!

Адам Плуг, які прысутнічаў на вечары і пераклаў працытаваны вышэй «Верш Навума Прыгаворкі» на польскую мову, пад старасць, у 1896 годзе, падрабязна апісаў гэту сустрэчу ў артыкуле «Манюшка ў Мінску». Артыкул варты таго, каб працытаваць з яго некалькі абзацаў.

«Старыя гэта часы!— успамінае Плуг.— Бясспрэчна, сярод сённяшняга пакалення мала знойдзецца такіх, якія штосьці ведаюць пра Марцінкевіча. І таму варта яму прысвяціць тут некалькі слоў.

У тую эпоху ён быў вельмі дзейсны на пісьменніцкай ніве, выдаючы пад псеўданімам Навум Прыгаворка розныя вершаваныя і празаічныя творы на беларускай гаворцы («Сялянка», «Вечарніцы», «Гапон», «Цікавішся?— Прачытай!», «Дудар»); раней жа заваяваў папулярнасць, даючы канцэрты са сваімі вундэркіндамі, сыпам і дачкой. У 1856 годзе ён стала жыў у Мінску, дзе яго дачка Каміла, гэты ранейшы вундэркінд, была вельмі здольнай піяністкай і лепшай настаўніцай.

На ўрачысты банкет, апрача Манюшкі і Концкага, былі запрошаны з мастацка-літаратурнага асяроддзя: аўтар «Нашых песень» доктар Адам Пянкевіч, які выдаў выбраныя вершы польскіх пісьменнікаў...; аўтар вядомага ў свой час «Новага гістарычнага метаду» Антон Язвінскі; мастак, вучань Рустэма, Адам Шэмеш; карэспандэнт варшаўскіх газет, белетрыст Юльян Гарайн; Адам Герман, Трэстэр, піяніст і кампазітар; удзельнік мастацкага падарожжа Концкага і яго

акампаніятар Людвік Навіцкі і, урэшце, малады скрыпач, вучань Концкага, Уладзіслаў Барташэвіч.

Натуральна, што, апрача артыстаў і літаратараў, прысутнічалі таксама многія з мінчан, як мужчыны, так і жанчыны. Ушанаванне ж заключалася ў тым, што гаспадар, які выступіў у суправаджэнні трох дзяўчат, прыбраных па-вясковаму, з вянкамі і букетамі ў руках, выказаў павагу да Манюшкі і Концкага вершам, напісаным на беларускай гаворцы. Верш пачынаўся ад слоў, якія вельмі дакладна трапілі ў тон народнай песні».

Затым дзяўчаты ўсклалі Манюшку і Концкаму на галовы вянкі, уручылі ім букеты. Пянкевіч ушанаваў кожнага з гасцей уласным вершам. Гутарка зацягнулася да поўначы. Усе з захапленнем слухалі Манюшку, які расказваў пра сваю оперу «Галька» і нават сыграў некалькі ўрыўкаў.

...Тую ролю, якую Манюшка адыграў у развіцці польскай музыкі, без перабольшання можна параўнаць з роллю Міцкевіча ў польскай паэзіі. Абодва яны змагаліся за народнасць мастацтва, абодва яны патрабавалі, каб яно было праўдзівым, выражала вялікія нацыянальна-вызваленчыя ідэі, абодва звярталіся да фальклорных багаццяў беларускага народа. Да Манюшкі выконваліся пераважна творы заходніх кампазітараў. Французскія песні гучалі ў маёнтках. Італьянскія оперы ставіліся ў тэатрах. Усё айчыннае было ў пагардзе і занядбанні. Праўда, мазуркі і паланезы Шапэна ўжо іграла ўся Еўропа. Ужо спрабавалі стварыць нацыянальны рэпертуар Эльснер, Стэфані, Курпіньскі. Аднак справіцца з гэтай задачай змог толькі Манюшка, ён браў у народа фальклорныя скарбы і вяртаў іх народу ў апрацаваным выглядзе. Вось характэрны прыклад. Аднойчы Манюшка звярнуўся да Яна Чачота з просьбай прыслаць вершаваныя тэксты. 22 снежня 1844 года Чачот накіраваў у адказ свае пераклады беларускіх народных песень. Некаторыя з іх кампазітар помніў яшчэ з дзяцінства, і таму музыка пісалася хутка і лёгка. У выніку з'явіўся цыкл «Песні прынёманскіх вёсак», уключаны затым па частках у вядомыя «Хатнія спеўнікі». Сярод дзевятнаццаці твораў на запісы Чачота асабліва вызначаюцца «Кум і кума», «Папрадуха». Апрацоўваючы беларускую народную мелодыю, Манюшка дабіўся ў «Папрадусе» незвычайнай вобразнасці. Слухаеш акампанемент — і, здаецца, чуеш, як у сялянскай хаце вуркоча калаўрот, бачыш, як папрадуха выцягвае з кудзелі доўгую-доўгую нітку...

Аднак самым каштоўным творчым здабыткам Манюшкі з'яўляюцца яго оперы. Сярод іх найбольшую папулярнасць заваявала «Галька», лібрэта да якой напісаў дваццацідвухгадовы варшаўскі паэт

Уладзімеж Вольскі. 1 студзеня 1848 года оперу выканалі віленскія аматары. Хутка кампазітар паслаў партытуру ў Варшаву. Але «Галька» не спадабалася цэнзуры: хаця сацыяльны канфлікт у оперы быў падменены маральным, асабістым канфліктам ашуканай горскай дзяўчыны Галькі і паніча,— у творы адкрыта гучаў пратэст супраць прыгнёту. На пыльных паліцах варшаўскай тэатральнай бібліятэкі опера праляжала доўгіх дзесяць год.

Услед за «Галькай» Манюшка прыступіў да стварэння сваёй агульнавядомай «Байкі». Гэта быў невялікі сімфанічны твор, названы аўтарам «фантастычнай уверцюрай». У развіцці польскага сімфанізму «Байка» мела такое ж значэнне, як глінкаўская «Камарынская» ў развіцці рускага. Уверцюра вызначаецца глыбокай народнасцю, нацыянальнай самабытнасцю. Па свайму стылю яна падобна да «гавэнды», гутаркі, вельмі пашыранай у той час у польскай і беларускай літаратурах. Здаецца, быццам апавядальнік рассаджвае слухачоў, настройвае іх на ўзнёслы лад — і пачынае дзіўную казку пра даўно мінулыя дні.

Урэшце настала выпеставаная ў марах часіна. У першы вечар новага 1858 года варшаўскі оперны тэатр быў перапоўнены. Заняты ўсе крэслы ў партэры, трашчыць галёрка. Публіку прывабіла польскае імя на афішах. Не французскае, не італьянскае, а польскае — «Галька». Пасля уверцюры загрымелі апладысменты. Усе разумелі: нараджаецца свая, нацыянальная, опера. Яна ўжо існуе, жыве. Яна адпавядае таму нацыянальна-патрыятычнаму ўздыму, які панаваў у Польшчы напярэдадні паўстання 1863 года... Назаўтра «Гальку» паўтарылі. А там пайшоў трэці, пяты, дваццаты спектакль. Каля 1860 года оперу паставілі ў Гродне. Пра Манюшку загаварылі. Стаўшы дырыжорам Вялікага тэатра ў Варшаве, кампазітар пісаў адну оперу за другой — «Плытагона», «Графіню», «Вербум нобіле», стварыў на тэкст міцкевічаўскіх «Дзядоў» кантату «Прывіды», прасякнутую духам беларускай народнай музыкі. І ўрэшце, 28 верасня 1865 года ў сценах Вялікага тэатра ўпершыню прагучаў «Страшны двор» — вяршыня купернай творчасці Манюшкі.

«Страшны двор» убачыў свет у цяжкі для Польшчы час. Толькі што падаўлена паўстанне 1863 года. Тысячы патрыётаў сасланы ў Сібір, павешаны, расстраляны. Краіна апранулася ў жалобу. І раптам — опера. Не змрочная, не трагічная, а лірычная, жартаўлівая. Пра тое, як два браты, Стэфан і Збігнеў, далі слова ніколі не жаніцца, каб цалкам аддаць сваё жыццё айчыне, а потым не стрымалі абяцанне і закахаліся ў дзвюх сясцёр — Ганну і Ядвігу. Ці не будзе гэта блюзнерствам? Ці не насмяяўся аўтар над пачуццямі сваіх суайчыннікаў?

Насцярожана сачылі слухачы за падзеямі ў першым акце. Але вось Стэфан пачаў сваю прачулую арыю, у якой аплакваў смерць роднай маці. І ўсе прысутныя зразумелі: герой аплаквае сваю шматпакутную маці-радзіму; кампазітар выказвае тое, што набалела на сэрцы ўсяго народа. Паміж залай і сцэнай устанавілася поўнае разуменне. Энтузіязм публікі ўзрастаў ад арыі да арыі, ад сцэны да сцэны. Урэшце раздаліся гукі мазуркі, вогненнай і велічнай. О не, не загінуў і ніколі не загіне народ, які здольны так танцаваць, які стварае такую музыку! Патрыятычны падтэкст «Страшнага двара» зразумелі не толькі слухачы. Царская цэнзура таксама зрабіла адпаведныя вывады і пасля другога спектакля забараніла оперу.

У канцы 50-х і пачатку 60-х гадоў, калі Манюшка ўжо жыў у Варшаве, ён па-ранейшаму амаль кожны год па дарозе ў Радкаўшчыну, дзе жыў яго бацька, наведваўся ў Мінск. У адну з паездак, у 1861 годзе, ён пабываў у Каралішчавічах, ля Мінска, і з захапленнем пісаў пра мясцовы арган, зроблены мінскім умельцам Бяляўскім. Мінчане часта ўспаміналі пра свайго земляка. Так, Аляксандр Валіцкі пісаў у 1858 годзе, што Манюшка і Міладоўскі «былі да гэтага ў Літве як дзве пальмы на вялізнай пустыні, пад ценем якіх магла знайсці прытулак музыка, бо навокал бясплодныя пяскі. Цяпер Манюшка пакінуў нас...»

У сваіх пісьмах кампазітар часта ўспамінаў пра Мінск, пра Дуніна-Марцінкевіча. Аднойчы ён паведамляў жонцы, што нейкі багаты «жартаўнік» рашыў адпомсціць пісьменніку за прайграны ў судзе працэс і, ад'язджаючы, заказаў «пахавальны звон за спакой душы Марцінкевіча, а ў касцёле купіў саван і пахавальныя падсвечнікі і ўсю гэту пакупку паслаў яму на дом. Пачынаюць званіць у званы — ты ведаеш, што мінскія званы не любяць жартаваць і што гарадскім разявам толькі таго і трэба! І вось кожны пытае: па кім звоняць? Жабракі адказваюць, што памёр... Марцінкевіч, які жыў за губернатарскім садам. Вестка хутка распаўсюджваецца па ўсім горадзе. І трэба ж было здарыцца такой бядзе, што сам Марцінкевіч сустрэў людзей, якія неслі саван і падсвечнікі, і спытаў іх: — Каму нясуць? — Марцінавічу.— Якому?..— Скандал, вэрхал, паліцыя шукае віноўніка свавольства. Па ўсім горадзе шукаюць жартаўніка, а яго даўно і след прастыў». «Такія анекдоцікі,— іранізуе Манюшка,— уносяць разнастайнасць у жыццё гарадскога мяшчанства. Яны і цікавыя, і карысныя. Напэўна, Жулкоўскі (вядомы польскі камедыйны акцёр.— А. М.) быў родам з гэтага горада. А што датычыцца Вальтэра, то няма чаго і сумнявацца, што ён мінчанін. Не ведаю, чаму Мальер лічыў сябе

французам, калі ў Мінску ледзь не паказваюць вуліцу, дзе ён нарадзіўся...»

Працаваць пад цэнзурным прыгнётам рабілася ўсё цяжэй і цяжэй. Апошнія оперы, «Парый» і «Бэата», адарваныя ад славянскай глебы, не прынеслі задавальнення. Знясілены штодзённымі матэрыяльнымі клопатамі, засмучаны атрыманай з Міншчыны весткай аб смерці бацькі, усхваляваны непаразуменнямі з дырэктарам кансерваторыі Концкім, Манюшка захварэў. 4 чэрвеня 1872 года, вяртаючыся з горада, ён упаў на лесвіцы свайго дома — адмовіла сэрца.

Сонечным чэрвеньскім днём Варшава праводзіла стваральніка польскай нацыянальнай оперы ў апошні шлях. Ад Кракаўскага прадмесця да Павонзкаўскіх могілак пахавальны картэж суправаджала восемдзесят, а то і сто тысяч варшавян. За трунoй ішлі артысты і рамеснікі, вучоныя і сяляне, пісьменнікі і рабочыя — увесь цвет польскай нацыі. Перад будынкам опернага тэатра, у якім убачылі свет амаль усе творы нябожчыка, працэсія спынілася. На ўзвышэнні заняў месца сімфанічны аркестр. Дырыжор узмахнуў палачкай — і загучала манюшкаўская музыка да «Галькі». Заплакалі скрыпкі над лёсам простай сялянскай дзяўчыны, якая стала ахвярай разбэшчанага паніча і скончыла жыццё самагубствам. Але ў музыцы чуўся не толькі боль за народнае гора. Як праменьчык святла скрозь начную цемру, праз тугу і трывогу прабівалася вера ў сілы народа. Вера ў тое, што ён мае права на шчасце і здабудзе яго.

Прагучала уверцюра — і картэж крануўся далей, на могілкі. І вось ужо аб драўлянае века труны глуха застукалі грудкі зямлі, узвіўся ўвысь жалобны рэквіем. Над магілай узрастала гара пышных вянкоў. А побач невядомая рука паклала сціплы букет першых васількоў. Відаць, іх прывезлі здалёку, бо кветкі прывялі. На чорнай стужцы — надпіс: «Станіславу Манюшку, сыну беларускай зямлі. Сіратой плача яна над гэтай труною». «Памёр геній, які заваёўваў розум і сэрцы»,— пісаў у жалобным некралогу Вінцэсь Каратынскі.

Манюшка памёр са спакойным сумленнем чалавека, які аддаў сябе высакароднай справе. Ён стварыў многа— 7 опер, 5 аперэт, 3 балеты, безліч інструментальных і вакальных твораў, апрацаваў 6 паланезаў Агінскага. Напісаў чатыры творы на словы Дуніна-Марцінкевіча і тым самым, па сутнасці, паклаў пачатак беларускай оперы. Ды мог стварыць больш. Засталіся недапісанымі оперы, нязд зейсненымі задумы. Смерць перапыніла жыццё кампазітара ў росквіце сіл. Не стала вялікага мастака, вялікага патрыёта. Аднак засталіся жыць яго творы. З кожным годам яны заваёўвалі ўсё большае кола слухачоў, прыносілі радасць усё новым і новым пакаленням.

Асаблівую папулярнасць заваявала музыка Манюшкі ў Расіі. Яго «Галька» ставілася ў Пецярбурзе, Маскве, Кіеве. У ролі Стольніка ў ёй дэбютаваў як оперны спявак Фёдар Шаляпін. Ведаюць Манюшку і ў Савецкай Беларусі. На беларускую мову лібрэта «Галькі» пераклаў Янка Купала. Оперу рыхтавалі да пастаноўкі ў Мінску яшчэ ў 1919 годзе.

У дні Другога сусветнага кангрэсу прыхільнікаў міру ў Варшаве польскія сябры падарылі Ларысе Пампееўне Александроўскай партытуру оперы «Страшны двор». Неўзабаве гэты твор ў перакладзе М. Танка загучаў на беларускай мове са сцэны нашага опернага тэатра. На радзіме кампазітара ўстаноўлены абеліск, на якім на польскай і беларускай мовах высечана: «Тут, у фальварку Убель, 5 мая 1819 года нарадзіўся вялікі польскі кампазітар Станіслаў Манюшка». І ноты — некалькі тактаў арыі Ёнтэка з оперы «Галька». Вучні мясцовай Валмянскай школы стварылі ў сябе куток Манюшкі. Беларусь, якая нарадзіла і ўзгадавала вялікага кампазітара, цяпер ведае яго творчасць і па праву можа, як і польскі народ, лічыць яго адным з лепшых сваіх сыноў.

З 4 па 12 мая 1969 года ў БССР з поспехам прайшоў музычны фестываль, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння Манюшкі. Ушанаваць памяць нашага земляка ў Мінск прыехалі польскія кампазітары і выканаўцы.

...Вярнуўшыся з Польшчы, я працягваў пошукі манюшкаўскіх аперэт на словы Дуніна-Марцінкевіча. У Ленінградзе, у публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына, захавалася калекцыя князя Юсупава, аб якой прыгадваў прафесар Рудзінскі. Але ў картатэцы — амаль адны італьянскія творы. Бачна, князь пагарджаў усім славянскім... І тады з'явілася думка: а можа аперэты так і засталіся на Міншчыне? Ва ўсякім выпадку, пошукі трэба працягваць. І не ў адзіночку, а аб'яднанымі сіламі літаратараў, гісторыкаў, музыказнаўцаў, краязнаўцаў. Карпатлівая праца можа акупіцца знаходкамі. Аб гэтым сведчыць хаця б тое, што, як паведаміў нядаўна Мар'ян Фукс, польскі даследчык Уладзімеж Пожняк адшукаў у Вільні партытуру «Рэкруцкага набору». Трэба спадзявацца, што ў творчасці нашага выдатнага земляка будзе адкрыта яшчэ не адна новая старонка.

## АНТОН АБРАМОВІЧ

Цікавасць да беларускага народнага меласу, якая нарадзілася ў самым пачатку XIX стагоддзя, асабліва ўзмацнілася ў 40-я гады, калі выйшлі зборнікі Я. Чачота і «Беларусь» А. Рыпінскага (Парыж, 1840). Даследчыкі аднагалосна прызнавалі, што беларускія народныя песні

маюць высокую мастацкую вартасць. «У іх натуральных тонах,— пісаў Рыпінскі,— ёсць нейкая невыказная прывабнасць, чароўная сіла, якая ўзнімае сэрцы і захапляе, здзіўляе самой нават прастатой». Аўтар «Беларусі» прасіў кампазітара А. Савінскага, каб той запісваў па памяці беларускія песні і папулярызаваў іх у Парыжы, асабліва сярод эмігрантаў.

Ахвотна збіралі беларускія песні таксама аўтары, якія групаваліся вакол пецярбургскага гуртка Я. Баршчэўскага і польскага часопіса «Рубон». На старонках «Рубона» апублікавалі свае запісы і заўвагі аб беларускай народнай паэзіі Вінцук Рэут і Ігнат Храпавіцкі. Цікавіўся беларускім фальклорам польскі альманах «Рочнік літэрацкі» Р. Падбярэскага. У першым яго томе змешчаны чатыры беларускія песні, пакладзеныя на музыку або апрацаваныя Антонам Абрамовічам,— дзве народныя «Зязюлька» і «Дуда») і дзве на словы Я. Баршчэўскага («Гарэліца» і «Дзеванька»). Да трэцяга тома альманаха прыкладзены інструментальны твор таго ж Абрамовіча — музычная паэма для фартэпіяна «Беларускае вяселле».

Хто ж такі Антон Абрамовіч? Біяграфічныя звесткі аб ім амаль не захаваліся. «Слоўнік старажытных і сучасных польскіх музыкаў» (Парыж, 1874) абмяжоўваецца толькі адным агульным радком: «Кампазітар і піяніст, жыў у Пецярбурзе». У першым томе «Слоўніка польскіх музыкаў», выдадзеным у Варшаве ў 1964 годзе, таксама не ўказаны ні гады жыцця Абрамовіча, ні месца яго нараджэння (ёсць ускосныя звесткі, што кампазітар паходзіў з Варнян цяперашняга Астравецкага раёна, іншыя ж крыніцы глуха намякаюць на Віцебшчыну).

Крыху святла на жыццё і творчасць аднаго з першых беларускіх кампазітараў пралівае артыкул Р(амуальда) П(адбярэскага) «П. Антон Абрамовіч, музыка», апублікаваны ў трэцім томе альманаха «Рочнік літэрацкі». Тут жа ёсць і партрэт кампазітара: прывабны адкрыты твар, летуценны позірк, модныя тады бакенбарды...

Антон Абрамовіч, піша Р. Падбярэскі, «прабывае ў Пецярбурзе ўжо больш дзесяці год; ён вядомы публіцы сваімі музычнымі кампазіцыямі, а многім сем'ям — пільнай і грунтоўнай методыкай выкладання фартэпіяннай ігры». Сваю практыку педагог збіраўся абагульніць у падручніку «Школа для фартэпіяна». 10 сакавіка 1846 года пецярбургская публіка цёпла прыняла канцэртнае выкананне кампазіцыі Абрамовіча на тэму рускай народнай песні «Ты не паверыш, як мне ты люба».

Гаворачы аб «Беларускім вяселлі» і песнях на словы Баршчэўскага, Падбярэскі зазначае, што яны ўзніклі ў выніку зацікаўленасці

«музыкай роднай старонкі». Абрамовіч «рашыў сабраць матывы народных песень і зрабіць з іх нешта цэласнае, накшталт музычнай паэмы». Праўда, працягвае Падбярэскі, «народныя мелодыі яшчэ выклікаюць двухсэнсавую ўсмешку салоннага дылетанта, прызвычаенага да італьянскіх арый». Але сапраўдная музыка павінна быць народнай: «Хіба «Вольны стралок» не патыхае паэзіяй дзікіх брэтанскіх лясоў? Хіба не гучаць у «Вільгельме Тэлю» свабодалюбівыя песні швейцарскіх гор?»

«Зусім натуральна,— піша ў заключэнне Падбярэскі,— што геній цэлага народа можа стварыць куды больш мелодый, чым геній паасобнага чалавека». Сапраўдным творцам, натхнёным музыкай з'яўляецца просты беларускі селянін. «І таму клапатлівае збіранне народных матываў з'яўляецца найвялікшай заслугай нашага кампазітара, з'яўляецца менавіта тым бокам яго дзейнасці, да якога (з радасцю для нас) павінны быць накіраваны ўсе яго намаганні, бо менавіта тут знаходзіцца шлях, які запэўніць яму выключную славу і ганаровае месца паміж кампазітарамі».

Музычная паэма «Беларускае вяселле» цалкам заснавана на беларускіх народных мелодыях. Яна складаецца з васьмі частак. Ва «Уступе» чуваць ціхія гукі дуды. Яны ўзмацняюцца, набліжаюцца, нібы прадвяшчаючы прыезд сватоў. Вось ужо тупочуць конскія капыты, грукочуць колы, бомкаюць званочкі пад дугой... Пачынаецца «Сватанне». Свае лірычныя пачуцці выказваюць Князь і Княгіня. Няўпэўненая ў сваім лёсе, горка плача, галосіць маладая. Яна склікае сяброўак на «Дзявочы вечар». Раздаецца чуллівая песня, якой нявеста развітваецца з бацькоўскім домам. Наступныя часткі — «Прыезд у царкву», велічальны «Хор у царкве», «Блаславленне». Завяршаецца паэма бестурботна вясёлай «Кругавой». Усе ідуць у скокі. Усе радуюцца шчасцю маладых.

Некалькі інструментальных твораў Абрамовіча — «Фантазія для фартэпіяна», вальсы, мазуркі — уключаны ў «Музычны альбом», выдадзены Луцыяй Рыпінскай у Пецярбурзе ў 1852 годзе. Друкаваўся кампазітар і ў віленскім альманаху «Памяntнік Навукова-Літэрацкі».

Але, пэўна, гэта — толькі частка з напісанага здольным кампазітарам, творчасць якога, па сутнасці, кладзе пачатак беларускай музыцы ў поўным сэнсе гэтага слова.

# НА ДАЛЁКІХ МЕРЫДЫЯНАХ

Так ужо склаўся лёс Беларусі, што ў мінулым стагоддзі многія яе лепшыя сыны не маглі працаваць на карысць сваёй айчыне і свайму народу. Члены тайных згуртаванняў філаматаў і філарэтаў, удзельнікі змовы Канарскага, паплечнікі братоў Далеўскіх, паўстанцы 1831 і 1863 гадоў, урэшце, першыя народнікі і першыя марксісты, яны пад прымусам пакідалі беларускую зямлю, ішлі на катаргу, у ссылку, у салдатчыну, эмігрантамі прабіраліся за граніцу.

Але і на далёкіх мерыдыянах, у сібірскай тайзе або дзікіх лясах Паўднёвай Амерыкі, нашы землякі не сядзелі склаўшы ў бяздзейнасці рукі. Яны памнажалі славу сваёй радзімы, адкрываючы і даследуючы чужыя кантыненты. Верныя свабодалюбівым, гуманістычным традыцыям свайго шматпакутнага народа, яны неслі свабоду іншым народам і іншым краінам. Беларусы былі заступнікамі і абаронцамі бурацкіх і казахскіх плямён, амаль дзікіх амерыканскіх індзейцаў. Беларусаў глыбока кранала гора негрыцянскага раба і знясіленага якута. Пазбаўленыя магчымасці працаваць непасрэдна для суайчыннікаў, яны працавалі для чалавецтва.

Аб слаўных сынах беларускай зямлі — адважных падарожніках, неўтаймаваных вучоных і здольных літаратарах — пойдзе гаворка ніжэй.

## ІГНАТ ДАМЕЙКА

Вазьміце атлас і прыгледзьцеся да карты паўднёваамерыканскай краіны Чылі. Бачыце: ля Ціхага акіяна, там, дзе да яго падступаюць магутныя вяршыні Андаў, знаходзіцца горад Дамейка. А крыху паўночней — горны хрыбет, які носіць тое ж імя. Геолагі могуць назваць мінерал дамейкіт, батанікі — фіялку дамейкіяну, заолагі — малюска науцілус дамейкус. Аднак мала хто ведае, што ўсё гэта: і горад у далёкай краіне, і горны ланцуг, і кветка, і мінерал, і жывёліна — названа так у гонар нашага земляка, выдатнага рэвалюцыянера, вучонага і падарожніка Ігната Дамейкі. Сын беларускай зямлі, ён увайшоў у сусветную навуку, пакінуў прыкметны след у самых розных галінах чалавечых ведаў: мінералогіі і фізіцы, хіміі і металургіі, геаграфіі і батаніцы, геалогіі і педагогіцы, этнаграфіі і заалогіі. За свой доўгі жыццёвы шлях ён адкрыў багата залежаў серабра і медзі, напісаў 130 навуковых прац, якія друкаваліся на французскай, нямецкай, польскай, рускай, англійскай, іспанскай і іншых мовах.

...Кіламетрах у 15 ад Міра (цяпер Карэліцкі раён), над берагам рэчкі Уша, у пачатку мінулага стагоддзя стаяў драўляны палац з мудрагелістай вежай. Тут, у маёнтку Нядзведка, у сям'і старшыні Навагрудскага земскага суда Іпаліта Дамейкі 22 жніўня 1801 года нарадзіўся сын, якому далі імя Ігнат. Дзяцінства будучага вучонага прайшло ў беларускай вёсцы. Ігнат вельмі любіў слухаць народныя казкі, якія па вечарах расказвала старая прыгонная Тадора. Ад яе ж ён навучыўся гаварыць на беларускай мове.

У 1816 годзе, закончыўшы калегію ў Шчучыне, Дамейка накіраваўся ў Віленскі універсітэт. З затоеным дыханнем слухаў юнак лекцыі такіх выдатных вучоных, як Лелевель, Бароўскі, Франк, браты Снядэцкія.

Адначасова з Дамейкам у Віленскім універсітэце вучыўся другі слаўны сын зямлі беларускай, чыё імя ўжо тады было вядома аматарам паэзіі. Гэта быў геніяльны польскі паэт Адам Міцкевіч. Неўзабаве ён пазнаёміўся з Дамейкам і ўцягнуў яго ў тайнае таварыства філаматаў пад канспіратыўным імем Жэготы.

У Віленскім універсітэце Дамейка пасябраваў з многімі філаматамі. Сярод іх былі ўжо знаёмы нам Ян Чачот і выхаванец Мінскай гімназіі, адзін з першых польскіх паэтаў-рамантыкаў Тамаш Зан, высланы потым царскімі ўладамі ў далёкую Арэнбургскую губерню. З Вільні маладыя патрыёты часта выязджалі ў вёску, у тую ж самую Нядзведку, якая потым была ўвекавечана Міцкевічам у яго эпапеі «Пан Тадэвуш» (сцэна дуэлі паміж Дамейкам і Давейкам). У адну з такіх паездак Дамейка пазнаёміў Міцкевіча са сваёй стрыечнай сястрой Марыляй Верашчака. Звычайнае сяброўства хутка перарасло ў страснае пачуццё, трагічнае ў сваіх выніках: Міцкевіч не быў настолькі багаты, каб Верашчакі наважыліся аддаць за яго сваю дачку, і Марыля неўзабаве стала жонкай графа Путкамера.

У 1823 годзе царскім уладам удалося натрапіць на след тайных арганізацый. У турмы было кінута больш ста юнакоў. Камеры Міцкевіча і Дамейкі аказаліся побач — у сценах былога базыльянскага манастыра. Потым, апісваючы прабыванне ў гэтай турме ў трэцяй частцы паэмы «Дзяды», Міцкевіч вывеў свайго сябра Дамейку ў вобразе Жэготы. Той, хто чытаў паэму, памятае, што Жэгота расказвае зняволеным алегарычную байку пра д'ябла, які рашыў пасмяяцца над чалавекам і закапаў зерне капытом у зямлю, не ведаючы, што яно можа даць новыя ўсходы. І ў гэтых алегарычных словах быў глыбокі сэнс. Хаця царскія ўлады адправілі Міцкевіча і яго мужных сяброў у ссылку, хаця пад строгім наглядам паліцыі апынуўся ў вёсцы Заполле на Лідчыне, а потым у Жыбуртоўшчыне ля Дзятлава Ігнат Дамейка,

зерне, кінутае філаматамі, не прапала дарэмна. Іх прыклад натхняў на барацьбу наступныя пакаленні.

У цёмную лістападаўскую ноч 1830 года, нібы працягваючы справу філаматаў, нападам на Бельведэр пачала ўзброенае паўстанне варшаўская моладзь. Неўзабаве яно перакінулася ў Літву і Беларусь. Ігнат Дамейка адразу ж прымкнуў да паўстанцаў. З важным даручэннем ён паехаў у наднёманскія лясы і па дарозе ледзь не загінуў ад рук тых жа паўстанцаў, якія па памылцы прынялі яго за шпіёна. Разам з іншымі мясцовымі патрыётамі непадалёку ад г. Ліды Дамейка далучыўся да арміі генерала Хлапоўскага і ў яе шэрагах змагаўся супраць царскага самаўладства. Паплечніцай Дамейкі была адважная жанчына Эмілія Плятэр. Пераапрануўшыся ў мужчынскі касцюм, яна ўзначаліла атрад кавалерыі і ў баі заўсёды першай кідалася ў атаку на ворага. Аднак, нягледзячы на гераізм такіх патрыётаў, як Эмілія Плятэр і Ігнат Дамейка, паўстанне пацярпела паражэнне — яго не падтрымалі прыгонныя сяляне. Разам з арміяй Хлапоўскага Дамейка вымушаны быў перайсці прускую граніцу і скласці зброю.

Па дарозе ў Францыю, у Дрэздэне, наш зямляк зноў сустрэўся са сваім студэнцкім сябрам Адамам Міцкевічам, які якраз працаваў над паэмай «Пан Тадэвуш». Пазней, калі абодва эмігранты нелегальна дабраліся да Парыжа, калі з-пад друкарскага станка выйшаў першы экземпляр паэмы, Міцкевіч падарыў яго Дамейку.

У Парыжы Дамейка апынуўся ў самым цэнтры эмігранцкага руху. Ён часта выступаў на мітынгах з палымянымі прамовамі, заклікаючы працягваць барацьбу з царызмам, зблізіўся з такім выдатным дзеячам эміграцыі, як былы прафесар Віленскага універсітэта Іяхім Лелевель. Адным з бліжэйшых сяброў Дамейкі стаў ураджэнец Слонімшчыны Міхал Валовіч, які ў 1833 годзе нелегальна вярнуўся ў Беларусь, спрабаваў тут узняць сялянскае паўстанне і быў за гэта павешаны ў Гродне. У Парыжы Дамейка хадзіў не толькі па патрыятычныя сходы. Ён наведваў лекцыі ў славутым Калеж дэ Франс, Сарбопскім універсітэце і Горнай школе.

У 1838 годзе Дамейка даведаўся, што ў Чылійскай рэспубліцы патрэбны выкладчыкі хіміі і мінералогіі. З дапамогай таго ж Міцкевіча быў аформлены кантракт на 6 год. Адпраўляючыся ў марское падарожжа на англійскім караблі «Спей», малады вучоны не падазраваў, што яго прабыванне ў далёкай краіне зацягнецца на 46 год і што Чылі стане для яго другой радзімай.

У Рыо-дэ-Жанейра Дамейка сышоў з карабля і, наняўшы некалькі мулаў і коней для перавозкі закупленага ў Парыжы лабарато-

рнага абсталявання, адправіўся праз увесь кантынент у Чылі. У пустынях і стэпах падарожніка мучыла спёка, у дрымучых лясах трывожылі індзейскія плямёны антыподаў (так называлі тады дзікіх жыхароў супрацьлеглага паўшар'я), у гарах засыпаў снег, пагражалі абвалы. Але нястомны адкрывальнік мужна ехаў наперад. І вось за пераваламі у стромкіх Андах ён сустрэў першых чылійцаў — жыхароў маладой паўднёваамерыканскай рэспублікі, якая толькі ў 1818 годзе вызвалілася ад прыгнёту іспанскіх каланізатараў. Гэта былі пераважна нашчадкі мясцовых індзейцаў. Свабодалюбівыя, яны стагоддзямі змагаліся супраць іспанскіх захопнікаў і выстаялі ў няроўнай барацьбе. З цікавасцю прыглядаўся Дамейка да стракатай вопраткі чылійцаў, пашытай з грубых шарсцяных тканін, да каларытных нацыянальных танцаў і гульняў.

Авалодаўшы за тры месяцы іспанскай мовай, малады вучоны пачаў чытаць лекцыі па хіміі і мінералогіі ў Горнай школе горада Какімба. Разам са сваімі вучнямі ён рабіў падарожжы ў горы, туды, дзе здабываліся серабро і медзь, золата і вугаль. З жахам глядзеў Дамейка на мясцовых шахцёраў, якім за мізэрную плату прыходзілася працаваць у невыносна цяжкіх умовах. Здабытую руду яны выносілі на спіне па маленькіх прыступках, высечаных у тоўстым бервяне, якое вертыкальна ставілася ў ствол шахты. У гэтых падарожжах Дамейка адкрыў і апісаў багата залежаў карысных выкапняў. Ён першы звярнуў увагу на мясцовую салетру, пасля чаго яна заваявала папулярнасць ва ўсім свеце як вельмі карыснае ўгнаенне. Вярнуўшыся з гор у Какімба, Дамейка паслаў ураду петыцыю, у якой запатрабаваў палепшыць умовы працы гарнякоў. І ўрад прыслухаўся да гэтага голасу.

У 1843 годзе скончыўся тэрмін дагавору аб прабыванні Дамейкі ў Чылі. Але вучоны застаўся ў чылійскай сталіцы Сант'яга, дзе яму прапанавалі месца прафесара фізікі і хіміі ў нацыянальным універсітэце. Вядома, і ў Сант'яга Дамейка часта марыў аб звароце на радзіму, сніў беларускія палі і лясы. Яму душна было ў мурах, узведзеных яшчэ іспанскімі канквістадарамі. І ўсё ж вярнуцца ён не мог, бо ў царскай Расіі яго чакала ссылка.

У Сант'яга Дамейка пазнаёміўся з пятнаццацігадовай дзяўчынай Гюзман дэ Сатамаер, якая неўзабаве стала яго вернай жонкай і памочніцай. На ўскраіне сталіцы вучоны пабудаваў сабе ўтульны домік, абсадзіў яго экзатычнымі дрэвамі. Тут, у строгім кабінеце, была напісана большасць яго навуковых прац. Тут, ля ўтульнага каміна, збіраліся лепшыя людзі Чылі — вучоныя, дзяржаўныя дзеячы — і раіліся, што зрабіць для прагрэсу краіны. Па заданню ўрада Дамейка

распрацаваў і ажыццявіў школьную рэформу, пасля чаго навучанне ў Чылі стала больш дэмакратычным і агульнадаступным.

Хутка Дамейка адправіўся ў новае падарожжа — туды, дзе жыло амаль дзікае індзейскае племя араўканцаў. Па стромкіх скалах і вісячых мастах ляжаў шлях падарожніка ў глыбіню краіны. Часам прыходзілася перасядаць на плыт, з якога вельмі зручна было паляваць на драпежных пум. Індзейцы сустрэлі «бледнатварага» госця вельмі зычліва. Яны гаварылі яму аб сваім жаданні жыць у міры з еўрапейцамі, устройвалі ў яго гонар свае спартыўныя спаборніцтвы — так званую кузчу. У сваю чаргу Дамейка абдорваў араўканак бліскучымі пацеркамі, званочкамі і квяцістымі хусткамі. Вялікае ўражанне на вучонага зрабіла старажытнае індзейскае мастацтва, незвычайныя магільнікі.

Сваё чарговае падарожжа Дамейка апісаў у кнізе «Араўканія і яе жыхары», якая ў 1860 годзе выйшла ў Вільні на польскай мове і была перакладзена на многія мовы свету. У гэтай кнізе наш зямляк горача абараняў правы індзейскіх плямён, даказваў іх сумленнасць і гуманнасць. Характару індзейцаў, пісаў аўтар, «калі ўзяць яго ў нармальным стане, гэта значыць у стане міру, бо чалавек створаны для міру, а не для вайны, характару гэтаму, кажу, уласцівы ветлівасць, годнасць, здольнасць да самай узнёслай дабрачыннасці, гасціннасць, схільнасць да міру і парадку, любоў да айчыны, імкненне да незалежнасці хатняга вогнішча, прадбачлівасць, энергічнасць, павага. У гэтым характары ёсць усё, што павінна аздабляць сапраўднага грамадзяніна.

Людзей з такім гартам нельга «акаталічваць» зброяй, бо зброя можа іх вынішчыць і прынізіць. У гэтым выпадку заваяванне было б злачынствам, за якое прыйшлося б расплачвацца чылійскай крывёю».

І далей: «Не бачу ніякай неабходнасці, каб настойваць на каланізацыі гэтых зямель, якія належаць не ўраду, але працавітаму, сумленнаму і мужнаму народу, калі побач знаходзяцца такія ж абшары, якія з'яўляюцца ўласнасцю рэспублікі,— і пустынныя, як зямныя полюсы, і ўрадлівыя, нібы берагі ракі Імперыял».

І яшчэ, з усёй катэгарычнасцю: «Араўканскія індзейцы не з'яўляюцца дзікунамі. Я лічу іх больш цывілізаванымі..., чым іх прыгранічныя цывілізатары...»

У 1845 годзе Дамейка адправіўся ў небяспечнае падарожжа да дзеючага вулкана Антука. Моцны вецер і паток лавы не дазволілі вучонаму дабрацца да самага кратэра. Але затое наш зямляк зрабіў першае апісанне гэтага вулкана.

Удзячная чылійская грамадскасць выбрала Дамейку рэктарам універсітэта ў Сант'яга і потым тройчы перавыбірала яго на гэтай пасадзе. Ад рэктарства Дамейка адмовіўся толькі ў 1884 годзе і адмовіўся па гуманнай прычыне — у знак пратэсту супраць захопніцкай вайны Чылі з суседняй рэспублікай Перу. Прыняўшы адстаўку, чылійскі ўрад рашыў выпусціць у гонар нашага земляка памятны медаль і ўстанавіць яму самую высокую пенсію ў краіне — 6000 піястраў у год. У тым жа 1884 годзе, памеркаваўшы, што царскія ўлады ўжо не ў сіле нічога зрабіць яму, сусветна вядомаму вучонаму, Дамейка рашыў наведаць радзіму. З сабой ён вёз багатую калекцыю мінералаў у падарунак еўрапейскім універсітэтам.

І вось Еўропа. У Парыжы Дамейку ўрачыста вітаюць вучоныя Сарбоны. У Кракаве яму прысуджаюць навуковую ступень ганаровага доктара. На варшаўскім пероне яго сардэчна цалуе сябар студэнцкіх год вядомы паэт Антон Адынец, адзіны, апрача Дамейкі, філамат, які яшчэ заставаўся ў жывых. З Варшавы сябры спецыяльным вагонам накіроўваюцца ў Беларусь. Царскім уладам, вядома, не прыйшлося даспадобы гэта падарожжа — яны на чатыры месяцы затрымалі ў Гродне пашпарт вучонага. Але мясцовая інтэлігенцыя з энтузіязмам сустракала свайго земляка, чалавека з легендарнай біяграфіяй. Беларускія сяляне падносілі яму хлеб-соль, віталі народнымі песнямі. У Крошыне Дамейка і Адынец пасадзілі на памяць два дубкі, а вершаваны надпіс на камені ля дубкоў выбіў ім мясцовы каваль — відаць, жывы тады яшчэ Паўлюк Багрым. Нейкі час у Дамейкі нават была думка застацца на радзіме. Але хіба тут далі б яму спакойна жыць і працаваць?! Пабываўшы яшчэ ў Італіі і Палесціне, Дамейка разам з усёй сям'ёй зноў вярнуўся ў Чылі.

23 студзеня 1889 года ў Сант'яга перастала біцца сэрца патрыёта, падарожніка, вучонага. Дзень яго пахавання быў аб'яўлены днём нацыянальнай жалобы. Урад абвясціў Дамейку нацыянальным героем рэспублікі. На яго магіле быў пастаўлены мармуровы абеліск.

Памяць аб вялікім асветніку і гуманісту жыве ў Чылі і цяпер. Лаўрэат Ленінскай прэміі міру вядомы чылійскі паэт Пабла Няруда ў 1953 годзе назваў дзейнасць Дамейкі выдатнай, прагрэсіўнай дзейнасцю, якая прывяла ў Чылі да «рэарганізацыі прамысловасці, вышэйшага і сярэдняга навучання». Імя Дамейкі з удзячнасцю назвалі чылійскія парламентарыі, якія наведалі нашу краіну ў 1968 годзе. І гэта — заслужаная даніна павагі нашаму земляку, спадчына якога належыць адначасова тром розных народам — беларускаму, польскаму і чылійскаму.

## АДОЛЬФ ЯНУШКЕВІЧ

Побач з Жэготам-Дамейкам адным са шматлікіх герояў трэцяй часткі міцкевічаўскай паэмы «Дзяды» з'яўляецца адважны рэвалюцыянер Адольф, прататыпам якога паслужыў таксама наш зямляк і таксама падарожнік Адольф Янушкевіч. Расказваючы аб ахвярах самаўладдства, герой паэмы з горыччу вяшчуе, што ў царскай Расіі ўсіх патрыётаў чакаюць «Сібір, казематы ды турмы». Не ведаў Міцкевіч, што ў час, калі ён пісаў сваю паэму, такі лёс сапраўды напаткаў таго, хто быў прататыпам літаратурнага героя. У адрозненне ад Дамейкі, шлях яго ляжаў не на захад, а на ўсход...

Адольф-Міхал-Валяр'ян-Юльян Янушкевіч нарадзіўся 9 чэрвеня 1803 года ў Нясвіжы. Дзяцінства будучага рэвалюцыянера прайшло ў вёсцы Усаў (або Вусава) на Капыльшчыне, дзе яго бацькі арандавалі фальварак. На сабраныя грошы ў 1821 годзе яны купілі непадалёку ад Койданава (цяпер Дзяржынск) маёнтак Дзягільня. Адтуль васемнаццацігадовы Адольф накіраваўся на філалагічны факультэт славутага Віленскага універсітэта.

У 1821 годзе на старонках часопіса «Дзённік віленьскі» з'яўляецца першы паэтычны твор Янушкевіча — сентыментальная «дума» «Мелітон і Эвеліна». Як і Дамейка, малады паэт збліжаецца з членамі тайнага таварыства філарэтаў, з ідэйнымі кіраўнікамі віленскай моладзі А. Міцкевічам, Я. Чачотам, Ф. Малеўскім, Т. Занам.

Закончыўшы вучобу, Янушкевіч паехаў да ўкраінскіх сваякоў. Адтуль, з Украіны, накіраваўся ў падарожжа па Еўропе. У Рыме — новая радасная сустрэча з Міцкевічам. Славацкі, Лелевель, Гётэ — вось кола асоб, з якімі Янушкевіч сустракаўся ў 1830 годзе.

І зноў Украіна. Пачынаецца вызваленчае паўстанне 1831 года. Янушкевіч становіцца адным з кіраўнікоў «Легіі Літвы, Валыні, Падоліі і Украіны» — арганізацыі, якая ў многім працягвала традыцыі дзекабрыстаў. У першым баі адважны падпаручнік атрымаў сем ран і непрытомны зваліўся з каня. Сябры рашылі, што ён загінуў. Аднак Янушкевіча падабралі казакі. Пачалося вандраванне па этапах. Затым — каземат кіеўскай цытадэлі.

У час допытаў Янушкевіч паводзіў сябе надзвычай мужна. Калі б ён пакаяўся, спаслаўся на легкадумнасць — пакаранне было б значна мякчэйшае. Але Янушкевіч рашуча заявіў, што ўдзельнічаў у паўстанні «па перакананню», што «абавязак добрага сына Айчыны — ахвяраваць усім дзеля яе дабра». І таму 4 сакавіка 1832 года суд пад старшынствам фельдмаршала Сакена прыгаварыў паўстанца да пажыццёвага пасялення ў Сібіры, канфіскацыі ўсёй маёмасці і пазбаў-

лення дваранскага звання. Імператар усяе Русі Мікалай I да канца жыцця не мог дараваць Янушкевічу яго адважных слоў і заўсёды прыгадваў іх, калі гутарка заходзіла аб памілаванні.

У маі 1832 года Янушкевіч пад канвоем прыбыў у Табольск. Ссыльныя ўвесь час марылі аб свабодзе, арганізавалі змову. Яе ўдзельнікі хацелі ўзняць узброенае паўстанне, а затым праз Бухару і Індыю прабрацца ў Еўропу. Але змова была раскрыта. Янушкевіча адправілі ў яшчэ большую глушэчу — вёску Жалякова ля Ішыма. Праз год прыйшоў дазвол пасяліцца ў самім Ішыме. Туды, у далёкую Сібір, адрасаваў з Парыжа пісьмо Адам Міцкевіч. Польскі паэт выказаў спачуванне свайму аднадумцу, падбадзёрыў яго словамі аб тым, што прабыванне ў Сібіры «загартоўвае характар».

У Ішыме Янушкевіч пачаў цікавіцца побытам казахаў, іх звычаямі і фальклорам. Пра навуковыя назіранні даследчыка часта гаворыцца ў пісьмах да маці, брата і паэта Г. Зялінскага (яны апублікаваны Ф. Вратноўскім у 1861 годзе ў Парыжы). Так, у пісьме, датаваным 20 чэрвеня 1843 года, паведамляецца: «Я праязджаў паўз даволі высокія горы, апранутыя лясными шатамі, дзе было мноства мядзведзяў, ласёў і аленяў; уплаў перабіраўся праз рэчкі, аб якіх у Еўропе ніхто і не ведае, а на берагах іх упершыню за апошнія дванаццаць год чуў спеў салаўя... Бачыў я і плямёны кіргізаў (так Янушкевіч усюды называе казахаў.—А. М.), якія разам з велізарнымі табунамі коней і вярблюдаў вандруюць, аб'яднаўшыся па тысячы і больш юрт... Сустракаў я караваны купцоў, якія ішлі з Ташкента ў Каканд, табуны сайгакаў, дзікіх коней, якіх тут называюць куланамі, урэшце, вузкай дарогай быў вымушаны імчацца праз палаючы навокал стэп. Хіба ўсё гэта не цікава? Хіба не цікавей, чым нямецкія палі, засаджаныя бульбай, ці неапалітанскія басякі, што ядуць макароны? Тут я нідзе не бачыў збожжа, няма платоў; усюды — бясконцыя прасторы. Дыхалася свабодна, як арабу сярод пустыні».

У 1846 годзе Янушкевіч зрабіў больш працяглае падарожжа па Казахстану. Уражанні таго часу занесены ў «Падарожны дзённік», які таксама апублікаваны Братноўскім. Янушкевічу былі чужымі расавыя або нацыянальныя забабоны. Аўтар дзённіка ставіў казахаў упоравень з іншымі народамі. «Я ўсё больш пераконваюся,— пісаў Янушкевіч,— што кіргізы маюць вялікія разумовыя здольнасці. Як лёгка яны выказваюць свае думкі! Як яны ўмеюць абараняць свае інтарэсы і адначасова па-майстэрску абвяргаць сцвярджэнні праціўніка!» «Нягледзячы на свае недахопы, якія часткова тлумачацца адсутнасцю асветы, часткова ж — забабоннасцю рэлігіі, гэты народ не горшы за іншыя». У пісьмах да Зялінскага Янушкевіч расказаў аб казахскіх

звычаях, аб выступленнях народных акынаў Арынбая і Цюбека, песні якіх вельмі расчулілі падарожніка і выклікалі роздум аб будучыні мясцовых плямён: «І ўсё гэта, падумалася, я ўласнымі вушамі чую ў стэпе, сярод народа, які ва ўсім свеце лічыцца дзікім і варварскім! Некалькі дзён назад я быў сведкам паядынку двух заўзятых груповак і са здзіўленнем апладзіраваў прамоўцам, якія ніколі не чулі пра Дэмасфена і Цыцэрона, а сёння перада мной выступаюць паэты, якія не ўмеюць ні чытаць, ні пісаць, аднак я захапляюся іх талентам, бо песні іх так многа кажуць маёй душы і сэрцу. Няўжо гэта дзікія варвары? Няўжо гэта народ, які назаўжды пазбаўлены лепшай будучыні, чым вечная пастушыная нішчымнасць?.. О, не! Народ, які падзелены такімі здольнасцямі, не можа заставацца чужым цывілізацыі: дух яе калі-небудзь пранікне ў кіргізскія пустыні, распаліць тут іскру святла, і прыйдзе час, калі сённяшні вандроўнік займе пачэснае месца сярод народаў, што цяпер глядзяць на яго высакамерна, бы вышэйшыя касты Індыі на няшчасных парыяў».

Цікава, што Янушкевіч быў добра знаёмы з бацькам вядомага казахскага песняра Абая — Абаем Кунанбаевым. У пісьме да таго ж Зялінскага ён паведамляў: «Крыху старэй султана Барака бій Кунанбай; гэта таксама вялікая славутасць у стэпе. Сын простага кіргіза, надзелены ад прыроды здаровым розумам, дзівоснай памяццю і дарам выступаць, дзелавіты, ён клапоціцца аб дабры сваіх супляменнікаў: вялікі знаўца стэпавага права і прадпісання алкарана, ён добра ведае рускія статуты, якія датычацца кіргізаў; суддзя непадкупнай сумленнасці і ўзорны мусульманін, плебей Кунанбай здабыў сабе славу прарока, да якога з самых далёкіх аулаў спяшаюцца за бескарыслівай парадай маладыя і старыя, бедныя і багатыя».

У адрозненне ад іншых тагачасных этнографаў, Янушкевіч не толькі захапляўся «экзатычнасцю» побыту казахскіх плямён. Падарожнік бачыў сацыяльныя кантрасты, апісаў жахлівую галечу, у якой жывуць казахі-бедныякі: «У кожнай юрце я спадзяваўся знайсці шчаслівых пасту хоў Аркадыі... На жаль, рэдка дзе мой позірк не сутыкаўся з сумнымі малюнкамі беднасці. Хваробы апанавалі менш маёмаснае насельніцтва... Сэрца разрываецца на часткі, калі бачыш столькі мучанікаў, якія просяць дапамогі». Казахі няшчадна эксплуатаваліся як царскімі чыноўнікамі, так і сваімі баямі-феадаламі. «Вось дык прадстаўнікі ўлад бывалі тут! — усклікае Янушкевіч.— Сапраўдныя разбойнікі... Амаль кожны з іх разглядаў сваю службу толькі як сродак для таго, каб здабыць багацце. Шнырыў у акружэнні казакоў, сеяў страх на ўсю ваколіцу, быў непераборлівы ў спосабах вымагання». Пыхлівыя баі перакладалі ўсе павіннасці на плечы

бедняка, які «ўсё лета, бы негр, працуе на багацея, жыве казіным малаком, пражыцца на сонцы амаль голы, бо баіцца, каб яму рабаўнікі не здзерлі адзення,— і што ён мае ўзамен? Нейкі стары, зношаны халат, некалькі дзесяткаў сыркоў і жменю проса, каб было што пасеяць на наступны год». Янушкевіч рашуча ўзнімаў голас у абарону казахаў, прапанаваў адкрыць для іх фельчарскія пункты, прысылаць больш пародзістую жывёлу. Словы ссыльнага рэвалюцыянера не разыходзіліся са справамі: ён лячыў хворых на ліхаманку, мірыў і аб'ядноўваў варожыя плямёны, добрасумленна перапісваў мясцовае насельніцтва.

Апрануўшыся ў казахскі халат, нястомны падарожнік дабраўся да хрыбтоў Алатау, з захапленнем апісаў іх прыгажосць, расказаў пра гістарычную ўрачыстасць (байгу), арганізаваную ў гонар далучэння да Расіі пяці плямён Вялікай арды, захаваў для будучыні многія легенды, якія яму ля падножжа гор расказала сляпая дзяўчына Джазык. Казахі палюбілі Янушкевіча і лічылі яго сваім. «Бачна,— пісаў наш зямляк,— я пакрысе ператвараюся ў кіргіза, і юрта становіцца для мяне звычайным жыллём». І ўсё ж Янушкевіч сумаваў па Беларусі, па «берагах радзімага Нёмана», спадзяваўся на памілаванне. Ды дарэмна. «Адольф меў гонар застацца ў памяці і сэрцы векапомнага цара Мікалая I,— іранізаваў у 1861 годзе Ф. Вратноўскі.— Гэты няўмольны вораг кожны раз, сустрэўшы ў спісе сібірскіх ссыльных, якіх збіраліся адпусціць на волю, прозвішча Янушкевіча, хапаўся за аловак і са злосцю выкрэсліваў радок».

Доўгачаканае памілаванне прыйшло толькі пасля таго, як на трон уступіў Аляксандр II. Янушкевіч вярнуўся да сваякоў, у Дзягільню. Але здароўе было падарвана. Рэвалюцыянер і паэт, падарожнік і вучоны, Адольф Янушкевіч памёр 19 чэрвеня 1857 года. Мясцовыя сяляне, з якімі ён любіў размаўляць на беларускай мове, праводзілі труну на дзягільнянскія могілкі.

## БЕНЕДЫКТ ДЫБОЎСКІ

Цяжка нават пералічыць усе галіны навукі, у якіх сказаў сваё важкае слова наш выдатны зямляк Бенедыкт Дыбоўскі. Як і Дамейка, ён быў здзіўляюча адукаваным чалавекам. Географ і заолаг, медык і антраполаг, літаратуразнаўца і лінгвіст, ён з'яўляўся таксама відным грамадскім дзеячам, адважным рэвалюцыянерам, якога царскія ўлады прыгаворвалі да павешання, а потым саслалі на катаргу ў Сібір. Дзённікі Дыбоўскага, яго апісанні падарожжаў па Сібіры і Далёкім Усходзе, чытаюцца як захапляючы мастацкі твор. Выдатны

вучоны прайшоў доўгі і зайздросны жыццёвы шлях: ён пражыў без малога сто год і за гэты час напісаў 130 навуковых даследаванняў на самыя розныя тэмы. У глыбокай старасці прыйшло заслужанае прызнанне: незадоўга да смерці, у 1927 годзе, Дыбоўскі быў выбраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук СССР.

Адносна даты і месца нараджэння Бенедыкт Іванавіча Дыбоўскага біёграфы разыходзяцца. Некаторыя з іх лічаць, што вучоны нарадзіўся 12 мая 1833 года ў маёнтку Тонвы Мінскага павета. Аднак сам Дыбоўскі ў сваіх дзённіках называе маёнтак Адамарын таго ж павета. Тут жа аўтар прызнае, што нарадзіўся ў 1830 годзе.

Бацькі будучага вучонага з'яўляліся дваранамі сярэдняй заможнасці, вельмі адукаванымі і прагрэсіўнымі людзьмі. Яны далі сваім дзецям добрую хатнюю падрыхтоўку. Старэйшы з іх, Бенедыкт, адрабіўшы пад кіраўніцтвам гувернёра ўрокі, звычайна бег да невялікага стаўка ў садзе і гадзінамі нерухома глядзеў на дзівоснае жыццё рыб і іншых жыхароў воднага царства. Часта хлопчыка брала з сабой бабуля. Яны разам ішлі на луг збіраць зелле, а затым неслі яго хворым прыгонным сялянам. Ужо тады, бачачы народныя пакуты, хлопчык цвёрда рашыў, што стане ўрачом, каб дапамагаць абяздоленым землякам.

Сярэднюю адукацыю Бенедыкт Дыбоўскі атрымаў у Мінскай гімназіі, дзе тады выкладалі людзі, вельмі далёкія ад навукі. Вось што піша аб іх сам Дыбоўскі: «Настаўнікі не мелі на нас уплыву. Дзяжурныя педагогі — француз Жако і немец Шмэль — адбывалі свае абавязкі, бы селянін паншчыну, навучанню моў тут не прыдавалі ніякага значэння; хто не ведаў іх з дому, той у гімназіі вывучыць не мог. Рускую мову ў малодшых класах выкладаў Багаўленскі, які не ўмеў ні заахвочваць да вучобы, ні ўтрымаць хлопчыкаў у дысцыпліне. Урокі нямецкай мовы там жа вёў нехта Шуман, здаецца булачнік па прафесіі. Настаўнік гісторыі Катанскі — гэта п'яніца і фанатычны прыхільнік праваслаўя. Апрача падручніка, ён нічога не ведаў і загадваў завучваць яго механічна. Прысланы з Полацка настаўнік рускай мовы і літаратуры Грабеншчыкаў праследаваў усіх і ўсё. Не ведаючы ні літаратуры, ні мовы, ён мучыў вучняў дзіўнымі патрабаваннямі і гэтым адштурхоўваў ад вучобы. Для паўнаты малюнка трэба ўспомніць і пра выкладчыка лацінскай мовы, п'яніцу, грубіяна і хабарніка Анраеўскага. Божаму закону нас навучалі невукі, цынікі і п'яніцы ксяндзы Бейнаровіч і Навіцкі. Апошні звычайна расказваў нясціплыя анекдоты. Адзінай светлай асобай, якая адрознівалася ад іншых настаўнікаў, быў Радзевіч. Выпускнік Маскоўскага універсітэта, былы асістэнт пры кафедры фізікі ў Маскве, ён захапляў нас усебаковымі

ведамі, тактоўнасцю і выдатным выкладаннем. Адразу ж, пасля прыезду ў Мінск, ён арганізаваў у гімназіі метэаралагічную станцыю, вучыў нас запісваць назіранні: у кабінеце фізікі мы самі рабілі розныя доследы. Радзевіч пакрысе знаёміў нас нават з неабавязковымі прадметамі, напрыклад з пачаткамі хіміі».

Нягледзячы на такія неспрыяльныя ўмовы, схільнасць да дакладных навук, у прыватнасці да прыродазнаўства, пачала праяўляцца ў Дыбоўскага менавіта ў Мінскай гімназіі. Без кіраўнікоў і без падручнікаў, успамінае вучоны, «мы разводзілі млекакормячых жывёлін, птушак, рыб, заклалі ў агародзе Падалінскіх маленькі акварыум. Жыхароў для яго дастаўляў нам Піліп Кунцэвіч, рыбак, які жыў над Нямігай; нярэдка мы самі лавілі рыб у рэчцы. Аднойчы я ледзь не адкрыў цікавую і важную з'яву, а менавіта метамарфозу рыб».

Закончыўшы гімназію, восенню 1853 года Бенедыкт Дыбоўскі паступіў на медыцынскі факультэт Дэрпцкага (цяпер Тартускага) універсітэта. Там ён зацікавіўся рыбамі Прыбалтыкі і прысвяціў ім некалькі навуковых прац. Дзякуючы незвычайным здольнасцям Дыбоўскі атрымаў ступень доктара медыцыны і хірургіі і застаўся пры універсітэце, каб падрыхтавацца да прафесарскай дзейнасці. Аднак удзел у дуэлі з адным нягоднікам, а затым у антыўрадавых дэманстрацыях перашкодзілі яму. Прыйшлося пакінуць Расію, выехаць у Германію. Некалькі год Дыбоўскі працаваў над вывучэннем эмбрыялогіі насякомых на кафедрах Берлінскага і Вроцлаўскага універсітэтаў.

У 1862 годзе Бенедыкт Дыбоўскага выбралі прафесарам заалогіі і параўнальнай анатоміі Галоўнай школы ў Варшаве. Лекцыі маладога вучонага захаплялі моладзь сваёй свежасцю, рэвалюцыйнасцю. Дыбоўскі адным з першых у Еўропе стаў прыхільнікам тэорыі Дарвіна аб эвалюцыйным развіцці расліннага і жывёльнага свету. Вучоны даказваў, што ніякага бога няма, што ўсе расліны і жывёлы ўзніклі шляхам натуральнага развіцця. Дыбоўскі зблізіўся з падпольнай арганізацыяй, якая рыхтавала паўстанне супраць царызму, і стаў выконваць яе даручэнні. У пісьме да прафесара Талька-Грынцэвіча вучоны ўспамінае: «З 1862 года я належаў да тайнага Віленскага таварыства ў Варшаве. У сакратарыяце Літвы і Беларусі я выконваў абавязкі надзвычайнага камісара. Напярэдадні паўстання 1863 года мяне паслалі ў Беларусь, каб даведацца аб праведзенай падрыхтоўцы; вясной, у час паўстання, мяне накіравалі з такой жа мэтай у Літву». У час гэтых паездак Дыбоўскі мог пазнаёміцца з палымяным беларускім рэвалюцыянерам Кастусём Каліноўскім.

Царскія жандары не даравалі вучонаму ўдзелу ў паўстанні. Вясной 1864 года Львоўскага арыштавалі і пасадзілі ў славуты X павільён

варшаўскай цытадэлі. Толькі ўмяшанне нямецкіх вучоных выратавала адважнага патрыёта ад пакарання смерцю, якая была заменена бестэрміновай катаргай у Сібіры. «У вагоне,— прыгадваў тыя цяжкія хвіліны Дыбоўскі,— калі цягнік крануўся, я вярнуўся да раўнавагі, зноў адчуў сябе моцным і ўпэўненым у будучыні. Тады прыйшлі на памяць пушкінскія радкі:

У глыбіні сібірскіх руд
Хавайце гордае цярпенне...»

Гэтае гордае цярпенне Дыбоўскі захоўваў на ўсім доўгім этапным шляху праз Пецярбург, Маскву, Ніжні Ноўгарад — у Сібір. Як урач, па дарозе ён аказваў медыцынскую дапамогу хворым, падбадзёрваў ссыльных сардэчнымі гутаркамі. У сваіх дзённіках вучоны расказвае, што перадавая руская грамадскасць з вялікай сімпатыяй адносілася да польскіх паўстанцаў. У Маскве ссыльным пацiскалі рукі, нягледзячы на ўдары нагаек, кідалі кветкі. Па дарозе Дыбоўскі любаваўся акаляючай прыродай. Асабліва захапіўся ён прыгажосцю бяздоннага возера Байкал і магутнай Ангары, якая бярэ з яго пачатак. «Нейкае невыказнае пачуццё цікаўнасці паявілася ў мяне да гэтай рэчкі і асабліва да гэтага возера»,— запісаў тады ў сваім дзённіку вучоны.

З Чыты разам з іншымі ўдзельнікамі паўстання Дыбоўскага накіравалі ў сяленне Сівакова. Там для катаржан былі створаны невыносныя ўмовы. Але рускія калегі не забылі пра вучонага. Неўзабаве пры дапамозе Сібірскага аддзела Рускага геаграфічнага таварыства ён атрымаў дазвол на пераезд у сяленне Дарасун. Там пачаліся даследаванні расліннага і жывёльнага свету Прыбайкалля. Гады катаргі ператвараюцца ў гады плённай навуковай дзейнасці.

Да Дыбоўскага ў біялагічнай навуцы панавала думка, што раслінны і жывёльны свет Сібіры нічым істотным не адрозніваецца ад расліннага і жывёльнага свету Усходняй Еўропы, што фауна Байкала вельмі бедная і наогул не заслугоўвае ўвагі. Дыбоўскі ж меркаваў, што кожная вобласць у залежнасці ад існуючых там фізіка-геаграфічных умоў павінна мець свой адметны раслінны і жывёльны свет. Здагадка пацвердзілася. Дыбоўскі адкрыў і апісаў дзесяткі відаў птушак, рыб, насякомых, прасцейшых жывёлін, якія не сустракаліся нідзе, апрача Сібіры. Ён таксама даказаў, што сібірскія віды пераважна адрозніваюцца ад еўрапейскіх. Некаторыя з іх пазней былі названы імем Дыбоўскага.

Летам 1868 года вучонаму дазволілі пасяліцца ў Култуку, невялікай вёсачцы на беразе Байкала. Пачаліся напружаныя даследаванні возера. Разам з сябрамі Гадлеўскім і Ксенжапольскім Дыбоўскі браў

пробы вады, замяраў глыбіню, вывучаў жывёльны свет. У выніку было знойдзена 18 зусім новых відаў рыб. Хаця работы праводзіліся па праграме, зацверджанай Рускім геаграфічным таварыствам, на іх прыходзілася затрачваць асабістыя грошы. Даследаванні не спыняліся і ў летнюю спёку, і ў зімнюю завіруху. Некаторы час адкрывальнікі Байкала жылі ў юрце, устаноўленай на санях. Сабакі лёгка дастаўлялі юрту на любы ўчастак пакрытага лёдам возера. Нярэдка энтузіястаў замятала снегам, нярэдка пры снеданні яны абмяжоўваліся кавалкам чорнага хлеба. На дапамогу часта прыходзілі мясцовыя жыхары — бураты. Дыбоўскі быў у іх жаданым госцем, бясплатна лячыў іх, абараняў ад самавольства царскай адміністрацыі. Свае назіранні над побытам буратаў даследчык заносіў у дзённік, які мае вялікую этнаграфічную каштоўнасць.

Даследаваннямі Байкала і Ангары, а таксама навакольных гор і лясоў Дыбоўскі займаўся на працягу пяці год. Адсюль у еўрапейскія музеі было адпраўлена звыш 2500 экземпляраў прэпарыраваных птушак і звыш 100 000 экземпляраў насякомых. Многія з іх і сёння захоўваюцца ў музеях Масквы, Ленінграда, Варшавы, Кракава. Адначасова праводзіліся замеры тэмпературы і ўзроўню вады ў Байкале. 30 сакавіка 1876 года вучоны ўзяў першую і адзіную да 1925 года серыю тэмператур да глыбіні 1320 метраў. Быў зроблены таксама першы хімічны аналіз вады. За ўсё гэта Геаграфічнае таварыства ўзнагародзіла Дыбоўскага малым залатым медалём.

Даследчыка вабілі нязведаныя прасторы Далёкага Усходу. Разам з камісіяй генерал-ад'ютанта Скалкова Дыбоўскі адправіўся па Амуры ва Уладзівасток. Частку дарогі ён ехаў разам з выдатным падарожнікам Пржавальскім.

У 1877 годзе дзякуючы хадайніцтву Геаграфічнага таварыства Дыбоўскаму дазволілі вярнуцца на радзіму. Ён пабываў у Адамарыне, наведаў у Варшаве свайго настаўніка, віднага заолага Тачаноўскага, устанавіў сувязі з пецярбургскімі вучонымі. Яму прапанавалі кафедру ў Томскім універсітэце, работу ў сталічных музеях. Аднак Дыбоўскі сумаваў на неабсяжных прасторах Сібіры, па яе мужных і загартаваных людзях. І таму ён папрасіў прызначыць яго акруговым урачом далёкай Камчаткі. Дабраўшыся туды, вучоны павёў нялёгкую, але высакародную барацьбу з праказай і іншымі заразнымі хваробамі. Жадаючы даказаць, што мясцовыя жыхары не належаць да нейкай ніжэйшай расы, ён займаецца антрапалогіяй. Пад яго рэдакцыяй выходзяць слоўнікі камчадальскай, бурацкай і іншых моў. Дыбоўскі памагаў мясцовым жыхарам палепшыць матэрыяльныя ўмовы, на

ўласныя грошы завёз туды аленяў. Назіранні гэтага перыяду вельмі цікава выкладзены ў кнізе «Пра Сібір і Камчатку».

У 1884 годзе Дыбоўскі вярнуўся ў Еўропу і ўзначаліў кафедру заалогіі ў Львоўскім універсітэце, заняўся сістэматызацыяй і абагульненнем сабранага матэрыялу. К таму часу працы вучонага перакладаліся і выдаваліся ў розных краінах свету.

Бенедыкт Дыбоўскі з радасцю сустрэў вестку аб перамозе ў нашай краіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. Ён не змог пераехаць у Савецкі Саюз, але падтрымліваў цесную сувязь з савецкімі вучонымі — даваў парады нашым рыбаловам і жывёлаводам, прапанаваў арганізаваць на Байкале пастаянную гідрабіялагічную станцыю. Акадэмія навук неўзабаве ажыццявіла гэту ідэю Дыбоўскага. Адно з суднаў станцыі назвалі імем выдатнага падарожніка.

Мясцовыя рэакцыянеры не маглі дараваць Дыбоўскаму яго палітычных перакананняў, дараваць таго, што ён быў непрымірымым ворагам капіталістычнага прыгнёту, выкрываў рэлігійнае цемрашальства. Па свайму светапогляду Дыбоўскі з'яўляўся рэвалюцыйным дэмакратам, паслядоўным матэрыялістам. Калі ў 1930 годзе вучоны памёр, тысячы працоўных Львова выйшлі праводзіць яго ў апошні шлях. Нягледзячы на пратэсты клерыкалаў, як удзельніка паўстання 1863 года, Дыбоўскага хавалі з воінскімі ўшанаваннямі.

У нашай краіне, а таксама ў народнай Польшчы ўшаноўваецца памяць аб нястомным падарожніку. Яго навуковай спадчыне прысвечаны кнігі польскіх даследчыкаў. Нядаўна ў Польшчы выйшла паштовая марка з партрэтам Дыбоўскага. Навуковыя вывады нашага земляка ўлічаны пры праектаванні Брацкай ГЭС на Ангары. У 1875 годзе вучоны пісаў пра Байкал і Ангару: «Якая была б гэта магутная крыніца энергіі, калі б мясцовыя жыхары маглі ёю карыстацца!» Цяпер збылася даўняя мара Дыбоўскага. Там, дзе ён адным з першых праводзіў навуковыя даследаванні, дае ток буйнейшая ў свеце электрастанцыя.

## КАНСТАНЦІН ЕЛЬСКІ

Да ліку нястомных працаўнікоў навукі належыць таксама наш зямляк Канстанцін Ельскі. Гэта быў усебакова адукаваны чалавек, рамантык па натуры, якога ўсё жыццё вабілі далёкія краіны і новыя адкрыцці.

Канстанцін Міхайлавіч Ельскі нарадзіўся 17 лютага 1837 года ў вёсцы Ляды Смілавіцкай воласці Мінскай губерні. Спачатку хлопчык вучыўся ў Мінскай гімназіі, а затым, закончыўшы яе на «выдатна»,

паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. Пасля вывучаў батаніку і заалогію на матэматычна-прыродазнаўчым факультэце Кіеўскага універсітэта. Атрымаўшы ступень кандыдата, юнак яшчэ два гады наведваў педагагічныя курсы. А калі ў Кіеўскім універсітэце адкрылася вакантнае месца выкладчыка, Ельскі падаў заяву. Яго конкурсная работа была ўзнагароджана залатым медалём, а яе аўтар пачаў чытаць лекцыі студэнтам.

Аднак выкладчыцкая дзейнасць не задавальняла маладога вучонага. Ён марыў пра экзатычныя краіны. Да таго ж пасля паражэння паўстання 1863 года ў царскай Расіі наступіла чорная ноч рэакцыі. Усё гэта прымусіла Ельскага падацца за мяжу. Без пашпарта ён перайшоў у Бесарабію. Але тут яго высачылі турэцкія жандары. Без грошай у кішэні Ельскі апынуўся ў Канстанцінопалі і, каб зарабіць на хлеб, расфарбоўваў для турэцкіх школ геаграфічныя карты, удзельнічаў у розных геалагічных экспедыцыях.

У 1865 годзе сябры дапамаглі Ельскаму перабрацца ў Парыж. Але і тут не было адпаведнай работы. Даведаўшыся, што з Тулузы ў Гвіяну, паўднёваамерыканскую калонію Францыі, адпраўляецца ваенна-транспартны карабель, Ельскі напісаў заяву на імя міністра марскога флоту з просьбай выдаць яму бясплатны білет пасажыра самага ніжэйшага класа. Неўзабаве прыйшоў дазвол.

Зборы былі нядоўгімі. Усе свае калекцыі вучоны бясплатна раздаў калегам. Расчуленыя такой бескарыслівасцю, сябры сабралі яму на дарогу 150 франкаў. І вось вецер надзьмуў парусы фрэгата «Амазонка», які рушыў па воднай гладзі на паўднёвы захад, да таямнічых берагоў Амерыкі. На караблі знаходзілася некалькі соцень палітычных вязняў. Іх накіроўвалі на катаргу ў калоніі. У Ельскага не было нават сваёй каюты, ён спаў на падлозе, падаслаўшы старыя канаты, або ў гамаку, падвешаным да мачты.

Праз многа год, вярнуўшыся ў Еўропу, Канстанцін Ельскі падзяліўся сваімі дарожнымі ўражаннямі са слухачамі курсаў пры Прамысловым музеі ў Кракаве. Адначасова, абапіраючыся на свае ранейшыя пісьмы з Амерыкі, ён рыхтаваў да друку нататкі пра падарожжа. Але закончыць іх перашкодзіла хвароба. Частка гэтых успамінаў убачыла свет у Кракаве ў 1898 годзе, пасля смерці аўтара. Гэта — невялічкая кніжка пад назвай «Папулярна-прыродазнаўчае апавяданне аб прабыванні ў французскай Гвіяне і часткова ў Перу».

Ельскі пачынае расказ з таго, як у свой час іх карабель прычаліў да вострава Мадэра. Пасажыраў у момант акружылі мясцовыя жыхары. Абарваныя і галодныя дзеці за кожнай кінутай манеткай давалі нырца ў глыбіні мора. Але чым мог дапамагчы ім малады

падарожнік, калі ў яго не было нават грошай, каб купіць крыху бананаў, якіх ніколі раней не бачыў?

У жніўні 1865 года карабель прыбыў у Кайену — гандлёвы і адміністрацыйны цэнтр французскай Гвіяны. Ельскага ўразілі кантрасты каланіяльнага горада: з аднаго боку — багатыя ўласнікі велізарных плантацый кавы, какавы, цукровага трыснягу, з другога — негры, мясцовыя індзейцы, мулаты, крэолы, усе тыя, у каго не белы колер скуры, хто за паўцаны, а то і проста дарма працуе на ненасытных еўрапейцаў. Асабліва жорстка праследаваліся індзейцы. «У час адкрыцця Гвіяны,— піша Ельскі,— яны жылі на ўсім абшары краіны, на ўзбярэжжы мора і ўздоўж рэк. Потым жа, заняволеныя, прыгнечаныя і пакрыўджаныя еўрапейцамі, індзейцы помсцілі, і за гэта на іх рабілі аблавы». Не лепшым быў лёс і ў завербаваных каланізатарамі азіяцкіх кулі: «Спачатку з імі заключалі кантракт усяго на некалькі год, абавязваліся адаслаць іх на радзіму. Але на самай справе да тых рабочых, якія не гавораць па-французску, адносяцца не лепш, чым да рабоў; сярод іх значная смяротнасць — і, кажуць, вяртаецца іх на радзіму менш паловы».

У Кайене за нязначную плату Ельскі ўладкаваўся памочнікам фармацэўта ў бальнічнай аптэцы. Кожную свабодную хвіліну ён выкарыстоўваў для падарожжаў у навакольныя дрымучыя лясы. Там вучоны збіраў і апісваў расліны, насякомых, птушак. Прэпарыраваныя чучалы адсылаліся ў музеі Еўропы. Адных павукоў Ельскі паслаў каля 300 экземпляраў. Вучоным адкрыты і ўпершыню апісаны не адзін новы від раслін і жывёл (адзін з відаў лаўра потым быў названы імем адкрывальніка). Сабраны Ельскім матэрыял даў іншым вучоным магчымасць зрабіць значныя абагульненні.

У трапічных джунглях падарожніка на кожным кроку падсцерагала небяспека. То ў ліянах прытойваўся ягуар, то побач з лодкай высоўвалася зяпа кракадзіла. Асабліва цяжка было даставаць змей. «Аднойчы,— успамінае Ельскі,— калі мы вечарам сядзелі ля стала, мне паведамілі, што каланісты даставілі велізарную вужаку. Гэта быў боа-канстрыктар даўжынёй звыш трох метраў і з выгляду зусім не пашкоджаны. Заплаціўшы 5 франкаў і дабавіўшы бутэльку віна, мы паклалі вужаку ў скрыню і зачынілі яе. Пры гэтым жывёліна кінулася на аднаго з нас, але не паспела ўкусіць, бо мы прыціснулі вечка. Назаўтра пасля работы ўсе служачыя бальніцы сабраліся, каб паглядзець на вужаку. Боа пачаў так моцна рыкаць, што можна было пачуць за кіламетр, і рыкаў бесперапынна амаль гадзіну. Такі зычны голас вужакі здзівіў усіх нас, бо, здаецца, ніхто з прысутных не чуў раней, каб боа рыкалі, ды яшчэ так гучна. Другі раз я паклаў у

вялікую скрыню прынесенага мне боа-цэўрыса, які меў мо паўтара метра ў даўжыню. А калі ўрачы, як звычайна, сабраліся пасля дзяжурства ў маёй кватэры, аказалася, што хтосьці прынёс жывога пацука. Усе аднагалосна патрабавалі, каб я кінуў яго вужацы. Пацук першы зачапіў боа і ўцяў яго некалькі разоў, урэшце яны сашчапіліся. Вужака хапіла зяпай галаву пацука і імгненна, бы пружына, абвілася вакол яго і так праляжала да вечара. Потым боа аслабаніў ахвяру, але не праглынуў яе. Наступныя дзесяць дзён ён нічога не еў і ўрэшце здох. Як выявілася потым, у вужакі быў пераламаны хрыбетнік».

«У Сен-Ларэнц,— успамінае Ельскі ў кнізе,— здарыўся такі выпадак. Плывучы па рацэ разам з каланістамі, жандар убачыў у вадзе велізарную вужаку, боа-мурына, і застрэліў яе. Здымаючы скуру, заўважылі, што вужака мела ў страўніку праглынутага кракадзіла даўжынёй з метр, а той, у сваю чаргу, праглынуў меншага кракадзіла. Боа-мурына быў настолькі доўгі, што, змераўшы яго, склалі адпаведны дакумент: 7 метраў! Здараліся выпадкі, калі вужакі нападалі на людзей. Аднойчы той жа жандар забіў качку і палез за ёй у ваду. Раптам яго схапіла за плячо вужака і пачала цягнуць у вір. Жандар здолеў вызваліцца, але са страху потым захварэў на малярыю і лячыўся ў кайенскім шпіталі. Сляды вужачых зубоў застаюся на ўсё жыццё».

Наколькі небяспечнымі з'яўляліся змеі, нават мёртвыя, сведчыць такі выпадак. Аднойчы сябры Ельскага злавілі ў час прагулкі маладзенькага ягуара. «Ноччу,— піша падарожнік,— з'явілася яго маці і з рыканнем абышла дом. Яе візіты паўтарыліся некалькі разоў. Каб пракарміць ягуара, мы стралялі лятучых мышэй і птушак. Але па меры росту ягуар станавіўся ўсё больш ненажэрным; тады яму ахвяравалі курэй. А калі не стала і іх — гарэзлівы ягуар схапіў галаву высушанай вужакі, раскусіў яе, наткнуўся на ядавіты зуб — і здох».

Звычайна Ельскі падарожнічаў па лясах у суправаджэнні індзейцаў. Вучоны высока цаніў іх здольнасці, бачыў у карэнных жыхарах Амерыкі паўнацэнных людзей, якія маюць усе правы на свабоднае і шчаслівае жыццё. «Ходзяць яны ціха і хутка,— пісаў Ельскі пра індзейцаў,— прыкмячаюць на дрэвах нават маленькіх птушак, шэрых і нерухомых, выдатна вызначаюць, які звер пакінуў след на зямлі. Умеюць яны пераймаць голас кожнага звера; у лесе могуць дастаць літаральна ўсё, бо ведаюць карысныя ўласцівасці кожнай расліны, кожнага дрэва». Ельскі смуткаваў з поваду таго, што індзейцаў становіцца ўсё менш і менш, што яны не вытрымліваюць сутыкнення з еўрапейскай «цывілізацыяй», са сквапнымі купцамі, якія за бутэльку гарэлкі набывалі ад іх розныя каштоўнасці. Са свайго

боку, мясцовыя жыхары, якіх Ельскі бясплатна лячыў, вельмі паважалі нашага земляка, называлі яго «добрым белым», дапамагалі яму ў паляванні на акул і чарапах, папаўнялі яго калекцыі новымі экземплярамі раслін і жывёл.

Прабыўшы ў Гвіяне звыш чатырох год, К. Ельскі пераехаў у Перу, дзе пражыў яшчэ амаль 10 год. Увесь гэты час вучоны падтрымліваў сувязі з еўрапейскімі музеямі, навуковымі арганізацыямі і паасобнымі вучонымі, выконваў іх заказы. Ён бесперапынна працаваў над рознымі вынаходствамі: то адкрываў сакрэты кітайскай чорнай тушы, то ўдасканальваў спосаб захавання засушаных насякомых. Вельмі цікавымі з'яўляюцца звычаі і абрады жыхароў Паўднёвай Амерыкі, якія Ельскі назіраў у Перу, а затым апісаў у сваіх успамінах.

У сталым узросце вучоны вярнуўся ў Еўропу, ажаніўся і пасяліўся ў Кракаве. Няўрымслівы даследчык па-ранейшаму поўны розных планаў. Ён піша даследаванне «Аб узаемнай залежнасці геалагічных з'яў», удзельнічае ў экспедыцыях у Брэтань і Далмацыю. Яшчэ за некалькі дзён да смерці, якая наступіла 26 лістапада 1896 года, Ельскі працаваў над падручнікам па заалогіі.

Біяграфія Ельскага не вельмі багата на фантастычныя эпізоды, эфектыўныя прыгоды. Нягледзячы на тое што яго шлях пралягаў па экзатычных краінах, ён ні разу не тануў, не трапляў у кіпцюры драпежнага звера, не абрываўся са скал. І ўсё ж жыццё нашага земляка — гэта бесперапынны подзвіг, яркі прыклад штодзённага працавітага служэння навуцы, чалавецтву. Падарожнік і ўрач, батанік і заолаг, географ і геолаг, ён пакінуў прыкметны след у развіцці прыродазнаўства мінулага стагоддзя.

# У ПОШУКАХ СТАРАДАЎНІХ РУКАПІСАЎ

Гісторыя беларускай літаратуры XIX стагоддзя поўна белых плям. Спіс яе здабыткаў куды меншы, чым спіс страт. Колькі твораў знішчана няўмольным часам і ваеннымі завірухамі, колькі назаўсёды загінула ў шуфлядах цэнзарскіх сталоў і шафах следчых камісій! Сярод іх — беларускія вершы П. Багрыма, У. Сыракомлі, В. Каратынскага, зборнікі «Скрыпка беларуская» і «Беларускія расказы» Ф. Багушэвіча, паэмы «Ганулся», «Андрэй» і «Віялета» Я. Лучыны, польскія п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча, гутаркі і драмы А. Вярыгі-Дарэўскага, пераклады А. Абуховіча і многае-многае іншае, што сёння нам вядома толькі па назве або невядома зусім.

Пра некаторых беларускіх пісьменнікаў мінулага стагоддзя мы ведаем толькі адно: яны былі! Вось змест сціплай нататкі ў газеце «Гоман» (1916, № 12): Яну Шэмету-Палачанскаму (нарадзіўся ў 1826 годзе ў Даўгінаве, памёр у 1905 годзе) належаць беларускія паэмы «Даўгінаўскі пагром», «Вяселле ў Беляка», «Барысаў камень», вершы «Да братоў у пакоях», «За чаркай», «На дзяды», «Думы ў полі» і інш. Частка з гэтых рукапісаў, паведамлялася ў нататцы, захоўваецца ў дачкі пісьменніка ў Цюмені. Аўтар гэтых радкоў пры пасрэдніцтве цюменскай абласной газеты спрабаваў у 1968 годзе адшукаць сляды тых рукапісаў, але сібірскія краязнаўцы адказалі, што прамыя нашчадкі Шэмета-Палачанскага памерлі некалькі год назад, а далёкія сваякі нічога канкрэтнага не ведаюць...

Або вось радкі з верша «Я клічу вас...», які падпісаны псеўданімам Горэвід:

Я клічу вас...
...даволі, годзе
Цярпець, галеці дый маўчаці!
Пара зварушыцца з магілы!
Сабраці ўсё, што есці сілы!
Ланцугі цемрачы парваці
Ды вольным быці нам — народзе...

Па мужнасці, па рэвалюцыйнасці гэты верш, бадай, не мае ў XIX стагоддзі сабе роўных. І напісаны ён вопытнай рукой. Але хто аўтар гэтых радкоў? На жаль, нават Р. Зямкевіч, у паперах якога верш «Я клічу вас...» захоўваўся побач з вершам «Палякам у дзень 3-га мая», ведаў толькі тое, што пад псеўданімам Горэвід хаваўся даволі адукаваны беларускі селянін.

Ва ўмовах, калі не захаваліся асабістыя архівы беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя, калі бясследна загінулі многія лепшыя творы і нават цэлыя зборнікі, набываюць асаблівую каштоўнасць кожная архіўная знаходка, кожны новы рукапіс, адкапаны з забыцця. Аб некаторых пошуках і знаходках пойдзе гаворка ніжэй. Праўда, не заўсёды пошукі завяршаліся ўдачай. Часта на змену надзеі прыходзіла расчараванне. Але аб расчараваннях і няўдачах таксама варта расказаць: магчыма, гэта дапаможа ў пошуках іншым.

## ПІСЬМЫ НАВОДЗЯЦЬ НА СЛЕД

...Рукапісны аддзел Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР. У высокіх старадаўніх шафах тут захоўваецца многа матэрыялаў па гісторыі беларускай літаратуры: польскія вершы Ф. Багушэвіча і восем сшыткаў з вершамі А. Гурыновіча, артыкулы Б. Тарашкевіча і аўтографы А. Абуховіча, пісьмы Р. Зямкевіча і запісы беларускіх народных песень. І гэта заканамерна: доўгія гады Вільня была асноўным цэнтрам развіцця нашага пісьменства.

Большасць твораў і дакументаў, якія маюць адносіны да гісторыі нашай літаратуры і раней захоўваліся ў Віленскім беларускім музеі, трапіла ў так званы Віленскі беларускі фонд (ВБФ, цяпер — Фонд 21). Гэты фонд ужо даволі добра вывучаны даследчыкамі. Але ці няма цікавых матэрыялаў у іншых фондах аддзела? Напрыклад, у Фондзе аўтографаў (ФА) ці Асноўным фондзе (АФ)?

Пошукі аказаліся плённымі: у Фонд аўтографаў трапіла карэспандэнцыя вядомых віленскіх кнігавыдаўцоў Завадскіх. Тут ёсць пісьмы многіх польскіх аўтараў, якія ў свой час жылі на тэрыторыі Беларусі. Сярод іншых карэспандэнтаў сустракаюцца прозвішчы А. Мастоўскай з Заслаўя, Т. Урублеўскай з Дзісны, В. Замбржыцкага з Оршы. У пачатку мінулага стагоддзя яны ўносілі пасільны ўклад у развіццё культуры на беларускіх землях. А вось тоненькая папка з невядомымі пісьмамі В. Дуніна-Марцінкевіча (ФА-743). Яны адрасаваны прадстаўніку другога пакалення выдаўцоў — Адаму Завадскаму.

Пісьмы В. Дуніна-Марцінкевіча даюць уяўленне аб матэрыяльным становішчы пачынальніка прафесіянальнай беларускай літаратуры, аб акалічнасцях, пры якіх друкаваліся і распаўсюджваліся яго кнігі. Як відаць з пісьма, датаванага 4 снежня 1856 года, Дунін-Марцінкевіч друкаваў свае творы ў Завадскага на ўласны кошт, а затым частку тыражу пакідаў на камісію ў віленскіх кнігарнях, частку ж распаўсюджваў сам. Як правіла, продаж кніг беларускага пісьменніка ішоў вельмі марудна, асабліва ў Вільні: тыраж «Сялянкі»,

надрукаванай у 1846 годзе, заставаўся нераскупленым нават праз дзесяць год.

Са знойдзеных пісем бачна, што ўзаемаадносіны паміж пісьменнікам і кнігавыдаўцом былі далёка не ідэальныя. Дадзім слова самому Дуніну-Марцінкевічу. У тым жа пісьме ад 4 снежня ён звяртаецца да Завадскага з наступнай скаргай:

«Вяльможны Мосці Дабрадзею! Бойся, пан-дабрадзей, бога! Пан, відаць, замест майго рахунку праз памылку пераслаў мне чыйсьці іншы — бо я загадзя паслаў пану з Мінска крыху грошай, а потым, будучы ў Вільні, атрымаў ад Варачкі 200 рублёў і з іх поўнасцю задаволіў пана-дабрадзея; тады ж пан раіў, каб я забраў усе мае кнігі, а я прасіў, каб частка іх засталася ў пана на камісіі — і ніякага доўгу за мной няма. Па-другое, пан-дабрадзей лічыць за перасылку 150 экземпляраў 2 рублі 65 капеек — аднак жа на расходы па перасылцы паслаў я тады з панам Беліновічам 4 рублі серабром...

Вельмі прашу пана-дабрадзея прыслаць мне бліжэйшай поштай 40 экземпляраў «Сялянкі», бо сумленная Беларусь смяротна патрабуе гэтага твора, і, каб я меў хаця б з 300 экземпляраў, усё роўна прадаў бы. Не сходзяцца мае і вашы рахункі, але што ж рабіць — толькі не залічвай пан-дабрадзей на мяне тое, што ўжо заплачана...»

Наколькі можна меркаваць з пісьма, датаванага 17 сакавіка 1851 года, Дунін-Марцінкевіч часта знаходзіўся ў такім цяжкім матэрыяльным стане, што не мог нават купіць сабе нумар часопіса, у якім гаворка ішла аб яго дзецях. Пісьменнік просіць у Завадскага пазычыць яму хаця б на ноч экземпляр «Бібліотэкі варшавскей» за кастрычнік 1850 года: «Менавіта там ёсць артыкул аб ігры маіх дзяцей — я заўтра аднясу. Толькі хачу прачытаць». З аналагічнай просьбай Дунін-Марцінкевіч яшчэ раней звяртаўся (і, відаць, без выніку) у кнігарню М. Аргельбранда (ФА-1824).

Што ж гэта за артыкул, аб якім ідзе гутарка ў пісьме аўтара «Гапона»? З цяжкасцю ўдалося адшукаць чацвёрты том «Бібліотэкі варшавскей» за 1850 год. У ім сапраўды змешчана рэцэнзія І. Сікорскага «Канцэрт маленькіх піяністаў Камілы і Міраслава Марцінкевічаў, дадзены ў Варшаве 15 і 23 жніўня г. г.». Адзначыўшы, што вышэйшыя колы грамадства ўсё яшчэ празмерна захапляюцца заходнім мастацтвам і не цэняць айчыннага, аўтар піша пра юных Марцінкевічаў: «Вось да нас прыбылі два маладыя таленты з ціхага літоўскага Мінска; гэтыя таленты настолькі выдатныя, што ў іх бачны геній». Рэцэнзент адзначае, што госці ігралі ў рознай манеры: «Ігра чатырнаццацігадовай Камілы вызначаецца спакойнай завершанасцю, закругленасцю, раўнавагай, урэшце, думкай, настолькі ўжо раз-

вітай, што яна заклікае маладую артыстку, нягледзячы на адсутнасць адпаведнай адукацыі, да выражэння на паперы ўласных твораў». Для малодшага ж Міраслава характэрны «сіла і адвага, якая часамі пераходзіць у дзёрзкасць». Вядомы варшаўскі музыказнаўца падрабязна разглядае выкананне кожнага нумара (у праграму канцэртаў уваходзілі творы Шапэна, Мендэльсона, Ліста). Выказаны і некаторыя крытычныя заўвагі, пажаданні.

У тым жа Фондзе аўтографаў, побач з пісьмамі В. Дуніна-Марцінкевіча, захоўваецца 8 пісем да Завадскага іншага Марцінкевіча — Геранім (ФА-742). У іх гаворыцца аб выданні польскай драмы «Падарожны» і зборніка «Несістэматызаваныя творы». Указваецца і адрас карэспандэнта: горад Віцебск. Адразу ж прыходзіць думка: гэта той самы Геранім Марцінкевіч, аб якім А. Семяновіч пісаў у «Беларускай драматургіі», што ён у 1862 годзе паставіў у Віцебску беларускую камедыю «Аказія пры Палкоўніцах». Значыць, варта адшукаць і яго польскія творы. Але старанныя пошукі ў мінскіх і вільнюскіх бібліятэках не давалі вынікаў. Толькі выпадкова ў вільнюскай букіністычнай кнігарні ўдалося натрапіць на зборнік вершаў Г. Марцінкевіча, які выдадзены ў Вільні ў 1845 годзе... А можа што захавалася ў матэрыялах Віленскага цэнзурнага камітэта?

І вось перад намі — арыгіналы драмы «Падарожны» (АФ-441) і зборніка «Несістэматызаваныя творы» (АФ-589). Першая з іх дазволена цэнзурай да друку 28 кастрычніка 1859 года, другі — у чэрвені 1857 года. Пяро цэнзара выкрасліла пры гэтым многія радкі і нават цэлыя абзацы, у якіх у той або іншай форме гаварылася аб неабходнасці адмены прыгоннага права, аб росце рэвалюцыйных настрояў у краіне напярэдадні паўстання 1863 года.

У «драме з праўдзівага здарэння» «Падарожны» мы знаходзім тую ж самую сімволіку, тыя ж самыя алегорыі, якія характэрны для тагачаснай польскай паэзіі, звязанай з нацыянальна-вызваленчым і антыпрыгонніцкім рухам. Галоўны герой твора, таямнічы падарожнік, прыязджае ў родны горад над Дзвіной. Бачачы людское гора і чэрствасць магнатаў, на нейкі час ён губляе цікавасць да жыцця, хоча памерці. Але бура, што ўзнімаецца за акном, выводзіць героя са здранцвення, ёгі зноў гатовы дзейнічаць у імя таго, каб яго землякі былі шчаслівыя. Ён упэўнены, што «зло, якое нас гняце, з'яўляецца часовым: прад сілаю ахвяр скорыцца злачыннасць», што вызваленне залежыць не ад цудаў, а ад «магутнасці народаў». Апошняе чатырохрадкоўе драмы, дзе гаворыцца аб тым, што ад слоў пара перайсці да спраў, закрэслена рукой цэнзара П. Купальніка.

Яшчэ больш жорстка паступіла цэнзура са зборнікам «Несістэматызаваныя творы». Так, у артыкуле «Гаспадары — стары і малады» выкраслена некалькі старонак, на якіх даказваецца, што «так быць не павінна, інакш быць мусіць», што трэба хутчэй адмяніць прыгоннае права і ўраўняць у правах сялян з панамі. У іншых артыкулах зборніка аўтар гаворыць аб патрэбе сумесных намаганняў, аб тым, што бескультур'е беларускай вёскі абумоўлена беднасцю селяніна. Зборнік сведчыць, што Геранім Марцінкевіч быў перадавым для свайго часу чалавекам, блізка прымаў да сэрца не толькі нягоды свайго народа, але і гора іншых народаў. Напрыклад, у артыкуле «Увагі іназіранні» наш зямляк гнеўна пратэстуе супраць гандлю неграмі і тут жа дабаўляе, што «часамі яшчэ больш ганебным бывае гандаль сярод цывілізаваных класаў грамадства». А ў замалёўцы «Канцылярыст» знішчальна высмеяна віцебскае чыноўніцтва. Яно вельмі далёкае ад народа і ўвесь час праводзіць за чаркай ды гульнёй у карты.

## З ПЯЧАТКАЙ АЛЯКСАНДРА ЕЛЬСКАГА

Адным з першых гісторыкаў беларускай літаратуры і збіральнікаў беларускіх рукапісаў быў Аляксандр Ельскі (1834-1916), стрыечны брат падарожніка К. Ельскага. Чалавек ліберальна-буржуазных поглядаў, ён усё жыццё эвалюцыяніраваў управа і пасля рэвалюцыі 1905 года адкрыта перайшоў на рэакцыйныя пазіцыі. Ельскаму належыць некалькі вершаваных і празаічных брашур на беларускай мове — «Сынок!» (1895), «Выбіраймася ў прочкі!» (1896), «Слова аб праклятай гарэліцы і аб жыцці і смерці п'яніцы» (1900), «Гутарка аб том, якая мае быць «Зямля і воля» сельскаму народу» (1906) і іншыя. Усе яны вытрыманы ў духу буржуазнага асветніцтва, прымітыўныя па свайму мастацкаму ўзроўню і таму маюць сёння толькі гісторыка-літаратурнае значэнне.

У спадчыне Ельскага ёсць таксама многа прац на польскай мове. Яны прысвечаны пераважна мінуламу Беларусі, яе эканоміцы. Цікава, што некаторыя з гэтых прац («Заўвагі аб сялянскім пытанні», «Нарыс нораваў шляхты») былі прыхільна сустрэты прагрэсіўнай грамадскасцю і адмоўна — рэакцыянерамі. Як пад уласным прозвішчам, так і пад псеўданімамі Бацян з-над Пцічы і Літвін-грамадзянін Ельскі змясціў у розных газетах і часопісах («Край», «Кур'ер віленьскі», «Хвіля») дзесяткі артыкулаў і карэспандэнцый. Найбольш цікавыя з іх — «Слоўца аб старым Заслаўі» («Край», 1888, № 16), «Марыя» Мальчэўскага ў маларусах і беларускіх перакладах» («Край», 1889, № 7), «Пра

беларускую гаворку» («Край», 1885, № 5, 6), «Юбілейная нататка пра беларускую літаратуру» («Край», 1889, № 29), «Нататкі аб падарожжы па Мінскай губерні» («Тыгоднік повшэхны», 1880), «Слоўца аб матэрыялах, якія служаць для даследавання беларускай гаворкі, этнаграфіі і літаратуры» («Хвіля», 1886, № 17-23). Апошні артыкул быў з нязначнымі зменамі змешчаны ў VIII томе польскай «Вялікай агульнай ілюстраванай энцыклапедыі» (1892). Урэшце,. Ельскі пераклаў на беларускую мову першую частку паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (Львоў, 1892), выдаў зборнік «100 прыказак, загадак, прыдумак і гавэндаў для пажытку беларускага народа» (Вільня, 1908).

Як бачым, Ельскі пакінуў вялікую і шматбаковую, хоць і супярэчлівую ў ідэйных адносінах, літаратурную і навуковую спадчыну. Яго шматлікія брашуры выклікалі ў свой час ажыўленыя спрэчкі вакол беларускага пытання. Аднак куды большую паслугу Беларусі рабіў Ельскі, збіраючы ў сваім маёнтку Замосце помнікі беларускага пісьменства, старадаўнія рукапісы і аўтографы. Дом пісьменніка ператварыўся ў сапраўдны беларускі музей. У прыватнасці, вядома, што туды трапілі рукапісы са славутага куфра, які ў доме Дуніна-Марцінкевіча бачыў у час вучобы Ядвігін Ш.

Але пасля першай сусветнай вайны багатыя зборы Ельскага бясследна загінулі. Хадзіла глухая гаворка, што сваякі пісьменніка часткова вывезлі іх у Варшаву. Значыць, сляды трэба шукаць там...

І вось — першая знаходка. У аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве ў мае рукі трапляе тоўстая «Кніга для запісу асоб, якія аглядаюць зборы ў Замесці, пачатая ў 1882 годзе» (№ 5087). На першай старонцы стаіць асабістая пячатка Аляксандра Ельскага. Усяго ў кнізе — 255 запісаў. Музей наведалі славутыя тады вучоныя Катарбінскі, Здзяхоўскі, Федароўскі, Талька-Грынцэвіч, пісьменнік Вайсангоф. Ёсць запісы на рускай, французскай, нямецкай і нават дацкай мовах. А вось і радкі на беларускай мове: «Прабыў я колькі днёў у шаноўнейшага пана Аляксандра Ельскага...» (далей неразборліва). І яшчэ, вершам (запіс ад 12 верасня 1892 года):

Дзесяць лет праляцела,
Мой ты мілы браце,
Як глядзеў тыя скарбы
У Тваёй пекнай хаце.
Дзіўлюсь я той працы
І гэтай вытрвалосці,
З якой усё ідзе
У пана ягамосці.
Дай жа божа, мой братка,

Табе доўга жыці
Тай верна служа богу
Век шчаслівым быці.
Твой, братка, адналетак
Саван Пранцісь Ельскі.

Акрылены першым поспехам, я пачаў пільна гартаць справу за справай. Дзень за днём праседжваў у старадаўнім палацы на плошчы Красінскіх. Ды ўсё дарэмна: рукапісы з пячаткай Ельскага больш не трапляліся. Тады ўніклівы знаўца бібліятэчных багаццяў пані Алодыя Грычова параіла мне звярнуцца да фондаў, якія набыты нядаўна і таму яшчэ не апісаны. І вось — новая радасць: невялікі сшытак пад назвай «З-над Іслачы або лякарства на сон, апавяданне Навума Прыгаворкі ў 2-х частках» (№ 6358 акц.). Пазнаю характэрны почырк В. Дуніна-Марцінкевіча...

Паэма «З-над Іслачы» напісана ў 1868 годзе, калі Дунін-Марцінкевіч бязвыезна жыў у невялікім фальварку Люцынка, размешчаным на беразе хуткай рачулкі Іслачы. Уся краіна тады балюча перажывала паражэнне ў паўстанні 1863 года. Водгукі народнай трагедыі чуваць і ў паэме. Аўтар скардзіцца, што наступілі цяжкія часіны, але не траціць надзеі на лепшы заўтрашні дзень, бо «толькі слабы плача, калі яму балюча, не падае духам чалавек моцнай волі!»

Асабліва балюча паэту, калі ён бачыць, як спусташаюць людзей «спекуляцыя», новыя, капіталістычныя адносіны. У паэме паказаны адзін з такіх «спекулянтаў» — выскачка Сабковіч. Яшчэ нядаўна ён пасвіў жывёлу, потым стаў аканомам, без літасці ашукваў сялян і выдае сябе за важнага пана, абыгрывае ў карты суседзяў ды хоча набіць кішэню багатым пасагам. Магчыма, што Сабковіч, які потым, у 1870 годзе, стане галоўным героем п'есы «Залёты», быў рэальнай асобай, суседам Дуніна-Марцінкевіча.

Паэма «З-над Іслачы» напісана на польскай мове, але ў ёй ёсць і беларускія ўстаўкі накшталт:

Ах, калі б мне зранку
Гарбаты хоць шклянку,
І цюцюну люльку,
Дзяўчыну Анульку;
Гарбату я піў бы,
Цюцюнец курыў бы,
Дзяўчыну Анульку
К сэрцу прытуліў бы.

Куды больш, чым у Нацыянальнай бібліятэцы, папераў Ельскага захоўваецца ў варшаўскім Галоўным архіве старажытных актаў

(АГАД). У ім ёсць спецыяльны «Архіў Прозараў і Ельскіх». Праўда, дакументы гэтага фонду прысвечаны пераважна гаспадарчым, маёмасным справам. Але пад нумарам 140 удалося адшукаць дзве тоўстыя папкі пад назвай «Матэрыялы, якія датычацца беларускай літаратуры, 1517-1896, 1896-1911». Тут — копіі вядомых твораў Багушэвіча, Сыракомля «Гутаркі старога дзеда», экземпляры перакладаў на беларускую мову кніг «Сігнал» М. Гаршына (1891) і «Да свайго бога» М. Зыха (Стэфана Жаромскага) (1904), карэктурныя адбіткі, бібліяграфія беларускіх твораў (асобна па XVI, XVII і XVIII стагоддзях), урэшце, пісьмы К. Каганца, Р. Зямкевіча, В. Іваноўскага і іншых. Так, у недатаваным пісьме Р. Зямкевіч просіць Ельскага, каб той дапамог яму ўстанавіць гады жыцця Рыпінскага і Вярыгі-Дарэўскага, салідарызуецца з адмоўнымі адносінамі Ельскага да «Нашай нівы», дзе І. Луцкевіч «паступаў неэтычна» з рукапісамі, паведамляе, што паслаў Ельскаму два беларускія вершы, датаваныя 1794 і 1858 гадамі. У пісьме ад 21 сакавіка 1909 года той жа Зямкевіч выказвае жаданне пазнаёміцца з неапублікаванымі творамі Дуніна-Марцінкевіча, якія захоўваліся ў Ельскага.

У папцы пад нумарам 140 захоўваецца таксама сшытак з вершамі беларускага сялянскага паэта канца XIX стагоддзя Мікалая Марозіка. Пра гэтага аўтара да апошняга часу вядома было толькі, што пад псеўданімам А. Шункевіч ён апублікаваў у газеце «Минский листок» (1889, № 18) беларускі дыдактычны верш «Сцяпан і Таццяна». Апрача таго, у «Лістках календара» Максіма Танка гаворыцца, што сябар Ф. Багушэвіча, З. Нагродскі, успамінаў перад смерцю, нібы Марозік чытаў беларускія вершы на адкрыцці ў Вільні помніка Кацярыне II.

І вось — цэлы сшытак вершаў амаль невядомага аўтара. На жаль, асабліва радавацца няма падстаў, бо вершы Марозіка прымітыўныя, напісаны на такім вось «узроўні»:

Бо як голька гаспадара ў карчму панясло,
Дак і поле травою зарасло.
І як стаў да карчмы прывыкаць,
То нечым і поле пахаць.
І як пачаў гарэлку любіць,
То незашта і кабылы купіць...

— і гэтак далей на цэлых 360 радкоў.

У канцы працытаванага вышэй «Сачынення пад рыфму на п'янства і гультайства» аўтар паведамляе пра сябе наступнае: «Саставіў селянін Мінскай губерні Навагрудскага павета Нягневіцкай

воласці сяла Лаўрышава Мікалай Фёдараў Марозік 1890 года. Усіх сачыненняў маю больш пятнаццаці на розныя тэмы».

Урэшце, аб маштабах збіральніцкай дзейнасці Ельскага красамоўна сведчаць яго пісьмы, адрасаваныя вядомаму польскаму раманісту Ю. І. Крашэўскаму. Яны знаходзяцца ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве (рукапіс № 6508). Першае пісьмо адпраўлена з Варшавы ў Дрэздэн 18 верасня 1870 года. Апынуўшыся пасля паўстання 1863 года ў цяжкім матэрыяльным становішчы, Ельскі хоча пры дапамозе Крашэўскага прадаць сваю калекцыю эскізаў: «Яшчэ нядаўна я быў незалежным чалавекам, літоўскім гаспадаром. Непрэтэнцыёзны, ціхі і старанны шукальнік айчынных памятак, я ў свой час сабраў значную калекцыю, у тым ліку збор эскізаў і малюнкаў вядомых нашых мастакоў. Сёння ж у выніку агульных прычын я даведзены да матэрыяльнай руіны, пазбаўлены незалежнага становішча і таму вымушаны зарабляць на кавалак хлеба і, з-за адсутнасці сродкаў, быў бы рад збыць у аматарскія рукі некаторыя памяткі, сабраныя з такой стараннасцю і такім коштам».

Што ж гэта за памяткі, аб якіх гаворыць Ельскі? Як вынікае з далейшага тэксту пісьма, сярод іх былі творы Чаховіча, братоў Смуглевічаў, Бароўскага — усяго каля 250 эскізаў і малюнкаў. Апрача таго, Ельскі меў каля 1000 гравюр, палотны Бакіярэлі, Дамеля, Лямпі, Ноля і нават адзін арыгінал Рэмбранта. Частку з іх калекцыянер адправіў Крашэўскаму ў Дрэздэн, але той, відаць, не знайшоў пакупніка. 25 сакавіка 1873 года Ельскі паведамляе, што атрымаў эскізы назад.

У другім пісьме Ельскі просіць Крашэўскага, каб той памог яму дастаць аўтографы Тургенева, Ходзькі, Сташыца і іншых славутых людзей. Усяго ў калекцыі Ельскага было каля 2000 аўтографаў. Нязначная частка з іх трапіла ў Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва БССР.

Карэспандэнцыя Ельскага пралівае пэўнае святло і на творчыя справы пісьменніка. 22 ліпеня 1876 года ён паведамляў Крашэўскаму, што «рашыў зрабіць паслугу нашаму народу, перакладаючы на беларускую мову «Сем вечароў» вядомага Юзафа Супінскага». На жаль, пераклад гутарак папулярнага польскага эканаміста свету так і не ўбачыў, бо не знайшлося аматара, які фінансаваў бы выданне. Высока адзываючыся ў пісьмах аб «сумленным» беларускім народзе, Ельскі адначасова востра крытыкуе мясцовую польскую шляхту, якая марнатравіла і марнатравіць «багацці айчыннай зямлі, бы паразіт».

## ЗАПІСНАЯ КНІЖКА ПАЎСТАНЦА

У рукапісным аддзеле Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве маю ўвагу прывабіла невялікая, пажаўцелая ад часу запісная кніжка (рукапіс № 6540). На першай яе старонцы каліграфічным почыркам выведзена: «Нататкі паўстанца 1863 года ў магілёўскай турме». Далей ідзе неразборлівы подпіс. Невядомы ўладальнік кніжкі, якога царскія ўлады прыгаварылі да катаржных работ, прызначыў яе сваёй нявесце Ядвізе. Аб гэтым сведчыць прачулае прысвячэнне. Развітваючыся з нявестай, аўтар просіць Ядвігу зберагчы кніжку, калі тая трапіць у яе рукі, захаваць для гісторыі імёны тых, хто ахвяраваў жыццём у імя вызвалення радзімы. Ці атрымала нявеста кніжку і якім чынам гістарычная рэліквія трапіла ў Варшаву — невядома.

У запісной кніжцы пакінулі аўтографы ўдзельнікі паўстання 1863 года, якія адбывалі пакаранне ў магілёўскай турме. Вось некалькі запісаў: «Аляксей Вайніловіч, вучань з Магілёўскай губерні, прыгавораны да вечнай ссылкі ў Сібір», «Уладзіслаў Корбут — родам з Мінска», «Гордан Пароскі — вучань Слуцкай гімназіі», «Альфрэд Завада, з Гродзенскай губерні, Шчучын, да катаргі на 8 год», «Эдвард Матушэвіч, фартэпіянны майстар з Мінскай губерні і павета». Сярод вязняў — многа студэнтаў Маскоўскага універсітэта і Горы-Горацкага земляробчага інстытута. Запісная кніжка пацвярджае вывад гісторыкаў А. Смірнова і Г. Кісялёва аб тым, што на Магілёўшчыне (у атрадах Звяржджоўскага) у паўстанні 1863 года ўдзельнічалі пераважна разначынцы, дробная шляхта. Сяляне тут яшчэ верылі «добраму цару», пад уплывам царскіх чыноўнікаў глядзелі на паўстанне 1863 года як па панскую «інтрыгу» і таму часта выдавалі паўстанцаў. Пра гэта сведчыць і знойдзеная кніжка. На 15-й старонцы яе намаляваны селянін. Пад малюнкам — подпіс на беларускай мове: «Звяжы пана — грошы будуць!» Тут жа змешчаны сатырычны верш аб тым, як магілёўскаму губернатару Беклямішаву ўдалося перацягнуць на свой бок сялян і разам з імі звязаць паўстанцаў. У кніжцы цытуюцца найбольш папулярныя паўстанцкія песні, верш У. Сыракомлі «Лялька».

Знойдзеная ў Варшаве запісная кніжка цікава яшчэ і тым, што ў ёй многа гаворыцца пра Тамаша Грыневіча. Усім у памяці раман У. Караткевіча «Нельга забыць». Асабліва ўсхваляваў чытачоў подзвіг аднаго з герояў рамана, Усяслава Грынкевіча, расстралянага за ўдзел у паўстанні, і подзвіг яго жонкі, якая спяшалася прывезці вестку аб «памілаванні» і спазнілася на некалькі трагічных мінут. І вось з запісной кніжкі бачна, што ва Усяслава Грынкевіча ёсць рэальны прататып — Тамаш Грыневіч, расстраляны ў Рагачове адначасова з

двума братамі — афіцэрамі Манцэвічамі. Пад датай 1 чэрвеня 1863 года ў запісной кніжцы ёсць верш Грыневіча «Песня прыгаворанага да смерці паляка». Аўтар верыць, што справа свабоды не загіне, «пакуль жыве славянскае племя». Дзеля вызвалення трэба паказваць народу прыклады гераізму і самаахвярнасці. Перамога не прыйдзе сама сабой: «Полымя раптам не ўспыхвае — яно пачынаецца з іскры». А далей ідзе верш, прысвечаны ўдаве Грыневіча, той самай, якая спазнілася на некалькі мінут. Невядомы аўтар захапляецца яе мужнасцю, якая, на яго думку, будзе па-сапраўднаму ацэнена і ўзнагароджана толькі тады, калі краіна вызваліцца з няволі. У. Караткевіч, зразумела, не чытаў гэтых вершаў, не ведаў пра існаванне запісной кніжкі, але, як мастак, пранік у дух тагачасных падзей і таму застаўся верны гістарычнай праўдзе.

## У ПОШУКАХ БАГУШЭВІЧАЎСКАЙ ШКАТУЛКІ

Імя выдатнага паэта Францішка Багушэвіча (1840-1900) добра вядома ўсяму беларускаму народу. Лепшыя вершы палымянага дэмакрата, напісаныя гадоў 80-90 таму назад, і сёння хвалююць, кранаюць сэрцы чытачоў шчырай любоўю да свайго народа і нянавісцю да яго ворагаў. Паэт непахісна верыў, што раней ці пазней абяздолены беларускі мужык зажыве вольна і шчасна.

Францішак Багушэвіч пісаў у цяжкі час, калі царскія ўлады ўсяляк забаранялі беларускае друкаванае слова. Свае зборнікі «Дудка беларуская», «Смык беларускі» і апавяданне «Траляленачка» паэт выдаў за межамі Расійскай імперыі, хаваючыся пад псеўданімамі Мацей Бурачок і Сымон Рэўка з-пад Барысава. На «Дудцы беларускай» значыцца, што яна надрукавана ў кракаўскай друкарні У. Л. Анчыца; на «Смыку беларускім» — што яго выдаў у Познані Р. Нікульскі.

Аднак далёка не ўсё напісанае Багушэвічам убачыла свет і дайшло да нашых дзён. У некралогах, прысвечаных смерці паэта, гаворыцца, што ён выдаў (або падрыхтаваў да друку) зборнік «Скрыпка беларуская». На жаль, самыя старанныя пошукі зборніка не далі пакуль што вынікаў. Загінулі таксама апавяданні Багушэвіча, яго перапіска з многімі выдатнымі сучаснікамі, у тым ліку пісьмы ад Элізы Ажэшкі. Праўда, часам даследчыкам удаецца адкапаць сёе-тое са спадчыны пісьменніка. Напрыклад, нядаўна Г. Кісялёў знайшоў у Вільнюсе яго пісьмы да польскага вучонага-філолага Яна Карловіча. Але гэта — толькі кропля ў моры таго, што трэба адшукаць. Калі б сёння ў рукі літаратуразнаўцаў трапіў асабісты архіў Багушэвіча, мы

разгадалі б не адну творчую таямніцу і ўзбагацілі б гісторыю беларускай літаратуры XIX стагоддзя новымі цікавымі старонкамі.

Дзе ж шукаць гэты архіў? У Кушлянах, дзе Багушэвіч правёў апошнія гады жыцця, не засталося нічога. Мясцовыя старажылы сцвярджаюць, што драўляную шкатулку, у якую паэт складваў свае рукапісы і карэспандэнцыю, у 1946 годзе хтосьці з унучак вывез у Польшчу. Апрача таго, у Кракаве і Познані сярод папераў Анчыцаў і Нікульскага магла аказацца запаветная «Скрыпка беларуская», маглі захавацца аўтографы «Дудкі беларускай» і «Смыка беларускага». Значыць, трэба ехаць у Польшчу...

Пошукі ў Кракаве прынеслі адны расчараванні. Супрацоўнікі бібліятэкі Ягелонскага універсітэта дапамаглі мне ўстанавіць, што архіў Анчыцаў пакуль што не трапіў у дзяржаўныя сховішчы. Але яшчэ жыве ўнучка У. Анчыца. Можа, паперы -засталіся ў яе?

— Не,— адказвае Зоф'я Тржэбіцкая.— Папераў майго дзядулі ў мяне няма. Яны ўсе засталіся ў будынку друкарні па Звежынецкай вуліцы. Калісьці яна належала майму дзеду, а цяпер — дзяржаве. Пагаварыце з дырэктарам.

— На жаль, нічым не магу вам дапамагчы,— разводзіць рукамі дырэктар друкарні.— На паддашку сапраўды захоўваецца частка архіва Анчыцаў. Але паперы яшчэ не ўпарадкаваны. Апрача таго, тут знаходзіцца архіў толькі ад 1901 года, калі друкарня пераехала на Звежыкецкую з Сенатарскай. Вас жа цікавіць пачатак 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Не ўяўляю, што сталася з архівам друкарні па Сенатарскай. Можа, што памятае сябар Анчыцаў, уладальнік букіністычнага магазіна на Шчэпаньскай плошчы Мар'ян Кржыжаноўскі? Калісьці ён сам быў кнігавыдаўцом.

— Так, памятаю,— старэчым шэптам паведамляе гаспадар магазіна.— Памятаю, што Анчыц выдаваў нейкі зборнічак на беларускай мове. Але калі яго перапраўлялі нелегальна праз граніцу з Расіяй, увесь тыраж канфіскавалі і спалілі. Так, магчыма, зборнік называўся «Скрыпачка». А што датычыцца архіва друкарні па Сенатарскай — нічога не памятаю. Стары Анчыц наогул не паважаў паперы, усю дакументацыю трымаў у кішэні. А ўрэшце, спытайцеся ў майго сябра і равесніка Казімежа Віткевіча. Вось яго адрас.

— Сёння ўжо цяжка ўзнавіць гэта ў памяці,— сказаў прафесар Віткевіч.— Калі з часам успомню што — напішу вам.

Такім чынам, кола замкнулася. Не ўдалося таксама знайсці нейкія сляды прабывання Багушэвіча ў Кракаве на IV з'ездзе польскіх прыродазнаўцаў. Не ўдалося высветліць, што сабой уяўлялі унікальныя рэчы, якія, па словах Н. Роўбы, беларускі паэт ахвяраваў

Нацыянальнаму музею ў Кракаве. Заставалася адзіная надзея на Познань, дзе ў 1894 годзе нехта Р. Нікульскі «сваім коштам» выдаў зборнік «Смык беларускі».

У Познані мяне сардэчна сустрэлі прафесар М. Вайцяхоўская і намеснік дырэктара бібліятэкі Познанскага універсітэта М. Паўлікоўскі. Яны ахвотна і зацікаўлена дапамагалі ў пошуках. Ды ўсё дарэмна. Праўда, пры пошуках высветліліся немалаважныя акалічнасці. Аказалася, што ў канцы XIX стагоддзя такога шрыфту, якім набраны «Смык беларускі», не было ні ў адной познанскай друкарні. Ніякіх слядоў ад зборніка не захавалася ў актах гарадскога паліцай-прэзідыума, дзе абавязкова рэгістравалася кожнае выданне (пры ліберальнай прускай цэнзуры адпадала патрэба друкаваць зборнік нелегальна). Урэшце, польскім спецыялістам, а М. Паўлікоўскі ўзначальвае познанскую рэдакцыю «Слоўніка людзей польскай кнігі», зусім невядома прозвішча Р. Нікульскага. Значыць?..

— Значыць,— падхопліваюць маю думку субяседнікі,— «Смык беларускі» друкаваўся не ў Познані. Звярніце яшчэ ўвагу: у нашай бібліятэцы няма ніводнага экземпляра гэтай кнігі, у той час як у варшаўскіх і кракаўскіх бібліятэках ёсць па некалькі экземпляраў. Гэта таксама важкі аргумент.

— Калі б кніга выдавалася ў нас,— гаворыць у заключэнне М. Вайцяхоўская,— то прозвішча выдаўца напэўна змянілі б у адпаведнасці з польскімі нормамі на «Мікульскі». Відаць, Познань указалі для таго, каб заблытаць царскую цэнзуру і жандараў.

Што ж, вывад зусім лагічны, хоць і несуцяшальны. «Смык беларускі» маглі аддрукаваць, скажам, ва Усходняй Прусіі, у Тыльзіце, дзе тады выдавалася не адна беларуская кніга. Але дзе ўзяць доказы?! Эх, каб знайшлася таямнічая багушэвічаўская шкатулка... Трэба хутчэй ехаць у Ольштын, дзе павінна жыць адна з трох унучак паэта, Канстанцыя Пшэднікоўская. Нягледзячы па нядзельны дзень, міліцыя дапамагае мне ўстанавіць адрас. З хваляваннем еду на ўказаную вуліцу — а там выяўляецца, што Канстанцыя Пшэднікоўская пераехала ўжо ў Сопат. Працягваць жа пошукі перашкаджае план камандзіроўкі...

Наведаць Канстанцыю Пшэднікоўскую ўдалося толькі праз два гады, калі мне пашчасціла адпачываць якраз у тым самым курортным гарадку Сопат. Маім спадарожнікам быў шчыры сябар беларускай літаратуры і яе папулярызатар у Польшчы Мацей Канапацкі. У сціпла абстаўленай кватэры пас сустрэла дачка адзінага сына Багушэвіча, хударлявая жанчына год пяцідзесяці. Тут жа знаходзілася праўнучка паэта і нават маленькі прапраўнук. За трады-

цыйнай чорнай кавай пачалася шчырая гаворка. Канстанцыі Пшэднікоўскай радасна было пачуць, што ў Савецкай Беларусі шануюць памяць яе дзеда, што яго творы вывучаюцца ў школах. Гаспадыня распытвала пра багушэвічаўскі помніку Жупранах, пра нядаўні юбілей паэта, смуткавала, што не змагла ўдзельнічаць ва ўрачыстасцях. Пасля наступіла мая чарга зацікаўлена пытацца:

— Скажыце, калі ласка, што сталася з рукапісамі вашага дзеда? Ці ведаеце вы што-небудзь пра лёс ягонай драўлянай шкатулкі?

— Так,— адказала мне гаспадыня.— Да 1946 года шкатулка захоўвалася ў нашым доме ў Кушлянах. Былі там беларускія і польскія вершы, апавяданні, пісьмы да дзеда, а таксама граматы караля Станіслава Аўгуста, які надаў сям'і Багушэвічаў шляхецкія прывілеі.

На мае пытанні, куды ўсё гэта падзелася ў 1946 годзе і ці была шкатулка вывезена; ў Польшчу, Пшэднікоўская толькі развяла рукамі. Шкатулку проста пабаяліся ўзяць, бо час быў яшчэ неспакойны. Разам з мэбляй яе пакінулі старой жанчыне, якая доўга дапамагала Пшэднікоўскім па гаспадарцы, а потым стала сваім чалавекам у доме. Ёй было сказана закапаць або схаваць шкатулку.

— А як прозвішча той жанчыны? — спытаў я з надзеяй.

— Не памятаю,— адказала Пшэднікоўская.— Звалі мы яе проста Мальвінай. Прыпамінаю толькі, што ёй было тады каля 65 год і што была ў яе дзесьці дачка.

Тут жа Пшэднікоўская прыгадала, што ў Кушлянах таксама засталіся два партрэты Багушэвіча, намаляваныя вядомым мастаком Андрыёлі, і розныя асабістыя рэчы паэта. Узамен іх Мальвіна павінна была даглядаць хворага стрыечнага брата Пшэднікоўскай.

Потым гаворка пайшла пра тое, як раней выглядаў дом Багушэвічаў. Пакуль не позна, трэба было б па магчымасці ўзнавіць у доме ўсё так, як было 70 гадоў назад,— Канстанцыя Пшэднікоўская ахвотна згадзілася б даць адпаведныя парады.

На развітанне ўнучка палымянага дэмакрата сказала мне, што вельмі добра было б, калі б урэшце ўдалося адшукаць тую Мальвіну, а разам з ёю — і запаветную шкатулку.

Вярнуўшыся з Польшчы, я адразу ж, не чакаючы нават канца водпуску, пачаў пошукі: дарагі быў кожны дзень, бо мог адысці ў нябыт патрэбны чалавек. У першую чаргу дарога прывяла мяне ў Ашмяны, у музей Багушэвіча.

З Ашмян я накіраваўся ў Жупраны. Разам з мясцовай настаўніцай Л. Пількоўскай адшукаў там унучатага пляменніка Багушэвіча П. Вянцкоўскага. Ён сказаў, што памятае такую старую жанчыну ў багушэвічаўскім доме, але зноў жа з-за даўнасці не можа прыгадаць

яе прозвішча. Вянцкоўскі накіраваў мяне да кушлянскага старажыла Юльяна Свірыды.

Пакланіўшыся магіле Багушэвіча на жупранскіх могілках, кружным шляхам — паводкаю якраз разбурыла мост — пайшоў я ў Кушляны. Вось і дом, дзе (як сведчыць мемарыяльная дошка) «нарадзіўся, жыў і працаваў» аўтар «Дудкі беларускай», хаця на самай справе паэт нарадзіўся далёка адсюль, у Свіранах. Цяпер у гэтым доме знаходзіцца бібліятэка імя Багушэвіча. Але дзверы аказаліся на замку. Затое мне пашчаслівілася сустрэць стоража гэтага дома, Міхала Ляпеху. Звычайны селянін, ён страсна любіць творчасць свайго земляка, расказвае розныя паданні, якія склаліся пра Багушэвіча. Гэта ён добраахвотна даглядае алейку, што вядзе да Лысай гары, і дрэвы на ёй, пасаджаныя самім паэтам, і падае слушную думку, што тут трэба стварыць багушэвічаўскі парк.

Дарэчы, мясцовыя старажылы расказалі пра цікавы факт. Паміраючы, Багушэвіч спецыяльна завяшчаў, каб яго магіла нічым не адрознівалася ад магіл простых сялян...

Разам з новым знаёмым мы пайшлі шукаць Юльяна Свірыду. Яго жонка адразу прыгадала, што ў доме Багушэвічаў калісьці такім «сваім чалавекам» была Мальвіна Трусевіч. Але яна памерла дзевяць гадоў назад. Праўда, у Кушлянах жыве яе дачка, Марыя Дудэк. Нарэшце, падумалася мне, знойдзены нейкі канкрэтны след! Абнадзееныя, мы пайшлі далей.

І тут жа надзея змянілася расчараваннем. Марыя Дудэк не жыла са сваёй маці. Мальвіна Трусевіч памерла ў доме нейкіх перасяленцаў з Беласточчыны. Цяпер гэтыя перасяленцы выехалі, і выехалі невядома куды. У доме ж іншага перасяленца, па прозвішчу Сац, Марыя Дудэк бачыла партрэты Багушэвіча. Але гэты Сац таксама нядаўна выехаў кудысьці.

Такім чынам, мае пошукі запаветнай шкатулкі пакуль што не далі жаданых вынікаў. Магчымы тры варыянты. Можа, непісьменная Мальвіна Трусевіч не прыдала паперам ніякага значэння і знішчыла іх. Можа, рукапісы Багушэвіча недзе засталіся ў зямлі ці ў нейкай схованцы ў Кушлянах. Можа, яны трапілі да тых перасяленцаў, у доме якіх памерла Мальвіна Трусевіч. І гэтыя людзі цяпер нават не падазраюць, якія скарбы знаходзяцца ў іх руках. Я спадзяюся, што чытачы кнігі, асабліва школьная моладзь, дапамогуць у далейшых пошуках рукапісаў Багушэвіча і яго партрэтаў. Трэба высветліць, куды пераехалі тыя жыхары Кушлян, у доме якіх памерла Мальвіна Трусевіч, і ці ўзялі яны з сабой драўляную шкатулку.

## ПА СЛЯДАХ АРХІВА АБУХОВІЧА

Аб няўдачных пошуках у Польшчы можна было б расказваць доўга. Не ўдалося, напрыклад, знайсці архіў Р. Зямкевіча (кажуць, пасля смерці збіральніка ён трапіў да Ю. Галомбэка, дом якога быў разбураны фашысцкай бомбай), пісьмы В. Дуніна-Марцінкевіча да С. Манюшкі і А. Плуга, пісьмы Я. Лучыны да выдатнай польскай паэтэсы М. Канапніцкай і многае іншае. Пра адну з такіх няўдач хочацца расказаць падрабязней, каб, магчыма, навесці на след некага іншага.

Яшчэ ў 1963 годзе, пасля таго як на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» быў змешчаны мой артыкул аб выніках першай паездкі ў Польшчу, паштальён прынёс пісьмо з Саратава. Вядомы дзеяч беларускага літаратурнага руху 20-30-х гадоў Язэп Дыла (Тодар Кулеша) пытаў, ці не ўдалося мне дзе-небудзь натрапіць на паперы беларускага пісьменніка XIX стагоддзя Альгерда Абуховіча. У пісьме гаварылася, што недзе ў 1921 годзе Язэп Дыла сустрэў на слуцкім рынку дачку паўстанца 1863 года Казіміра Падгорскага-Аколава. Яна паведаміла, што Альгерд Абуховіч, таксама ўдзельнік паўстання 1863 года, памёр у іх доме і што пасля яго смерці засталіся рукапісы і кнігі. У прыватнасці, у зборнікі розных паэтаў свету (напрыклад, Петраркі) былі ўкладзены лісткі з перакладамі на беларускую мову. На пытанне Я. Дылы, куды ўсё гэта падзелася, жанчына адказала, што і рукапісы, і бібліятэка вывезены яе братам у Варшаву.

Атрымаўшы пісьмо, я пачаў пільна вывучаць усё, што звязана з асобай Альгерда Абуховіча. Але біяграфічных звестак захавалася небагата. Пісьменнік парадзіўся ў заможнай шляхецкай сям'і ў 1840 годзе. Вучыўся ў Слуцкай кальвінскай школе, але, здаецца, не скончыў яе. Падарожнічаў па Еўропе. Потым вярнуўся ў Слуцк, дзесьці тут працаваў. Падпісваўся псеўданімам граф Бандынэлі. З твораў Абуховіча захаваліся каларытныя мемуары, дзе расказваецца аб жыцці і норавах у Беларусі ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, ды саркастычныя байкі «Ваўкалак» і «Старшына», на якіх ляжыць яўны адбітак баек Крылова. Астатняе ж, як бачна з пісьма Я. Дылы, засталося ў доме баявога сябра беларускага пісьменніка-дэмакрата Казіміра Падгорскага-Аколава.

У Саратаў я адказаў, што, апрача перакладу на польскую мову байкі Крылова «Вяльможа», падпісанага псеўданімам граф Бандынэлі, ніякіх папераў Абуховіча не бачыў і што бліжэйшым сваяком таго Падгорскага-Аколава можа быць польскі пісьменнік, аўтар зборніка «Беларусь», Леанард Падгорскі-Аколаў, які памёр у 1957 годзе, займаючы пасаду дырэктара музея А. Міцкевіча ў Варшаве...

І вось гартаю варшаўскую тэлефонную кнігу. Знаходжу: Стэфанія Падгорская-Аколаў, таксама пісьменніца. Званю... Сваякі расчароўваюць: гаспадыня памерла год назад. Але, кажуць яны, у Варшаве жыве іншая Стэфанія Падгорская-Аколаў, стрыечная сястра былога дырэктара міцкевічаўскага музея. Яе адрас: Маршалкоўская, дом нумар...

— Так, мой стрыечны брат паходзіў са Слуцка,— кажа мне з мяккім «крэсовым» акцэнтам старая жанчына.— Ці засталіся пасля яго смерці якія-небудзь паперы Абуховіча? На гэта пытанне лепш адкажа родная сястра Леанарда Падгорскага-Аколава Ірэна Хадакоўская. Жыве яна ў прыгарадзе, але я з хвіліны на хвіліну чакаю яе ў госці.

У той вечар я так і не дачакаўся Ірэны Хадакоўскай. А назаўтра ўжо трэба было ад'язджаць. Але, атрымаўшы маё пісьмо, Хадакоўская прыпяла ўсю справу блізка да сэрца і актыўна далучылася да пошукаў. Яна апытала шматлікіх сваякоў. І вось праз два гады прыйшло несуцяшальнае пісьмо: «Мне вельмі прыкра, што не змагла вам дапамагчы ў пошуках кнігазбору п. Абуховіча. Дочкі майго сваяка са Слуцка Казіміра Падгорскага-Аколава ўжо не жывуць, а ніхто з маіх знаёмых нічога пра гэта не ведае».

А можа паперы Альгерда Абуховіча так і засталіся ў Слуцку?!

# ЗНАХОДКІ Ў КНІЖНЫМ МОРЫ

Як ужо гаварылася, мноства твораў беларускай літаратуры XIX стагоддзя загінула ў рукапісах, так і не пабываўшы пад друкарскім прэсам. Але нават у тым выпадку, калі пісьменніку ўдавалася абысці ўсе перашкоды цэнзуры і выдаць сваё дзецішча ў краіне або за яе межамі, твор таксама не быў застрахаваны ад небыцця. Яго маглі канфіскаваць непасрэдна ў друкарні, як гэта здарылася з марцінкевічаўскім перакладам «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча. Яго маглі забараніць праз нейкі час пасля выхаду. Так было, напрыклад, з многімі кнігамі пасля паўстання 1863 года. Толькі ў адным спісе 1864 года (Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў у Ленінградзе, ф. 779, воп. I, с. 19) сярод забароненых выданняў значацца: В. Марцінкевіч, «Люцыяна»; А. Бацькевіч, «Сельскагаспадарчая гутарка паміж літвінамі»; В. Каратынскі, «Саламон Рысінскі»; У. Сыракомля, «Нёман ад вытокаў да вусця»; А. Плуг, «Поўны збор твораў, серыя трэцяя»; Ю. Ляскоўскі, «Беларускі бандурыст»; М. Лойка, «Чытанка для забавы малых дзяцей» (Мінск, 1860); Л. Вечар, «Кветкі летуценняў» (Мінск, 1860) і іншыя. Хаця гэтыя кнігі напісаны на польскай мове, аднак маюць самае непасрэднае дачыненне да гісторыі Беларусі і беларускай літаратуры. Забарона была настолькі дзейснай, што, скажам, «Кветак летуценняў» мінчаніна Л. Вечара (Л. Шчарбовіча) мне не ўдалося знайсці ні ў адной бібліятэцы.

Урэшце, многія кнігі, выдадзеныя за межамі Расійскай імперыі, канфіскоўваліся жандарамі на граніцы, праз якую іх пераносілі нястомныя і самаахвярныя кніганошы. Мабыць, такім чынам загінулі амаль усе тыльзіцкія выданні. З іх да нас дайшла толькі адна брашура «Дзядзька Антон», перакладзеная з польскага арыгінала Ш. Дыкштэйна на беларускую мову рэвалюцыянерам Мар'янам Абрамовічам. Аднак са слоў старога літоўскага друкара Марціна Янкуса вядома, што такіх выданняў было больш. У літоўскіх друкарнях Тыльзіта на грошы, атрыманыя М. Абрамовічам з Мінска, былі набраны беларускі лемантар, апавяданне «Ян Скіба» і яшчэ дзве-тры кніжкі, невядомыя сёння нават самым заўзятым бібліяфілам.

Беларуская літаратура XIX стагоддзя багата бібліяграфічнымі загадкамі. Было ці не было кніжнае выданне «Скрыпкі беларускай» Ф. Багушэвіча? Існавала ці не існавала выданне «Вязанкі» Я. Лучыны 1891 года? Друкаваліся ці не друкаваліся названыя Кіркорам творы А. Вярыгі-Дарэўскага? Выдаваўся ці не выдаваўся Чачотам нейкі

«Кароткі слоўнік», названы ў адной амерыканскай бібліяграфіі? Пералік такіх пытанняў можа заняць цэлую старонку...

Ва ўмовах, якія ніяк не спрыялі беларускаму друкаванаму слову, кнігі хутка рабіліся бібліяграфічнай рэдкасцю. І таму сёння нас радуе кожная знаходка, кожнае адкапанае з забыцця выданне, звязанае так ці інакш з Беларуссю і беларускімі аўтарамі. Пошукі такіх кніг не заўсёды заканчваюцца ўдачаю, звязаны з цяжкасцю. Напрыклад, адзіны вядомы экземпляр польскага зборніка А. Рыпінскага «Паэзія» (1853) захоўваецца ажно ў Лондане. Нягледзячы на добры дзесятак год старанных пошукаў, мне не ўдалося натрапіць на след, скажам, «Слоўніка меней зразумелых беларускіх слоў» В. Каратынскага, «Баечак і забавак прозай і вершам» С. Кубліцкага (Гродна, 1887), сатыры С. Пазурадзерскага «Да вялікай капітулы Смаргонскага ордэна» (Вільня, 1816), зборніка Р. Зянкевіча «Вяселле» (Вільня, 1857), некалькіх падручнікаў і слоўнікаў, выдадзеных у Полацку сіламі выкладчыкаў езуіцкай акадэміі.

Аб некалькіх цікавых бібліяграфічных знаходках пойдзе гаворка далей.

## У БАРАЦЬБЕ З САМАЎЛАДСТВАМ

Некалькі год назад Генадзь Кісялёў выказаў на старонках «Полымя» надзею, што з цягам часу будзе напісана гісторыя Мінскай гімназіі, са сцен якой у XIX стагоддзі выйшлі многія выдатныя вучоныя, дзеячы літаратуры і мастацтва. Сярод іх у першую чаргу трэба назваць імёны Бенедыкта Дыбоўскага, Станіслава Манюшкі, астранома Міхала Грушневіча, антраполага Феафіла Худзінскага. Выкладчыкамі гімназіі працавалі людзі, якія многае зрабілі для пашырэння асветы на беларускай зямлі.

Калі будзе пісацца летапіс Мінскай гімназіі, пачэснае месца ў ім павінны заняць успаміны настаўніка Фердынанда Шаблоўская. Яны выдадзены жыхаркай Радашковіч Зоф'яй Кавалеўскай («Мінскія абразкі 1850-1863 гг.», Вільня, 1912). Аўтар гэтых мемуараў у сярэдзіне мінулага стагоддзя выкладаў у Мінскай гімназіі геаграфію. Быў ён чалавекам перадавых поглядаў, разначынцам. Шаблоўскі выйшаў з беднай мяшчанскай сям'і. Каб зарабіць на яе ўтрыманне, ён мусіў адначасова з вучобай у гімназіі займацца рыбалоўствам. Толькі дзякуючы настойлівасці і імкненню да ведаў Шаблоўскі закончыў Маскоўскі універсітэт. Затым малады географ некаторы час працаваў у канцылярыі мінскага губернатара, а з 1851 года пачаў выкладаць у

гімназіі. Пасля паражэння паўстання 1863 года Шаблоўскага звольнілі з пасады.

У мемуарах Шаблоўская нямала старонак прысвечана гісторыі Мінскай гімназіі. Яе папярэдніцай была гарадская школа, заснаваная езуітамі ў 1641 годзе. У 1773 годзе яна была ператворана ў свецкую школу і перададзена ў распараджэнне Нацыянальнай адукацыйнай камісіі. Пасля далучэння Беларусі да Расіі тут увялі выкладанне рускай мовы. Першым яе выкладчыкам з 1799 года быў нехта Захарэвіч. Праўда, у цэлым выкладанне вялося на нізкім узроўні. У 1801 годзе губернатар Карнееў пісаў пра школу: «Вядома, у ёй вывучаюць многія прадметы, але вучні нічога не ўмеюць».

Становішча палепшылася ў 1802 годзе, калі школу пераўтварылі ў гімназію і перадалі ў Віленскую вучэбную акругу. З 1803 да 1831 года гімназіі аказваў дапамогу Віленскі універсітэт, які пасылаў сюды сваіх візітатараў. Першым дырэктарам гімназіі быў нехта Цэйс. Зразумела, вучыліся тут пераважна дзеці буйной і сярэдняй шляхты: у 1821 годзе шляхецкага паходжання былі 302 вучні, мяшчанскага — 7. Сяляне аб вучобе сваіх дзяцей нават і не марылі.

І ўсё ж, нягледзячы на паходжанне, у палітычных адносінах гімназісты былі дыферэнцыраваны. У той час як сынкі арыстакратыі адносіліся да царскіх улад лаяльна, а часам нават дапамагалі ім высочваць «бунтаўшчыкоў», многія дзеці так званай шарачковай шляхты ўдзельнічалі ў нелегальным руху, накіраваным супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Шаблоўскі ўспамінае, што ў 1848 годзе ў сувязі з рэвалюцыйнымі падзеямі на Захадзе пачалося браджэнне і ў Мінскай гімназіі. Спярша былі выключаны за «крамольныя» выказванні вучні Масальскі і Дмахоўскі. Потым у гімназіі прапаў партрэт цара Мікалая І. Рэшткі партрэта былі знойдзены ў двары сярод смецця. А калі ў гімназію наведаўся архірэй, моладзь павыбівала вокны.

З асаблівай сілай «вальнадумства» вучняў Мінскай гімназіі праявілася ў час падзей 1863 года. Многія гімназісты змагаліся ў паўстанцкіх атрадах са зброяй у руках. Шаблоўскі называе прозвішча першакласніка Бароўскага, якога прывезлі ў Мінск з групай акрываўленых вязняў. Дванаццацігадовы паўстанец стойка пераносіў усе пакуты. Вучань восьмага класа Сулістроўскі разам з Ю. Бакшанскім загінуў пры акружэнні ля вёскі Свечкі пад Маладзечна. Тыя ж гімназісты, якія заставаліся ў Мінску, наладжвалі нелегальныя сходы, спявалі патрыятычныя песні, высмейвалі баязліўцаў, якія адседжваліся ў горадзе. Справа дайшла да таго, што паліцэйскія ўлады ля дзвярэй гімназіі паставілі спецыяльную варту на чале з маёрам

Варанцом. Зразумела, што пасля паражэння паўстання рэпрэсіі не абмінулі і Мінскую гімназію. Калі да 1863 года тут займалася каля 600 вучняў, то пасля «школьнай рэформы» іх засталося ўсяго 240.

Мемуары Ф. Шаблоўская даюць багаты матэрыял для характарыстыкі нораваў, якія панавалі ў Мінскай гімназіі сто гадоў таму назад. Ва ўспамінах гаворыцца пра яе лепшых настаўнікаў (так, рускую літаратуру тады выкладаў Далматаў, рускую мову — Васільеў, польскую вядомы філолаг Чапялінскі). Мемуарыст дае цікавыя карціны грамадскага і культурнага жыцця ў Мінску ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. Горад, нягледзячы на саракатысячнае насельніцтва, нагадваў хутчэй вёску. Пра каналізацыю нават і не марылі. На вуліцах стаялі бяздонныя лужыны. А калі ўспыхвала халера, бяднейшая жыхары паміралі сотнямі — такі дрэнны быў санітарны стан горада. Зімовымі вечарамі на вуліцах паяўляліся ваўкі. Соннае жыццё правінцыяльнага Мінска парушалася толькі мо такімі «падзеямі», як вяселле аднаго са Свентажэцкіх, які для вясельнага картэжу фарбаваў коней з чорнага колеру ў белы. І ўсё ж у нетрах па-вясковаму ціхага горада выспявалі сілы, якія ўзнялі на Міншчыне полымя паўстання 1863 года. Шаблоўскі падрабязна расказвае аб кіраўніках паўстання, аб рэпрэсіях царскіх улад, аб Каміле Марцінкевіч — дачцэ паэта Дуніна-Марцінкевіча, пасаджанай у мінскі астрог. Усхваляваныя старонкі прысвячае мемуарыст афіцэру рускай арміі Міхалу Цюндзявіцкаму, расстралянаму ў Мінску за распаўсюджванне «Мужыцкай праўды».

Успаміны Ф. Шаблоўскага з'яўляюцца цікавым дакументам эпохі, бо праліваюць святло на стан адукацыі ў сярэдзіне мінулага стагоддзя ў Беларусі наогул і ў Мінскай гімназіі ў прыватнасці.

## «ДАГІСТАРЫЧНЫ ДЗЁННІК» КОРЗАНА

Выпускніком Мінскай гімназіі быў таксама вядомы польскі гісторык Тадэвуш Корзан. Яго мемуары выдадзены ў Кракаве крыху пад іранічным загалоўкам «Мой дагістарычны дзённік».

Тадэвуш Корзан нарадзіўся ў 1839 годзе ў Мінску, тут правёў дзяцінства і юнацтва. Першы раздзел «Майго дагістарычнага дзённіка» (дарэчы, надрукаваны ў 1908 годзе ў «Мінскім календары») называецца: «Мінск у сярэдзіне XIX стагоддзя». Аўтар расказвае аб паўсядзённым жыцці мінчан, аб культурных падзеях у горадзе.

Як і Ф. Шаблоўскі, Т. Корзан вобразна апісвае норавы, якія панавалі ў Мінскай гімназіі. За самую нязначную віну вучняў ставілі на калені, за больш буйную, напрыклад за чытанне нелегальных вер-

шаў,— секлі публічна розгамі. Аднойчы даведзены да адчаю вучань парэзаў партрэт цара Мікалая І. «Дзяржаўнага злачынца» тут жа здалі ў салдаты... Хаця выкладанне ў гімназіі вялося на даволі высокім узроўні, але казённая праграма задавальняла далёка не ўсіх вучняў. Многія з іх, у тым ліку і аўтар успамінаў, бралі яшчэ прыватныя ўрокі ў вядомага педагога і паэта І. Легатовіча, карысталіся паслугамі бібліятэкі, арганізаванай мовазнаўцам Ф. Чапялінскім. Гімназісты часта наведвалі спектаклі мясцовага тэатра (аўтар успамінае аб пастаноўцы «Марыі Тудар» В. Гюго). Моладзь, як правіла, была «асвоеная з беларускай мовай» — у кнізе прыводзіцца нямала беларускіх прыказак у арыгінальным гучанні.

Цікава склаўся лёс Т. Корзана пасля заканчэння Мінскай гімназіі. У 1855 годзе будучы гісторык паступіў у Маскоўскі універсітэт, дзе звязаўся з нелегальнымі студэнцкімі арганізацыямі. У Маскве Корзан пазнаёміўся з Борзабагатым, які ў 1863 годзе кіраваў паўстаннем на Навагрудчыне, філолагам Я. Карловічам. Пасля заканчэння універсітэта — выкладчыцкая работа ў Коўне, удзел у патрыятычных маніфестацыях. З Коўна Т. Корзан пісаў карэспандэнцыі ў герцэнаўскі «Колокол». А затым — арышт і ссылка ў Арэнбургскую губерню. Менавіта ў ссылцы наш зямляк пачаў сістэматычна займацца гісторыяй старажытнага свету і сярэдневякоўя.

## У МІЦКЕВІЧАЎСКІХ АЛЬМАНАХАХ

Мне было вядома, што ў альманаху «Памяці Адама Міцкевіча», выдадзеным у 1890 годзе рэдакцыяй пецярбургскага часопіса «Край», друкаваўся артыкул Аляксандра Ельскага «Адам Міцкевіч у Беларусі». Аднак пошукі ў бібліятэках і антыкварыятах не давалі жаданага выніку: занадта мізэрным быў тыраж выдання. І вось аказалася, што кніга ёсць зусім побач — у аддзеле замежнай літаратуры нашай рэспубліканскай бібліятэкі імя У. І. Леніна.

Альманах «Памяці Адама Міцкевіча», у які ўвайшлі многія матэрыялы, надрукаваныя раней у «Краі», з'яўляўся безганарарным выданнем. Увесь даход ад яго быў прызначаны на перавоз цела геніяльнага польскага паэта з Парыжа ў Кракаў. З артыкуламі аб міжнародным значэнні творчасці Міцкевіча выступілі аўтары з Францыі і Англіі, Германіі і Даніі. Аб сувязях паэта з рускай літаратурай пісаў Л. Палонскі, з украінскай — І. Франко, літоўскай — Будрыс.

Аб тым уплыве, які аказаў на творчасць Міцкевіча беларускі фальклор, аб першым славянскім перакладзе «Пана Тадэвуша», зробленым В. Дуніным-Марцінкевічам, расказаў на старонках альманаха

А. Ельскі. Працытаваўшы выказванні польскіх і рускіх даследчыкаў, у прыватнасці Бяссонава, аўтар артыкула робіць слушны вывад, што «Беларусь мае неаспрэчнае права ганарыцца Міцкевічам». У заключэнне А. Ельскі прыводзіць два чатырохрадкоўі з невядомага дагэтуль беларускага верша Дуніна-Марцінкевіча, верша лірычнага, поўнага тугі і затоенай крыўды на сучаснікаў, якія не зразумелі і не падтрымалі песняра:

Як доўгі Нёман — я з лірай усцяж іду,
Праз горкі, брады і бары,
Ад сяла да слабады —
І думачкі свее (мабыць, сее,— А. М.) дуда.
Збягаліся людзі, слухалі, да няўцям —
Не зразумелі мяне хутка —
Я слёзы абцёр, хоць сэрцу жутка —
Ды н далей пайшоў сам...

Побач з А. Ельскім у альманаху выступілі і іншыя аўтары з Беларусі — Ю. Такажэвіч-Годзі (парыжскі выдавец польска-літоўска-беларускай газеты «Змова»), І. Дамейка, А. Марбург і інш. У кнізе прыведзены аўтографы многіх міцкевічаўскіх твораў і розных дакументаў.

Паколькі гутарка зайшла пра А. Міцкевіча, нельга не адзначыць яшчэ адзін своеасаблівы альманах, прысвечаны яго памяці. Гэта — двухтомная «Юбілейная кніга на ўшанаванне сотай гадавіны нараджэння Адама Міцкевіча», выдадзеная ў 1898 годзе ў Варшаве. Адзін экземпляр гэтай кнігі, якая даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю, захоўваецца ў бібліятэцы Вільнюскага універсітэта.

Большасць матэрыялаў «Юбілейнай кнігі» мае прамое або ўскоснае дачыненне да Беларусі, да гісторыі яе народа і культуры. Двухтомнік адкрываецца прадмовай Адама Плуга, які быў ініцыятарам выдання. У якасці сваіх бліжэйшых памочнікаў Плуг называе імёны А. Ельскага і Я. Карловіча.

Укладальнікаў зборніка цікавіла не толькі асоба А. Міцкевіча, але і яго беларускае акружэнне, у прыватнасці Я. Чачот. Раней мы ведалі Чачота пераважна як фалькларыста і аўтара беларускіх і польскіх вершаў. У альманаху ж змешчаны ўрывак з празаічнага твора гэтага пісьменніка — сатырычнага рамана «Жмудзь і Літва (г. зн. Беларусь.— А. М.) у карыкатуры». У рамане, які, на жаль, захаваўся толькі часткова, высмейваецца паразітызм польскай шляхты.

І ўсё ж увагу беларускага чытача «Юбілейнай кнігі» ў першую чаргу прывабіць пісьмо А. Рыпінскага да А. Плуга, датаванае 1883 годам. Выказаўшы свае адносіны да даследаванняў Падбярэскага, Барташэвіча і Мэхэжынскага, якія ў той або іншай ступені цікавіліся

беларускай літаратурай, Рыпінскі паведамляе, што ён таксама прыступіў да напісання гісторыі беларускага пісьменства і ўжо закончыў біяграфіі Я. Баршчэўскага, Г. Марцінкевіча, Т. Лады-Заблоцкага і інш. Аўтар «Беларусі» тут жа называе імёны 55 беларускіх і польскіх пісьменнікаў, якія, на яго думку, павінны ўвайсці ў гэтую гісторыю. Некаторыя з названых імён (Г. Шапялевіч, А. Магучы, Г. Корсак) сёння зусім забыты.

Тры артыкулы для юбілейнага выдання даслаў з Замосця А. Ельскі. Ён апісаў некаторыя асабістыя рэчы А. Міцкевіча, якія знаходзіліся ў яго калекцыях, расказаў аб сваім падарожжы ў Навагрудак і Нясвіж. У сваю чаргу аб літаратурнай і збіральніцкай дзейнасці А. Ельскага расказала Аляксандра Глогер. Сваімі ўражаннямі аб вандроўцы па Слонімшчыне і сустрэчах з беларускімі сялянамі, аб пошуках старажытных рукапісаў падзяліўся вядомы фалькларыст М. Федароўскі.

Цяжка нават пералічыць усе цікавыя матэрыялы «Юбілейнай кнігі». Тут і вершы В. Каратынскага, і адпраўленае з Мінска пісьмо пляменніцы А. Міцкевіча Марыі Свянціцкай, і «Думка пад берагамі Прыпяці, якую спявае палескі бард 23 кастрычніка 1824 года» Фелікса Кулакоўскага, і ўспаміны аб прабыванні ў Крошыне А. Адынца і І. Дамейкі. Мастацтвазнаўцу прывабяць «Нарысы па гісторыі музыкі ў Літве» А. Мілера, гісторыка — даследаванні Э. Паўловіча і Э. Кулакоўская аб мінулым Навагрудскага і Лідскага паветаў, аматараў прыроды — пісьмо С. Кавалеўскага ў абарону беларускіх лясоў. «Юбілейная кніга» — прыкметны факт у гісторыі беларускай культуры.

## МЕМУАРЫ БЕЛАРУСКАГА ШЛЯХЦІЦА

Аднойчы ў вільнюскіх букіністаў мне ўдалося трапіць на даволі рэдкую кнігу. Гэта — «Успаміны пра тышкевічаўскую Свіслач, Дзярэчын і Ружаны» Лявона Патоцкага, выдадзеныя ў 1910 годзе вядомым беларускім фалькларыстам Міхалам Федароўскім. Аўтар «Успамінаў» напышліва называе сябе графам, але гэтаму графу часта не было за што паснедаць. Усё жыццё ён правёў у вандроўках па беларускіх маёнтках і з незатоенай сімпатыяй адносіўся да прыгонных сялян: у адным месцы ён іранізуе над ружанскім графам Сапегам, які любіў паўтараць: «Хочаш мець грошы ў кішэні — бязлітасна абдзірай селяніна»; у другім — з абурэннем піша пра магната Масальскага з Ляхавіч, які загадаў зацкаваць сабакамі жабрака.

Л. Патоцкі быў сведкам многіх грамадскіх падзей пачатку XIX стагоддзя. У кнізе расказваецца, як арганізоўвалася ў Свіслачы гімназія, якія ставіліся там у кірмашовыя дні спектаклі. Самадзейныя артысты інсцэніравалі асобныя песні Асіяна, урыўкі з сервантэсаўскага «Донкіхота». Аналагічныя спектаклі ішлі на сцэнах прыдворных тэатраў у Ружанах і Дзярэчыне Слонімскага павета. Ва ўспамінах Патоцкага дадзена шматгранная карціна побыту беларускай шляхты.

І яшчэ адна акалічнасць прыцягвае ўвагу ў мемуарах Л. Патоцкага. Аўтар сцвярджае, што вядомы французскі пісьменнік Э. Сю нарадзіўся ў Беларусі, на Міншчыне, дзе доўга жылі яго бацькі, а многія героі яго «Парыжскіх таямніц» спісаны з беларусаў.

## ПАДАРОЖНІКІ АБ БЕЛАРУСІ

Першая палова XIX стагоддзя... Па высаджаных бярозамі беларускіх гасцінцах імчацца карэты і фурманкі. Адны запрэжаны паштовай тройкай, а то і шасцёркай, другія — уласнымі стаеннікамі. На беларускую зямлю пазіраюць вочы — часам халодныя і абыякавыя, часам сяброўскія і ўважлівыя. Яны прыкмячаюць, як жыве і працуе беларускі селянін. А потым, вечарам, пры цьмянай карчомнай свечцы, падарожнікі заносяць у дзённікі свае ўражанні. Дзённікі гэтыя часцей за ўсё вандруюць у сямейны куфар. Але часам, набраўшыся смеласці, аўтар пасылае іх у рэдакцыю часопіса ці нясе знаёмаму кнігавыдаўцу...

Больш паўтара стагоддзя назад праязджаў з Пецярбурга ў Бесарабію нямецкі барон фон Кампенгаузен. Яго «Заўвагі аб Малдавіі, Бесарабіі, Крыме, Беларусі і Украіне» былі затым перакладзены на рускую мову і ў 1810 годзе надрукаваны ў «Журнале новейших путешествий». Нямецкі арыстакрат не мог не адзначыць, што «Беларусь бедная і малалюдная», а беларускія сяляне працуюць на пана не менш чатырох дзён у тыдзень. Адзінае, што спадабалася аўтару,— гэта «лепшыя ў Еўропе» беларускія дарогі і вонкавы выгляд Магілёва. Часам, аднак, барон імкнуўся прыдаць сваім нататкам умоўную займальнасць, вышукваў «экзотыку», і тады З'яўляліся радкі: «Беларускія сяляне... носяць шэрыя валявыя шапкі, лапці з бяросты; шляхціцы, г. зн. дваране, вызначаюцца чорнымі паясамі і шпагамі. Яны служаць у знатных паноў пастухамі і карыстаюцца той перавагай, што іх сякуць не інакш, як на рагожы. Амаль ва ўсіх сялян доўгія шыі, з дапамогай якіх яны бесперапынна ківаюць галовамі».

Больш добрасумленным было апісанне другога падарожніка — вядомага польскага пісьменніка Юльяна-Урсына Нямцэвіча. Ён пабы-

ваў у Беларусі, на сваёй радзіме, двойчы — у 1816 і 1819 гадах. Адно з выданняў дарожных нататак Нямцэвіча ўбачыла свет у Пецярбурзе ў 1859 годзе.

Асобнае месца ў «Гістарычных падарожжах» Ю. Нямцэвіча адведзена Брэсту. Прыгадваецца мінулае горада, у якім была закладзена адна з першых у Беларусі друкарняў. Сучасны стан Брэста і яго ваколіц не задавальняе аўтара, ён марыць аб часах, калі цывілізацыя ажывіць мясцовую глуш, горадператворыцца ў вялікі гандлёвы порт, а «пладамі Еўропы і Азіі запоўняцца рэчышчы Буга і Мухаўца». Апрача Брэста, польскі пісьменнік наведаў Гродна, Навагрудак, Бярозу, Пінск. Апісанні гэтых гарадоў перамяжоўваюцца з цікавымі дакументамі аб іх мінулым.

У першай палове XIX стагоддзя ў Беларусі пабывалі яшчэ два польскія падарожнікі. У 1843 годзе варшаўскі часопіс «Пржэглёнд науковы» надрукаваў нарыс Мазура з Плоччыны (псеўданім Яна Маяркевіча) «Успаміны аб падарожжы па Літве, Русі Чорнай і Русі Белай». Аўтар выказвае спачуванне беларусам, якія «заўсёды запяты і цяжка працуюць», дае апісанне адзення, жылля і прылад працы беларускіх сялян. Шлях Маяркевіча з Варшавы ў Маскву пралягаў праз Брэст, Слонім, Нясвіж, Мінск, Барысаў і Оршу. Пішучы пра апошні з гэтых гарадоў, аўтар не без падстаў усклікаў: «Ніколі ў жыцці я не бачыў больш сумнага горада, чым Орша!» У 1829 годзе па Палессі падарожнічаў Казімеж Контрым. Як служачага Польскага банка, яго менш цікавіў побыт беларускага селяніна, яго фальклор. Асаблівую ўвагу Контрым звяртаў на эканоміку Палесся, перспектывы развіцця мясцовай прамысловасці і гандлю. У сваёй кнізе, выдадзенай у 1839 годзе ў Познані, падарожнік апісаў таксама раслінны і жывёльны свет у басейне Прыпяці.

## ЗАБЫТАЯ АПОВЕСЦЬ ШПІЛЕЎСКАГА

Да апошняга часу Павел Шпілеўскі (1827-1861) быў вядомы пераважна як аўтар прац, прысвечаных беларускай этнаграфіі і фальклору, дарожных нарысаў і двухактовай п'есы «Дажынкі». Аднак дзякуючы бібліяграфічным пошукам выявілася, што ён пісаў таксама творы для дзяцей. Яго аповесць «Цыганё» была выдадзена ў 1855 годзе ў Пецярбурзе на рускай мове.

Абапіраючыся на ўспаміны дзяцінства, якое прайшло на беларускай зямлі, Шпілеўскі расказаў сентыментальную гісторыю кемлівага цыганскага падлетка Марціна, якому надакучыла вандраваць з табарам і паказваць розныя цыркавыя фокусы. Марцін пасябраваў з

чуллівым панічом і застаўся жыць у яго доме. Новы сябар навучыў цыганё чытаць, расказаў пра асноўныя маральна-этычныя нормы. Дружба хлопчыкаў была настолькі моцная, што, калі паніч паехаў у горад вучыцца, Марцін уцёк у лес, захварэў там ад прастуды і памёр.

Аповесць Шпілеўскага не магла не прывабіць тагачасных юных чытачоў. Яна напісана займальна, з веданнем дзіцячай псіхалогіі. Аўтар сцвярджае, што ўсе людзі роўныя, што ў кожным чалавеку закладзены добрыя пачаткі і задача адукаванага чалавека — дапамагчы ў развіцці гэтых пачаткаў. Але нельга адначасова не прызнаць, што ў аповесці адчуваецца празмерны меладраматызм, лабавы дыдактызм. Пачуцці герояў, іх слязлівасць вельмі гіпербалізаваны.

Побач з некалькімі кнігамі І. Гарбачэўскага, выдадзенымі на рускай мове ў Віцебску ў 80-90-я гады XIX стагоддзя, «Цыганё» Шпілеўскага стаіць ля вытокаў беларускай дзіцячай літаратуры.

## ТАЯМНІЧЫ АЎТАР

У польскім горадзе Гнезна, што ля Познані, нехта Б. І. К. выдаў у 1905 годзе ананімныя «Успаміны аб Слуцку». Ва ўступным слове сказана, што ўспаміны напісаны ўраджэнцам Слуцка, высокім царскім чыноўнікам, імя якога было нямецкім, душа ж — «літоўскай» (г. зн. беларускай). Апошнія гады свайго жыцця гэты чыноўнік правёў у горадзе, звязаным з імем Міцкевіча (г. зн. у Навагрудку або ў Вільні), дзе ў 1886 годзе і ўзнавіў па памяці падзеі паўвекавой даўнасці.

«Нямецкае імя» аўтара «Успамінаў аб Слуцку» расшыфравана ў часопісе «Пшэводнік бібліёграфічны». Гэта быў барон Сталь, або Стаэль. Нягледзячы на сваё арыстакратычнае паходжанне і пасаду слуцкага гараднічага, ён прытрымліваўся даволі перадавых поглядаў, спачуваў беларускім сялянам і выступаў за тое, каб вызваліць іх ад прыгону.

Барон Сталь расказвае аб гістарычным мінулым Слуцка і яго стане ў пачатку XIX стагоддзя. «Першымі жыхарамі Слуцка і ўсяго гэтага краю былі русіны беларускага племені, набожныя, сумленныя і працавітыя». У 1116 годзе горад цалкам спалілі наезнікі. Потым, у XV стагоддзі, сюды прыйшлі першыя палякі і літоўцы. Каля 1750 года Ян Маджарскі заснаваў тут майстэрню, у якой ткаліся славутыя слуцкія паясы.

У пачатку мінулага стагоддзя горад меў каля 7000 жыхароў і належаў буйному магнату князю Вітгенштэйну. У Слуцку тады было ўсяго 15 мураваных будынкаў. Сярод іх вылучаліся праваслаўная

семінарыя, кальвінская гімназія і царква святой Тройцы на Трайчанах, пры якой у свой час перапісваліся кнігі, накіраваныя супраць акаталічвання. Цікава, што аблíччы святых на царкоўных абразах былі падобны да твараў мясцовых сялян. Успаміны Сталя пацвярджаюць меркаванне некаторых даследчыкаў, што ў пачатку XIX стагоддзя беларускай мовай шырока карысталася духавенства, асабліва уніяцкае. Велікодная цырымонія ў Слуцку, гаворыцца ва ўспамінах, завяршалася «казаннем кс. Шантыра па народнай беларускай мове; сяляне слухалі тое казанне з вялікай увагай».

У пачатку мінулага стагоддзя Слуцк жыў даволі інтэнсіўным эканамічным і культурным жыццём. Праз чатыры брамы горада вёўся гандаль з Вільняй, Гародняй, Кіевам і Масквой. У партыкулярным доме быў тэатр, дзе выступала трупа Клакоцкага. Мясцовы цырульнік Зэлік арганізаваў музычную капэлу і нават напісаў для яе марш. А шавец Болбут хадзіў па святах з батлейкай.

Сапраўдным культурным цэнтрам Слуцка была гімназія, арганізаваная ў 1827 годзе на базе пачатковай школы. Яе закончылі фалькларыст З. Далэнга-Хадакоўскі, муж Марылі Верашчака, любімай сяброўкі Міцкевіча, В. Путкамер, мемуарыст і мастацтвазнаўца Э. Паўловіч, вядомы ўжо нам А. Плуг. Гімназісты збіраліся на маёўкі, дзе дэкламавалі вершы Міцкевіча і спявалі забароненыя песні. Норавы ў гімназіі былі жорсткія. За самую дробную віну каралі розгамі, асабліва на ўроках фізікі.

Сталь цытуе словы модных сярод слуцкай моладзі макаранічных песенак. Польскія словы ў іх пераплятаюцца з беларускімі:

Ой, на моры, на акрэнце
Панна з туркем ў карты грае
І, граючы, ліст пісае.

А вось і чыста беларускі тэкст. Злодзей у карчме падае раду сваім кампаньёнам наступнай прыпеўкай:

А кароўку-астрарожку
Выведзіце на дарожку.
Правядзіце за гару, за гару,
А я вас даганю, даганю.

У заключэнне мемуарыст расказвае аб падарожжах у Мазыр, Навагрудак і Слонім, падрабязна апісвае кожны з гэтых гарадоў. Аўтара абурае нізкі стан асветы сярод палешукоў, іх цяга да знахарства.

Да «Успамінаў аб Слуцку» прыкладзены біяграфічны нарыс пра Людвіка Развадоўскага. Магістр філасофіі, выпускнік Віленскага універсітэта, ён адкрыў у Балочыцах ля Слуцка сялянскую школу. Пасля

смерці Развадоўскага (1869) застаўся рукапіс «Філасофія паводле сістэмы Канта», які пры жыцці Сталя захоўваўся ў Слуцкай гімназіі.

## БЕЛАРУСЬ ВАЧАМІ ЖАНЧЫН

Побач з дачкой В. Дуніна-Марцінкевіча, рэвалюцыянеркай і палітычнай ссыльнай Камілай Марцінкевіч, найбольш яскравай і каларытнай фігурай сярод беларускіх жанчын XIX стагоддзя, безумоўна, з'яўляецца Ева Фялінская. Нарадзілася яна ў 1793 годзе ў сям'і збяднелага шляхціца (немца па паходжанню) Вяндорфа, які жыў ва Узнозе ля Клецка. Дзяўчынка рана засталася сіратой і выхоўвалася ў свайго дзядзькі ў Галынцы. Потым — настойлівая вучоба ў Слуцкай школе (падручнік геаграфіі быў вывучаны... за адну ноч). З іроніяй успамінае Фялінская схаластычныя метады выкладання. Напрыклад, вучням Слуцкай школы прапаноўвалі адказаць у час экзаменаў на такое «пытанне»: «Да якой катэгорыі трэба залічыць д'яблаў і дзе яны сядзяць?»

Пасля заканчэння школы дзяўчынка часта гасціла ў сваякоў і знаёмых на Барысаўшчыне, пазнаёмілася там з Г. Фялінскім, у 18 год выйшла за яго замуж і пераехала на Палессе. У 30-я гады Ева Фялінская ўстанавіла сувязь з рэвалюцыйнай групай Канарскага і Савіча, дапамагла ім арганізаваць нелегальную друкарню. Царскія ўлады разлучылі аўдавелую жанчыну з малымі дзецьмі і саслалі ў Сібір. Прабыванне ў Табольскай губерні, усе пакуты, якія прыйшлося там выцерпець, падрабязна апісаны ў мемуарах Фялінскай «Успаміны аб падарожжы па Сібіры і побыце ў Беразове» («Атэнэум», 1849) .

Вярнуўшыся на радзіму, Ева Фялінская занялася выхаваннем дзяцей і адначасова ўзялася за пяро, каб запісаць успаміны аб сваім дзяцінстве і маладосці. Назіранні над побытам навакольнай шляхты далі пісьменніцы матэрыял для двухтомнай аповесці «Герсылія» (Вільня, 1849).

Трохтомныя «Дзённікі Евы Фялінскай», якія ў 1856 годзе выйшлі з друку ў Вільні на польскай мове і пасля смерці аўтара (1859) былі забаронены цэнзурай, з'яўляюцца каштоўным дакументам эпохі. У мемуарах займальна расказваецца аб жыцці розных слаёў тагачаснага беларускага грамадства, пераважна дробнай і сярэдняй шляхты. Мы даведваемся, што елі і пілі, як апраналіся, што чыталі і, урэшце, што думалі нашы продкі ў пачатку мінулага стагоддзя.

Ева Фялінская са шчырым спачуваннем адносілася да прыгонных беларускіх сялян, у якіх паны «бачылі толькі свой капітал і нічога больш». Яе абураў эгаізм пануючых класаў, бо яны «балюча

прыгнятаюць сялянскі клас нашай зямлі, асушаючы крыніцу, якая можа даць сілу айчыннай гаспадарцы». Фялінскую да слёз кранула трагічная гісторыя аднаго сялянскага хлопца з Ігуменшчыны. Ён збіраўся згуляць вяселле з вясковай прыгажуняй Кастусяй. А тут войт загадаў яму збірацца на 25 год у рэкруты. Юнак пачаў хавацца ў лазні, дзе церлі лён. Аднойчы Настуся патаемна прынесла каханаму крыху стравы. Не дачакаўшыся яго, яна заснула і памерла ад чаду. Даведзены да адчаю юнак на гэты раз сам папрасіўся, каб яго ўзялі ў рэкруты — цяпер жыццё для яго было пазбаўлена сэнсу.

Фялінская ўспамінае, што перадавая частка шляхты імкнулася неяк аблегчыць становішча сялян. Напрыклад, у час выбараў у Мінску пісьменнік Ян Ходзька паставіў тут п'есы «Сід» і «Фенелон» і ўвесь даход ад спектакляў прызначыў на дапамогу бедным. «Народныя песні на мясцовай мове» ахвотна спяваліся ў доме сваяка Фялінскай з Ігуменшчыны пана Гілярыя. Радыкальная моладзь зачытвалася творамі Вальтэра, Русо, Нямцэвіча і Карпінскага. Але хіба магла яна супрацьстаяць усім тым, хто вышэй за ўсё ставіў асабістую выгаду?! Фялінская вельмі дакладна прыкмеціла, як пагоня за грашамі, новыя, капіталістычныя адносіны разбураюча ўздзейнічалі на норавы людзей, іх маральную знітаванасць. «Кожны цяпер стаў ізаляванай адзінкай, самамэтай для сябе»,— скардзілася пісьменніца ў трэцім томе мемуараў.

Ева Фялінская асуджала гультаяватую шляхту, якая бавіла час за картамі, гарэлкай і плёткамі. Асабліва моднымі былі тады розныя містыфікацыі. Напрыклад, «нябожчык» кладзецца ў труну, за яго прыходзіць маліцца старая сваячка. Можна ўявіць сабе перапалох жанчыны, калі «нябожчык» раптам падказаў ёй сваё імя... Або такая сцэна. На балі разам са сваёй нявестай весяліцца дробны чыноўнік. Раптам з'яўляецца фельд'егер «з Пецярбурга», арыштоўвае чыноўніка, некалькі гадзін кружыць з ім па наваколлі, а потым знясіленага адвозіць назад. Выяўляецца, што «арышт» быў звычайным «жартам» з пераапрананнямі.

Побыту беларускай шляхты 1815-1843 гадоў прысвечаны таксама мемуары Габрыэлі Пузыны (1815-1869). Яе жыццё прайшло ў Дабраўлянах ля Свіра і ў Гарадзілаве пад Маладзечна. Пузыне належыць нямала кніг на польскай мове («Далей у свет», Вільня, 1845; «Літоўскія дзеці», Лейпцыг, 1847; «Творы прозай і вершам», 2 т., Вільня, 1856; «Самадзейны тэатр», Пецярбург, 1861; «Ядвіга», Львоў, 1869, харвацкі пераклад 1881, і інш.). Пад назвай «У Вільні і ў літоўскіх дварах» успаміны нашай зямлячкі ўбачылі свет у 1928 годзе.

«...Прыгавораны да пакарання праз павешанне».

2 жніўня 1833 года тысячы жыхароў Гродна сабраліся ля парахавога склада за Скідэльскай заставай. Роўнымі шэрагамі выстраіліся атрады царскіх салдат. «Усе былі ўсхваляваны да такой ступені, што, нягледзячы на велізарнае зборышча людзей, панавала ўсеагульнае маўчанне»,— паведамляў пазней у сваім рапарце на імя міністра Чарнышова князь Далгарукаў. І вось на ўзвышэнне ўзышоў афіцэр і зычным голасам пачаў чытаць рашэнне суда. Яно заканчвалася словамі: «...дваранін Міхал Валовіч, ураджэнец маёнтка Парэчча Слонімскага павета, прыгавораны да пакарання праз павешанне». Тут жа прыгавор быў прыведзены ў выкананне. Цела павешанага Далгарукаў загадаў пахаваць патаемна і ў невядомым месцы, каб не дапусціць да маніфестацый.

Хто ж такі быў адважны патрыёт, справай якога цікавіўся ажно сам цар? Міхал Казіміравіч Валовіч нарадзіўся 18 чэрвеня 1806 года на Слонімшчыне. Вышэйшую адукацыю ён атрымаў у сценах славутага тады Віленскага універсітэта — прынамсі аб гэтым піша біёграф Валовіча М. Ходзька. У дні паўстання 1830-1831 гг. малады патрыёт прыняў удзел у баявых аперацыях на тэрыторыі Літвы і пасля паражэння вымушаны быў эмігрыраваць у Парыж, дзе зблізіўся з дэмакратычнымі арганізацыямі, з рухам карбанарыяў.

У 1832 годзе сярод польскай эміграцыі ў Францыі пачалася падрыхтоўка да партызанскай экспедыцыі, якая павінна была ўзняць паўстанне на тэрыторыі царскай Расіі. Асноўная стаўка рабілася не на вузкую змову шляхты, як гэта было ў 1831 годзе, а на шырокі сялянскі рух. Такім шляхам удзельнікі экспедыцыі намерваліся адцягнуць увагу ад рэвалюцыйных падзей, якія, на іх думку, выспявалі на Захадзе. Меркавалася, што карбанарыі Заходняй Еўропы, заваяваўшы перамогу ў сябе, акажуць дапамогу паўстанцам на тэрыторыі Расіі ў барацьбе супраць царскага самаўладства і прыгонніцтва. Па сведчанню рускага гісторыка Берга, кожны ўдзельнік экспедыцыі даваў прысягу, блізкую па тэксту да прысягі карбанарыяў.

Экспедыцыю 1833 года ўзначаліў палкоўнік Ю. Заліўскі. Па яго рашэнню ўся тэрыторыя мяркуемых дзеянняў была падзелена на акругі. На кожную з акруг вызначаўся начальнік і некалькі яго памочнікаў. Так, Міхал Валовіч узначаліў слонімска-навагрудскую акругу, Марцэль Шыманскі — гродзенска-лідскую. Меркавалася, што сам Заліўскі будзе дзейнічаць на Магілёўшчыне. Фактычным цэнтрам усяго руху станавілася Гродна.

І вось напаўгалодныя і дрэнна апранутыя паўстанцы пачалі з фальшывымі пашпартамі прабірацца ў бок царскай граніцы. Многія былі арыштаваны французскімі і нямецкімі ўладамі або самі вярнуліся з дарогі. Але 19 сакавіка 1833 года частка найбольш перакананых патрыётаў перайшла граніцу і пачала партызанскія дзеянні. Ахопленыя маладым запалам, паўстанцы верылі, што па іх закліку ўзнімуцца сяляне, увесь народ. Аднак, на жаль, рэальная расстаноўка сіл аказалася зусім іншай...

Перакананы дэмакрат Міхал Валовіч вярнуўся на беларускую зямлю з цвёрдым намерам змагацца за свабоду і роўнасць усіх людзей. «Я хацеў,— сведчыў ён у час допыту,— выкарыстаць мяркуемае паўстанне, каб здзейсніць мой намер і вызваліць сялян» (апошнія два словы царскі следчы падкрэсліў). Такімі ж планамі М. Валовіч дзяліўся ў сваіх пісьмах да Ю. Твардоўскага, у гутарках з вядомым гісторыкам І. Лелевелем, які лічыў яго сваім вучнем. Відаць, меў падставы Міхал Ходзька надзяліць Валовіча, героя сваёй паэмы «Дзесяць малюнкаў», наступнымі словамі: «Прыйдзе той вялікі і шчасны дзень, калі брат спазнае брата, багатая зямля стане ўсеагульнай уласнасцю і свабодна ўздыхнуць грудзі маці-Айчыны».

Разам са сваім памочнікам Яцкевічам ранняй вясной 1833 года Валовіч быў ужо на Слонімшчыне. Нягледзячы на цяжкую хваробу, ён пачаў фарміраваць паўстанцкі атрад. Першымі ў лясы прыйшлі сяляне з Парэчча — ляснік Лявон Панасюк, два браты-беларусы Іван і Базыль Панасюкі (апошні скрываўся ад рэкрутчыны два гады). Услед за імі ў атрад уліліся Базыль Алізар, Фёдар Сяйчук, Іван Мартынкевіч, сяляне з Вострава і Бардашоў. Паўстанцы збіраліся напасці на Слонім, вызваліць там з астрога вязняў і з іх дапамогай пачаць больш шырокія дзеянні. Патрэбны былі грошы на ўзбраенне, і, каб здабыць іх, партызаны арганізавалі напад на пошту.

Дзеянні Валовіча ўстрывожылі мясцовыя ўлады. Паляцелі данясенні ў Пецярбург. Гродзенскі губернатар Мураўёў загадаў акружыць паўстанцаў, якія хаваліся сярод лясоў над Шчарай. Убачыўшы небяспеку, Валовіч спрабаваў застрэліцца, але пісталет заела. Начальніка атрада і трох паўстанцаў-сялян звязалі вяроўкамі і даставілі ў слонімскую турму, а адтуль — у Гродна. Пачаліся масавыя арышты. Толькі на Гродзеншчыне ў сувязі з экспедыцыяй Заліўскага да судзебнай адказнасці было прыцягнута звыш 150 чалавек.

У Гродне допытамі Валовіча кіраваў той самы Мураўёў, які 30 год пазней атрымаў мянушку вешальніка. Але яго намаганні не далі ніякіх вынікаў. Валовіч так і не назваў прозвішчы сваіх паплечнікаў. 11 чэрвеня 1833 года пачаўся судзебны працэс. На лаве падсудных

побач з Валовічам сядзелі дзесяць сялян. Па рашэнню палявога суда «здраднік, валацуга, бунтаўшчык і начальнік разбойніцкай банды» М. Валовіч, а таксама М. Песакоўскі, які дапамагаў яму, прыгаворваліся да пакарання смерцю праз чацвертаванне, Л. і І. Панасюкі, Васіліцкі, Мартынкевіч і Сяйчук — праз павешанне, Б. Панасюк і Фератка — праз ламанне колам. Аднак князь Далгарукаў значна змякчыў першапачатковы прыгавор. Смяротная кара сустрэла аднаго Валовіча. Астатнія паўстанцы былі высечаны бізуном і сасланы ў Сібір — хто на катаржныя работы, хто ў арыштанцкія роты, хто на пасяленне.

Такі цяжкі лёс выпаў на долю не толькі М. Валовіча і паўстанцаў з яго атрада. У Воранаве быў арыштаваны М. Шыманскі. У ссылку пайшлі Навумовіч, Яцкевіч, Шабанскі і іншыя патрыёты, звязаныя з экспедыцыяй Заліўскага. Самому Заліўскаму ўдалося ўцячы за граніцу. Рух, накіраваны супраць царскага самаўладства і прыгонніцтва, пацярпеў паражэнне. Але, як піша польскі гісторык Сідаровіч-Чарнеўская, кроў, пралітая паўстанцамі, не прапала дарэмна. Прыклад Валовіча і яго сяброў натхняў на барацьбу наступныя пакаленні.

## «ЗАКАРДОННАЕ» ВЫДАННЕ ЛУЧЫНЫ

У заключэнне хочацца расказаць аб вельмі цікавай бібліяграфічнай знаходцы, звязанай з імем Янкі Лучыны.

У аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве захоўваюцца пісьмы Янкі Лучыны да польскага паэта і рэдактара часопіса «Жыцproperly» Зянона Пшэсмыцкага (Мірыяма), датаваныя самым канцом 80-х гадоў XIX стагоддзя. У адным з пісем беларускі паэт паведамляе, што напісаў твор аб паўстанні 1863 года ў Беларусі і хацеў бы яго ананімна выдаць за межамі Расійскай імперыі — у Кракаве. «Я стварыў,— гаворыцца ў пісьме,— абразок аб выпадках 1863 года і задаў столькі перцу і імбіру, што напэўна адбыў бы падарожжа за кошт урада, калі б маё пісанне трапіла ў адпаведныя рукі... Аднак я нічога не меў бы супраць, каб гэтыя некалькі прыязных слоў нашым дабрадзеям (г. зн. царскім уладам.— А. М.) пусціць у свет за кардонам. Апавяданне заснавана на сапраўдных падзеях.

Як шавецкая смала, ліпну да вас, дарагі пане Зяноне... Калі вы лічыце, што рукапіс можна бяспечна пераслаць на Вавель (г. зн. у Кракаў.— А. М.), я прасіў бы вас зрабіць гэта. У такім выпадку ўручыце яго, калі ласка, Ал. Валіцкаму ў друкарні Анчыца. Можа слушна, можа і няслушна, мы баімся пасылаць адсюль поштай. Вы атрымалі б рэкамендацыйнае пісьмо, у якім утрымлівалася б названае

апавяданне, перапісанае праз кагосьці іншага, не з Мінска. Чакаю панскага адказу». І подпіс: І. Неслухоўскі.

Паколькі асабісты архіў Лучыны не захаваўся, мы не ведаем, што адказаў Пшэсмыцкі. Пойдзем лепш следам названых у пісьме імён. У. Анчыц — гэта кракаўскі друкар, які ў пачатку 90-х гадоў выдаў «Дудку беларускую» і «Тралялёначку» Ф. Багушэвіча. Аляксандр Валіцкі, былы мінчанін, аўтар манаграфіі пра Манюшку, прытрымліваўся радыкальных поглядаў і таксама перапісваўся з Лучынам. Дарэчы, дачка Валіцкага, Зоф'я Савіцкая, трымала ў 80-х гадах адзіную ў Мінску польскую кнігарню, куды наведваўся за сваёй карэспандэнцыяй беларускі паэт. Значыць, Валіцкі, чалавек спрактыкаваны, сапраўды мог аказаць паслугу свайму сябру, добраму знаёмаму сваёй дачкі, і выдаць «за кардонам» крамольны «абразок». Толькі ці выдаў? Ці атрымаў ён рукапіс ад Пшэсмыцкага? А што, калі пагартаць летапіс тагачаснага польскага друку — «Пшэводнік бібліёграфічны»? Канцом 80-х гадоў у ім памечана толькі адно выданне аналагічнага тыпу — «Літва напярэдадні 1863 года», напісанае Літвінам. А можа, Літвін — адзін з псеўданімаў Неслухоўскага? Не, са слоўніка псеўданімаў А. Бара высвятляецца, што пад Літвінам хаваўся Якуб Гейштар. Значыць, трэба шукаць з іншага канца, ад шматтомнай бібліяграфіі К. Эстрайхера. Пад крыптанімам «S» у ёй знаходжу такое выданне: «З крывавых дзён. Эпізод паўстання 1863 года на Міншчыне» (Кракаў, 1889). Пад тым жа крыптанімам у Эстрайхера ўказаны яшчэ дзве кніжачкі — «Руская кніжка пра Літву і Беларусь» (Кракаў, 1883) і «Каралева балю» (Кракаў, 1894). Слоўнікі псеўданімаў і крыптанімаў не расшыфроўвалі, хто ж хаваўся за літарай «S». Можа, той жа Янка Лучына? Даць пэўны адказ на гэта пытанне можна было толькі пасля знаёмства з загадкавымі кніжкамі.

Аднак пошукі ў бібліятэках Вільнюса і Львова не далі ніякіх вынікаў. На нейкі момант з'явілася нават сумненне: ці не памыліўся тут звычайна дакладны Эстрэйхер? Заставалася толькі пашукаць там, дзе гэтыя кніжкі ўбачылі свет,— у Кракаве.

У бібліятэцы Ягелонскага універсітэта сапраўды знайшліся ўсе тры рэдкія выданні. Вывучэнне іх прывяло да вываду, што навела «Каралева балю» не можа належаць Лучыне. Па-першае, напісана яна ў саладжавай, не ўласцівай беларускаму паэту манеры; па-другое, аўтарам яе быў, відаць, сталы жыхар Кракава, які добра арыентаваўся ў мясцовых рэаліях; па-трэцяе, услед за лацінскай літарай «S» ён паставіў чатыры кропкі, крыптанімы ж у іншых выданнях не маюць гэтага шматкроп'я. Адкрытым застаецца пытанне і аб аўтарстве выдання «Руская кніга аб Літве і Беларусі» (уласна кажучы, гэта

асобны адбітак артыкула з кракаўскай газеты «Час»), Праўда, рэцэнзуючы працу, выкананую А. Кіркорам для ІІІ тома «Живописной России», невядомы нам аўтар высока адклікаецца пра «багатую скарбніцу» беларускага фальклору, пра скарынінскае выданне біблії, удакладняе многія факты. Але Лучына наўрад ці папракаў бы Кіркора за насаджэнне «спецыфічнага літвінізму» (г. зн. беларусізму), наўрад ці сцвярджаў бы, што ўсе жыхары Беларусі — палякі.

Такім чынам, толькі пра «абразок» «З крывавых дзён» можна з упэўненасцю сказаць, што ён належыць пяру Янкі Лучыны. Аб гэтым у першую чаргу сведчыць тое, што па часу выданне супадае з цытаваным вышэй пісьмом да Пшэсмыцкага, дзе даволі трапна ўказана ідэйная накіраванасць «абразка». І сапраўды, калі б кніга трапіла ў рукі царскіх улад, калі б аўтар не схаваўся за крыптанімам і не дадаў яшчэ для надзейнасці, што пісаў ён кнігу ў Кракаве,— не пазбегнуць Лучыне «падарожжа за кошт урада» ў сібірскую ссылку. «З крывавых дзён» — гэта ўсхваляваны расказ аб падзеях 1863 года ў Мінскай губерні. Аўтар хоча, каб землякі не забылі ніводнага подзвігу мясцовых патрыётаў, якія са зброяй у руках паўсталі супраць самаўладства.

У пачатку «абразка» Лучына коратка расказвае аб прабыванні ў Мінску цара Аляксандра ІІ, аб тых водгуках, якія выклікала ў Беларусі італьянскае вызваленчае паўстанне. Са шчырай сімпатыяй сустракалі і праводзілі ў Мінску палітычных ссыльных. Урэшце, 1 мая 1863 года каля 50 найбольш адважных мінчан сабраліся ў лесе ля Камароўкі і, абыходзячы ваенныя пікеты, рушылі праз Сляпянку да Смалявіч. Тры гадзіны працягвалася першая баявая сутычка паўстанцаў пад Пятровічамі. Трапіў у палон і памёр у шпіталі ад ран камандзір атрада Вярбіцкі. Многіх паўстанцаў выдалі ўладам сяляне вёскі Каралішчавічы. Затым аўтар пераказвае ўспаміны сведкаў аб трагічным лёсе іншых паўстанцкіх важакоў — Свентажэцкага, Анцыпы, Сніткі, Ляскоўскага. Усе гэтыя імёны варты таго, каб узнавіць іх у народнай памяці.

У заключэнне Лучына падрабязна расказвае пра тыя меры, якія былі прыняты рэакцыяй у Беларусі пасля паражэння паўстання. Асаблівую ролю царызм адводзіў духавенству, праваслаўнаму і каталіцкаму. З абурэннем піша аўтар пра жорсткасць юрэвіцкага папа — замест вады ён даваў цяжка параненаму паўстанцу гарачы пясок. Бабруйскі ксёндз Сянчыкоўскі адкрыта ашукваў веруючых, абвясціўшы святымі «мошчамі» выкапаныя ля ракі косці маманта. Часам антыклерыкалізм аўтара мяжуе з атэізмам.

«З крывавых дзён» — яскравае сведчанне таго, з якімі цяжкасцямі прыходзілася сустракацца беларускім пісьменнікам XIX стагоддзя. Каб выдаць свае творы, данесці да чытача свабодалюбівыя думкі, ім прыходзілася нелегальна перапраўляць рукапісы за граніцу, хаваць сапраўднае імя. Але ўсе забароны маглі толькі часова замарудзіць развіццё беларускай літаратуры. У цяжкіх умовах яна гартавалася, набіралася моцы, каб пасля рэвалюцыі 1905 года, з прыходам Купалы, Коласа, Багдановіча, узняцца да сапраўдных мастацкіх вышынь і «несці свой дар» усяму чалавецтву.

# ЛІТАРАТУРА

## ЯНЫ БЫЛІ ПЕРШЫМІ

Александровіч, Сцяпан. Старонкі братняй дружбы. Мінск, 1960.

Бандарчык, В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мінск, 1964.

Барысенка, В. В. Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX ст. Мінск, 1957.

Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя. Зборнік тэкстаў. Мінск, 1956.

Бэндэ, Л. Аб літаратуры XIX века. «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 4.

Восстание в Литве и Белоруссии 1863-1864 гг. М., 1965. Гарэцкі, Максім. Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня, 1920.

Каверин, В. Барон Брамбеус. М., 1966. Карский, Е. Ф. Белорусы, т. III, ч. 3. Пгд, 1922. Кісялёў, Генадзь. З думай пра Беларусь. Мінск, 1966; Сейбіты вечнага. Мінск, 1963.

Ларчанка, М. Г. На шляхах да рэалізму. Мінск, 1958. Ларчанка, Міхась. Па шляху рэалізму. Мінск, 1959; Славянская супольнасць. Мінск, 1963.

Лойка, А. А., Перкін, Н. С. Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст. Мінск, 1963.

Майхрові ч, Сцяпан. Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Выд. 2-е, Мінск, 1959.

Навуменка, І. Я. Пісьменнікі-дэмакраты. Мінск, 1967. Революционный подъем в Литве и Белоруссии 1861-1862 гг. М., 1964.

Философские и общественно-политические произведения петрашевцев. М., 1953.

Цікоцкі, М. З гісторыі беларускай журналістыкі XIX стагоддзя. Мінск, 1960.

Głąbek, Józef. Wincenty Dunin-Marcinkiewicz. Wiln, 1932.

Inglot, Mieczysław. Plskie czaspisma literackie ziem litewsk-ruskiich w latach 1832—1851. W-wa, 1966.

Krdwicz, Wiktr. Knstanty Kalinwski. W-wa, 1955.

## ЯН ЧАЧОТ

Piosnki wieśniacze z nad Niemna. Wilno, 1837.

Piosnki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny. Wilno, 18-39.

Piosnki wieśniacze znad Dźwiny. Wilno, 1840.
Piosnki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny z dłączeniem pierwtwrnych w mwie Slwian-krewickiej. Wilno, 1844.
Piosnki wieśniacze z nad Niemna, Dniepra i Dniestra. Wilno, 1845.
Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłwia i idiotyzmy w mowie Slowiano-krewickiej, z opatrzerzeniami nad nią uczyninemi. Wilno, 1846.
Pieśni Ziemianina. Wilno, 1846.
Poezya Filomatów, tt. 1-2. Kraków, 1922.
Бравер, Я. Звесткі з біяграфіі Яна Чачота. «Літаратура і мастацтва», 1966, 28 студзеня.
Лойка, А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура. Мінск, 1959.
Мірачыцкі, Л. На радзіме Яна Чачота. «Маладосць», 1958, № 6.
Перкін, Н. Адам Міцкевіч і Ян Чачот. «Беларусь», 1947, № 8.
Танк, Максім. Лісткі календара. «Полымя», 1967, № 1-4.
Jankowski, Czesław. Czeczot i Zan w Leplu. W kś. «Z ziemi pagórków leśnych, z ziemi łąk zielonych». W-wa, 1891.
Mickiewicz, Adam. Dzieła, wydanie Narodowe.
Pawłowicz, Edward. Wspomnienia, wyd. III. Lwów, 1895.
Swirko, Stanisław. Ballady Jana Czeczta, ich związki z folklorem i ludowością Mickiewicza. «Literatura Ludowa», 1958, 1; Filomaci a folklor. W kś. «Ludowość u Mickiewicza». W-wa, 1958.
Witkowska, Alina. Rówieśnicy Mickiewicza. W-wa, 1962.

## ЯН БАРШЧЭЎСКІ

Barszczewski, Jan. Dalsze opwiadanie o drewnianym Dziadku i kobiecie Insekcie. «Rubon», t. VIII; Proza i wiersze, cz. 1, Kijów, 1849; Szkic północnej Białrusi. «Rocznik Literacki», 1843; Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach, tt. 1-4. Pbg, 1844-1846.
Бас, І. Каму належаць вершы? «Беларусь», 1963, № 11.
Васілеўскі, Д. Новыя матэрыялы творчасці Яна Баршчэўскага. «Полымя», 1925, № 5; Пад аховай роднай песні. «Маладняк», 1928, № I; Паэта Ян Баршчэўскі аб Беларусі. «Аршанскі Маладняк», 1925, № 2.
Зямкевіч, Р. Тарас Шаўчэнка і беларусы. «Наша ніва», ІЭН, № 8; Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісьменнік XIX сталення. Вільня, 1911.
Хлябцэвіч, Аўт. Ян Баршчэўскі — першы беларускі пісьменнік XIX веку і ягонае апісанне партызанскага руху беларускіх сялян. «Узвышша», 1928, № 4.
Grabowski, Michał. Karrespondencja. «Pielgrzym», 1843, II.

Grabowski, Tadeusz Stanislaw. Z pogranicza polsko-białoruskiego. Księga pamiątkowa ku czci Stanisława Pigonia. Kraków, 1961.

Jędrzejewicz, Jerzy. Noce ukraińskie alb rodowód geniusza. W-wa, 1966.

## УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ

Сыракомля, Уладзіслаў. Выбраныя творы. Мінск, 1966.

Poezye Ludwika Kondratowicza. Wydanie zupełne, tt. I—X. W-wa, 1872.

Syrokomla, Władysław. Mińsk, «Teka Wileńska», 1857, I—II; Niemen od źródeł do ujścia. Wilno, 1861; Podróż swojaka po Swojszczyźnie. W-wa, 1914; Wędrówki po moich niegdyś okolicach. Wilno, 1853; Wycieczki po Litwie w promieniach od Wilna, t. 1. Wilno, 1857.

Аксініч, Л. Сыракомля аб Мінску. «Беларусь», 1955, № 6.

Арцимович, Валериан. Людвик Кондратович. В кн. Людвик Кондратович. Избранные произведения. М., 1953.

Басе, И. Яркий пример дружбы двух литератур. «Советская Белоруссия», 1958, 30 сентября.

Брыль, Янка. Пра несмяротнасць. «Полымя», 1967, № 5.

Людвік Кандратовіч (даведка). «Беларусь», 1945, № 9.

Майхровіч, С. Людвік Кандратовіч. «Літаратура і мастацтва», 1952, 26 ліпеня.

Cywiński, Stanisław. Syrokomla. Człowiek i twórczość. Wilno, 1923.

Drogoszewski, A. Władysław Syrokomla. W-wa, 1905.

Korotyński, Wl. Syrokomla o sobie. W-wa, 1896.

Kościankowska, W. Z. Władysław Syrokomla. Wilno, 1881.

Kraszewski, J. I. Władysław Syrokomla. «Przegląd Europejski», 1862, listopad — grudzień.

Kubacki, Wacław. Gawęda o Syrokomli. W kś. Władysław Syrokomla. Wybór poezji. W-wa, 1957.

Pamięci Syrokomli. «Litwa i Ruś», t. III, z. II. Wilno, 1912.

Spasowicz, Włodzimierz. Władysław Syrokomla. Lwów, b. d.

Trypućko, Józef. Język Władysława Syrokomli, tt. I—II. Upopsala, 1955—1957.

Wilkońska; Paulina. Moje wsopmnienia o życiu towarzyskim w Warszawie. W-wa, 1959.

Witkowski, Michał. Syrokomli wycieczka p Swojszczyźnie. W kś. «Literackie przystanki nad Wartą». Poznań, 1962.

Zdziarski, Stanisław. Pierwiastek ludwy w poezji polskiej XIX wieku. W-wa, 1901.

Zdziechowski, M. Władysław Syrokomla. Wilno, 1924.

## ВІНЦЭСЬ КАРАТЫНСКІ

Каратынскі, Вінцэсь. Найяснейшаму яго міласці гаспадару імператару Аляксандру Мікалаевічу — песня з паклонам ад літоўска-русінскае мужыцкае грамады. Вільня, 1858.

Krotyński, Wincenty. Ciołek. W-wa, 1867; Czem chata bogata, tem rada. Wilno, 1857; Duhownicy. W-wa, 1866; Kilka szczegółów o rodzinie, miejscu urdzenia i młodości Adama Mickiewicza. Wilno, 1861; Salomon Rysiński. Wilno, 1863; Tomiki Wilno, 1858; Wypił Kuba do Jakuba. Wilno, 1859.

Вінцэнты Каратынскі. «Беларусь», 1946, № 7.

Канапацкі, Мацей. Над мемуарамі Бруна Каратынскага. «Ніва», 1961, 8 кастрычніка.

J. O. Wycieczka d Brejkowszezyzny. «Litwa i Ruś», t. III, z. II. Wilno, 1912.

## АДАМ ПЛУГ

Gołs z Litwy przez autra «Kłosy z rodzinnej niwy». Mińsk, 1859.

Pług, Adam. Duch i krew. W-wa, 1897; Spowiedź. «Athenaeum», 1849, t. III; Zagon rodzinny. Wilno, 1854; Zupełny zbiór pism. Serya I-sza, t. I, Żytomierz, 1862; t. II, Wilno, 1863.

Gomułicki, Wiktor. Adam Plug (Anotni Pietkiewicz). W kś. «Kłosy z polskiej niwy». W-wa, b. d.

Maciejewska, Irena. Sylwetka literacka Adama Pługa. «Pamiętnik Literacki», 1958, 1,

## АРЦЁМ ВЯРЫГА-ДАРЭЎСКІ

Gawęda o Swojaku przez Białruską Dudę. Mohylów, 1858.

Васілеўскі, Д. Арцём Ігнатавіч Вярыга і яго літаратурна-грамадская чыннасць. «Полымя», 1929, № 6.

Зямкевіч, Рамуальд. Адам Ганоры Кіркор. Вільня, 1911.

Канапацкі, Мацей. Арцём Дарэўскі-Вярыга. «Ніва», 1962, 5 жніўня.

Кісялёў, Генадзь. Арцём Вярыга-Дарэўскі. «Полымя», 1966, № 4-5; Каля вытокаў. У кн. «Дзень паэзіі». Мінск, 1965.

Семяновіч, А. Пра Арцёма Вярыгу-Дарэўскага. «Беларусь», 1959, № 8.

Kirkor, A. H. O literaturze pobratymczych nardów słowiańskich. Kraków, 1874.

Rys dziejów literatury polskiej. opracwał L. S (wiński), t. III. Wilno, 1876.

### ЮЛЬЯН БАКШАНСКІ

Смірноў, А. Франц Савіч. Мінск, 1961.

Тальвирская, З. Я. Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х — начале 60-х годов и подпольная литература. В кн. «Революционная Россия и революционная Польша». М., 1967.

Fajnohauz, Dawid. Ruch konspiracyjny na Litwie i Białorusi, 1846-1848. W-wa, 1965.

Kowalewski, Eugeniusz. Wspomnienia z przeszłości. Wilno, 1907.

## НА КРЫЛЛЯХ НАРОДНАЙ ПЕСНІ

Бэлза, И. Мечислав Карлович. М., 1951.

Дамінікоўскі, Ф. Кампазітар і скрыпач М. Ельскі. «Беларусь», 1946, № 8.

Дубоўка, Уладзімір. Збіральнікі жэмчугу. «Полымя», 1959, № 7.

Нісневіч, С. Крыніца хараства і натхнення. «Полымя», 1959, № 8.

Смольскнй, Б. Белорусский музыкальный театр. Минск, 1963.

Zienkiewicz, Romuald. Próbki rymowe. Wilno, 1856.

Lach, Stan. Bogumiła Józefowicz. «Niezabudka», III, 1842.

Limanowski, Bolesław. Dzieje Litwy. W-wa, 1917.

Słownik muzyków polskich, dawnych i nowoczesnych. P., 1874.

### МІХАЛ КЛЕАФАС АГІНСКІ

Memires de Michel Ogiński sur la Pologne et les Polonais, 1-4. P.-G., 1826—1827.

Ogiński, Michał. Listy o muzyce. W-wa, b. d.

Бэлза, Игорь. Забытые польские музыканты. М., 1963; Из истории русско-польских музыкальных связей. М., 1955; История польской музыкальной культуры, т. I. М., 1954; Михал Клеофас Огинский. М., 1965.

Сурмач, В. На родине «Элегического полонеза». «Советская музыка», 1962, № 3.

Ciechanowiecki, Andrej. Michał Kazimierz Ogiński und sein Musenhof zu Slonim. Köln — Gratz, 1961.
Jankowski, Czesław. Powiat Oszmiański, cz. 2. Pbg, 1897.
Tyszkiewicz, Eustachy. Wilia i jej brzegi. Drezno, 1871.

## СТАНІСЛАЎ МАНЮШКА

Бас, І. Манюшка і беларускія пісьменнікі. «Літаратура і мастацтва», 1957, 3 чэрвеня.
Браве р, Лізавета. Продкі і сваякі Манюшкі. «Маладосць», 1967, № 9.
Вяршынін, С. Матэрыялы аб Станіславе Манюшку. «Беларусь», 1955, № 9.
Канапацкі, Мацей. Станіслаў Манюшка аб беларускім часопісе. «Ніва», 1963, № 10.
Рудзиуский, Витольд. Монюшко. М., 1960.
Садоўскі, Яфім. Станіслаў Манюшка ў Беларусі. «Полымя», 1956, № 8.
Станислав Монюшко. Сб. ст. М.— Л., 1952.
Фукс, Мар'ян. Манюшка на Беларусі. «Полымя», 1967, № 6.
Almanach Moniuszkowski. W-wa, 1952.
Drucka, Nadzieja. Stanisław Moniuszko. W-wa, 1966.
Fabry, Władysław. Moniuszko. W-wa, 1938.
Jachimecki, Zdzisław. Stanislaw Moniuszko. W-w.a, 1923.
Miller, A. Teatr polski i muzyka na Litwie. Wilno, 1936.
Pług, Adam. Moniuszko w Mińsku. «Tygdnik Ilustrwany», 1896, 19.
Prosnak, Jan. Stanisław Moniuszko. «Muzyka», 1962, 3.
Rudziński, Witold. Stanisław Moniuszko, cz. I, Kraków, 1955; cz. II, Kraków, 1961.
Rulikowski, Mieczysław. Teatr polski na Litwie. Wilno, 1907.
Stanisław Moniuszko. Opr. Jan Prosnak. Kraków, 1964.
Walicki, Aleksander. Stanisław Moniuszko. W-wa, 1873.
Wilczyński, Bolesław. Stanisław Moniuszko i sztuka muzyczna narodowa. W-wa, 1874.

## АНТОН АБРАМОВІЧ

Album musicale. Pbg, 1852.
R. P (odbereski). Antoni Abramowicz, muzyk. «Rocznik Literacki», III, Pbg, 1846.
Słownik muzyków polskich, t. I, A —Ł. W-wa, 1964.

// НА ДАЛЁКІХ МЕРЫДЫЯНАХ

Грицкевич, В. П. Путешествия наших земляков. Минск, 1963.

### ІГНАТ ДАМЕЙКА

Domeyko, Ignacy. Araukania i jej mieszkańcy. Wilno, 1860; Moje podróże, tt. 1—3. Wrocław, 1963.
Клейн, Б. «Гранде Эдукатор». «Неман», 1965, № 6.
Brzoza, Jan. Ignacy Domeyko. Katowice, 1959.

### АДОЛЬФ ЯНУШКЕВИЧ

Янушкевич, А. Дневники и письма из путешествия по казахским степям. Предисловие и перевод Ф. Стекловой. Алма-Ата, 1966.
Januszkiewicz, Adolf. Żywot i listy ze stepów kirgizkich. Wydał F. Wrotnowski. P., 1861; wyd. 2, Berlin, 1875.

### БЕНЕДЫКТ ДЫБОЎСКІ

Dybowski, Benedykt. O Syberii i Kamczatce. Lwów, 1900; Pamiętnik. Lwów, 1930; Wspomnienia z przeszłości półwiekwej. Lwów, 1913.
Винкевич, Г. Выдающийся географ и путешественник. Минск, 1965.
Cudzikowska, J., Jaster, J. Tajemnica świętego morza czyli Benedykta Dybowskieg żywot nieurojny. W-wa, 1957.
Domaniewski, J. Benedykt Dybowski. W-wa, 1954.
Talko-Hryncewicz, J. Benedykt Dybowski. Poznań, 1933.

### КАНСТАНЦІН ЕЛЬСКІ

Jelski, Konstanty. Popułarno-przyrodnicze powiadanie z pobytu w Gujanie francuzskiej i po części w Peru. Kraków, 1898.

## У ПОШУКАХ СТАРАДАЎНІХ РУКАПІСАЎ

Александровіч, Сцяпан. Новае пра Францішка Багушэвіча. «Полымя», 1960, № 6.

Помнікі старой крывічанскай пісьменнасці. «Крывіч», № 12 (1926—1927 гг.).

Шэмет-Палачанскі. «Гоман», 1916, № 12.

## ЗНАХОДКІ У КНІЖНЫМ МОРЫ

Александровіч, С. Гісторыя з «Дзядзькам Антонам». «Літаратура і мастацтва», 1961, 4 жніўня.

Кампенгаузен, фон. Замечания о Молдавии, Бессарабии, Крыме, Белоруссии и Украине. «Журнал новейших путешествий», 1810, ч. 2.

Ластоўскі, В. Беларускія (крыўскія) друкі ў Тыльзіце. «Крывіч», № 11 (1926 г.).

Шпилевский, П. М. Цыганенок. СПб, 1855.

Felińska, Ewa. Pamiętniki, tt. 1-3. Wilno, 1856; Wspomnienia z podróży po Syberji i pobytu w Berezowie. «Athenaeum», 1849, tt. IV—VI.

Jezierska, Wirginia. Z życia dworów i zamków na Kresach. 1824—1844. Tłum. z franc. Poznań, 1924.

Kontrym, Kazimierz. Podróż odbyta w roku 1829 po Polesiu. Poznań, 1839.

Korzon, Tadeusz. Mój pamiętnik przedhistryczny. Kraków, 1912.

Kowalewska, Zofia. Obrazki mińskie. 1850—1863. Wilno, 1912.

Księga pamiątkowa na uczczenie setnej rocznicy urodzin Adama Mickiewicza, tt. 1—2. W-wa, (1898).

Mazur z Płockiego (Jan Majorkiewicz). Wspomnienie z podróży po Litwie, Rusi Czarnej i Rusi Białej. «Przegląd Naukwy», 1843, III, IV.

Niemcewicz, Julian Ursyn. Podróże historyczne po ziemiach polskich od 1811 do 1828 roku, wyd. 2. Pbg, 1859.

Pamięci Adama Mickiewicza. Pbg, 1890.

Potocki, Leon hr. Wspmnienia o Swisłoczy Tyszkiewiczwskiej, Dereczynie i Różanie. «Kwartalnik Litewski», tt. IV-V, 1910-1911, s. odbitka.

Puzynina, Gabriela. W Wilnie i w dworach litewskich. Wilno, (1928).

S. Z krwawych dni. Epizod z powstania 1863 r. w Mińskiem. Kraków, 1889.

Wspomnienia o Słucku. Wydał B. J. K. Gniezno, 1905.

**ЗМЕСТ**

***Яны былі першымі***
Ян Чачот
Ян Баршчэўскі
Уладзіслаў Сыракомля
Вінцэсь Каратынскі
Адам Плуг
Арцём Вярыга-Дарэўскі
Юльян Бакшанскі
***На крыллях народнай песні***
Міхал Клеафас Агінскі
Станіслаў Манюшка
Антон Абрамовіч
***На далёкіх мерыдыянах***
Ігнат Дамейка
Адольф Янушкевіч
Бенедыкт Дыбоўскі
Канстанцін Ельскі
***У пошуках старадаўніх рукапісаў***
***Пісьмы наводзяць на след***
З пячаткай Аляксандра Ельскага
Запісная кніжка паўстанца
У пошуках багушэвічаўскай шкатулкі
Па слядах архіва Абуховіча
***Знаходкі ў кніжным моры***
***У барацьбе з самаўладствам***
«Дагістарычны дзённік» Корзана
У міцкевічаўскіх альманахах
Мемуары беларускага шляхціца
Падарожнікі аб Беларусі
Забытая аповесць Шпілеўскага
Таямнічы аўтар
Беларусь вачамі жанчын
«...Прыгавораны да пакарання праз павешанне»
«Закардоннае» выданне Лучыны
Літаратура